# Змест



# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

яніна пінчук яніна асіпцова
марыя магдалена палхоўская
уладзімір крумін алесь мацулевіч
анатоль брусевіч васіль дэбіш



# Яніна Пінчук

**празаік, паэтка, перакладчыца, мастачка. Скончыла факультэт міжнародных зносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў «Маладосці» і «Верасні». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Бабруйску. Жыве ў Бабруйску.**

# Захоп Вільні

## Туман

Маіх пальцаў расплыліся контуры,
як абрысы будынкаў, ракі і мастоў;
нам вільготнасць паветра заціснула рты
і пазбавіла моцы, пратэсту і слоў;
на краіну і горад размытых агнёў,
на радно нашых душ напаўзае туман,
і не бачна ўжо, не адрозніш у цемры,
дзе жывы, а дзе здань, праўда дзе і падман;
хмары і ходнікі цішшу сплываюць,
як твар інсургента сплывае крывёй...
і толькі ўнутры шчэ — сухая надзея
на надвор'е, калі зможам рынуцца ў бой...

## Месца сілы

Гэта зямля,
нібы аркуш
шурпатай паперы,
па якім ходзіць цемра
вавёркавым пэндзлем,
далікатнаю шэрасцю
лесіруе будынкі, раку,
і былое, і тое,
што будзе;
непарушнасць
і нерухомасць
у нетрах яе і ў паветры;
пад мастамі
віруе павольна
шараватая пена
духоўнага бруду;
радыяцыяй страху
спавітыя дзеці
з маленства;
але тут электрычнасць
не з неба ідзе,

а з-пад долу;
працінае твае карані
праз падэшвы
і цэліць у сэрца,
і падпальвае
папараць шэрую ў лесе,
і бурштынам
запальвае вочы,
і сціскаеш жалезны кулак,
і адны свае косы —
адрэжаш,
ну, а іншыя —
будзеш вастрыць,
ды яны не спатрэбяцца нават,
бо здалееш
чужынцаў душыць
проста сілай
сваёй палымянай любові.

***

Калі братаў шчыт адабраў,
Калі той не здолеў больш біцца,
Ты пракляў навечна сябе,
І цяпер бескарысна маліцца!
Калі ты ўзяў чужое калісьці —
То шчаслівым не будзеш ніколі,
Не відаць табе хлеба і згоды,
Не відаць адзінства і волі,
Калі рады чужой быў бядзе,
То і сам неўзабаве заплачаш,
А туман зжарэ тваё сонца;
Ну а што? Не бывае іначай!

***

папяровыя птушкі
і штучныя межы —
сціскаюць нам горла
і грудзі рэжуць,
амбіцыі дробныя,
як друзу кавалкі —



дзе ж быць тут героем
адданым і палкім?
крычаць тут пра мір,
усчынаюць вайну —
дай, Божа, прачнуцца
ад гэтага сну!
сшыць разадранае,
зноў акрыяць...
калісь камяні
прыйдзе час пазбіраць.

***

Калейдаскоп:
праз суцэльную сажу
прарываецца
барваю полымя;
на абрус кумачовы
малако перакульвае
бусел
сваім белым крылом,
а ў іншым жа месцы
той кумач
ад слёз пачарнеў
і зрабіўся
адзеннем манаха...
ці ўсе адрозніш ты
колеры?
паміргай,
паглядзі —
глядзець трэба доўга.

***

Твар у люстэрку быў мне не мілы,
Я галаву мешкавінай спавіла,
Цярпець не магла ўласную сілу
І ўпарта, панічна гнала ў магілу:
Бязлітасны жар выбуховай агрэсіі
І прыгажосць пахавальнай працэсіі,
Лютасць і эрас крывавых рэпрэсій,
Змрок і чароўнасць містычных абсэсій,

Гром і маланку з нябеснае хмары,
Крыкі і плач і шаленства ўдараў,
І рэваншызм, і імперскія мары,
Вострыя зубы і кіпці пачвары,
Цемру свайго занядбанага сада,
Раздзёртасць душы, аніякага ладу,
Жаданне вайны, і гвалту, і звады,
Дзікую прагу касмічнай улады...
Калісьці саромна было даставаць
З глыбіняў такое, і нават чапаць.
Ды толькі Сілу — няможна схаваць:
Яе не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

## Захоп Вільні

у Вільні чую свой дом,
дакладней — наш, кажу болей:
нарэшце «іду на вы»,
цярпела ўжо даволі:
думкі — мае лазутчыкі,
пачуцці — мае гусары,
якія на крылах лятуць
срэбнай адвечнай мары,
бяру ў палон Ужупіс,
далей жа — Старое Места,
над Востраю Брамай сёння
надзея зноў уваскрэсла;
што не магу фізічна,
як не хачу, прысвоіць,
захопліваю эмацыйна,
душу каб сабе заспакоіць;
нябачных сцягоў агні
трымцяць над маёй галавою;
вось я пакахала Вільню...
што здарыцца заўтра з Масквою?!





# Яніна Асіпцова

**паэтка. Скончыла Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. Зараз — студэнтка 2 курса факультэта Інфарматыкі ў Лодзі (Польшча). Нарадзілася ў 1997 годзе ў горадзе Магілёў. Жыве ў Польшчы.**

## Мы застанемся шэптам...

***

Я спаліла ўсё, што мела
да цябе дачыненне.
Апроч думак — яны не гараць.
Уцякала, не азіралася, падала.
Толькі б далей, толькі б вытрымаць.

Насуперак сэнсу, замест нянавісці адчуваю пяшчоту.
Мы, як здзічэлыя яблыкі, салодкія,
ды не такія, як маем быць.

Мой унутраны голас чамусьці гаворыць табою.
Агучка такая сапраўдная, што вар'яцею паволі.
На закінутай выспе маёй цішыні
Я лаўлю тваё рэха
І прашу: гавары, гавары, гавары...

Усё заблытана проста, што падаецца нібы
Адна душа падзелена для нас абодвух.
Я спаліла ўсё, бо попел балець не можа.
Сэрца не спаліш да стану попелу.

Жыццё, як палеская багна:
Не ведаючы, не пройдзеш...
Я правяду цябе ў самыя нетры
Наўпрост да крыніцы.
Мы разам будзем глядзець на неба
І слухаць, як спяваюць сініцы.

Ведаеш,
Мае запясці па сёння пахнуць табою.
У куфэрку знаёмай Пандоры
Мы схавалі сваіх дэманаў назаўсёды.

Ты хацеў мяне болей,
Называў сваёю.
А я не хацела быць тваім «учора»,
Я хацела стаць тваім «сёння».

## Вы не бачылі тут чалавека?

Звар'яцелаю птушкаю,
Я падала пад ногі тым,
Хто ішоў насустрач.
Я замірала з пытаннем на вуснах:
«Вы не бачылі тут чалавека?»
І спыняла сэрца ў чаканні.

Я ўглядалася ў цені
І зазірала ў вочы,
Пакуль нацягнутая ўнутры нітка
Пад напружаннем разгойдвалася
ў небяспечным танцы,
здольная парвацца.

(Тлумачу свае пачуцці паперы,
Больш яны нікому не трэба.)

Мы сталіся знаёмымі незнаёмцамі
І замест таго, каб выйсці са сваіх пустых пакояў насупраць,
Крычалі адзін аднаму пра свае жыцці і планы
паасобку
(так і хочацца паставіць тут кропку).

Раніцою правяду рукою па пустым ложку —
Ты зараз вернешся —
Прашу,
Узірайся ў мяне ўважліва,
няўважліва,
трымай сваю руку на маім сэрцы:
яно б'ецца,
яно разбіваецца,
яно абліваецца крывёй.

Але цябе няма побач.

Чаму любіць знаходзіцца ў сінонімах «балюча»?
Я б пакінула ў табе частку сябе,
як паўсюль, дзе была.
Ды заблукала падчас пошукаў выйсця.



Тое, што стаяла за намі,
апынулася сцяною паміж.
Пабітыя крапівою на шчасце,
Мы не ўцяклі, не схаваліся.

Сэнс не ў тым, што ты адштурхнуў мяне,
Сэнс у тым, што я ўпала.
Лепш пабітыя калені,
Чым пабітая душа,
Праўда?....

(Замест малітвы апантана паўтараю:
«абдымаць цябе, абдымаць цябе моўчкі»)

Тое, чаго не было, расквітнее вясной гіяцынтамі,
Я, бы каліна, у пошуках явару,
Звар'яцелаю птушкаю
упаду камусьці пад ногі
заплаканая —
«Вы не бачылі тут чалавека?
Я згубіла яго.
Я згубіла яго...»

***

важнае я пакідаю ў глыбіні сябе,
нібы чысцюткую ваду ў закінутым калодзежы
парослым
пустазеллем,
павуцінаю
слоў,
сноў,
пастак
для іншых.

аддаю пяшчоту за посмешку,
аддаю абдымкі за клопат.

будзь тут побач,
каб не загінула маё лепшае,
каб не завяла ад засухі,
ад прагі свабоды,

народжанае ў пакуце
пачуццё.

палыновае,
роднае.

ахвочыя да спакусаў мінакі
спыняюцца ля надпісу «Эдэм»
і набываюць тое, чаго не вытрымаюць.

мая правіна.
каюся.
чуеш?

кропля падае на Зямлю
і вяртаецца,
я з'язджаю ў цягніку
і
спыняюся
на тым месцы,
дзе выйшла,
прыціснутая ценямі да сцяны сумневу.
казкі для нас пішуцца
анёламі.
цуды падаюцца пасрэднасцю.

зала чакання заўжды поўная.

ці чакаеш і ты мяне тамака?

у закінутым палацы вар'яцтва
абяцаецца
поўня,
аблашчаная хорам
ваўкалакаў
і
пярэваратняў.

я палюбіла цябе
ці ўспаміны пра цябе?

мае разважанні
заблукаюць,



стомяцца,
спыняцца
на ростанях
разгублена.

часам
пераблытаныя пазлы
ў сярэдзіне карціны
чапляюцца
і застаюцца навідавоку
ламаючы
сэнс
і
логіку .

на сцяне забытай хаты
ўпарта адлічвае
па сённяшні момант імгненні
механічная зязюля
ў ходзіках.

дазволь
прыціснуцца да тваёй цеплыні,
зажмурыць вочы на тваім плячы
пад сонцам
і адчуваць, як з шумам марскога прыбою
па венах
пульсуе
шчасце.

маё шчасце.

***

На заходзе дня сонца змагаецца за апошнія прамяні для нас.
Я абдымала пустэчу так, як хацела б абдымаць цябе,
Нават, калі дарэмна.
Нават, калі недарэчна.

Аднойчы ў маках патоне зямля,
І мы застанемся шэптам,
Зламанымі крыгамі на халоднай вясновай вадзе.

Скрэсленыя з памяці ўрыўкі
Бадзягамі блукаюць па начных вулачках у пошуках прытулку,
Самыя няшчасныя і шчаслівыя,
Як мы.

Я абяцаю трымаць цябе за руку
Нават, калі змерзлыя пальцы перастануць слухацца.
Яшчэ не позна.
Ніколі не позна.

Неба абмежаванае нашымі гарызонтамі
Падымае белыя хмары капітуляцыі.
Ты — мая свабода.
Ты — маё полымя.

На заходзе дня сонца схаваецца,
Каб на раніцу абвесціць цемры вайну.
Я буду тваім начным ліхтарыкам,
Калі раней у табе не патану.

## А можа...

«Не было» —
Паўтараеш ледзь заўважным уздрыгам вуснаў,
Як мантру,
Як малітву,
Як праклён —
«Не было».
Сярод мітусні і фальшывых эмоцыяў,
Сярод людзей, на якіх не варта было б губляць час
Трапляецца Аазіс. Сонечны. Жывы.
У табе столькі пяшчоты,
У табе столькі лёду.
Казычы,
Смех нясе пацяпленне.
Яе лядовы перыяд мусіць скончыцца
Нават, калі ахвярай зноў стануць мамант.
Тыя восеньскія залевы не замінаюць,
Як не замінаюць мокрыя валасы, ці парваныя калготы.
Толькі спакой, недасяжны раней ніколі.
Быццам вырваныя з кнігі старонкі не згубіліся,



Быццам ім далі іграць ролі:
Кароткая гісторыя без сэнсу,
Без маралі,
Без высілкаў.
Усе такія страшна розныя, прымушаныя быць побач
Збегам абставінаў.
Лёгка знайсці вінаватага. Лёгка пасля выкінуць на словах.
Мажліва мой унутраны рамантык уцёк з поля бою.
Выжыў.
(Прабач)
Паміж кропкай і кропкай
Пасялілася бездань.
Бракуе цябе, ведаеш?
У маім свеце адчаю запалілася полымя —
Дзесьці там выйсце. Адчуваю.
Маё дзявочае сэрца пакаўзнулася.
Упала.
(Я прайграла)
Значыць, мае перакананні мелі слабы падмурак.
Але ўсё яшчэ кахання няма,
Як няма без прычынаў туману,
Ёсць толькі крохкая думка «а можа...»
І шанец, такі невідочны наогул.

Ці працягнеш руку, каб узняць маё сэрца на ногі,
Ці сама я змерзну там побач з ім?

***

Бачыш,
Нашыя цені ўсміхаюцца, гледзячы нам услед.
Ва ўсім вінаватае сонца:
(Часам даводзіцца і нам даганяць цені.)

Думкі параслі крапівою
У абмежаваным даляглядзе «сёння».
Завітаеш, развітаешся.
А побач?
Змястоўна вытлумачаныя сімвалы памерлых моваў
Уплываюць на нас.
Трэба ведаць.

Так трымацца нагамі аб зямлю,
Што пазногцямі рваць абутак.
Ціша.
Твая частка мяне ціхутка спявае калыханку.
Люблю
Лёгкі змрок і шэпт
Да дрыжыкаў,
Да глыбіні сэрца.

У той халодны верасень нам было як сагрэцца.
Апёк на маёй далоні
(я хацела абараніцца)
Усё гэта новае палохае,
Лухта сніцца.

А нашы ластаўкі нясуць галінкі
І крылы іх гараць,
Каб вось-вось разбіцца.

***

Збітыя да крыві думкі
Саступаюць дарогу цішыні.
Вы будзеце распавядаць пра мазалі
На руках,
Я буду маўчаць пра мазалі на сэрцы.
Колькі можна выключаць свядомасць
І ісці на пачуцці, як на святло,
І біцца, нібы тая машкара аб лямпу.

Сэнс сам заблытаўся, ці ёсць ён.
Я маўчала.
Дакраніся да мяне, я ж ведаю, што хочаш.
І я хачу.
Толькі далей, чым паказаць позіркам
Не магу:
Муляе
Сэрца.

Ты не першы, у каго я ўзіраюся з цікавасцю.
І не першы, хто даруе па начах бяссонне.
Дурное слова «першы».



Гэта тое ж ап'яненне,
Толькі адным чалавекам,
І больш за ўсё думаецца,
Ці будзе балець галава
На раніцу?

## I.E.L.

Сістэма, наладжаная на стагоддзі,
Пачала даваць збой
Ужо праз пару месяцаў —
Сумная гісторыя пра большасць здарэнняў.

У непаразуменнях рассыпалася праўда
Сярод пылу,
Нябачная нашаму воку.
Мне сказалі шэптам, быццам мёртвыя анёлы
Заблукалі ў калідорах нашых сэрцаў.

Трэба спаць болей.

Дагары нагамі створаны свет ад пачатку,
А мы і не заўважылі.
Млосна.
Выйсце імгненна здаецца пакутай.
Цікава, чым вінаватыя масты,
Што замест сябе людзі спальваюць іх?
Людзі дзіўныя.
Людзі стомленыя.

Я памятаю, як усміхаліся на тваіх павеках сны.
Сціснутыя ў далонях пачуцці
Больш не мерзнуць.
Больш не дыхаюць.
Дотыкам спрабую ўзгадаць хоць нешта,
Толькі ў памяці гуляе вецер
І скрыпіць падлога.
Нехта там ёсць.
Нябачны.

Якая розніца:
Паміж двух сэрцаў утварылася сцяна
З аскепкаў недаверу.

Зрэшты,
Хочацца абдымкаў і спакою.
І знікнуць, дзе
Infinity
Eternity
And love

І знікнуць там, дзе
Ёсць, былі і будзем мы.

***

Світала.
На мапе тваіх недарэчнасцяў панавала
Маўклівае перамір'е.
Сёння бой скончыцца нечай паразай:
Тваёй ці маёй?
Мы заблыталіся ў каардынатах і накірунках.
Колькі рознага можна было пазбегнуць у
Нашых стасунках?
Але мы чарапахі нашага свету —
Абганяем толькі адзін аднога.
Жывем недаравальна бясконца
Для нас саміх.
Ведаеш, калі сённяшняя раніца стане апошняй,
Што мы скажам нашым паслядоўнікам?..
Давай падзелім на дваіх паразу, як раней.
Бо проста так ніколі не ваююць.
Ваююць, бо захаваўся агонь.
Мы аддадзім гэта полымя людзям
А яны, калі спатрэбіцца, нас асудзяць.

***

Калі галава разбіваецца на часткі
Ад болю,
А жыццё падзелена кнехтам
На пазлы,
І табе здаецца, што збіраеш
Пялёсткі,
А насамрэч трапляеш у чарговыя
Пасткі,
Для безмежнай прасторы прыдумваеш
Межы,
І гуляеш у краіны, планеты і зоркі,
Толькі
Верыш сістэме адноснасці свету,
Лету
Летуценна дапісваеш сэрцам
Санеты.

Калі будзе інакш —
Светла,
Возьмеш у рукі кавалачак
Неба,
Прачытаеш малітву вачыма.
У нашым шалёным жыцці усё магчыма.



# Марыя Магдалена Палхоўская

**паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Прыдуманая радасць

## На дне

Я вылятаю ў космас
Выпадаю ў асадак
Выпадаю дажджом.
Няважна кім і куды.
Спектакль «Кім» больш не ідзе
Квіткі і кветкі прамяняла
На выбыццё з рэальнасці.
Дзве з паловай гадзіны
Прыдуманай радасці,
Выплюнатага шчасця.
Я падбяру, не парся!
Падбяру ў медыцынскіх пальчатках,
Захаваю ў адмысловай шклянцы.
Вунь іх у шафе — шэраг з палоўкай!
Шчасце на донцы, зверху лайно
«Спажываць па лыжачцы
Кожны вечар пасля душа і кіно»
Калі я дап'ю сваё?

*01.07.2017*

***

— Давай пагуляемся?
— Я не гуляюся
Твае гульні састарэлі
У маёй галаве няма месца для правілаў
А ў кішэнях дробязі
На такі дробны размен
Шчырасць на кроплю флірта
Не хопіць, каб разлічыцца
Давай перастанем?

(А цёплай восенню лепш шпацыраваць
І ўдыхаць
З паветрам спаленае сонца
І купу словаў з электронных носьбітаў
Дзе ты намагаўся ўкласці старую гульню ў новую канцэпцыю
А я намагалася прачытаць штосьці чароўнае і шматколернае)

Ты не дачытаў прамову
Ты не чуеш, ты кажаш «Пайшлі»
Ведаеш

Ты варты перамогі
Я варта негульні
*25.08.2017*

## Думкі пра птушак? Птушыныя думкі? Думкі-птушкі?

Забыўшыся на цішыню
Пусціла ў галаву
На пасядзелкі птушак

Пытанне прагучаць павінна
«Адкуль навіны?»
«Сарока на хвасце...»

Пакрыўджаныя совы
Пярэчыць не ў гуморы
«Птушыныя плёткі!..»

Нясуць цыдулку галубы
«Вам ліст ад голуба нялюбы?
Якія там сарокісовы!..»

Дзяльба прасторы
Гульні і размовы
Птушыныя баі і сваркі
Гняздо ў валасах
Яшчэ адно — і з'едзе дах
Пара на высяленне

Птушыны гвалт у галаве
Няма дзе размясціцца думцы
Насыплю на асфальце зерне
У галаве пакіну
Цішыню ды пер'е
*15.03.2017*



## Цягнік

Я ўсё пераблытала!
Мы не выходзім на наступнай станцыі
Мы іншых прапусцім
І будзем ствараць дыстанцыі
І будзем ствараць адлегласці
Мінаючы межы й бязмежнасці

А ведаеш?
Я не баюся,
Што стрэлкі часам пераводзяць
Што ноч можам раптам сустрэць у дарозе
Што раніца выйдзе туманнай і люднай
А кава ў шклянцы будзе паскуднай
Палохаюся я, калі ты азіраешся
Глядзіш мне ў вочы і ціха пытаешся
Без «сонейка», «мілай» і «любай»
А ветліва: «выйдзем наступнай?»
*20.08.2017*

***

стасункі адносіны кантакты камунікацыі
колькі словаў каб назваць...
як шкада
што для нашага трохкроп'я
не знайшлося азначэння
*27.08.2017*

## Колер Восені

Вецер заляцаецца да мокрай сукенкі
Чырвонай тканінай абдымае ногі
Кранаецца скуры, лашчыць спіну...

А я вырашыла быць шчаслівай
Сёння я буду шчаслівай!
У чырвоных макасінах
У ноч, што гуляецца ліўнямі
Змяню акуляры ружовыя
На новыя — ярка-чырвоныя

А я буду сёння шчаслівая
Давай не мерацца густамі?
Табе так пасуе на белай кашулі
Адбітак чырвонымі вуснамі

А ты заўважыў?
У гэтым сезоне
Восень носіць чырвоны?

*15.09.2017*

***

Пісаць..
Пісаць да пасінелых пальцаў
Да смерці стрыжня
Да самага канца ліста
Пісаць на скуры ўздоўж венаў
На спіне вуснамі ўздоўж хрыбта
Пісаць на скронях пасмамі валосся
Пісаць на шыі рухамі ад пульсу
Пісаць даўгою прозай і кароткім вершам

Пісаць у спадзяванні, што сляпы адчуе целам
Пісаць і спадзявацца, што сляпы ўбачыць сэрцам

*03.10.2017*

***

Доўгія чырвоныя пальчаткі
хаваюць мае рукі ад цябе
Мая чорная сукенка
ставіць межы між табой і скурай

Мае дотыкі не пакідаюць пальцаў
(Я не заварочваю іх у бліскучую паперу Не
запакоўваю ў скрыню Не перавязваю бантом)
Мае дотыкі не ўваходзяць у спіс
святочных падарункаў

Дзякуй за запрашэнне

*08.11.2017*



***

На пяты дзень зімы мяне не існавала
Я думала праблема ў тым, каб «як»
А апынулася, каб «быць»
Зламаны навігатар, вылічальнік, компас
Крані мяне! Хачу адчуць, што маю цела
Не! пачакай! пустэча паглыне і дотык, і надзею на збліжэнне
У слове «мілая» прапала «я»
Як міла!
Прабач, за тое, што не існуе
На пяты дзень зімы яшчэ не існуе мяне

*05.12.2017*



# Уладзімір Крумін

паэт, празаік, музыка. Друкаваўся ў тыднёвіку «Наша Ніва». Песні гучалі на «Тузіне гітоў» і на «Радыё Сталіца». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Гародні. Жыве ў Англіі.



# Калі прыйдуць атланты...

## Раскажы мне, як жыць...

Раскажы мне, як жыць,
А я паслухаю.
Выць, піць, біць...
А потым са скрухаю
Спаць?
Паміж тутэйшага холаду,
Ўночы кахаць,
Каб суцешыць парывы голаду.
Не, не глядзі на твар мой,
У мора сцюдзёнае,
Супакой. Тое. Нашае. Цьмянае. Кволае.
Ты сёння гарыш,
А я падліваю,
І здаецца табе,
Што кахаю.
Не.

## Падушка

Не памятаю, калі стаў тваёю падушкай,
Да гэтага быў толькі плямай,
Размазанай памяццю млявай,
Незразумелай у фэйсбуку стужкай.

Больш немагчыма спаць,
Не адчуваючы цяпла на твары,
З салёнаю вадою з ранаў,
Падушцы думкі дасылаць.

Яна бязгучная, прымае,
І наталяе веяў лес,
Як веснавы чароўны бэз,
Ўнутры каханне ажывае,

Шкада, жыцця яна не мае,
Патрэбны ёй твае вада і гукі,
Падушка пахавала думкі,
Але усё яшчэ жывая...

## Дзік

Чорны браслаўскі дзік,
Высунуў з лесу лыч,
Змораны стаў, заціх,
Ў небе шукаючы зніч.

Ззаду некалькі зданяў,
Вочы сям'і галоднай,
Сцюжа аблізвае зграю,
Лашчучы ветрам халодным.

Лямпа на хутары свеціць
Ў хаце самотная бабка,
Калі ў лесе няма чаго есці,
Чаму б не з'есці сабаку?..

## Ранішняе

Мілая, срэбная, снежная,
Ранішніх промняў сусвет.
Жалюзі сонечнай сцежкаю,
Сцэжваюць цемрачы след.

Цёплы, вольны і шчыры,
Палудзень грэе абед,
Вольным — добразычлівы,
Людзям прыгонным — хлеб.

Сам сабой задаволены,
Вечар шэпча матыў,
Тлум гаротны і стомлены,
Перад экранам застыў.

Некаму добра марыцца,
Нехта стогне разбэшчана,
Ноч, а за ёю раніца.
Мілая, срэбная, снежная.

***

Тонкаму суквеццю адчуванняў
Мае шэпты лашчаць слых,
Пасля ўсіх ілюзій і жаданняў,
Белы шум заціх і знік,
І, здаецца, больш не засталося,
Нас у гэтай цемры між завей,
Тых вачэй зялёнае калоссе,
Паглынае вільгаць вей.
Змей...Між намі...
Як у «Людзях на балоце»,
Удзень...нас прымушае,
Плыць у адзіноце,
У чоўне поўным намаганняў,
Каб ноччу мне шаптаць аб нечым
Тонкаму суквеццю адчуванняў.

## Настольная лямпа

Настольная лямпа, сляпі мае вочы!
З табою, каханай, бяссоныя ночы.
Цябе б цалаваў, каб было ўсё іначай,
Каб ты не была такою гарачай.

Размовы аб веры, а можа пан Бог
Шапоча мне, рыфмы збіраючы ў рог,
Ў вачах паміж імі хістаецца верас,
А навокал адна беспрасветная шэрасць.

Мы дзеці адной са шматлікіх гісторый,
Краіны, ў якой так шмат алегорый,
Нягеглыя твары, нячулы бетон,
Што водгукам рэжа наладжаны тон.

Акно і паэт, лямпа і мары,
Мелодыі плыня з забытае арфы,
Хістаецца верас ў маёй галаве,
Спі, засынай, хай вобраз плыве.

## Песня вейшнорскага касінера

Сонца над зямлёй,
Каса пад рукой.
Песня ўзносіцца, сілы няма канца.
Зазвінела сталь,

Заспявала даль.
Касінер ідзе, пакос кладзе.

Любая ў снах,
Валасы ў руках,
Побач золатам дзеці-волаты.

Вораг не глядзі,
Лепш табе сысці,
Не разявай рот, вольны тут народ.

Хто ў доме гаспадар,
Памятай змагар.
Пан не нашкодзіць нічым, пакуль каса на плячы...

## Калі прыйдуць атланты...

Калі прыйдуць атланты,
Збяруць чалавечыя тушы,
Скруцяць іх, нібы сушы,
І пролаў, і акупантаў.

Калі прыйдуць тролі,
У кроў парэжуць грудзі,
Як калісь рабілі людзі,
Каб усім адняло мову.

Калі прыйдзе чорны,
Возьме дзяўчынку белую,
Змяшае з сваім глеем,
Рэшткі аддасць воранам.

Калі прыйдзе свіння,
Сцены пачне рухаць,
Будзем у такт хрукаць,
З ночы да белага дня.

Калі прыляціць арол,
Будзе дзяўбаць у голаў,
Пакуль не пакіне без розуму,
Потым глядзіш — анёл.

Рады мы з госцьмі сустрэчам,
Ды ўжо на вуліцы вечар,
Вочы крывёй наліваюцца,
І кулакі сціскаюцца.

## Здань

Я свет сабе стварыў аднойчы цёмнай ноччу,
З парады сябра яго «Здань» назваў,
Жыццё ў яго ўдыхнуў, разночыў вочы ,
Як змог размаляваў, расфарбаваў.

Хоць свет той недарэчны атрымаўся,
І паміж квецця прытуліўся сум,
Я да яго ўсё часцей звяртаўся,
Усведамляючы навокал толькі тлум.

Паўсюль усё таксама несапраўдна,
Краіна-здань, і прывіды ў ёй людзі,
Гуляюць увесь час у здань-жыццё,
Іх мова-здань ляжыць у паўсядзённым брудзе.

Прасцей тут не высоўвацца, не верыць,
Багам запэцканым, трываючы, служыць,
Быць задаволеным, што лёс табе адмерыць,
Дык лепш я ў сваім свеце буду жыць!




# Алесь Мацулевіч

**паэт. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна. Друкаваўся ў «Лідскай газеце» і «Верасні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Лідзе. Жыве ў Лідзе.**

# Касцюшкіны ўніверсітэты

## I

## Касцюшка ў піярскім калегіюме

*Пачатковую адукацыю Тадэвуш Касцюшка атрымаў у піярскім калегіюме ў Любашове (за Пінскам).*

Касцюшка вучыцца ў піярскім
калегіюме ў Любашове.
З характарам ён забіяцкім,
з пчалінай шчырасцю ў вучобе.

Па матэматыцы шчыруе
і гістарычных дысцыплінах,
бо лікаў і падзей чаруе
свет у падручніках-цаглінах.

Зляцяцца дзеці ў Любашоўскі
калегіюм, як верабейкі, —
і адукацыю на ўзроўні
тут атрымаюць еўрапейскім.

Злятайцеся вучыцца, дзеці,
і за вучнёўскімі сталамі
над зернеткамі кніг сядзіце,
каб з верабейкаў стаць арламі!

## II

## Касцюшка ў кадэцкім корпусе

*На ваеннага інжынера Тадэвуш Касцюшка, будучы галоўны інжынер амерыканскай арміі, вучыўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе.*

Для хлопцаў расчыняе дзверы
кадэцкі корпус, дзе карпець ім.
Вучыцца стаў на інжынера
Касцюшка ў корпусе кадэцкім.

Устаўшы, апускае ногі
ў балею з ледзяной вадою —
таму са спаленькі-бярлогі
ідзе бадзёраю хадою.

Кадэт старанны паспявае
па картаграфіі, малюнку...
Курыць над картай палявою
ў Амерыцы Касцюшку люльку.

У Штатах, курачы над картай,
згадае інжынер Варшаву —
і будзе карта іх нагадваць
вады балею, кніжак шафу...

III

## Касцюшка ў Парыжы

*На свядомасць маладога Тадэвуша Касцюшкі паўплывала атмасфера перадрэвалюцыйнай Францыі.*

Світала. Над сталом кульгавым
кухонным маятнік матляўся.
Запіў Тадэвуш булку кавай —
і ў Акадэмію падаўся.

Касцюшка ходзіць па салонах,
Вальтэра ды Русо чытае,
паклон здзяйсняе, пацалунак —
губамі рукі дам кранае.

На галаве краіны рыжым
расці пажару валасінам.
Знайшоў Тадэвуш у Парыжы
сяброў перадрэвалюцыйным.

Ды цягне з Францыі магнітам
Касцюшку родны край адзіны.
Паўстання валасам агністым
расці на галаве радзімы...



## Верабей і галубка

*Ад'езду Тадэвуша Касцюшкі ў 1775 годзе ў Францыю, а пазней у Амерыку папярэднічала сумная гісторыя кахання.*

**1**

Мастак Тадэвуш здольны.
Адукаваны ён.
Французскі горад стольны
ўмацоўваў добры тон.

Касцюшку пан Сасноўскі
ў маёнтак запрасіў.
«Дачка ў мяне, — саноўнік
з усмешкай прабасіў. —

Урокі малявання
ёй будзеце даваць,
бо стала мая панна
ўжо пэндзаль даставаць».

**2**

Дом панскі — не хібарка!
З шыкоўных ён хацін!
Альтанка ў майскім парку.
Людвіка ў ёй сядзіць

і веерам махае
пурпуравым сваім.
Спяваюць пра каханне
Людвісі салаўі.

У парку час спаткання
для маладых наспеў —
мастак страчае панну
пад салаўіны спеў...

**3**

Гаворыць пан: «Галубка,
брат, не для вераб'я...
У сэрцы вашы з лука
дарма Амур трапляў.

Спяшацца будзе, ляпаць —
і сэрцы разаб'е.
Паненка, дробны шляхціц,
на жаль — не для цябе.

З Людвікай не любіся,
п'яная галава!»
І выкрасці Людвісю
Тадэвуш сплanаваў...

**4**
Ляцяць на конях з парку
паненка і мастак.
Нясуцца коні шпарка —
нікому не дагнаць!

Людвісю адбівае
харугва гайдукоў —
і шчасце абрывае
адважных галубкоў.

Касцюшку пагражае
смяротны прыгавор —
і збегчы вырашае
ў Парыж ён стрымгалоў...

**5**
Людвіку пан Сасноўскі
за князя аддае —
і апусціўся носік
напудраны яе.

Княгіняй Любамірскай
становіцца яна.
На сэрцы — непамыснасць.
У памяці — вясна.

У памяці — Тадэвуш,
альтанка, салаўі...
Куды ўспамін падзенеш,
княгіня, ты аб іх?..



## Генерал рэспублікі

***Памяці Тадэвуша Касцюшкі***

*Будучы начальнік паўстання
1794 г. у Польшчы, Беларусі і
Літве Тадэвуш Касцюшка
дзевяць гадоў жыцця аддаў
барацьбе за незалежнасць
Злучаных Штатаў Амерыкі.*

**I**
Па волі паўздыманыя
сцягі жалезнай.
Ваююць Штаты з Англіяй
за незалежнасць.

У шэрагі сабраныя
ідуць змагацца.
Падтрымлівае Францыя
рэспубліканцаў.

Нямала караблёў-грамад
на захад рушыць.
Французаў-афіцэраў шмат
у Штатах служыць.

З французамі за акіян
плыве Касцюшка,
і грозныя абсягі ён
страчае мужна.

А ў Штатах сустракае ён
людзей свабодных,
ваенных адчувае дзён
гарачы подых.

Павеў вайны з Брытаніяй
ён адчувае.
Парою Штатаў ранішняй
яна шугае.

**II**
Рэспубліканцы роўнасці
дабіцца хочуць,

настойлівасцю поўняцца,
да мэты крочаць.

Яны перад каронаю
не хочуць гнуцца,
дзяржаву бессаслоўную
стварыць імкнуцца.

Свабоду, працу змагары
і талент цэняць,
аб незалежнасці пары
ідэі сеюць.

У бой ідуць — рэспубліку
здабыць крывёю
ды надаваць па зубіках
кароне ўволю.

Абутку, ежы, пораху,
адзежы мала.
Пераадолець ворага —
сагрэла мара.

Сагрэла мара змагароў
аб перамозе.
Яе агонь не дагарэў
і пры марозе.

**III**
Тадэвуш дзевяць год пражыў
з народам ратным.
З рэспубліканцамі прайшоў
усе ён Штаты.

Не дазваляючы сабе
з каня зваліцца,
гайдаўся месяцы ў сядле,
спаў на зямліцы.

Праекты — найвышэйшы сорт
у працавітых.
Праектаваў Касцюшка форт,
змагаўся ў бітвах.



Для Штатаў наш ваенны муж
зрабіў нямала —
дала рэспубліка яму
чын генерала.

Ён Штатаў грамадзянінам
стаў ганаровым,
іх поглядам прасякнутым
на ўладу новым.

Прасякнуўся ідэямі
рэспубліканцаў,
за тое, што пасеяў сам,
змагаўся.

## Венера Жыроўская

*Другім каханнем Тадэвуша*
*Касцюшкі была Тэкля Жыроўская,*
*дачка брэсцкага харунжага.*

Касцюшка закахаўся
ў харунжага дачку.
Няёмка ў панскай хаце
да панны хадаку.

Паненка, не раві ты,
да ног не прыпадай:
харунжы — наравісты
ды з пыхай гаспадар!

«Касцюшка — валацужка, —
гаворыць пан дачцэ. —
З рэспублікі ласунку
змагар не растаўсцеў.

Змагар па Штатах гойсаў,
нічога не прыдбаў —
цябе я за такога
ніколі не аддам!

Тадэвуш — бедны, шэры,
бяздомны верабей,

не мае ні кватэры,
ні хаты для цябе».

Ды ў Тэклі ў медальёне —
Тадэвуша партрэт.
Ды з сэрца не прагоніць
партрэт нудоту прэч.

Захоўвае Тэклюся
каханага лісты.
*«Я на цябе малюся:*
*мая багіня ты.*

*Журоўская Венера,*
*я твой каханак Марс...»* —
вышэйшыя і мера,
і гарт ягоных мар.

## Шынель на дзідах

*10 кастрычніка 1794 г., пасля паражэння паўстанцаў у бітве пад Мацяёвіцамі, Касцюшка быў узяты ў палон.*

Касцюшка церпіць паражэнне —
задралі ферзенцы насы.
Паўстанцы гінуць пад ружэйны —
для рускіх пераможны — зык...

Казак пытае: «Ты — Касцюшка?»
Касцюшка шэпча: «Так. Вады...» —
ды думае: «Вады б кадушку —
і смагу праганю тады...»

Кладуць Касцюшку на фурманку.
Фурманку трэсці пачало.
«Пад вухам дошка ў колер маку
афарбаваная — чаго?»

Бо галава аб дошку б'ецца.
Казак: «І вораг — чалавек.
На шынялі на мяккім месца
і тулаву, і галаве»...



На шынялі ляжыць палонны.
Шынель — на дзідах казакоў.
У небе, восеньскім, халодным,
крык жураўліных касякоў.

Крык жораваў — аб паражэнні —
нібыта душ палеглых крык,
што вылецелі пад ружэйны —
для рускіх пераможны — зык.

## Апошняе жаданне Касцюшкі

*Вясной 1817 года, за паўгода да смерці, стары Тадэвуш Касцюшка, жывучы ў Швейцарыі, склаў тэстамент, паводле якога адмяняў прыгоннае права ў сваім радавым маёнтку Сяхновічы Брэст-Літоўскага ваяводства. Аднак напісанае ў тэстаменце не было здзейснена: хутка пасля смерці Тадэвуша Касцюшкі, па просьбе яго пляменнікаў, акт вызвалення сяхновіцкіх сялян адмяніў імператар Аляксандр І.*

Салюр. У доме бургамістра
Касцюшка тэстамент складае,
да роднай вёскі, што карміла,
у думках, пішучы, лятае.

Апошняе яго жаданне —
сялян маёнтка разняволіць.
Няхай гняздзечкам волі стане
гняздо Касцюшкаў радавое.

І піша, свечку запаліўшы,
на дошцы з пылавым налётам:
*«Прыгон прыродзе супярэчыць*
*і дабрабыту ўсіх народаў».*

І ясныя, а не марока
жыцця гняздзечка тыя вехі:

*«Прыгонніцтва ў маім маёнтку*
*знішчаю цалкам я навекі.*

*Чынш і павіннасці знішчаю,*
*знішчаю паншчыну таксама:*
*не мае ні спагад, ні жалю*
*мая да гэтага праграма.*

*Вучэнне — справа неблагая*
*і ў вёсцы, і ва ўсім павеце.*
*Сялян Сяхновіч заклікаю*
*паклапаціцца аб асвеце.*

*Над цяжкасцямі кніг сядзіце,*
*галовы русыя ламайце —*
*вучыцеся, вяскоўцаў дзеці,*
*на волі, што вяскоўцам — маці!»*

*2015-2016*





# Анатоль Брусевіч

**паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі: «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.**



## Словы твае цалую...

***

Пішу пяром з крыла Амура,
А навакол мяне зіма,
І словы з-пад майго пяра
Змятае снежная віхура.

***

У вачах незнаёмых жанчын
Я шукаю твой позірк гарэзны.
Нібы бляск месяцовы ўначы,
Ён і хмеліць, і разам цвярэзіць.

Я шукаю на вуснах чужых
Прысмак жарсці тваёй далікатны.
Не знайду. Бо няма больш такіх.
Ты — адна, як пачатак пачаткаў.

***

Ты сказала: «Дабранач, Толік!
Хай зямля табе будзе пухам,
Хай табе твая вольная воля
Выйдзе бокам, стане навукай,
Хай прысніцца табе каханне
З пляшкай піва ў начной кавярні.
Спі, мой Толічак, спі маленькі,
Крумкачы твае выдзяўбуць зрэнкі,
І ты будзеш глядзець на неба
Не вачыма, а водбліскам срэбра.»

***

Усё змяшалася — зіма, вясна і восень
У гэтым студзені, нібы ў жахлівым сне.
Ты ўся дрыжыш. Каханая, не бойся.
Давай патопім страх свой у віне.

Віно падкажа неабходныя кірункі,
Рассыціць сум, трывогу і віну

За руны ран і цалі пацалункаў,
За тое, што не помнім пра турму.

## Калыханка для прынцэсы

Дабранач, мая прынцэса,
Паэтка нязбытных сноў!
Твой рыцар словам жалезным
Драўляных нішчыць багоў.

І покуль увесь у войнах
Яго заблытаны зрок,
Ты можаш зусім спакойна
Змяніць святло на паўзмрок.

І ў гэтым ціхім паўзмроку
Аддаць другому сябе,
А потым лічыць аблокі,
Дзе больш ніхто не жыве.

***

На крылах сляпой свабоды
Лячу невядома куды.
На дно пустой асалоды?
На бераг мёртвай вады?
Мая салодкая фея,
Завея феерый-сноў
Ізноў, як звер, вар'яцее!
Тапёр нямога кіно,
Я ведаю пра вар'яцтва,
Павер, не менш за яе,
Але спрабую застацца
Цвярозым прынамсі ў сне.
Я ведаю пра каханне
Не горш за іншых людзей,
І ў змрок на белым экране
Стараюся не глядзець...
Таму на крылах свабоды
Імкну туды, дзе з табой
Падзелім і рух, і подых,
І сэрца рытмічны бой.



***

І вось я — пусты, а ты
Збянтэжаная такая,
Шукаеш словаў сляды,
Што з вуснаў маіх зляталі.
Ды толькі няма, павер,
Слядоў у сляпой пустэчы.
Я — першы, ты — трэці паверх.
Між намі — цэлая вечнасць.

## Ты і я

Плача восень у тваіх вачах.
У маіх — вясна, як сталь нажа.
Хто убачыць наш з табой адчай?
Хто адкажа, дзе той небакрай,
За якім суцешыцца душа?

Раптам чуем гучны крык з крыжа:
«Я ёсць шлях да шчасця праз тугу,
Тайная дарога праз тайгу,
Праз ільдоў адвечных млечны жах».

Чуем, ды не бачым, хто з крыжа
Нам крычыць, бо позірк твой слязой
Раз'ядае восені іржа,
Мой — спакоем бэзу цвет замёў,
Нібы снегам — сховішча вужак.

***

Вып'ем, муза кафэшантанная, —
Гэты ранак наўрад ці збяжыць.
Змрочных мрояў сувоі танныя
Мы пакінем на хісткай мяжы:

Паміж смерцю і крыкам народзінаў,
Паміж болем і радасцю слёз.
Вып'ем брэндзі кілішак, ды й годзе нам...
Годзе свет успрымаць усур'ёз!

***

Цалую цябе — напалову святую,
А значыць, і мёртвую напалову.
Не вусны, а словы твае цалую,
Бо веру, што целам станецца слова.

Бо веру, здараецца ў свеце каханне.
Прынамсі, я бачыў яго сягоння —
Яно валялася побач з бамжамі
На бруку бліскучым нашай Гародні.

***

Вiном пяшчотных, белых словаў
Частуе нас шынкарка-смерць.
Твой келіх поўны напалову.
А мой пусты амаль на трэць.

Падсумаваўшы ўсе рахункі,
Мы вершы п'ём на брударшафт.
Слядамі нашых пацалункаў
За намі прыйдуць боль і жах.

***

У тваіх вачах зіяе дно:
Слёзы вершаў высахлі даўно.

Ты слязьмі хацела патушыць
Жар сутоння стомленай душы.

Апякла і шчокі, і далонь,
А спыніць не здолела агонь.

Зрэшты, пагарэлі толькі дні.
Ночы — не, іх сон абараніў.

## Іншай жанчыне

Ты змянілася. Гэтак бывае заўжды.
Ты далёка, мой змрочны анёл.
Паміж намі ляглі не гады, не сляды,
А вільготны пясок ля палоскі вады
І нябёсаў высокая столь.
Не шкадую, што мы не прайшлі гэты шлях,
Не турбуюся, з кім ты цяпер.
Не турбуйся і ты, адыдзі на вачах
І памры, як няскончаны верш.

***

Маё імя закрэсліла Самота,
І, безыменны, я пайшоў шукаць
Сляды жанчын — смуглявых дочак Лота,
Бо чуў іх ціхі голас у вяках,

Альбо ў радках сваіх уласных вершаў,
Якія нёс праз церні і дажджы
Шырокім брукам, вузкай, пыльнай сцежкай
У рэшаце зняволенай душы.

Знайду ці не юрлівых патрыётак —
Не важна мне, бо важны толькі шлях,
Які ўнутры акрэсліла Самота
Паверх імя. У Смерці на вачах.



# Васіль Дэбіш

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Белыя птахі» (1993 г.), «Лісты да Марыі» (1996 г.), «Праз дождж» (2012 г.), «Чуйнар» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Брэсце.

## Бацька

***(Урывак з паэмы)***

...Блукае позірк летуценны
Па столі, адагрэтых сценах —
Паўсюдна дзён мінулых след.
Вунь бацькі на сцяне партрэт:
Твар мужны, ззяе — яснатою,
Вачэй блакіт — разлівы неба...
Я вінаваты прад табою,
Бо не цаніў цябе, як трэба.
Не разумеў: на цэлым свеце
Ці знойдзеш іншага такога!?
Цябе баяліся мы, дзеці.
Было пагляда дастаткова
Твайго, каб спрэчкі між сабою
Мы забывалі. Быў суддзёю
І педагогам досыць строгім:
Вучыў як жыць мяне малога
І на пытанні ўсе дазвання
Мог адказаць без намагання.

Хоць ростам быў ён невысокі,
Касцісты, ды ў плячах шырокі:
Такі на выгляд мацачок,
Бы ў пушчы грыб-баравічок.
Былі ў яго пашане жарты,
Гісторый безліч знаў, і варта
Адно было пачать размову —
Дапоўніць меў яе ён моду.
Меў трапнае ў запасе слова,
Адораны быў ад прыроды:
Ён казкі прыдумляў і вершы.
Заўжды, ва ўсім хацеў быць першым.
Уражваў моўнаю культурай,
Хоць быў і сціплы па натуры
І змрочны часам, самавіты:
Кульне сто грамм «для апетыту»—
Глядзіць на свет тады з запалам,

І смутку — як і не бывала.
У спрэчкі ўвязваўся ён смела,
Дзе толькі і знаходзіў словы
З падтэкстам значным, адмысловым,
Не ўсім, бывала, зразумелым.
Любіў людзей, рашуча крочыў
Ён па жыцці без скаргі, жалю.
Высокі лоб, жывыя вочы
Прыродны розум выдавалі.
Прыгожы постаццю, аблічам.
А зрэнкі таты, нібы знічы,
Агнём пякельным зіхацелі.
Ад іх жанчыны проста млелі,
Шалелі, калі як прынаду,
Кідаў у іхні бок пагляды.
Жанчыны — гэта тыя ж дзеці:
Ці сыпаў слоў душэўных квецень...
На ласку падкія і жарты,
На ўсмешку. І было тут варта
Каторай позірк кінуць хваткі
На бацьку — тут жа чапурыўся,
Бы певень-зух перад чубаткай.
І твар яснеў, і сам свяціўся,
Душа спявала, кроў бурліла,
За спінай выраслі крылы.
І бацька у імгненне вока
Ўзлятаў, як птах, тады высока.
Ды гэтых момантаў нямнага
Было, бо толькі позірк строгі
Ён бачыў маці, дык адразу
Змаўкаў, хмурнеў, і гаслі разам
Вачэй іскрынкі: рукі-крылле
Зноў апускаліся ў бяссіллі.
Тады марнеў, нібы сціскаўся,
Ды зноўку ў думы паглыбляўся.

Вучыў нас бацька, не без мукі,
Жыццёвым, як казаў, навукам:
Як урабіць зямлю пад жыта,
Падладзіць у свіней карыта
Ці палатаць страху ў паветцы.
Казаў, што тым жыццё ўдаецца,
Хто зранку ў полі без прынукі,
Чые не знаюць стомы рукі.

Старонкі памяці гартаю:
Ледзь ноч рассеецца густая,
(Мы, хлопцы, яшчэ моцна спалі
Пад залатым крылом заранкі),
А бацька ўжо сядзеў на ганку
Свой ціхі сум смаліў без жалю.
Тытунем горкім. На калені
Паклаўшы сшытак і аловак,
Сядзеў падоўгу ў задуменні.
Свяціўся маладзік барвовы,
Рассейваў па пакоі цені
Начныя, што бесперапынку
З вакон ліліся на падлогу.
Ад кнота каганца іскрынкі
Ляцелі знічкамі пад ногі.
Кнот бацька звычным рухам правіў —
Цяпер усё было ў парадку.
На прыпечак газнічку ставіў,
Сам нешта думаў, бо пячатка
Згрызот была відна на твары:
Агнём тады палалі шчокі,
Дрыжэла сківаца пад вокам.
Відаць, аб нечым важным марыў.
Глядзеў звычайна ён у скрусе
Праз рамаў пачарнелых краты,
Раз і другі ступаў па крузе,
І часам бачыў я зацяты
Ў вачах агеньчык мутнаваты.

Не знаю, ці пра гэта варта...
Мог выпіць бацька горкай кварту,
Хоць тут няма чым ганарыцца.
Ён піў, бо спрабаваў забыцца
На ўсё мярзотнае, да болю:
Давала чарка думкам волю.
Рабіўся погляд нейкі новы:
Ніцеў твар жорсткі паступова

І лёгкі выступаў румянец.
Глядзеў на свет з замілаваннем:
З вачэй не секлі бліскавіцы,
А то ж было не падступіцца.
Слязою важкаю, глыбокай
Паволі урасала вока.
Кульне сто грамаў ці то дзвесце —
І доўгую зацягне песню.
Нібыта стогн, яна гучала,
Ды толькі песня не кранала,
Бо блытаўся спявак у словах.
І на якой пяяў ён мове,
Не зразумець было дамашнім,
Ды гэта ўсё было не важна.
Мы чулі адгалоскі болю.
Зірнуць было адно даволі,
Пабачыць бацькава аблічча:
Зрок затуманены, суровы,
Узнятыя дугою бровы, —
Каб знаць, што ён з глыбінь штось кліча,
Сябе і нам душу вярэдзіць.
Не тут — далёка быў ён недзе.

Не раз і гэтакае бачыў:
Смяецца, праз хвіліну — плача,
То зноўку пачынае спевы,
То, поўны лютасці і гневу,
Усім нам раздае наказы.
А то выкрыквае абразы.
Дарэшты п'яны — што хаваць —
Ён мог і кулакі сціскаць.
Тады — стогн чуўся вілаваты.
Пагляд халодны і зацяты
Сямейнікаў будзіў трывогу,
Бо зналі: добрага — нічога,
Суцешыць гнеў адно пакора...
О, цяжкі быў у бацькі нораў!

Крычыць наш бацька, то змаўкае.
За чаркай — чарка. Час мінае,
За стол, каго пабачыць, кліча,
Ды раптам галаву схіляе,
Падоўгу сам сабе мармыча —
Так за сталом і засынае.

Як прымірыць — наш бацька ведаў.
Бывала, што сусед суседа
Аблае, збэсціць пры народзе,
Хоць і жылі паўвеку ў згодзе.
Цяпер жа кожны поўны злосці.
Абодвух бацька клікне ў госці.
Былыя ворагі-суседзі
Ў супольнай мірацца бяседзе.
Узняты чаркі з той нагоды —
Ізноў між імі лад і згода.

Спявалі, помню, жнейкі ў полі:
Было ў іх песнях столькі болю,
Так цяжка жаль на сэрца клаўся!..
Тады я ў таты запытаўся:
— Чаму наўкол такія песні?
— Жыццё, сынок, не перайначыш,
Як ні старайся, хоць ты трэсні...
Як мы жывём, такія й песні, —
Адказваў бацька невясёла,
У роздуме схіліўшы голаў.

Ссівелы волас, твар апалы
Падказваў, што было нямала
Калдобін на яго дарогах.
Пяць год савецкага астрогу —
І ад з званочка да званочка —
За пяць жытнёвых каласочкаў,
Што зрэзаў на калгасным полі,
Каб голад хоць крыху спатоліць.
Быў невыносным гэты голад,
І мор страшэнны... Год — за колас!
О, колькі згінула народу:
Брат-беларус, хахол, паляк...
Казаў: не так пайшло, не так...
І дабаўляў: няма свабоды,
А што страшней, няма і ладу.

Як толькі гэта Бог выносіць:
Сваяк на сваяка даносіць,
Паўсюдна прыжылася здрада.
Няма паміж людзьмі спагады.
Адна палова брудам лье —
Другая ў вязніцах гніе.
Знікае роднае, святое,
А мы ваюем між сабою.
Чырвоны д'ябал цягне жылы:
Баюся, скончыцца бядою.
Яднанне — наша моц і сіла!
Нас з кожным часам усё меней,
Бо продкаў рушацца святыні.
Сядзім, як мышы, па скляпеннях.
Як не з'яднаемся — загінем!
Здалося, быў глыток свабоды,
Ды зноў дыханне зацінае.
Што ж, д'ябал верх бярэ заўсёды,
Бо хітры ён і сквапны, братка:
Учэпістую мае хватку.
Як змею галаву ссякаюць —
Ды пяць ікластых вырастаюць. ...
Чыноў дзяржаўных да халеры.
Хлусня прымаецца на веру.
Лягчэй з магілаю пабрацца,
Чым іхняй ласкі дачакацца.

А найсвятлейшы?.. Не паверу
Я ў добрыя яго намеры,
Бо ён адно сягоння кажа,
А заўтра іншае наважыць.
Бяздумна гоніць нас у багну,
Заціснуўшы ў кулак свой прагны,
Пачаў да неба падбірацца,
Адзін над людам хоча ўзняцца.
Сябе ўявіў, нікчэмны, Богам
І хоча ўвесь народ пад ногі
Зваліць і растаптаць без жалю,
Нястрымны ў першабытным шале.
Казаў нам так пра песню тата:
Яе не высечаш булатам,
Не знішчыш — хто б там ні хацеў.
Яна — штандар людскіх надзей.
Калі душу ў яе ўкладаеш,
То сілу Духу набываеш.
Яна не стане паланянкай,
Ці з краю роднага бяглянкай;
Пакрыўдзіш — уцячэ ў бары,
Вятры дзе дуюць званары,
На струнах траў і дрэў іграюць,
Тугу і жальбу наганяюць.

Ён быў філолагам цудоўным.
І слухаў гукі я чароўнай
Народнай мовы так, нібыта
Уваскрасаў матыў забыты.
Гаючыя гучалі словы,
Быў на іх крылах я гатовы
Узняцца, уцячы ад тлуму...
Прытоеныя ў сэрцы думы,
Цяпер павольна ажывалі,
Шукаць аловак прымушалі.

Казаў не раз мне бацька: сыну,
Дарэмна не марнуй гадзіну.
Працуй штодзённа над сабою,
Жыві, сыночак, не душою:
Душа спустошыцца дазвання,
Як свечкі воск, яна растане.
Жыві не рузумам, бо розум
Падобны лютаўскім марозам:
Халодны, на расправу скоры,
Ён чэрствы да людскога гора.
У грамадзе — няма сумнення —
Вышэй за ўсё, сынок, сумленне.

Любіў нас бацька, і нямала
Для нас стараўся ён, бывала:
Прывяжа гойданку на грушу,
І я па ёй на неба рушу.
Узлёт — і ўжо на хвалі грэбні.
А што малому шчэ патрэбна?!
Гэх — і паміж птушыных песняў

Лячу ўжо ў самым паднябессі.
Халодны вецер студзіць грудзі,
А ўнізе пада мною людзі,
Як тыя мурашы лясныя,
Малыя, смешныя такія.
Гэх — я на промнях-валаконцах,
Як вольны птах, лячу да сонца.

Ці раптам бацька працу кіне,
Высока ўверх мяне падкіне:
— Ну як, сынок, табе жывецца?
А сам шчасліва засмяецца...

Вучыў нас бацька: — Без патрэбы,
Як не галодны ты, не трэба
Хлеб браць ці рэзаць на кавалкі.
І шанаваць акраец змалку
Ён настаўляў нязменна строга,
Казаў: усякі хлеб ад Бога,
Яго нам пасылае Неба.
Аднойчы свежы бохан хлеба
Я ненаўмысна не ўтрымаў,
То бацька ад стала прагнаў:
— Сыдзі з вачэй, бязрукі, збрыдні...
Якога выпесцілі злыдня!

Выходзіў з хаты бацька рана,
Як толькі праясняўся ранак:
Напоіць у хляве быка,
Накорміць свінак, япрука,
Прынесці не забудзе дровы.
І будзіць, бо равуць каровы.
Бадзёрым поглядам акіне,
Радзюшку з нашых ног адкіне,
Абніме кожнага за плечы:
— Пара ўжо, хлопцы, стыне скварка.
Вам да кароў і да авечак,
А нам з матуляй — гаспадарка!.

На дух ты, бацька, не выносіў
Цялячай, як казаў, пяшчоты.
Дый сам любіў, цаніў вабноты.
На недакошаным пракосе,
Ад паху лугу ахмялелы,
Ляжыш, худы і загарэлы,
Нібыта з краскамі гаворыш —
Шкадуеш рэзаць іх пад корань.

Цямнее неба, лес і поле.
Мне грудзі працінае болем:
Выразней з часам бачыш страты,
Як цела пакідаюць сілы.
Вунь знічка падае за хатай,
Ляціць на татаву магілу.
Хачу абняць яго, ды позна —
Віны мне гэтай несці крыж.
Я таты адчуваю позірк
У бляску каганца. — Не спіш? —
Нібы пытаецца сурова.
Пра сэрца хворае ні слова...



# ВЕРАСЕНЬ
# ПРОЗА

**ульяна зяткіна алесь яшчанка**
**мікола адам вячаслаў лапцік**
**вінцэсь мудроў**



# Ульяна Зяткіна

**празаік. Навучэнка Магілёўскага дзяржаўнага абласнога ліцэя № 3. Нарадзілася ў 2000 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.**



## Карціна

Каб зразумець рэальнасць, спазнаць праўду і пранікнуцца тым, што адбываецца, дастаткова ўсяго толькі ўяўлення, і, як ні дзіўна, усё складанае раптам апынецца простым, усё загадкавае стане вытлумачальным.

Тая сталая жанчына, якую я ўбачыла ў адным з музеяў Парыжа, адразу прыцягнула маю ўвагу. Яна нерухома стаяла каля аднаго зімовага пейзажу, напісаным нейкім вядомым мастаком, які, калі шчыра, не так моцна цікавіў мяне, як сама жанчына, а дакладней, выраз яе твару, на які спадаў цень ад барвовага берэта. Яе бледна-ружовыя вусны былі падціснуты, нібы асуджалі тое, што бачылі вочы, якія, здавалася, патаналі ў пакрытым снегам краявідзе. Людзі падыходзілі да карціны, любаваліся ёю, а потым працягвалі свой шлях па музеі, а яна ўсё стаяла і глядзела, і да мяне ніяк не даходзіла, што ж яна там такое ўбачыла. Узнікла думка падысці і спытаць напрамую, але ідэя знікла вельмі хутка, таму што я засумнявалася наконт таго, ці захоча яна наогул са мной размаўляць. Можа, гэта яе раззлуе. Карацей, мне прыйшлося працягнуць назіранне збоку. Яе рукі ў чорных доўгіх пальчатках былі складзены за спіной, якую пакрывала чорнае футра, а правая нага была адкінута ўбок, мусіць, для большай устойлівасці. Белая, як снег на карціне, маленькая, як намалёваныя на ёй домікі, сумка давала зразумець, што жанчына гэтая зусім не статуя: яна калыхалася з боку ў бок, нібы маятнік вялікага гадзінніка.

Ці былі ў мяне нейкія планы ў той дзень, складана ўжо ўспомніць, што менавіта здавалася мне тады важным, але мне ніяк не атрымлівалася ўгаварыць сябе прайсці ў наступную залу. Гэтая жанчына, нават не здагадваючыся пра маё існаванне, моцна трымала каля сябе, не дазваляючы зрушыцца з месца, прымушаючы стаяць з ёй і глядзець на пейзаж. Прыйшлося спрабаваць абхітрыць сябе, прыдумаць яе гісторыю, інакш мозг не дазволіў бы працягваць шлях. Каб справіцца з задачай, трэба было проста ўбачыць нешта незвычайнае ў карціне, зразумець, што так важна для гэтай жанчыны, а потым проста ўсміхнуцца сабе, таму што таямніца раскрылася.

У мяне атрымалася падысці бліжэй, каб лепш бачыць карціну, аднак ніякіх думак не ўзнікла. Але нешта прыдумаць трэба было абавязкова! Справа зрушылася дзякуючы простым лічбам. Хатак аказалася чатыры, елак — восем, дзве сцяжынкі. Гэта бачыць кожны. Але яна (мой погляд хутка прабег па яе твары) бачыла зусім іншае. Трэба глядзець глыбей.

У хуткім часе ў маім уяўленні з'явіліся сем'і, якія жылі ў гэтых хатах, мноства пралесак, якія хаваліся пад мяккім снегам, прамяні сонца, якія зіхцелі скрозь густыя галіны.

Дастаткова?

Не.

Тады на карціне паўстала сумная настальгія, наіўная радасць, вартае жалю раздражненне і яшчэ крыклівая цішыня.

Хопіць?

Ізноў не.

Захацелася зноў паспрабаваць адшукаць падказку на твары жанчыны, але аказалася, што замест яе ўжо стаіць маладая пара. Яна раптам знікла, так і не даўшы ніякіх тлумачэнняў? Слёзы ледзь не паліліся з вачэй. Маладыя людзі ўсё любаваліся і любаваліся прыродай, што ў мяне нават паўстала пачуццё рэўнасці да гэтай карціны.

Хлопец раптам нешта шапнуў сваёй спадарожніцы, яна кіўнула і сказала, што пачакае тут, пасля чаго малады чалавек хуткімі крокамі кудысьці накіраваўся. Дзяўчына засталася адна разглядаць елкі і хаты.

Іхнія позы супадалі. Больш за тое, сумка гэтай маладой асобы таксама была белага колеру.

Вось і з'явілася доўгачаканая падказка.

Мае вочы зноў глядзелі на карціну, але, па шчырасці, яна ўжо мне і не патрэбна была.

Ён сышоў пасярод зімы, пакінуўшы яе адну ў маленькай вёсцы каля вялікага цёмнага лесу, паабяцаўшы вярнуцца. Можа, гэта была вайна, можа, гэта быў звычайны будзённы дзень, можа, ён адправіўся з сябрамі на паляванне. У любым выпадку, яна яго больш не ўбачыла. Але хіба хто-небудзь перастае спадзявацца глыбока-глыбока ў душы? Яна паслухмяна чакала дзень, месяц, год... Яна адправілася ў горад , спадзяючыся ўбачыць яго, бо тут закаханыя знаходзяць адзін аднаго. Але яна ўбачыла карціну і вярнулася ў той фатальны дзень. І нечакана для сябе зразумела, што яе каханне ператварылася ў музейны экспанат, што яму няма месца ў сучасным жыцці. Яно сталася мінулым...

Яна змірылася. І сышла... у зіму свайго мінулага кахання.





# Алесь Яшчанка

**паэт, празаік, перакладчык. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Вучыўся на філалагічным факультэце ва ўніверсітэце горада Трэнта (Італія). Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Барысаве. Жыве ў Варшаве.**



# Формула вады

Быў сонечны дзень, усё, як абяцалі сіноптыкі. Сонца паўзло па сцяне шпітальнага калідора і па падлозе, і па крэслах. І вось адзін з мільярдаў яго праменьчыкаў злавілі акуляры высокага хударлявага чалавека. Ён пакруціў іх у руках і схаваў у кішэню. Насупраць яго сядзеў нізенькі лысаваты мужчына, які сачыў за кожным рухам хударлявага. Абодва чакалі, абодва відавочна нерваваліся. Раптам дзверы кабінета адчыніліся.

— Бутар! — каротка выкрыкнула медсястра.

Мужчыны, як ашпараныя, падбеглі да дзвярэй.

— Вы што разам, мужчыны? У кабінет толькі па адным.

— А мы па адным, — пераглянуліся мужчыны. Я — Бутар Васіль. Вы ж сказалі Бу-тар.

— А ён што?

— Дык, — неяк вінавата заўсміхаўся лысаваты, — і я Бутар. Сцяпан Бутар.

— Вы што браты? Не падобныя.

— Ага, не падобныя, — адказаў Сцяпан.

— То мы вас клікалі, — паказала медсястра пальцам на Васіля. Доктар вас чакае.

Васіль Бутар увайшоў у кабінет, Сцяпан ізноў вярнуўся на сваё крэсла.

— Вось дык справа, — звярнуўся ён да задумлівай бабулькі на суседнім крэсле. Я кажу:

— Гэта ж трэба такое! Прыехаў у сталіцу са сваіх Навасёлак і Бутара сустрэў. А ў нас жа гэтых Бутараў поўныя Навасёлкі!

Бабулька таропка зірнула на яго, уздыхнула ды перавяла позірк на падлогу, па якой працягвала слізгаць сонца.

— Бутар, Сцяпан Бутар, — паклікала медсястра.

Сцяпан падняўся і ўбачыў Васіля. Той панура апусціў галаву і прысеў на крэсла.

— Васіль, вы можа пачакаеце мяне. Хто яго ведае, а можа мы сваякі? — звярнуўся ён да хударлявага.

— Пачакаю, — ціха адказаў Васіль.

Сцяпан выйшаў з кабінета з усмешкаю і жартамі.

— Ну і добра, што пачакалі, Васіль! У мяне цудоўная навіна. Буду жыць. Аналізы добрыя, зараз у краму закупіцца, а пасля на аўтобус. Увечары буду дома.

— Гэта добра. А ў мяне вось кепскія справы, — адказаў Васіль.

— Што знайшлі гэта? Як яго, нават называць не хачу.

— Рак.

Абодва замаўчалі, падалося, што маўчанне гэтае цягнулася з добрую гадзіну, кожны думаў пра сваё. Адзін звыкаўся з новымі думкамі, другі спачуваў, адзін цешыўся, што здаровы, другі думаў пра смерць.

— Вы не хвалюйцеся, — пачаў Сцяпан, — ну лечаць жа гэтыя пухліны, можа доктара добрага вам знойдуць, пажывеце яшчэ. Вось у нас, я з Навасёлак, вёска такая, там усе Бутары, як мы з вамі. Адзін Бутар, Пецька, напрыклад, жаніцца задумаў. Рыхтаваліся цэлы месяц да вяселля, імшу замовілі, усё заплочана. А ён напіўся і на вяселле не прыйшоў. Усю сям'ю асароміў, а нявеста ягоная ўцякла ў райцэнтр, ткачыхай робіць.

— Добра ім, — адазваўся Васіль.

— Ну а што? Жыццё. А брат гэтага Пецькі, Сяргей, быў вядомы на ўвесь раён, што п'яным на вазу ездзіў. Раніцай ехаў на кірмаш, вёз там маркоўчыну якую, бульбіну. Прадасць, а пасля купіць самагонкі, і дадому яго конь валачэ. Дык вось конь аднойчы прывёз яго замест нашых Навасёлак у іншыя, за 40 кіламетраў. Потым усе жартавалі: во які вучоны конь, не туды паехаў, але чытаць умее: у Навасёлкі прывёз.

— Жыццё, вы ведаеце, — раптам сказаў Васіль.

— Складаная штука, — працягнуў Сцяпан.

— Не, акурат простая, а мы яго ўскладняем. Вось і з вашага аповеду бачна, што простае. Ты здаровы альбо хворы. Проста ж?

— Проста.

— Мёртвы альбо жывы. Проста?

— Проста, — пагадзіўся Сцяпан. А вы пэўна нейкім прафесарам працуеце, запытаўся ён.

— Я хімік, працую ў лабараторыі.

— Ого! Бутар і вучоны, ганарыцца можна. А з чым працуеце?

— З вадою.

— З вадою? Дык а што там працаваць з вадою, — здзівіўся Сцяпан. У нас во поўны калодзеж вады ў Навасёлках, чыстая, балотам не смярдзіць.

— Я раблю аналіз пітной вады і штодня спраўджваю, не толькі на бактэрыі. Я штодня раскладаю яе на формулу: H2O.

— Ну я гэтага не ведаю, даўно хімію вучыў, — прызнаўся Сцяпан.

— Тут справа не ў хіміі. У школе нам сказалі, што самае простае, што ёсць у хіміі — формула вады. І мы паспрачаліся з сябрам, я абяцаў, што паступлю на хімічны факультэт, не ведаючы гэтай формулы. Я пазбягаў яе, як мог, і паступіў, але пасля мяне адлічылі, бо на трэцім курсе аднак адкрылася, што я не ведаў элементарнага. З мяне смяяліся ўсе. І тады я яе вывучыў, і не толькі вывучыў, але абяцаў прысвяціць сваё жыццё вадзе. Я кожны дзень яе вывучаю і паўтараю яе формулу.

— Спадарства! — іхнюю размову перарвала медсястра, — Гэта не ў вас, а ў вас!

— Што? — запыталі ў адзін голас Бутары.

— Мы аналізы пераблыталі, прабачаемся! Хвароба не ў вас, — яна паказала рукою на Васіля, — а ў іншага Бутара.

Васіль падняўся з крэсла, яму не хапала паветра. Ён дастаў з торбы бутэльку з вадою, зрабіў глыток. А пасля выпусціў бутэльку з рук, яна ўпала, вада расцяклася па сонечнай падлозе, а ён, як рыба, заварушыў вуснамі, адчыняў і зачыняў рот.

— Цяпер я здаровы, а хворы вы. Жыццё простае.

На гэтых словах Васіль упаў на мокрую падлогу.

— Ратуйце! — закрычаў Сцяпан. Чалавек памірае! Нясіце апарат, хутчэй, — звярнуўся ён да медсястры.

— Але ж у нас анкалогія, а не кардыялогія, — запратэставала медсястра. Зараз прыедзе хуткая.

Пакуль хуткая ехала, мінула хвілінаў дваццаць. Васіль памёр. Памёр вось так у шпіталі, дзе лекараў, як тых Бутараў у Навасёлках.

Сонца дасягнула зеніту і пачало хіліцца на захад. Сцяпан ціха выйшаў на двор. Яму не хацелася жартаваць, яму не хацелася закупаў, яму не хацелася аўтобуса, дома. Жыццё ціснула на яго трохтонным валуном. А з іншага боку было простым. Як сонца, як зямля, як вада. Як формула вады.

*2018 г.*

# Паскуда

Яго так і называлі — Паскуда. Ён быў звычайным гопнікам, душою нават больш, чым целам.

Цела яго акурат было густоўна аздоблена і апранута. Дзякуй мамцы, што працавала ў адной з крамаў далёкага італьянскага горада Фабрыяно. Раз на месяц яна дасылала сыну колькі соцень еўра і вопратку, да якой мела сэнтымент яшчэ з савецкіх часоў. Ну і боты, да якіх займела сэнтымент, ужо жывучы ў Італіі.

Паскуда, натуральна ізноў жа дзякуючы мамцы, неаднаразова бываў на Апенінскай паўвыспе. Ён нагледзеўся на тамтэйшых і набіў сабе тату, сэнс якога не разумеў. Ён зачэсваў валасы гелем, адрасціў казліную бародку і прабіў дзірку ў вуху. Такую вялікую, што праз яе можна было б чытаць ці глядзець тэлевізар. Але ў душы Паскуда заставаўся тым самым гопнікам і цалкам адпавядаў сваёй мянушцы. Душа ягоная была такой жа дзіравай, як і вуха.

У той дзень Паскуда атрымаў ад мамкі чарговы перавод і адразу ж выправіўся ў горад. У цягніку падсеў да прыгожай дзяўчыны, робячы выгляд, што глядзіць у вакно,назіраў за ёй. Яна, на выгляд першакурсніца, была апранутая не менш густоўна за яго. Дзяўчына слухала музыку ў навушніках і пакрысе таксама пачала кідаць зацікаўленыя позіркі ў бок Паскуды.

— Што слухаеш? — раптам запытаўся ў яе Паскуда.

— Што вы кажаце? — дзяўчына вынула адзін навушнік і паглядзела на спадарожніка.

— Што ты там слухаеш?— пытаюся.

— Soundgarden.

— Не ведаю такога, я вось звычайна слухаю Nirvana, Offspring, ну «Арыю» там, «Кароль і шут» нішто сабе.

— Nirvana і Offspring таксама сярод маіх улюбёных. Асабліва альбомы Nevermind і Americano.

— Ну я па альбомах кепска арыентуюся, — адзначыў Паскуда. — Але там такі вясёлы рытм. Ну гаражны рок, ё-маё. А як цябе зваць?

— Юля, — каротка сказала дзяўчына.

— Што, праўда? Маё любімае імя! — сказаў задаволена Паскуда, бо ведаў, што гэта самы лёгкі спосаб спадабацца дзяўчыне.

— Так? То файна, — шчыра ўсцешылася тая.

— А куды едзеш, Юля? — запытаў яе Паскуда.

— На курсы ангельскай. Я заканчваю школу і хачу паступаць на юрфак, буду адвакатам.

— Адвакат — гэта крута! — працягнуў хваліць Юлю Паскуда. Скраў нешта, а потым сам у судзе сябе абараніў, і канец справы.

— Ну да гэтага яшчэ трэба давучыцца, — сказала Юля.

Раптам Паскуда падняўся: — Выбачай, я ў прыбіральню тэрмінова. І пабег у канец вагона.

А тым часам Юля сядзела і думала: файны хлопец. Можа дзе і востры, і прамы, але падаецца шчырым, а гэта галоўнае. Ну і сімпатычны, і апрануты модна, і тату, і бародка...

Яна ўзяла асадку і напісала на паперцы свой нумар тэлефона, склала паперку на дзве часткі і паклала ў кішэню курткі, якую Паскуда пакінуў на сваім месцы.

— Ох, як хараша! — выдыхнуў Паскуда, вярнуўшыся з прыбіральні. Відаць цэлы літр з мяне выйшаў. А я так напіўся піва, што думаў жывот лопне. І во размаўлялі з табой ды як схапіла! Як змяюку! Зараз прыеду яшчэ халодненькага вып'ю, мне сёння заробак прыйшоў! Гуляем! Хочаш на дыскатэку?

Але расчараваная дзяўчына маўчала. Цяпер яна думала толькі пра тое, як адвязацца ад Паскуды і як выцягнуць назад з кішэні ягонае курткі паперку з тэлефонным нумарам. І вось, калі цягнік наблізіўся да канцавой, і Паскуда пачаў апранацца, Юля двума пальцамі ўхапіла паперку і выцягнула яе.

— Што ты гэта такое робіш? — вылупіў на яе вочы Паскуда.

— Ты мне спачатку спадабаўся. Таму калі ты адышоў, я нумар свой табе на паперцы пакінула. А цяпер забрала.

— А мае сто баксаў? — запытаў з хітрай усмешкаю Паскуда.

— Якія сто баксаў?

— Зялёныя! Якія ж яшчэ?

— Я не ведаю, не было нічога апроч цыдулкі.

— Ну то зараз даведаешся...

Калі цягнік прыбыў на канцавы прыпынак, Паскуда, моцна трымаючы Юлю за руку, падвёў яе да дзяжурных міліцыянтаў.



— Вось злодзейка, — сказаў ён ім. Скрала ў мяне сто даляраў. Хадземце, я напішу заяву.

Натуральна, ніякіх ста даляраў у кішэні не было. Не знайшлі іх і ў Юлі. Але была заява, і справа далей паляцела ў суд. На судзе Юля даказала сваю невінаватасць. Яна горача бараніла самую сябе і ў выніку была апраўданая. Але сам факт завядзення такой справы кідаў цень на патэнцыйную юрыстку, і таму ва ўніверсітэт яе не прынялі.

А Паскуда з'ехаў у Італію, ажаніўся там з уласніцай тыпаграфіі і гэтую гісторыю наўрад ці ўзгадвае.

*2018 г.*

# Дантыст

Дантыст — агідная прафесія. Ну толькі падумайце, усё жыццё ўглядацца ў непашкадаваныя ні часам, ні самымі гаспадарамі пашчы. Але тут ёсць свае падводныя, ці лепей сказаць, зубныя, камяні. Камяні, якія пры добрым наплыве кліентуры пераўтвараюцца ў дыяманты. Так, заробку дантыстаў, можа акрамя іхніх жонак, ніхто і ніколі не лічыў. Дый навошта лічыць? Прадстаўнікі сярэдняга класу пасля такога лячэння мусілі б запісацца да іншага вузкага спецыяліста.

Таму Бурдыка, больш вядомы ў нашых тутэйшых колах, як Бурдзюк, стараўся абстрагавацца ад коштаў, у тым ліку і паслугаў зубнога лекара. Звычайна ён мяняў назапашаныя пад дыванам даляры ды ішоў да свайго старога знаёмага дантыста Савы. Прозвішча ягонае ўжо ніхто, бадай, не ўзгадае, як не памятаюць і той год, у які Бурдыка памяняў зялёную амерыканскую паперку наміналам у пяцьдзясят адзінак, і ўздыхаючы, кіраваўся ў бок сінагогі. Менавіта ў гэтых ваколіцах і рабіў на зубным болю свой бізнэс майстар Сава. Памятае тутэйшая грамадскасць толькі тое, што ў той год шчодра ўрадзілі кабачкі, і гэтак шчодра, што ніхто не ведаў, куды іх падзець. Але пакуль не пра гэта.

Бурдыка акурат ішоў да зубнога, калі па дарозе яго напаткалі цыганкі, ды наваражылі яму спрэчку ды нават крывавую бойку з-за грошай. У выніку грошы прыйшлося аддаць, каб не было праз што сварыцца ды біцца ажно да крыві.

Дантыст Сава прыняў кліента з невялічкім спазненнем, уключыў радыё, запаліў лямпу і як след наладкаваў фатэль.

— Сядайце, мой рэдкі госць, — прамовіў Сава.

— Ну, канечне, такі ўжо рэдкі, — абурыўся Бурдыка.

— Не, вы мяне не так разумееце, — працягваў лекар, — у вас зубы рэдкія. І я не пра шчыльнасць, вы не падумайце. Рэдкія яны вось з якога гледзішча: я вам стаўлю па тры пломбы на год, і роўна гэтыя тры пломбы ў вас і выпадаюць. Ну а цяпер, на што скардзіцеся?

— Я-а-а...— пачаў Бурдыка, але прафесіянал яго апярэдзіў.

— Стоп! Сам бачу: сёмы і дзявяты ніжнія, крайні правы верхні. Ну гэта ўжо аж смешна. Ізноў тры пломбы трэба ставіць. Зараз замарозку ўкалю.

— А можа не трэба?— запратэставаў Бурдзюк. Можа без замарозкі танней абыдзецца?

— Ну гэта гледзячы з якога боку танней, — адказаў лекар.

Ужо на сёмым ніжнім Бурдыка заенчыў, у выніку боль зрабіўся такім невыносным, што гаротнік заспяваў «Ойча наш». Праз хвіліну спявак зламаўся: — Ну добра, каліце вашую замарозку.

— А можа вам яшчэ і камень пачысціць? — вачыма, поўнымі надзеі, паглядзеў дантыст на кліента. — Адклалася тут гэтага каменя за вашае жыццё столькі, што на помнік вам хопіць.

Запрацавалі спецінструменты, закруціліся шчоткі, заспявала бормашына: і-ў-ў-ў-ў-ў-ў-ў, цях-цях-цях, і-ў-ў-ў-ў-ў-ў-ў, цях-цях-цях.

— Я сваіх сыноў, — адазваўся Сава, — таксама ў стаматолагі аддаў. Вучоба каштуе, натуральна, але са сваёй кішэні дапамагу ім так ці сяк на ногі падняцца. На практыку сюды, пад бацькоўскія крылы, і адсотак з іх браць буду за арэнду і лекі. Ну а за вучобу самую разлічацца пасля, як я калісьці з дзедам па матчынай лініі.

— Ну вось і ўсё, — выпрастаў спіну дантыст, — зубкі, як новыя, можаце карыстацца!

— Дзякуй, — працэдзіў Бурдыка, перамінаючыся з нагі на нагу.

— Ну! — сказаў Сава,— Ну-у-у! — паўтарыў працягла.

— Што ну? — утаропіўся на яго Бурдзюк.

— З вас — мільён старымі.

— А што ж так дорага? Колькі гэта будзе на новыя?

— На новыя сто, сто рублёў.

— А, ну то нармальна тады! Толькі тут праблема... Цыганкі па дарозе абабралі..

— Цыганкі?

— Выцягнулі, выцерушылі. Каб ад сваркі з-за грошай мяне ўратаваць.

— Што? І вы прыйшлі без грошай? Вы можа думалі, што я тут доктар Айбаліт, які вылечыць вас за ўсмешку?

— Дык можа вазьміце кабачкамі? Я хоць цэлы мяшок іх вам прынясу!

— І каго вы сёлета кабачкамі здзівіць хочаце? Мне ікру прыносяць, калі ўжо гаворка пра натуральны разлік.

— Кабачковую?

— Асятровую!

— Ну а я даю тры кабачкі! Конскія! Магу і часныку трохі адсыпаць. Іх і так шмат не з'ясі. Ну ці пасля аддам грашыма. Бажуся! Вы ў Бога якога верыце, ці толькі ў фею зубную?

— Сядайце, сядайце ў фатэль, шаноўны спадару Бурдыка, я яшчэ не ўсё да канца давёў, — замітусіўся Сава.



Бурдзюк паслухаўся, сеў, адкінуўшы галаву.

— Я вас прывяжу, шаноўны, кажу, як прафесіянал, так трэба, — прамовіў Сава.

Ён моцна перацягнуў шыю, рукі і ногі Бурдзюка гумавымі стужкамі. Адной рукою адкрыў рот, а другою абцугамі ўхапіўся за першы верхні разец. Хрусць. І зуб застаўся ў абцугах. Хрусць. За ім другі верхні разец. Хрусць. Зламаліся два ніжнія.

— Ну вось, шаноўны рэдкі кліент, цяпер вы сапраўды рэдкі, — засмяяўся лекар.

— Ты што нарабіў, навалач? — зашамкаў бяззубым іртом Бурдыка, — Вярні мне жубы, пашкуда!

— А ты мне грошы вярні. Грошы за зубы — справядлівы абмен.

З абяцаннямі прынесці грошы бяззубы Бурдзюк выйшаў ад Савы і наўпрост накіраваўся ў міліцыю. Там выслухалі ягоную скаргу, хоць і неахвотна, але прынялі заяву і аператыўна выслалі куды трэба групу амапаўцаў.

Бралі дантыста Саву шумна. Пры гэтым абедзьве ныркі ён адбіў сабе сам, як і зламаў нос, зваліўшыся, паводле пратакола, з вышыні ўласнага росту.

Са сталі капала, на падваконні, пад прамянямі ўзыходзячага сонца пераліваласяцвіль. Сава кепска скончыў. У ізалятары яго ўкусіў пацук, і ён моцна захварэў. Кажуць, апошнімі ягонымі словамі былі: — Дантыст — агідная прафесія.

Ну а што ж Бурдзюк? Праз суд ён дамогся бясплатнага лячэння ўсіх зубоў. Больш таго, да канца жыцця.

*2016 г.*



# Мікола Адам

**празаік, паэт. Аўтар празаічных кніг: «Шоўк», «Прывітанне, Даша!», «Гульня ўяўлення», «Інтанацыі», «Свае і чужыя», паэтычнага зборніка «Калыханка для каханай». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. Да 1992 г. жыў у Казахстане (г. Шахцінск Карагандзінскай вобласці). Зараз жыве ў вёсцы Мікалаеўшчына.**

# На бульбе

...Праз два тыдні вучобы на новым месцы заняткі спыніліся дзеля збору ўраджая на калгасных палях, у прыватнасці, бульбы.

Збор бульбы для мяне быў першым знаёмствам з сельскагаспадарчай працай, але я не разумеў, чаму вучні павінны былі яе збіраць, замест таго, каб вучыцца. Бясплатная рабсіла? Ці калгаснікаў не хапала? А гэта ж паўтаралася з года ў год! Не іначай, школа рыхтавала дзяцей да суровых будняў дарослага жыцця, не сумняваючыся, што далей калгасных палёў тыя не выпхнуцца. А нічога, што вясковыя дзеці з маленства падрыхтаваныя да гэтых будняў? Гэта мне было цікава па першым часе, што, дзе і адкуль, таму што дагэтуль я паняцця не меў, што бульба расце ў зямлі, а малако бяруць у каровы. Бацька ў Шахцінску прыносіў бульбу з кірмаша, купляючы яе за грошы, а па малако я хадзіў у краму з трохлітровым карычневым эмаліраваным бідонам, у які тое малако пералівала з вялікай вываркі заўсёды злосная чамусьці таўставатая кабета ў белым халаце па другі бок прылаўка.

Як я чакаў гэтага першага дня знаёмства з зямлёю! Маці падказала, што і як я буду рабіць на полі, таму тэарэтычна я быў падкаваны і ведаў, куды паеду, хоць ніколі раней на полі не апынаўся, калі не ўлічваць некалькіх дзясяткаў сотак на дзедавым гародзе. Мяне адзелі ў нейкія лахманы, паўзверх напялілі ватоўку без рукавоў і ўсунулі ногі ў кірзавыя боты. Калі я паглядзеў на сябе ў люстэрка, міжволі параўнаў з персанажамі Мележаўскіх «Людзей на балоце». І машыны часу не трэба. Мы самі сабе машыны часу.

Больш за ўсё спадабаліся боты, якія абнялі ногі так, нібыта дзеля іх адмыслова і былі пашыты. Падобных ботаў раней я ніколі не абуваў, а хадзіць у ботах, асабліва ў дзяцінстве, любіў да вар'яцтва. Які гэта кайф — блукаць па лужынах пасля дажджу, не абмінаючы ніводнай. У сваіх чырвоных гумовіках я правераў глыбіню ці не ўсіх лужын Шахцінска, уяўляючы сябе адзінокім, але рашучым і адважным карсарам, чый карабель разбіўся аб рыфы пасля страшэннай баталіі, у якой я, вядома, перамог, бо боты на мне пакуль цэлыя, а значыць, мора — па калена. Калі-нікалі карсар змяняўся параненым партызанам, аднак узнікаў ён толькі ў тых мясцінах, дзе паразмывала дарогі і замест лужын пад нагамі чвякала жыжа колеру какавы. Па тэлевізары паказвалі столькі фільмаў пра партызанаў, што ўявіць сябе стомленым, ледзь выжыўшым пасля ўдала выкананага задання і доўгіх уцёкаў ад паліцаяў абаронцам айчыны не выклікала ніякіх цяжкасцяў.

Але тое было ў дзяцінстве, калі аб працы ведаеш адно з бацькавых расповедаў.

Каля школы ўжо сабралася багата людзей у чаканні машын (звычайна прыязджалі два грузавікі), якія павінны былі завезці ўсіх на поле і прывезці назад пасля, калі я выйшаў з двара з кашом на плячы, нібы з вінтоўкай. Адначасова

са мной пад'ехалі і машыны. Адна з іх спынілася проста насупраць мяне, і я раней за астатніх ускочыў у кузаў з прыстаўленымі да кожнага борта лаўкамі, заняў адно з лепшых месцаў каля кабіны. Трэба сказаць, што мне пашанцавала. Тыя, хто лічыў варон ці пазяхаў, вымушаны былі ехаць стоячы, бо на ўсіх сядзячых месцаў не хапала, хаця дзяўчаты, хто смялейшыя, маглі сесці хлопцам на калені.

Машына спрытна напаўнялася шумнай дзятвой пад прыглядам настаўнікаў, якія таксама пасля залезлі ў кузавы. У кабіны сядалі дырэктар і завуч. Побач са мной паселі Руслік Сенькаў і Дзяніс Філіповіч з майго класа. Яны заўсёды і паўсюль з'яўляліся разам і дзялілі лідарства ў класе на дваіх, ды ўсё ж супернічалі адзін супраць другога, бо лідар павінен быць усё ж такі адзін. Супернічалі, вядома, не ў вучобе, а за месца пад сонцам, асабліва моцна гэта праяўлялася на ўроках па фізкультуры (абодва былі спартыўнымі) і ў адносінах да дзяўчат, з якімі ўдзень абыходзіліся знарок грэбліва, здзекліва і груба, а ўвечары ішлі да іх на спатканні прывязанымі цялкамі.

Месцаў не хапіла дзяўчатам, што цалкам натуральна, яны не такія спрытныя і нахабныя, як іх супрацьлеглыя асобіны, але і яны неяк паселі. Адна Ванда Васілеўская з дзясятага класа яшчэ шукала, куды б прыткнуцца. Яна хацела было крыху пасунуць Русліка з Дзянісам, ды тыя пачалі яе адразу ціскаць, і дзяўчына са словамі: «Я лепш да Адама сяду», прызямлілася на мае калені нечаканай сняжынкай.

Хлопцы чамусьці зарагаталі.

— Не звяртай на іх увагі, — бліснула на мяне зялёнымі цыганістымі вачыма Васілеўская. Яна была полькаю па нацыянальнасці, але выглядала сапраўднай цыганкай і бадай самай прыгожай на той час дзяўчынай у школе. За ёй шмат хто ўвіхаўся, а больш за ўсіх шчыраваў Андрэй Шкет (лепшы сябар Русліка і Дзяніса) з ейнага ж класа. Аднак заляцанні яго не вылучаліся ні далікатнасцю, ні павагай да дзяўчыны, прынамсі, мне так тады здавалася. Ён то за касу тузане Васілеўскую (а валасы ў той доўгія, ніжэй спіны), то нагу ёй задзярэ вышэй галавы, прыціснуўшы да сцяны, і закрычыць ёй у самае вуха: «Дык ты Ван Дам у спадніцы?!», то ў рагатку згуляе, падкраўшыся з-за спіны. Васілеўская, трэба сказаць, у крыўду сябе не давала. Яна магла так урэзаць Шкету па вуху, што той два дні пасля абыходзіў яе бокам. Аднойчы, калі ён у чарговы раз прыціснуў Ванду да сцяны і задраў ёй нагу, паставіўшы на шпагат, яна ашчаперыла аберуч яго галаву, пацягнула на сябе і ўпілася вуснамі ў яго губы, быццам п'яўка. Шкет ад нечаканасці выпусціў ахвяру і грымнуўся на падлогу, няўцямна лыпаючы вачыма. Пасля таго выпадку больш з Васілеўскай у Ван Дама Шкет не гуляў.

— Глядзі, глядзі, Дэн, у Адама вушы ў трубачку скруціліся, гэтак Васілеўская ў іх надыхала! — рагочучы, аб'явіў на ўсю машыну Руслік.

Я не ведаў, куды падзецца ад вачэй прысутных, у адно імгненне атакаваўшых мяне сваімі позіркамі-месершмітамі, і чырванеў, як бурак, а мову, каб адказаць што-небудзь трапнае, нібы адняло. Зрэшты, цікавасць прысутных да маёй асобы доўжылася такое ж імгненне, як і атака іх позіркаў, за выключэннем Русліка і Дзяніса, Шкет у той дзень трапіў у іншую машыну.

— Што вы хлопца ў чырвань уводзіце! — накінулася на маіх аднакласнікаў Васілеўская, заступіўшыся за мяне, хаця да гэтага, як ні пабачыць мяне ў школьных калідорах падчас перапынкаў, абавязкова праспявае ў мой бок: «Адам лапавухі, а Адам лапавухі!».

Ды я не крыўдаваў. Што паробіш, калі мае вушы выраслі раней за мяне, і я да трыццаці васьмі сваіх гадоў даганяў іх, як электрычку, на якую не паспеў.

Балазе прыехалі на поле.

Вучні пачалі куляцца з машын гарохам.

Я дапамог спусціцца на зямлю Васілеўскай.

Краем вока заўважыў, як Шкет нервова куснуў губу і адвярнуўся.

Васілеўская падзякавала мне і ўсміхнулася. Пасля пайшла да Шкета.

Настаўніцы палічылі рады, якім не было відаць ні канца, ні краю, на іх разнявольна, быццам турысты на пляжы, ляжала бульба, пасля чаго размеркавалі па гэтых радах нас (два чалавекі на рад).

Настаўнікі забраліся ў кузавы грузавікоў, паскідалі лаўкі на зямлю, каб тыя не заміналі пагрузцы бульбы, закурылі ў чаканні першых кашоў з бульбай.

Мне выпала збіраць бульбу з аднакласнікам Міцькам Б'ётам — чырванаскурым бландзінам, чый бацька з маім бацькам таксама разам некалі вучыліся.

— Давай, Колік! — падштурхнуў ён мяне і рухава прыняўся за работу. Ён працаваў абедзьвюма рукамі, быццам млын, змалочваючы ўсё, што бачылі рукі, і неверагодна хутка напоўніў першы кош, пакуль я далікатна па адной бульбіне і двума пальцамі кідаў у свой.

Відаць, заўважыўшы, як я няўмела дапамагаю калгасу, да мяне падышла Марыя Пятроўна — настаўніца рускай мовы і літаратуры, невялікага росту прывабная жанчына з серабром у кароткіх валасах. Яе сын Андрэй таксама вучыўся ў адным са мной класе і лічыўся выдатнікам, яго цягнулі на залаты медаль, які ён і атрымае пры заканчэнні школы. Андрэй з кімсьці на сваім радзе ужо выбіўся ў перадавікі, і адзін з грузавікоў прыладкаваўся за ім. Марыя Пятроўна растлумачыла мне на асабістым прыкладзе, як трэба правільна збіраць бульбу, каб і не прапусціць якую і хуткасць не збавіць, бо машына чакаць не будзе тых, хто адстаў, і давядзецца далёка насіць напоўненыя бульбай кашы, а гэта яшчэ і лішняя страта часу. Яна была зусім не такою, як на ўроках у школе. Там — строгая, сур'ёзная, дапытлівая і датошная, ніводнага слова не скажа па-беларуску. Тут, на полі — звычайная жанчына, усмешлівая, чуллівая, адкрытая, і ніводнага слова — па-руску. Во дзіва!

Калі нагрузілі першыя машыны і адправілі іх на склад, дырэктар школы аб'явіў перакур.

Я закурыў.

На мяне неяк дзіўна сталі пазіраць, асабліва настаўніцы. Нібыта ўпершыню ў жыцці пабачылі чалавека з цыгарэтай. Падышоў дырэктар, зірнуў неяк коса.

— Курыш? — прамовіў.

— Куру, — выдыхнуў я дым.

— Колькі табе гадоў, Адам? — строга запытаў ён, пры гэтым наўмысна вылучыў націск на апошняй галоснай, калі ў маім прозвішчы націск трэба ставіць на першай. Дырэктар ніколі не назаве маё прозвішча правільна, гэтак жа, як ні разу не назваў яшчэ ў тыя часы, калі вучыўся мой бацька.

— Вы ж самі сказалі: перакур, — працягваў я курыць, дараваўшы няправільна вымаўленае прозвішча.

— Хоць бы жанчын пасаромеўся, ці што, — упікнуў ён. — Вунь Б'ёт, хоць і курыць, але не дэманструе на людзях сваю дарослацсь, хаваецца...

— Чаго мне хавацца? — перабіў я. — Паветра — яно нічыё, нікому шкоды я не раблю. Ад патрабавання «не курыць» чалавек, які курыць, курыць не кіне.

— Трэба з тваім бацькам, відаць, паразмаўляць, — прыстрашыў дырэктар.

— Я і зараз ведаю, што ён скажа, — папярэдзіў я дырэктара на ўсялякі выпадак.

— І што?

— Няхай курыць.

Дырэктар нічога на гэта не сказаў і пайшоў да завуча і настаўнікаў геаграфіі і фізкультуры, якія таксама курылі, далі закурыць і дырэктару, усміхаючыся ў мой бок.

Да мяне падсеў Міцька Б'ёт, дастаў сабойку, загорнутую ў газету, таксама закурыў не таячыся. Разгарнуўшы газету, паклаў на яе парэзаныя хлеб, сала, чатыры вараных яйкі, два чырвоныя памідоры.

— Частуйся, — прапанаваў мне. — Бачу, што ў цябе няма нічога.

— Дзякуй, — узяў я адно яйка. Мне і сапраўды нічога не сабралі дома пад'есці, бо, відаць, ніхто не ведаў ці не здагадаўся, што сабойка не перашкодзіць.

— Хвацка ты дзірыка адшыў, — ухваліў Б'ёт. — Цяпер чакай непрыемнасцяў, прычэпіцца, — тут жа агаломшыў. Але я прамаўчаў.

Прыйшлі машыны. Зноў пачалася работа.

Што тычыцца дырэктара, то я не перажываў. Яго прадмет, а ён выкладаў гісторыю, як і майму бацьку, я ведаў добра, да таго ж валодаў такой жа памяццю, як і бацька, так што прычапіцца з нечым да мяне было немагчыма. Гэта ён бацьку майму адпомсціў на выпускных экзаменах за тое, што доўга хадзіў, угаворваў бацьку вучыцца, калі той кінуў школу пасля восьмага класа і пайшоў працаваць на цагельню. Дырэктар лічыў, што бацька павінен скончыць школу і, можа, паступіць куды-небудзь вучыцца далей, бо адрозніваўся зайздроснай учэпістай памяццю, нават унікальнай, хоць і кніжак не чытаў. Ён заваліў яго на экзамене па фізіцы. Бацька спытаў пасля: навошта? А той адказаў: надакучыў ты мне; бацьку твайго шкада. Тады бацька сказаў, што вучыцца ён не хацеў і пераздаваць не прыйдзе. І не прыйшоў. Яго ў войску атрымаць атэстат аб сярэдняй адукацыі прымусілі.

А трэцяй гадзіне дня работу спынілі. Стомленыя, чакаючы машыны, якія павінны адвезці назад да школы, вучні паселі на свае кашы ці вёдры, хто з чым прыйшоў, некаторыя паваліліся проста ў разоры.

Восеньскае сонца прыпякала па-летняму. Ці гэта мне здавалася? Мухі і мошкі нахабна, як месеры, кружылі над галавой, асабліва адважныя, адчуваючы сябе, мабыць, бессмяротнымі, пікіравалі на твар. Ад іх лянiва адмахваліся.

Калі прыйшла машына (чамусьці адна), мне зноў пашанцавала апынуцца бліжэй за астатніх да борта і хутка ўскочыць у кузаў, каб заняць казырнае месца каля кабіны.

Апошняю паднялася Васілеўская.

— А дзе Адам? — гукала яна мяне. — Прапусціце мяне да Адама! — патрабавала даць ёй дарогу.

— Сядай сюды, — запыніў яе Шкет, паказваючы на вольнае месца побач з сабой.

— Не, Шкецік, — праціскавалася Васілеўская далей, — ты прыставаць пачнеш, ну цябе!

Хто гэта чуў, а чулі, бадай, усе, бо голас дзяўчына мела звонкі, засмяяліся. Шкет не залюбіў, але таксама вымушана ўсміхнуўся, мне ж паказаў кулак і тройчы ўдарыў ім па сваёй далоні, што азначала «хуткую смерць».

— А ты, Адам, не бойся! — заўважыла Шкетавы знакі Васілеўская, сядаючы мне на калені. — Ён добры, біцца не будзе. Праўда, Шкецік? — і вочкамі на таго лып-лып.

— Што гэта там за баявікі аб'явіліся? — прагучаў строгі і пагрозлівы голас Марыі Пятроўны.

І ўсе разам прыціхлі, як мышы. Ненадоўга.

Пасля нехта насмеліўся расказаць нейкі анекдот, за ім — другі, і машына зноў напоўнілася вясёлым смехам і шумам.

Праз некалькі дзён збірання бульбы пальцы мае парэпаліся, падрапаліся, нават крываточылі, бо неаднаразова натыркаліся заміж бульбіны на камяні, а пад пазногцямі назбіралася чорная брыда. Як кажуць, гультай — за работу, мазоль — на даланю. Аднак мне гэта можна было дараваць, бо сельскагаспадарчую працу я выконваў упершыню. Пасля, вядома, я буду і грады палоць і на буракі з бацькамі выязджаць — прарэджваць іх, прапалваць і церабіць, але ніколі займацца гэтым па асабістым жаданні не стану. Мне не падабалася вясковае жыццё. Цішыня ціснула на скроні, ад чаго звінела ў вушах. Пасля гарадскога шумнага і тлумнага асяроддзя тут, у вёсцы, я адчуваў сябе зажыва пахаваным, але нічога не мог змяніць.

Без сабойкі на бульбу я больш не выпраўляўся. Маці кожным ранкам для мяне заварочвала ў газету смажаныя лусты хлеба з яйкамі і памідорамі, так

што галодным сіратою на полі я больш не выглядаў, нават частаваў Васілеўскую. Па праўдзе кажучы, гэта яна прасіла, каб я яе частаваў, бо ніколі не каштавала смажанага хлеба з яйкамі. Маніла, канечне. Праз колькі дзён яна таксама пачаставала мяне такім жа смажаным хлебам з яйкамі, і гэта было такое смакоцце, што словамі не перадаць. Зрэшты, любая ежа на свежым паветры заўсёды смачнейшая за хатнюю, тую, што ясі на кухні, не выходзячы з-за стала.

Неяк мяне прызначылі на машыну прымаць кашы з бульбай. Трапіць у кузаў з поля лічылася вялікай прывілеяй. Аднак не ў маім выпадку, я лічу, бо часцей за ўсіх адставаў. А тут якраз не было ні фізрука, ні дырэктара. Дырэктар прыехаў пазней, ён нешта вырашаў у калгаснай канторы.

Карацей, стаяў я ў кузаве і пакурваў. Тут хоць ніхто на мазгі не капаў, што куру. Трэба сказаць, што ў той час з курывам было досыць дрэнна. У краму цыгарэты прывозілі рэдка, а калі прывозілі, то не ў пачаках, а ў цэлафанавых мяхах і гандлявалі імі на развес, выдзяляючы па нейкай там колькасці на чалавека. Часта здаралася так, што некаторым і не хапала. Мой бацька заўсёды аказваўся спрытнейшым за іншых, бо гандлярка Таіса Кулёбікава па старой памяці папярэджвала яго пра кожны прывоз цыгарэт. Яны некалі вучыліся разам, у маладосці бацька нават колькі разоў праводзіў яе дамоў пасля танцаў, цалаваўся з ёю каля плота ейнага двара.

— Адам, кош вазьмі! — абудзіў мяне ад думак звонкі голас Васілеўскай. Яна стаяла ўнізе з правага борта машыны з паднятым угару вялізным кашом з бульбай і трымцела ад яго цяжару.

— Ты б яшчэ большы ўхапіла! — узяў я кош у Васілеўскай, ледзь не перакуліўшыся разам з ім да яе. Я не разумеў, навошта дзяўчаты бралі з дому вялікія кашы, а хлопцы, наадварот, малыя. Гэтыя вялізныя кашы важылі мо больш за тых дзяўчат.

— А я ведала, што ты сёння будзеш на машыне, — хітравата ўсміхнулася Васілеўская. Чорныя, як ноч, пасмы валасоў яе вытыркаліся з-пад атласнай белай у чырвоны вялікі гарох касынкі, і іх пагладжваў, быццам нехаця, слабы ветрык. — І ўвогуле, Адам, чаго гэта я цябе клікаць павінна, калі ў твае абавязкі ўваходзіць сачыць за працэсам уборкі бульбы, падбадзёрваць нас і прымаць кашы, га? — нават падбачэнілася яна, як д'Артаньян у адным з эпізодаў савецкага кінамюзікла.

— Васілеўская! — раздражнёна гукнула дзяўчыну паплечніца па радзе і мая аднакласніца Наташа Бруй, дарэчы, сваячка Якуба Коласа. — Харэ лясы тачыць!

— Ай, адчапіся ты! — махнула на яе рукой Васілеўская. Аднак, узяўшы кош, неяк асуджана, ці мне падалося, пайшла да сяброўкі, бо кош той апынуўся адным на дваіх і належаў Наташы, як я пасля даведаўся. Свой кошык — кампактны і зручны ва ўсіх сэнсах — Васілеўская аддала ў часовае карыстанне Марыі Пятроўне, якая дапамагала тым, хто не паспяваў за машынай.



Пасля Васілеўскай мяне акупавалі напоўненымі кашамі з усіх бакоў, так што я ледзь паспяваў іх прымаць, а сваё прозвішча, што выгуквалася на розныя лады то там, то сям, узненавідзеў. І хоць запарыўся я не па-дзіцячы, усё адно стаяць на машыне было лепей, чым поўзаць па полі на каленках, збіраючы бульбу, ці совацца на карачках.

Крыху пацішэў паток напоўненых кашоў. Я ўздыхнуў з палёгкай. Закурыў. Мімаволі прыслухаўся да размоў, што вяліся на зямлі.

Марыя Пятроўна распавядала нашай класнай кіраўніцы пра нейкага Сяргея, які атрымаў двойку на дыктоўцы, калі паступаў сёлета ва ўніверсітэт. Ірына Іосіфаўна пачала дзяліцца з Марыяй Пятроўнай сваімі ўспамінамі пра нядаўнія студэнцкія гады.

— Лаўра, любоў мая! — блазнаваў Шкет, выдаючы сябе за героя мексіканскага серыяла «Проста Марыя», які ў той час, відаць, глядзела ўся краіна. Ён дурэў, каб развесяліць дзяўчат і сябе, што яму і ўдалося.

Бруй з Васілеўскай абмяркоўвалі маю асобу. Прычым не ў лепшым для мяне святле. Аднакласніца асабліва моцна шчыравала ў адмоўных эпітэтах, Васілеўская для смеху мяне абараняла. Пасля крыкнула ў мой бок:

— Адам, а ці возьмеш мяне за жонку, як школу паканчаем?

— Возьме ён, чакай! — падлабуньвала Бруй.

— Ды не ўмешвайся ты, — супыняла сяброўку Васілеўская. — Бачыш, хлопец саромеецца цябе...

— Чаго мяне саромецца? — роблена абурылася Бруй. — Жанілка яшчэ не вырасла ў твайго жаніха. Ой...

Дзяўчаты дружна засмяяліся. Бруй пачырванела і скасавурылася на Марыю Пятроўну, якая падыходзіла з двума кашамі з бульбай да машыны, ці не пачула. Але тая пачула.

— Гэта хто ж так гаварыць навучыўся! — пазірала яна на дзяўчат, спыніўшыся каля іх. — Ці не Наташа Бруй?

— Прабачце, Марыя Пятроўна, — не ўздымаючы вачэй, прамовіла дзяўчына, — я болей так не буду казаць.

Калі Марыя Пятроўна пайшла далей, Бруй спіне настаўніцы паказала язык. Дзяўчаты зноў засмяяліся.

Машыны спакваля запаўняліся і хутка паехалі на склад. Можна было перакусіць.

Не паспеў я расклясці перад сабой газету з прыгатаванай маці сабойкай, уладкаваўшыся ў разоры, як да мяне падсела Васілеўская і прашаптала на вуха:

— Дык возьмеш мяне замуж, га, Адам?

— Вазьму, — таксама на вуха шапнуў ёй я.

— Дамовіліся, — задаволена прашаптала зноў мне на вуха Васілеўская, пасля ўскочыла і пабегла да сваіх сяброўак. — Ура! — выгукнула на ўсё поле раптам. — Адам мяне замуж бярэ!

А я не ведаў, куды сябе падзець ад гэтых слоў. Дзяўчаты ж весела смяяліся. Усміхаліся і настаўнікі.

Далей забавы, вядома, гэта ў нішто не вылілася. Пасля бульбы мы з Васілеўскай у школе сутыкаліся даволі рэдка, не гаворачы ўжо пра прагулянкі на вуліцы і пад поўняй. Шкет супакоіўся і працягваў заляцацца да Васілеўскай. У яго пачынала штосьці атрымлівацца. Дзяўчатам з майго класа я стаў нецікавы пасля таго, як адмовіўся біцца са Шкетам. Нейкі крыважэрны жаночы кантынгент насяляў Вёску. Дзяўчатам не толькі падабалася назіраць за бойкай паміж хлопцамі, яны таксама хацелі ўдзельнічаць у ёй. Мяне ж гэта ніякім чынам не хвалявала. Цікавілі толькі кнігі. Хацеў сабраць уласную бібліятэку.

Аднак пакуль мы жылі ў дзеда з бабай.

# Свой

Дні, у якія мама наладжвала мыццё бялізны, я ненавідзеў больш за ўсё на свеце. Бо трэба было цягаць вёдрамі ваду бясконцую колькасць разоў. Зразумела, ніякага вадаправоду ў хаце не было, гэтак жа, як і прыбіральні. Пакуль дабяжыш да той прыбіральні (драўлянай гіганцкай шпакоўні ў канцы двара побач з дрывотняй) — дык і аканфузішся... У школе, між іншым, таксама з прыбіральняй тая ж бяда. Яна хоць і не драўляная, а цагляная, і пабеленая знадворку вапнай, унутры ж з тузінам дзірак у каменнай падлозе, ды да яе таксама трэба яшчэ дабегчы праз увесь школьны двор. Аднак у большай ступені школьная прыбіральня служыла месцам для курэння, дзе адзін «бычок» смакталі спехам некалькі ратоў па чарзе. Мала хто з малалетніх курцоў мог пахваліцца наяўнасцю цэлай цыгарэты ў кішэні, тым больш пачаку. Здавольваліся тым, што недакурылі і пакідалі бацькі ў папяльніцах, спрытна адтуль выцягнутым перад школай.

Ваду мы спачатку бралі ў калонцы, што тырчэла жалезным слупком пры дарозе злева ад дзіцячага садка. Мама накупляла шмат вёдраў і рознай вагі, якія мы з Алесем, маім малодшым братам, а часцей я адзін, мусілі напаўняць і адносіць дамоў па мільёну разоў за мыццёвы дзень. Спачатку трэба было напоўніць вадой пральную машыну, быццам палівам сапраўдную, што на колах, потым дзве аграменныя вываркі, потым усе вёдры. А затым, у працэсе мыцця, яшчэ заходаў шэсць зрабіць да калонкі і назад з той жа колькасцю вёдраў. Неўзабаве бацька з дзядзькам Міцяем Б'ётам пачысцілі закінуты калодзеж, выкапаны паміж нашым і суседскім дварамі, і ваду мы сталі браць адтуль, усё бліжэй, хоць асабліва не палегчала, бо прыходзілася круціць калаўрот, выцягваць калодзежнае вядро на сябе і пераліваць у процьму настаўленых вакол вёдраў. І так па заходаў дзесяць і ў любое надвор'е. А мыліся ў тазіку, бо больш не было дзе, калі цагельня зачынілася. Грэлі на газавай пліце каструлю вады, вылівалі яе ў тазік, дабаўлялі халоднай з вёдраў, каб не абварыцца, узбройваліся літровым чырвоным пластмасавым коўшыкам — і ў бой з брудам за чысціню арганізмаў.

Вёска зазірала ў вокны ў такія дні і цешылася з нас, не хаваючы задавальнення... А я ёй яшчэ падміргваў, запрашаў далучацца, спінку паскрэбці. Яна заўсёды адмаўлялася, пры гэтым чырванела і саромелася, удаючы сябе за цнатліўку, але не сыходзіла, заставалася за акном і працягвала назіраць. Калі б мы не захінալі вокны фіранкамі, яна б прынесла ў наш двор утульны фатэль і сядзела ў ім пад парасонам ад сонца, пазіраючы ў вокны, быццам у тэлевізар, і сачыла б за нашым жыццём, як за перыпетыямі ўпадабанага серыяла.

Мы яўна былі яе фаварытамі ў гонцы, распачатай Богам, паміж жыццём і смерцю.

А потым я закахаўся.

У дзяўчыну, маладзейшую на два гады.

Спачатку, аднак, нас прызначылі галоўнымі выканаўцамі школьных навагодніх ранішніку і вечара. Я тады вучыўся ў дзясятым класе, адгадаваў зноў валасы, за якія мяне шпынялі больш, чым у Шахцінску. Казалі, тут табе не Шахцінск, а Вёска, нібыта Вёска з'яўлялася пупам зямлі, а людзі, што насялялі яе, незвычайныя, рыхтык атланты. Ды ў школу на ўрокі тыя незвычайныя людзі прыходзілі ў спартовых ласцікавых ці жаваных касцюмах ад «Адзідасу» мясцовага пашыву. Верагодна падобная форма адзення — вынік роздуму вялікага розуму тых, хто прылічваў сябе да атлантаў. Я не падзяляў усеагульнага пункту гледжання на так званы гардэроб і насіў мамін шэры жакет, які на мужчынскі быў больш падобны, чым на жаночы, і нават меў гузікі з правага боку.

Між іншым, ён мне пасаваў, да таго ж нічога іншага, ніякай альтэрнатывы яму я дазволіць сабе не мог, дакладней, бацькі. Як і наяўнасці ў хатняй шафе джынсаў «Мальвіна» і кітайскіх швэдараў, у якіх рассякалі школьныя калідоры дзеці найбольш заможных бацькоў. Таму валасы свае я лічыў не меншым багаццем за шмоткі, што выстаўляліся ў школе напаказ, як на подыуме, калі не большым, і адстойваў права іх насіць. Яны належалі асабіста мне, і толькі я мог імі распараджацца так, як заманецца. Мая ўпартасць раздражняла настаўнікаў і дырэктара школы, але яны мусілі мірыцца ці пагражаць выключэннем са школы, што было смешна слухаць. За доўгія валасы не выганялі нават пры саветах, а за непаспяховасць мяне не выпрэш, бо вучыўся я, нонсэнс, значна лепш за многіх аднакласнікаў, і па-беларуску навучыўся размаўляць і разумець мову не горш за астатніх. Дый у мастацкай самадзейнасці мне не было роўных. Мабыць, ад бяссілля ператварыць мяне ў пакладзістага і паслухмянага, настаўнікі на чале з дырэктарам адмыслова няправільна вымаўлялі маё прозвішча, з націскам на апошняй галоснай, за выключэннем Марыі Пятроўны — настаўніцы па русмове і русліту, якая неўзабаве стане яшчэ і нашым класным. Па першым часе мяне абурала каверканне прозвішча дарослымі ж людзьмі, якія паводзілі сябе зусім не педагагічна, з'яўляючыся тым не менш

настаўнікамі, агрызаўся, бы зацкаваны звер (ці, хутчэй, звярок, які з мяне тады быў звер?!). А потым адносіўся па-філасофску. Гэта ж ім нечага балела, а не мне. Ім муляла, не мне. І дапамагаць ім у іх жа праблемах не меў ніякага намеру. Я не жыў школай, мяне яна не хвалявала (у Шахцінску, дарэчы, усё было наадварот), сяброў я ў ёй не займеў, бо, як ні круці, заставаўся чужым і незразумелым. Ратаваўся кнігамі і школьнымі тэатралізаванымі мерапрыемствамі. Адказная за грамадскую нагрузку, ці піянерважатая, як бы падобную пасаду назвалі раней, Тая Панядзелак — студэнтка-практыкантка з Нясвіжскай педвучэльні, рудавалосая і канапатая, але цікаўная і абаяльная дзяўчына — нагрузіла мяне па поўнай праграме. Як у знакамітага артыста ўвесь мой год быў распісаны ці не па тыднях, бо Тая займалася мерапрыемствамі не толькі школьнымі, а і раённымі, і ва ўсіх задзейнічвала мяне. Між іншым, на шыі яна насіла павязаны чырвоны піянерскі гальштук, што ёй вельмі пасавала, і падабалася мне. Калі я глядзеў на яго, чамусьці апынаўся адразу, быццам на суперхуткаснай машыне часу, альбо ў двары на Паркавай савецкага Шахцінска, альбо ў фае Трэцяй школы. І вяртацца мне па ўласным жаданні ніколі не хацелася адтуль.

Дык вось Тая Панядзелак напярэдадні Новага года, а дакладней, за некалькі тydняў да яго, паклікала мяне ў «Піянерскі пакой» (дзе ўсё яшчэ захоўваліся шматтомныя працы Леніна ў чырвоных вокладках і Сталіна ў зялёных на паліцах за шклом, чырвоны піянерскі сцяг з жоўтай махрою па краях, што туліўся ля акна, жоўты бліскучы горн, бел-чырвоны барабан на белай скуранoй шлейцы, пакоцаныя бюсты Леніна і Сталіна), які заняла пад рабочы кабінет, дзеля абмяркоўвання надыходзячага свята. І пасля ўрокаў я паспяшаўся туды. Пастукаў дзеля прыліку ў дзверы і пацягнуў іх на сябе. У пакоі, як каралева крэслаў, пасярод шэрагу, прыстаўленага да сцен, сядзела, сціпла падкурчыўшы ногі ў зімовых белых ботах на маланцы, дзяўчына, якую я, зразумела, ведаў, але ніколі раней не звяртаў на яе ўвагі, бо, шрыча кажучы, не было калі і не было ў тым патрэбы. Алена з восьмага класа, у зялёнай кофтачцы на перламутравых гузіках, апранутай паўзверх белай блузкі, і таго ж колеру спадніцы, якую пачала абцягваць на калені ў карычневых легінсах, як пабачыла мяне, узіралася ў мой твар пільным позіркам такіх глыбокіх вачэй, што глыбіню іх я адчуў на адлегласці і нават нібыта пачаў тануць, нібы ў сапраўдным возеры. Яна амаль не міргала, і яе бурштынавыя вочы ці не зачароўвалі, калі не гіпнатызавалі, абараняючы такім чынам сваю гаспадыню ад магчымай небяспекі. Я застыў на парозе, уражаны відовішчам, і, хутчэй за ўсё, так бы і прастаяў слупам, калі б мяне не падштурхнула ззаду ў плечы Тая Панядзелак, і я не плюхнуўся ў крэсла насупраць малой. Тая прайшла праз увесь пакой і села за стол ля акна. Мы з Аленай свідравалі адно аднога позіркамі, быццам рэнтгенам, але, думаю, што безвынікова.

— Вы ж знаёмы? — абудзіла нас піянерважатая.

Алена няўпэнена паціснула плячыма, я згодна кіўнуў.



— Тым не менш, дзеля пратакола, — працягвала Тая, — я павінна назваць вашы імёны, каб усё было празрыста. Такім чынам, Алена — Мікола, Мікола — Алена, паціснеце адно аднаму рукі, — нечакана скончыла.

Я ахвотна ўскочыў з крэсла і працягнуў руку для поціску. Алена таксама паднялася на ногі, азірнулася на Таю, быццам пытаючыся ў яе, ці правільна яна зразумела толькі што пачутыя словы. Працягнула мне руку, упэўнена і рашуча. Маленькая, амаль на галаву ніжэйшая за мяне, з шыкоўнымі пышнымі каштанавымі валасамі па плечы. Аленіну далонь я ўзяў аберуч і, трымаючы яе, адчуваў, як яна трапеча паміж маіх далоняў, быццам птушаня, што пакуль не ўмее лятаць. Мабыць, таму і не хацеў адпускаць яе. Да таго ж мяне нібы працяла токам, як нашы далоні судакрануліся. Алена ўзняла на мяне вочы і павольна выцягнула сваю руку з маіх далоняў, нібы з нейкіх абцугоў-клешняў. Потым села на месца. Мне таксама давялося сесці.

— Вось і добра, — задаволена працягнула Тая. — Такім чынам, — працягвала далей, — вы абое галоўныя героі нашай будучай вечарыны, прысвечанай святкаванню Новага года, які, як мы з вамі ведаем, ужо не за гарамі, а літаральна на носе. Сцэнар я напісала сама, вам даю па адным асобніку.

Тая выйшла з-за стала з дзвюма чырвонымі тэчкамі ў руках і падышла да нас, дакладней, да Алены, і села побач з ёй. Тэчкі тут жа размеркавала па адрасатах. У іх быў сцэнар вечарыны, надрукаваны на машынцы.

Алена па сцэнару мусіла пераўвасобіцца ў Елачку, вакол якой павінны сабрацца дзеці для святкавання Новага года, упрыгожыць яе, паклікаць Дзеда Мароза і Снягурку і атрымаць казачнае задавальненне з падарункамі. Мне ж адводзілася роля Пірата, які Елачку скрадзе ў сваіх эгаістычных мэтах, каб свята было толькі для піратаў і іх капітана. Зразумела, што на пошукі Елачкі збяруць пошукавую каманду, гледачоў чакаюць пагоні і перастрэлкі, але ў канцы ўсё будзе добра. Мне асабіста падабалася, асабліва тыя сцэны, дзе мы з Аленай застаемся сам-насам, а яшчэ мае словы перад тым, як скрасці Елачку, што я ейны муж з усімі далейшымі наступствамі.

Вось такая гендарная фантазія.

Алене, я бачыў, спадабалася таксама. Раней яна ніколі не ўдзельнічала ў падобных мерапрыемствах, але вельмі хацела, і яе жаданне было пачута. Нецярплівая яна спытала ў Таі, калі пачнуцца рэпетыцыі. Тая адказала, што напачатку мы павінны прачытаць і пражыць тэкст, карацей, заўтра.

Алена шчаслівая ўсміхнулася, падміргнула мне і тут жа шуснула за дзверы.

— Спадабалася дзевачка? — заўважыла мой захоплены Аленаю позірк Тая і дадала: — Між іншым, сама прапанавала сябе ў гераіні. Так што паглядзім, на што здатна неўзабаве.

— Паглядзім, — пагадзіўся я.

— Зоркі, зорачкі на небе так падобны на сняжынкі. Магчыма, сняжынкі гэта зоркавыя слёзы. Аднак з чаго б ім плакаць, зоркам? Яны недасягальна далёка ад злыбяды і людской зайздрасці і подласці. А мо таму і плачуць зоркі, што

занадта далёка ад людзей, назіраючы за тым, як людзі знішчаюць адзін аднаго цягам усёй сваёй гісторыі, і нічым не могуць дапамагчы?.. А мы глядзім на зоркі, задраўшы галовы, і захапляемся іх бездакорнай прыгажосцю і бляскам. Нам ніколі не дацягнуцца да іх, хоць тыя, здавалася б, вісяць над намі на адлегласці выцягнутай рукі. Падман зроку. Нашы вочы найчасцей чамусьці бачаць не тое, што ёсць на самай справе. Мы так любім падманвацца і давяраць нявартым нашага даверу. Аднак... стоп. Тут нехта ёсць. Тут нехта ёсць? Выходзьце, усё адно я чую вашу прысутнасць.

— Прабачце, не хацеў вас напалохаць, тым больш перарываць такі прачулы маналог...

— Нічога, я ўжо закруглялася.

— Вы прыгожая.

— Дзякуй.

— І прыбраная, як на свята.

— Дзякуй. Але я заўсёды прыбраная, бо для мяне кожныя дзень і ноч свята.

— Зайздрошчу вам у такім разе.

— Чаму?

— Бо не магу пахваліцца тым жа.

— У вас праблемы? Якія?

— Асабістага характару.

— Падзяліцеся. Магчыма, я змагу дапамагчы.

— Што ж, вельмі можа быць.

— Я слухаю.

— Не так даўно знікла мая каханая.

— Назусім?

— Не ведаю. Пайшла ў краму па малако і не вярнулася.

— Вы старанна яе шукалі?

— Вельмі.

— Магчыма, і не вельмі, калі не знайшлі. А магчыма, яна гэтага не схацела.

— Я хвалююся за яе, бо мая каханая перад знікненнем страціла памяць.

— Які жах!

— Яе паўсюль абкружае небяспека.

— Так ужо і паўсюль?

— Я вам кажу!

— Я б не была на вашым месцы такой самаўпэўненай.

— Мне здавалася, што вы абяцалі дапамагчы.

— Я дапамагаю.

— Вы мне не верыце.

— Я вас не ведаю. Хто вы? Хто ваша каханая? Вы з'явіліся ніадкуль, падкраліся да мяне, як злодзей, казкі тут сачыняеце пра нейкую міфічную каханую, што страціла памяць. Паверце, жанчына, якая кахае, ніколі не страціць памяць пра каханага і не збяжыць ад яго.



— Але ты гэта зрабіла.

— Я?! Вы трызніце!

— Ты мая каханая. Проста ты забыла.

— Калі ўвогуле памятала.

— Зірні на мяне ўважлівей і ўсё ўспомніш. Падыдзі бліжэй...

— Аб'ект апазнаны. Прыярытэтная цэль Джон Конар.

— Што?!

— Ты Джон Конар!

— Хто?!

— Лідар супраціву ў вайне з машынамі. Ці ты таксама страціў памяць?

— А ты тады хто?

— Я кібернетычны арганізм, які быў пасланы з будучыні ў ваш час, каб знішчыць цябе, Джон Конар.

— Стоп! Вы што вярзеце? Абодва?..

Мы імправізавалі і дуркавалі на рэпетыцыях больш, чым прамаўлялі словы па сцэнару. Тая Панядзелак злавалася, але не моцна. Ёй таксама падабалася назіраць за тым, як нараджаецца творчасць, і ўвогуле разумець, што творчасць такое на самай справе.

Ініцыятарам ухілу ад зацверджаных на педсавеце тэксту і сцэн заўсёды з'яўлялася Алена. Яе нібыта перакліньвала, як самага сапраўднага тэрмінатара, яна забывала пра тое, дзе знаходзілася, іператваралася ў зусім іншага персанажа, а не ў спешчаную і зачараваную Елачку — ахвяру абставін і жыцця, — якую я абяцаў расчараваць.

— Толькі паспрабуй! — страшыла мяне Алена, намякаючы на двухсэнсавасць слова.

Тады я, здаючыся, уздымаў рукі ўгару.

Але мы мусілі паказаць тое, чаго ад нас чакалі. Імправізацыі заставаліся нам, як кнігі, на памяць.

На генеральную рэпетыцыю Алена спазнілася (ужо пачаліся вакацыі, ці мала дзе дзяўчына магла забавіцца), а калі з'явілася, з пераможным выглядам выцягнула з цэлафанавага пакета, з якім прыйшла, вялікі сацінавы мех жоўтага колеру. Яго пашыла яе мама, як і сукенку для вечарыны. Да гэтага мы чамусьці не задумваліся над тым, якім чынам я буду выкрадаць Елачку. Звычайна я закідваў Алену на плячо і ўцякаў. Яна прадумала свой крадзеж самастойна, бо ён павінен быць прыгожым і запамінальным. Распавяла маме і пра мяне таксама. Тая пагадзілася з дачкой.

З меха Алена выцягнула шаўковы белы шалік і некалькі атласных стужак. Шалікам, растлумачыла яна, піраты, няважна хто, павінны завязаць ёй рот, а стужкамі — ногі і рукі, бо Елачка абавязкова будзе выдзірацца і клікаць на дапамогу. Выкраданне павінна быць праўдападобным.

Тая Панядзелак заапладзіравала і пахваліла Алену за ініцыятыву. Прапанавала паспрабаваць.

Я, як капітан піратаў, загаворваў Елачцы зубы, каб піраты маглі падкрасціся да яе непрыкметна і схапіць. Усё атрымалася, быццам у кіно. Тая Панядзелак была ў захапленні. Алена брыкалася і выдзіралася, але яе хутка звязалі, папярэдне пазбавіўшы голасу, нацягнулі мех на галаву, які схаваў бедалажку ў сабе напалову, і ўсім кагалам панеслі прэч.

Непасрэдна на ранішніку малечай, а потым увечары больш дарослымі вучнямі і настаўнікамі, гэтая сцэна ўспрынялася з такім дзікім віскатам і захопленасцю, што мы не ведалі, як рэагаваць. Імпрэза зрабіла на гледачоў велізарнае ўражанне. Гледачы, асабліва маленькія, перажывалі за героеў, асабліва за Елачку з непрыхаванай захопленасцю і радаваліся, калі яе выратоўвалі, а піратаў каралі. Між іншым, перад дзецьмі Алена заехала мне некалькі разоў па фізіяноміі далонькай, калі нас, піратаў, перамаглі сілы Дабра ў асобах Дзеда Мароза, Снягуркі, Бураціна, Карлсана, Мальвіны, Артэмона і пацукоўкультурыстаў, і мы стаялі, звесіўшы галовы, у чаканні расплаты. А ўвечары пацалавала, ды яшчэ выцягнула на танец пераможцы на сярэдзіну спортзалы, дзе ўсё адбывалася. У наш гонар свісталі, улюлюкалі, пляскалі ў ладкі, а Дзед Мароз аб'явіў, што перамагла дружба.

І мне падалося, што Алена зацікаўлена мною больш, чым проста партнёрам па спектаклі. Зразумела, я памыляўся, але пагадзіцца з тым марудзіў. Цешыў сябе нейкімі нязбытнымі марамі, складаў вершы, прысвечаныя дзяўчыне, і падкідаў іх у яе партфель. Ва ўсялякім разе думаў, што ў яе, пакуль аднойчы мой сусед па парце, у якога апынуўся такі ж самы партфель, адзін у адзін з партфелем Алены, не перадаў тыя вершы мне, здагадаўшыся, відаць, што яны мае. Я ледзь не згарэў ад сораму, як салома. Добра, што Саныч (так клікалі аднакласніка ў школе) не на вачах ва ўсіх тое зрабіў. Вычакаў зручны момант, каб ніхто не бачыў і нічога не западозрыў, бо засмяялі б на ўсю школу. А мог бы павесяліцца. Яшчэ і як. Хутчэй за ўсё не дазволіла ўнутраная годнасць. Да таго ж Саныч быў выдатнікам. Іншы на яго месцы асабліва б не цырымоніўся і не пашкадаваў бы не толькі мяне, што я як-небудзь перажыў бы, але і Алену.

Тым не менш вершы да яе трапілі. Іх перадаў дзяўчыне мой брат Алесь. Ён выпадкова знайшоў скрутак папер, на якіх былі напісаны вершы, у кнігах на паліцах, куды я той скрутак засунуў і забыў пра яго. Здагадацца было няцяжка, каму вершы былі адрасаваны, прачытаўшы іх. Алесь хацеў як лепш, то бок дапамагчы мне. Ён падумаў, што я саромеюся сваіх пачуццяў да Алены, і таму не асмельваюся ўручыць вершы прыватным чынам. Яму саромецца не было чаго, вось ён і вырашыў, што стане кімсьці кшталту пасрэдніка, зробіць добрую справу на карысць і мне, і Алене. Алесь нават перавязаў скрутак з вершамі ружовай стужкай, выцягнутай з маміных назапашванняў, і без усялякай задняй думкі спыніў на вялікім перапынку дзяўчыну і перадаў ёй, сказаўшы, што гэта ад мяне. Перадаў і ўцёк. А яна засталася стаяць каля падаконніка ў калідоры са скруткам, як дура, і не ведала, што з ім рабіць, паціскаючы плячыма і хаваючы вочы ад сяброўак, што абступілі яе цікаўным колам. І нікуды ж ад іх не схаваешся...

Праз пяць хвілін уся школа ведала пра «паэта» і яго пачуцці. Магчыма, Алена не хацела падобнага, бо была сарамяжлівай і выхаванай дзяўчынай, якая проста не вытрымала націску сяброўак. Тыя літаральна выхапілі з яе рук вершы і разабралі па лістках, чыталі ўголас і рагаталі ўсмак з-за іх зместу. Урэшце рэшт Алена выдрала з рук сяброўак усе лісткі, перавязала іх і сунула скрутак у партфель. Ёй было сорамна, але не за сябе і не за мяне, за сваіх сяброўак. Мяне яна шкадавала, бо цягам ці не цэлага месяца я быў аб'ектам кепікаў, якіх толькі лянівы не пуляў у мой адрас. Пры сустрэчах адварочвалася, а на вуліцы, калі бачыла мяне, пераходзіла на іншы бок дарогі. Пагаварыць, каб паразумецца, мы не маглі.

Толькі Восьмага сакавіка, так атрымалася, мы апынуліся сам-насам. У «піянерскім» пакоі». Алена вымушана была застацца, хоць і хацела збегчы як хутчэй. А я доўга не мог пачаць размовы, бо не ведаў, што казаць. Усё даўно сказана вершамі. Алена ж мне не дапамагала і не жадала дапамагаць. Мы саплі, стоячы насупраць адно аднога, і пазіралі ў падлогу, быццам там мусіў быць адказ на ўсе нашы пытанні.

Нарэшце я крануў яе за плячо. Яна падняла на мяне вочы і прашаптала:

— Не трэба.

— Я цябе пакрыўдзіў чымсьці? — спытаў тады я.

— Не, — уздыхнула Алена ці выдыхнула.

— Што тады?

— А ты не разумееш?

— Не, — шчыра адказаў я.

— Тугадум ці што?

— Хочаш мяне абразіць?

— Не хачу.

— Я не абразлівы.

— Шкада тады.

— І што скажаш?

— Я што скажу?

— Ну не я ж, бо я ўсё сказаў даўно.

— Так, на ўсю школу, — заўважыла Алена.

— Праз цябе, — абараняўся я.

— Значыць, гэта я вінаватая?

— А хто яшчэ?

— Я цябе зараз удару, — раптам папярэдзіла дзяўчына.

— А я цябе, — на аўтамаце адрэагаваў я.

— Ты падымеш на дзяўчыну руку?

— Не падыму, — прызнаўся з гатоўнасцю.

— А што тады страшыш? У мяне свята сёння між іншым.

— Віншую, — буркнуў я.

— Дзякуй. А вершы дзе?

— Якія? — не зразумеў.

— Прысвечаныя мне з нагоды Восьмага сакавіка, — растлумачыла Алена.

Я пацiснуў плячыма.

— Вось і добра, — сказала яна тады. — Не пішы мне болей нічога.

— Такія дрэнныя?

— Не дрэнныя, нават прыемныя, але не пішы.

— Чаму?

— Ты нармальны хлопец, але не мой, — выдала.

— А хто твой? — паплыла падлога пад нагамі.

— Не ты, — забіла мяне Алена. — Дай прайсці! — запатрабавала.

Я пасунуўся ўбок, прапускаючы дзяўчыну да дзвярэй. Яны сышла, не азірнуўшыся.

У той жа вечар я ўпершыню напіўся. Хаця не, хутчэй адправіў сябе ў накаўт праз алкаголь, які жлукціў з рыльца бутэлькі за рогам школы разам з аднакласнікамі, робячы па некалькі глыткоў і перадаючы бутэльку па крузе, і пайшоў на танцы ў суседнюю праз Нёман вёску. У нашай клуба не было, а ў школе асабліва не паскачаш, тым больш у тым стане, у якім апынуўся я. Да таго ж Алена там...

На мосце я спыніўся, закурыў, абапёрся локцямі на парэнчы і пазіраў на дол, які прыцягваў да сябе, маніў, нават маліў, каб я пералез праз парэнчы і скочыў. Абяцаў збавенне ад болю і забыццё. Вечнае. Я ж так гэтага прагнуў...

У чорным, як прорва, небе, мітуслiва мільгацелі зоркі, назіраючы за мной. Яны нібыта клікалі кагосьці на дапамогу, кагосьці, хто б мог адвесці мяне падалей ад моста. На той час я ўжо пералез на другі бок парэнчаў і трымаўся за іх выцягнутай рукой, гатовы вось-вось расчапіць пальцы, каб скокнуць уніз. Засталося адно дакурыць.

— Блазан, — прашыпела раптам нешта, падобнае на змяю, увушшу.

Я агледзеўся, але побач нікога не было.

— Давай, расчапляй пальцы, не марудзь, чаго ж ты?!. — тое ж шыпенне, цяпер, быццам бы, зверху.

Я задраў галаву ўверх, аднак, акрамя зорнага павуціння, навіслага нада мной кіношным брухам нібыта іншапланетнага касмічнага карабля, нічога і нікога не ўбачыў.

— Каго страшыш? — працягвалася шыпенне. — Каго слухаеш? Ну сiганеш ты ўніз — і што? Добра, калі лёд праваліцца пад табой, а калі не? Застанешся інвалідам з назаўжды пашкоджаным пазваночнікам! Сябе не шкада, маці пашкадуй. Навошта ты ёй будзеш такі? Каму ты ўвогуле такі станеш патрэбны? Рамантычна-ўзнёслы ідыёт! Меней кніжак чытай! Трагедыя, бачце, у яго! Нешчаслівае каханне! А ці каханне гэта было? Што ты зрабіў, каб цябе кахалі? Вершыкі панапісваў, дый тых смеласці не хапіла самому аддаць! Ад'ютанты спатрэбіліся? Хлюпік! Рахіт няшчасны!

Я гатовы быў задушыць тое шыплівае стварэнне, абы трапілася яно мне на вочы. Што яно разумела? Што яно ўвогуле такое?

Аднак словы яго падзейнічалі. Я пералез праз парэнчы на мост і тут жа атрымаў неслабы выспятак, праз які праараў пузам колькіметровую разору ў снезе. Падскочыў на ногі, павярнуўся да магчымага крыўдзіцеля, але нікога не ўбачыў. Толькі снег шпарчэй пасыпаўся з неба. Ці то зоркі пападалі?..

Я зноў закурыў. Яшчэ раз агледзеўся вакол. Нікога. Пакрочыў за Нёман.

У клубе суседняй вёскі было поўна народу. Я так узрадаваўся людзям, не сустрэўшы ніводнага чалавека па дарозе, што ўсім усміхаўся, быццам ідыёт. Грала дынамічная музыка, танчыла пад яе моладзь. Але мне чамусьці танчыць не хацелася, да таго ж пачало трэсці. Мабыць, працверазеў. Я прыткнуўся ў крэсле ў кутку і проста глядзеў на тое, як людзі весяліліся, удзельнічалі ў жартаўлівых конкурсах, цiскаліся па кутах. Я ім зайздросціў, тым, хто цiскаўся. Бо мне цiскаць не было каго.

Побач шумна прысуседзілася дзяўчына. Прыгожая. Кудзерыста-чарнявая. У скуранцы-касусе на заклёпках. У высокіх батфортах на нагах з мушкецёрскімі халявамі.

— Не спі, замерзнеш! — штурханула мяне ўбок. Бліснула вачыма колеру моцнай гарбаты з-пад вышчыпаных да тонкіх рысак брывей.

У адказ я, відаць, дуркавата ўсміхнуўся. А яна працягнула руку для поціску і назвалася Насцяй. Я пацiснуў яе далонь з доўгімі танклявымі пальцамі, на пазногцях якіх амаль паўсюль аблупіўся серабрысты лак, і сказаў ёй сваё імя. Хаця не, не імя, прозвішча. Чамусьці мне захацелася, каб яна звярталася да мяне па прозвішчы.

— Паляк? — адрэагавала дзяўчына на пачутае.

— Чаму? — не зразумеў я пытання, але хутка дапёр, што прозвішча Насця ўспрыняла за імя. Ну і няхай. — Паляк, — пацвердзіў кіўком.

— І адкуль ты? — працягвала цікавіцца дзяўчына. — Раней цябе ніколі тут не бачыла, — дадала, быццам удакладніла.

— Адтуль, — павярнуў я галаву налева і ўпёрся позіркам у сцяну.

Насця засмяялася, ды так заразліва, што я таксама засмяяўся. Зрабілася гэтак хораша на душы, што карцела, каб Насця назаўжды засталася побач са мной і нікуды не знікала. Бо гэта ж яе прысутнасць уздымала настрой і правакавала на «подзвігі».

— Мо патанчым? — прапанавала яна.

— Я не ўмею, — развёў рукамі, зрэшты, перабольшваючы.

— Гэта нескладана, — не паверыла дзяўчына мне. — Хадзем! — пацягнула, узяўшы за руку.

Я падпарадкаваўся. Было прыемна, што дзяўчына, зусім незнаёмая, першаю выказвала цікавасць і прыхільнасць да мяне.

Мы папоўнілі шэраг ці, хутчэй, кола аматараў танцаў. Насця ўсміхалася мне, я — ёй. Потым загучала павольная кампазіцыя. Насця прытулілася ўсім целам да майго, паклала свае рукі мне на плечы, пільна ўзіраючыся ў мае вочы. Я таксама не зводзіў вачэй з яе. Мы былі аднаго росту, і таму глядзець адно на аднаго здавалася зручна. Яе подых з напаўадкрытага рота п'яніў і вабіў у яго акунуцца з галавой, як у калодзеж. Насця тулілася ўсё шчыльней, рукі за маёй шыяй спавіла ў замок, галаву паклала мне на плячо, бы на падушку. Дынамікі раздзіраў пакутліва-шатуноўскі плач:

*И упав на колени, забуду про гордость и прошлые ссоры.*
*И холодная вьюга тебе то же самое скажет.*
*Я как прежде твой пленник, но меж нами заборы.*
*Не разрушить вовек, но тебе это, в общем, не важно...*

Нехта нас раптам зачапіў. Я падумаў, што выпадкова.

Насця азірнулася. Нас зноў штурханулі.

— Праблемы? — стрэліў у мяне позіркам, быццам з вінтоўкі, каржакаваты моцна збіты хлопец з кароткай прычоскай-вожыкам. Яго партнёрка тупа пазірала на нас, без эмоцый на твары.

— Адвалі, Абдула! — гучна адрэагавала Насця.

Я засмяяўся з «Абдулы», узгадаўшы фільм «Белае сонца пустыні».

Абдула, мабыць, палічыў, што я смяяўся з яго. Што ж, магло быць і так. Ну і мянушкі, падумаў я тады, у беларускай глыбінцы.

Потым я апынуўся на падлозе каля сцяны. У роце саланіла, а язык напароўся на паламаны зуб, быццам пасаджаны на кол злачынец. Перад вачыма мільгалі ногі, мноства ног, як у калейдаскопе. У галаве звінела. Нехта ўзяў мяне за каршэнь, ці не Абдула, і павалок з памяшкання на вуліцу. Насця не адставала і намагалася адбіць мяне, нібы заслужаны толькі ёю трафей. Абдула агрызаўся і пагражаў ёй нешта парваць. Ён шпурнуў мяне тварам у сумёт. Холад ад снегу развярэдзіў боль у роце, але і праясніў мазгаўню. Я перавярнуўся на спіну. Нада мной балансавалі твары тузіну жадаючых знішчыць мяне фізічна, не іначай. Нехта пазнаў ува мне прыхадня з Вёскі. Трэба адзначыць, што па аднаму ў гэты клуб з Вёскі ніхто ніколі не хадзіў. Прыходзілі заўсёды кампаніяй, бо ўсе паміж сабой варагавалі. Бойкі адбываліся з-за гэтага ўвесь час. Я апынуўся для мясцовых жаданай здабычай, каб адпомсціць Вёсцы, бо найчасцей у тых бойках перамагала Вёска. І адгроб я напоўніцу. За ўсіх.

Не ведаю, чаму са мной важдалася Насця. Яна не магла перашкодзіць сваім хлопцам збіваць мяне, але засталася, каб суцешыць. Я ёй спадабаўся.

Насця дапамагла падняцца на ногі. Некалькі разоў я падаў з іх, быццам з хадуляў. Давяла да павароту на Вёску. Абняла. Пацалавала ў пабітыя вусны. Задавальнення ніякага яе пацалункі мне не прынеслі, аднак асэнсоўваць іх наяўнасць было прыемна.

— Кульгай памалу, — пажадала яна на развітанне. — Шнары ўпрыгожваюць мужчын, — дадала.

Дзяўчыне карцела мяне праводзіць дадому, каб упэўніцца, што па дарозе нічога дрэннага не здарыцца са мной. З яе боку гэта быў бы прыгожы ўчынак. Але я не мог дазволіць сабе падобнай раскошы. І так прыніжаны далей не было куды. Яна паціснула плячыма, маўляў, твая справа, і закурыла.

— Топай тады, каб я бачыла, — прамовіла.

І я пасунуўся ў бок Вёскі. Насця сачыла за мной (я бачыў, калі азіраўся назад), пакуль не знік з яе далягляду.

Схадзіў, блін, на танцы.

Чаго пацёгся туды адзін?

Я плакаў і смяяўся адн准часова. Нават рагатаў на здзіўленне зоркам.

Вёска сустрэла мяне сабачым брэхам. З кожнага двара, пакуль я дапхнуўся да свайго, мяне аблаялі, нібы абвінавацілі і ўпікнулі ў тым, што я дурны і сам вінаваты ва ўсім. Дый я не аспрэчваў. Затое з Насцяй пазнаёміўся. Клін клінам, як кажуць.

— А божачкі! — пляснула рукамі мама, калі пабачыла мяне наступнай раніцай (дамоў я вярнуўся ўначы і адразу шуснуў пад коўдру). — Паглядзі ў люстэрка, на каго ты падобны! — дадала, шкадуючы.

Я прыблізна ўяўляў, што мяне чакала ў адлюстраванні, але таксама, як і мама, быў уражаны відовішчам. Твар здаваўся раздушаным яблыкам ці, хутчэй, слівай. Вусны нагадвалі грыбы, а вочы — фары ўсходняга гатунку. Правая шчака апухла, нібы ад флюсу. Да таго ж стагналі бакі і рыпелі рэбры. Размаўляць я ўсё ж мог, аднак нясцерпна карцела ўсміхнуцца і нават падміргнуць самому сабе, ды з гэтага нічога не выйшла.

Брат Алесь захоплена ўсклікнуў: «Ого!», адмыслова ўладкаваўшыся побач, а сястра Таня, пазіраючы на мяне і, нібыта не пазнаючы, лыпала вочкамі як на незнаёмца.

Завітаў у пакой і бацька, каб падзівіцца на сына. Ён адно пасміхнуўся і нічога не сказаў. Яму, відаць, было прыемна, што і я выглядаў, як нядаўна ён.

— Мо не пойдзеш у школу? — прапанавала мама не зусім, аднак, упэўнена. — Напалохаеш там усіх... — працягнула, але думкі не скончыла.

Я б з вялікім задавальненнем застаўся дома. Калі б быў здаровым. Зрэшты, я і быў здаровым, крыху пабітым, праўда. Але адзінота ў тым стане, які мяне апанаваў, палохала. Пасёрбаўшы гарбаты, сабраўся і рушыў да школы. Алесь з Танькай мяне нібыта суправаджалі.

Клас сустрэў мяне дружным рогатам. Нічога іншага я ад яго і не чакаў, але не пакрыўдзіўся, бо ведаў рэакцыю загадзя. Сам бы смяяўся з іншага бедалагі не менш залівіста. Дзяўчаты, праўда, шарахаліся. Хлопцы не стрымлівалі сябе. Іх нібыта акупавала істэрыка. Больш за ўсіх іржалі Дзяніс Філіповіч з Руслікам Сенькавым.

— Ды пайшлі вы ўсе! — нарэшце не вытрымаў я, бо ўсяму ёсць мяжа і майму трыванню таксама. Лепш бы я паслухаў маму і дома застаўся. Схапіў партфель і выйшаў з класа.

Філ з Сенем мяне тут жа дагналі.

— Ды не парся ты! — пляснуў мяне рукой па плячы Сеня.

— Мы ж не са зла, — падтрымаў сябра Філ.

Яны зноў разам засмяяліся.

Міма праходзілі хлопцы з адзінаццатага класа Шкет, Мелкі і Вінцік. Не заўважыў мяне б толькі лянівы.

Мелкі адразу засмяяўся, працягваючы руку для вітання. Шкет і Вінцік стрымаліся.

— Хто гэта цябе так, Адам? — пацікавіўся Шкет.

— Схадзіў на танцы за Нёман, — не стаў я маніць.

— Адзін?! — здзівіўся Вінцік.

— Дурны ці што? — абвінаваціў Мелкі.

— Выходзіць, дурны, — пагадзіўся я.

— Ды пачакай ты, — перабіў Мелкага Шкет. — На разы выходзіў? — запытаў у мяне.

— Ага, чакай, — аспрэчыў я пытанне.

— Шоблай загасілі, герої?! — пасміхнуўся Вінцік.

— А з-за чаго хоць? — пацікавіўся Мелкі.

Я пацінуў плячыма.

— Якая розніца, — адзначыў Шкет і дадаў: — Трэба быць апошнім чмом, каб гуртам напасці на аднаго і адфігачыць. Ці вы не згодны? — утаропіўся на прысутных. Тыя згодна заківалі галовамі. — Не ссы, Адам, — звярнуўся да мяне, — у бліжэйшую суботу наладзім рэйд, пакажаш вінаватых. Ці не памятаеш іх?

— Памятаю, — запэўніў я яго. — Абдула там нейкі за галоўнага быў.

— Абдула знайшоў каго біць, — незалюбіў Шкет. — Толькі без крыўд, — пакасіўся на мяне. — Разбярэмся, карацей.

У наступны момант празвінеў званок на ўрок, і ўсе разбегліся па кабінетах.

Настаўнікі, ці не кожны, у той дзень таксама каментавалі мой знешні выгляд. Добра, хоць не смяяліся.

А ў суботу Шкет, як і абяцаў, павёў дабравольцаў, якіх апынулася ўдвая больш, чым ён разлічваў, у рэйд за Нёман.

Тады якраз пачалася адліга, снег раставаў і ператвараўся ў брудна-карычневую жыжу, падобную звонку на шакаладнае масла. Яго карцела зачэрпваць рукамі і ласавацца, быццам вычварэнцам якім. Зрэшты, калі сонца знікла з далягляду, з'явіўся марозік. Ён крыху падмарозіў хлюпоту пад нагамі, і месцамі было нават слізка ісці.

Непрыемным сюрпрызам апынуцца ў варожым стане не атрымалася. Нас чакалі. Проста каля клуба. Нічога дзіўнага ў тым не было. Сарокі на сваіх хвастах далёка разносілі навіны, чуткі і намеры ўсіх і ўсяго. Ды нічога гэта не мяняла.

У прадчуванні бойкі хлопцы супрацьлеглых бакоў трымцелі, пачэсвалі патыліцы і кулакі. Біцца хацелася не ўсім. Ва ўсялякім разе не ў нашым стане.



Шкет і Абдула аддзяліліся ад сваіх і наблізіліся адзін да аднаго. Клубныя ліхтары асвятлялі абодвух, нібы акцёраў на сцэне. Абдуле, ніжэйшаму за Шкета на галаву, даводзілася задзіраць падбародак уверх, каб глядзець у вочы суперніку. Але ён адрозніваўся шырокімі плячыма і масіўнай фігурай, у той час як Шкет з-за высокага росту здаваўся худым і нескладным.

— Ты, Абдула, зусім берагоў не бачыш, — звярнуўся Шкет да майго крыўдзіцеля, сцадзіўшы сліну праз куток вуснаў, — як я пагляджу, калі дзяцей мяцеліш шоблай, як апошняе чмо.

— За базарам сачы, Шкет, бо не люблю, — перамінаўся з нагі на нагу Абдула. Яму не падабаліся размовы, бо ў іх ён не адчуваў сябе гаспадаром становішча.

— А як інакш з табой размаўляць? Падкажы, — працягваў Шкет сваё.

— Не ў такім злосным тоне, — адказаў Абдула.

— Які заслугоўваеш, — не змаўчаў Шкет.

— Ты мне не настаўнік, а я не на ўроку, — заўважыў Абдула.

— Тады, можа, ты за настаўніка сябе выдаеш?

— Як каму, — буркнуў Абдула.

— І чаму ты вучыў нашага Адама? — пацікавіўся Шкет. — Які муху пальцам не пакрыўдзіць, — дадаў. — Ды яшчэ так агрэсіўна?..

— Сам вінаваты.

— Гэта чым жа?

Абдула не ведаў, што адказаць і муляў губамі.

— Можа, мяне павучыш таксама? — прапанаваў тады Шкет. — Ці ссыш?

Абдулу аж перасмыкнула ад апошняй фразы Шкета. Аднак ён рашуча скінуў куртку, гатовы да бойкі. Шкет таксама скінуў сваю.

— Адна ўмова, — сказаў ён затым. — Толькі мы з табой, — позірк на Абдулу, — разы на разы. І потым адпачываем. Ты тут, у разоры, мы ў клубе.

— Спачатку перамажы, — прабурчэў Абдула, — пасля за ўмовы бярыся.

Яны сышлі з асфальта на траву, падмарожаную і слізкую. Мы пасталі сцяной перад імі.

Хлопцы біліся моўчкі, адно хэкалі з кожным ударам. Глуха аддаваліся ў нашых вушах гукі ад тых удараў.

У Шкета былі даўжэйшыя рукі і ногі, але Абдула валодаў устойлівасцю і цягавітасцю. Ён пёр на Шкета, як бык, а той нагадваў вяртлявага коніка. Абодва здаваліся мне старажытнымі гладыятарамі. Іх двубой не паходзіў на прыгожыя баявыя кінасцэны з удзелам Ван Дама ці Джэкі Чана, аднак па эмоцыях пераўзыходзіў іх усе. Шкет быў прыўкрасны, але не менш прыўкрасным быў і Абдула. Мы сачылі ва ўсе вочы не за пастановачнай бойкай з мноствам дубляў, дзе, калі памыліўся, можна і перазняць. Мы сачылі за сапраўднымі дзеяннямі сапраўдных байцоў, дзе кожная памылка каштавала сапраўднага фізічнага болю. Мы не сумняваліся ў Шкеце. Яго аўтарытэт распаўсюджваўся далёка за межы Вёскі. Абдулу таксама ведалі. Але Шкет

ніколі не выхваляўся сваімі здольнасцямі ў адрозненні ад Абдулы. Проста так, каб павесяліцца, Шкет не распускаў кулакі, толькі па справе. Абдула не мог яго перамагчы апрыёры, хоць і меў надзею. Шкета вяла справядлівасць, Абдулу — хаос.

Пасля чарговага ўдару Шкета Абдула паваліўся на зямлю і не змог падняцца без дапамогі іншых. Шкет загадаў усім, хто ўдзельнічаў у маім збіцці, зрабіць крок уперад і выбачыцца перада мной па-харошаму. У адваротным выпадку Адам, то бок я, пакажа пальцам, і той, на каго ён пакажа, будзе адказваць ужо перад Шкетам. Яны выйшлі і выбачыліся. А потым мы ўсе разам пілі міравую за рогам клуба. І Абдула таксама.

Неўзабаве мне прыспічыла да ветру і я, пахістваючыся, сышоў у цёмнае месца, дакладней, рушыў у той бок, куды не трапляла святло ад ліхтароў. Пасля закурыў, задраў галаву, каб паглядзець на неба. У вачах адразу застракацелі зоркі і захлебасталі верталёты, з-за чаго я ледзьве не паваліўся. Упасці, між іншым, не дазволілі мне раптам пачутыя крокі за спінай. Здавалася, што нехта да мяне падкрадаўся. Я рэзка азірнуўся і сустрэўся позіркам з позіркам Насці — уладальніцы чарнявых кудзерак.

— О, Адам, прывітанне! — як нічога не здарылася, сказала яна.

— Маё вам вітанне таксама, чароўная пані! — па-блазенску падмёў я зямлю перад дзяўчынай уяўным капелюшом. Але раптам мяне павяло ўбок, і я ўсё ж паваліўся. Насця весела засмяялася і працягнула руку, каб дапамагчы падняцца. Я ахвотна ў яе ўчапіўся.

— Як ты, герой? — спачувальна зазірала мне ў твар дзяўчына. — Рада цябе бачыць. Спадзяюся, ты не адзін гэтым разам?..

— Не адзін, — запэўніў яе я і дадаў: — Па-гэтаму нічога не бойся, я з табой.

Я адпусціў Насціну руку, пахіснуўся, і мяне зноў павяло проста на дзяўчыну. Яна спаймала мяне, залівіста звонка смеючыся.

На гэты гук з-за рога клуба высірнулі галовы Шкета і Абдулы.

— А ён не губляецца, — відаць, пра мяне Абдула сказаў Шкету.

— Яму і не трэба, — адказаў на словы Абдулы Шкет. — Налівай...

Іх галовы тут жа зніклі.

— Дык ты пад аховай! — гарэзуючы, усклікнула Насця. Яна адразу пазнала белабрысую грыўку Шкета.

— Ты пад аховай, — паправіў яе я.

— І пад чыёй жа?

— Пад маёй, — выпаліў я.

Насця зноў засмяялася. Зноў высірнулі галовы Шкета і Абдулы, але ўжо ў абкружэнні яшчэ нечых. Іх цікавасць да нас дзяўчыне не асабліва спадабалася, і яна пацягнула мяне за сабой у клуб, дзе мы танчылі з ёю да апошняга.

— Не хачу цябе нікуды адпускаць, — сказала Насця потым, калі мы апынуліся на вуліцы.



— Дык не адпускай, — параіў я ёй, не зусім разумеючы, навошта гэта сказаў. Хутчэй простак так. Аднак Насця аднеслася да маёй фразы па-свойму.

— Хадзем са мной, — рашуча прамовіла і ўзяла за руку.

Хутка мы апынуліся перад яе дваром. Яна папярэдзіла не шумець і слухацца ва ўсім. Мы праслізнулі ў брамку, бляўкнула засаўка, забрахаў сабака. Пазнаўшы Насцю, супакоіўся. Насця адчыніла дзверы ў хату, папрасіла зняць абутак. На дыбачках мы прайшлі праз усю хату да той паловы, якую займала дзяўчына з малодшым братам, які ўжо спаў за шырмай у сваім кутку. Бацькі таксама, відаць, спалі, хоць тэлевізар яшчэ барабаніў, дакладней, сняжыў, бо ўсе праграмы даўно пазаканчваліся.

Насцін куток быў абгароджаны шафай і драўлянай сценкай з паліцамі, на якіх месцавалася немаведама што, бо разгледзець не ўдавалася з-за цемры ў памяшканні: святла, зразумела, не ўключалі. Акварыум, аднак, на адной з паліц, у вочы кінуўся сам, нават і ў цемры. Каля ложка стаялі два крэслы, пад адзін з якіх Насця закінула свой і мой абутак, а потым сказала, каб я распрануўся.

Нічога крамольнага паміж намі не адбылося тады. Мы проста ляжалі і насалоджваліся блізкасцю адно аднога, да таго ж я вельмі хацеў спаць. Насця цалавала мяне, шаптала нешта прыемнае на вуха, казытала кудзерамі. Я не хацеў засынаць, аднак сон мяне не пытаўся.

Яна не папракнула, не пакрыўдзіла ніводным словам, калі мы прачнуліся. Прыязна ўсміхнулася, пажадаўшы «добрага ранку». Востранькім кірпатым носікам пачухалася, быццам кошка, аб мой нос. Прызналася, відаць, адмыслова, што таксама хутка заснула, адразу пасля мяне. Мо і добра, дадала, што так сталася. Мо і добра, — пагадзіўся я, перажываючы больш за сябе, бо нічога не ведаў і не разумеў на той час пра плоцкія ўцехі. Саромеўся і баяўся іх, як агню. Апрануўся як мага хутчэй. Насця не перашкаджала і не спыняла. Апранулася таксама, правяла да дзвярэй так, каб мяне не заўважылі яе родныя. Потым, каб не забрахаў сабака, праводзіла да брамкі. Была нядзеля, пятая раніцы. Апошняя гадзіна нашых з Насцяй стасункаў, калі яны былі.

Значна пазней мы яшчэ раз перасякліся на нечым вяселлі ў Вёсцы, танчылі пад поўняй, прыціскаючыся адно да аднога так, што займала дыханне. Прадчувалі несвоечасовасць месца і хвілін гэтай сустрэчы, падоранай нам Вёскай на нейкую трасцу. У Вёскі на ўсё, зрэшты, меліся свае прычыны. Насця плакала, я нешта балабоніў, каб суцешыць і рассмяшыць яе. Магчыма, мы былі рэхам адно аднога, нават лёсам, але крывая жыцця не палічыла патрэбным прыслухацца да нашых сэрцаў, што біліся, між іншым, ва ўнісон, і накіравала нашы шляхі па супрацьлеглых дарогах. Як ужо рабіла не аднойчы. Жыццё лепш за мяне ведала, куды мне кіравацъ і з кім. Мы самі нічога вырашаць не можам, бо з першых секунд нараджэння з'яўляемся закладнікамі свайго жыцця, распісанага і раскадраванага, як рэжысёрскі сцэнар, загадзя. Пытанне толькі кім?..

# Ленін і я

Але спачатку была Саманта Сміт — амерыканская дзяўчына з штата Мэн, якая напісала ліст савецкаму кіраўніцтву, у той час на чале з Андропавым, у якім прызывала да міру ва ўсім свеце, без ядзернай вайны, што на самай справе магла ўспыхнуць у любы момант. Той ліст надрукавалі ў газеце «Праўда», і Андропаў, трэба адзначыць, адказаў на ліст Саманты і запрасіў яе ў Савецкі Саюз, каб дзяўчына ўпэўнілася на свае вочы, што СССР таксама за мір. Неўзабаве пасля вяртання на радзіму Саманта загінула ў авіякатастрофе. І па сённяшні дзень ЗША абвінавачваюць у гібелі трынаццацігадовай дзяўчынкі КДБ, а Расія абвінавачвае ў тым самым ЦРУ.

Так склалася, што я трапіў на чарговыя ўгодкі па амерыканскай міратворцы, якія з пампезнай урачыстасцю праводзіліся піянерскай арганізацыяй у Карагандзінскім Цэнтральным Палацы піянераў, дзе чытаў верш, прысвечаны памяці Саманты Сміт:

*Отшуршали шелковые банты*
*И померкло солнышко во мгле,*
*Нет на свете девочки Саманты —*
*Нет Саманты больше на земле,*

*Где-то на далекой параллели*
*Объявили девочке войну,*
*Чтоб ее глазами не смотрели*
*Дети на Советскую страну,*

*Джентельмены подлости и мести —*
*Рыцари погромов и смертей,*
*Очень плохо ваше дело, если*
*Вы боитесь собственных детей.*

*Кровью пахнут грязные походы,*
*Нету черным помыслам числа —*
*Отчего ж ты — статуя Свободы —*
*Дочь свою от смерти не спасла?*

*Что же, беззащитную такую,*
*Ты не развела ее с бедой?*
*Если бы в минуту роковую*
*Ты прикрыла девочку собой —*

*То тебе бы кланялись поныне*
*Люди с благодарностью в глазах,*
*Как солдату в городе Берлине*
*С девочкой, спасенной, на руках.*



Маю кандыдатуру на чытанне гэтага верша зацвярджалі ў Шахцінскім Палацы піянераў прадстаўнікі з гаркама і райана. А вылучыла мяне ў кандыдаты, якіх, між іншым, было дванаццаць разам са мной, ад Шахцінска класная кіраўніца і заадно выкладчыца ангельскай мовы Дар'я Уладзіміраўна. Яна даволі ўдала спалучала настаўніцкую працу з грамадскай дзейнасцю і карысталася павагай сярод калег і членаў партыі, да таго ж мела не абы-якую прывабную знешнасць. Шосты «Б» клас, у якім я вучыўся, Дар'я Уладзіміраўна абрала сама, хоць яго ёй не прапаноўвалі, але аддалі, уздыхнуўшы з палёгкай. Ніхто з настаўнікаў па асабістым жаданні не хацеў мець ніякіх спраў з класам, у якім класныя кіраўнікі змяняліся кожны год. Вось жа парадокс: у Шостай школе я вучыўся ва ўзорным «А» класе, а ў Школе № 3 мне собіла вярнуцца ў той самы клас, з якога я выбыў, які яшчэ да майго вяртання набыў статус найпраблемнага. Відаць, гены ці што, але амаль у паловы класа жыццё складзецца праз крымінальны ухіл, нават у дзяўчат.

Дар'я Уладзіміраўна, відаць, нешта разгледзела ўва мне, і тое нешта ёй спадабалася. Я любіў чытаць, і вершы расказваў на памяць як артыст: выразна, прапускаючы праз сябе ўсё тое, што ўклаў у свае радкі аўтар. Яна распавяла пра мяне завучу, якая, між іншым, ужо была са мной знаёма: аднаго разу выратавала ад сонечнага ўдару, а ў другі раз сарамаціла пры ўсіх за паводзіны, што бэсцяць савецкага піянера. Завуч скептычна аднеслася да ўзнёслага наконт мяне настрою Дар'і Уладзіміраўны, але, пачуўшы, як я чытаю вершы, зразумела сваю памылку. Мне даручылі выступіць з вершамі пра Леніна і партыю на нейкім міжшкольным пасяджэнні, дзе я давёў да слёз сваім чытаннем некаторых старых камуністак, якія нават даравалі за гэта недазволеную і непрыстойную даўжыню маіх валасоў. І на мерапрыемства, прысвечанае памяці Саманты Сміт, я быў абраны адзінагалосна. Зрэшты, я ведаў, што лепш за мяне ніхто той верш не прачытае.

Дар'я Уладзіміраўна, зразумела, у Караганду паехала са мной. Нервавалася і перажывала за мой выступ больш, чым я. Я не мог падвесці ні яе, ні сябе. Пра гонар горада тады ні кроплі не думаў. У выніку ўсе плакалі, а я зарабіў кілаграм «Мішак на поўначы». Дар'і Уладзіміраўне ўручылі нейкую грамату. На зваротнай дарозе ў аўтобусе яна мяне цалавала ў патыліцу, час ад часу прыціскаючы да сябе, гладзіла па галаве (ёй, мабыць, падабаліся мае валасы) і казала, што я харошы хлопчык і сонейка. А мне ўсё гэта так падабалася, што я хацеў, каб дарога дамоў ніколі не канчалася.

Праз непрацяглы час пасля мерапрыемства ў Карагандзе неяк Дар'я Уладзіміраўна папрасіла мяне застацца пасля ўрокаў. Прычым так строга і нават пагрозліва, падалося, ад чаго я і разгубіўся, і спалохаўся ў прадчуванні абвінавачванняў у нечым непрыстойным і непрыглядным, пра што нейкім чынам настаўніца даведалася, і я зараз адграбу напоўніцу. Але ж не бегчы на злом галавы з класа, ратуючыся. Тым самым я прызнаю сваю віну, у чым бы ні абвінавачваўся. Я застаўся на месцы, за партай, разважаючы, што мяне вы-

дала ці хто. Ведаць бы яшчэ канкрэтную прычыну, за якую давядзецца несці адказнасць. Здаецца, нічога такога я і не рабіў, і не замешаны ні ў чым такім. Наадварот, нават перавыканаў на тым тыдні план па зборы макулатуры. Хадзіў па кватэрах у сваім доме і суседнім разам з Жэняй Кох, прасіў, калі ёсць, падзяліцца непатрэбнымі паперамі дзеля патрэбы школьнага даручэння. Гэта ж лепш, чым проста выкідаць на сметнік. Нам з Жэняй ні разу не адмовілі. З кожнай кватэры мы выносілі па некалькі важкіх стосаў, перавязаных крыж-накрыж лескавым тонкім карычневым дротам, газет, часопісаў, нават кніг... Жэня рабіла кніксэн, прамаўляла «мерсі» і ўдзячна ўсміхалася за дапамогу, граючы ямачкамі на шчоках. Магчыма, гэтыя ямачкі, якія ператваралі Жэню ў прыўкрасную прыгажуню, як ні што іншае, садзейнічалі нашаму поспеху. А значыць, не тое. Зусім не тое лезла ў галаву. У матэматыцы я ні ў зуб нагой, дык не адзін я, амаль увесь клас. Зноў не тое. Можа, за тое, што ў сіфу гулялі і я выпадкова трапіў у твар Іркі Дронавай анучай для дошкі, а той жа анучай выпацкаў, таксама выпадкова, спіну Айшы Акімбаевай?.. Дык я выбачыўся перад імі. Дронаву абняў і прашаптаў, каб яна не крыўдзілася на мяне, бо ёй не пасуе злавацца. Усе сляды на спіне Айшы вычысціў уласнымі рукамі. Ёй нават спадабалася. Яна мне таксама падабалася, і, калі б не Жэня, я б не ўпусціў свой шанс. Што яшчэ? Ну апынуўся я ў дзявочай распранальні перад фізрой, і дзяўчаты верашчалі як рэзаныя, — але ж не па сваёй волі. Шышан з Касымам увапхнулі да дзяўчат, зачынілі дзверы і падперлі іх сваімі целамі. Я намагаўся выбрацца, але дзе там. Сілы, як той казаў, былі няроўныя. І ўвогуле, я ахвярай апынуўся, бо Дронава лупцавала мяне па галаве сваёй формай, я і не паспеў нічога разгледзець ці падгледзець, нават калі б захацеў.

— Мікола, — як лінейкай па галаве гвазданула голас Дар'і Уладзіміраўны, я аж падскочыў пераляканы. Да таго ж Міколам ніхто з настаўнікаў мяне ніколі раней не называў. Гэта было нешта кшалту мянушкі, што прыжылася з лёгкай рукі ці, хутчэй, лёгкага языка Яніса Вітаўтаўса — хлопца з суседняга дома. Ён, Яніс, жыў у адным пад'ездзе з Жэняй Кох, але мы часта сустракаліся на футбольным полі, якое распласталася побач з нашымі дамамі і лічылася агульным. Я яго неяк падмануў ці што, ён пакрыўдзіўся і заехаў мне кулаком у вока, а пасля спытаў, хто я па нацыянальнасці. Пачуўшы адказ, параіў называцца Міколам, бо так правільна будзе, як ён называе сябе Янісам, а не Ванем. Ён першы і пачаў звяртацца да мяне як да Міколы, і імя ператварылася ў мянушку. Не думаў я, што і настаўніца назаве мяне падобным чынам. І такі яе зварот да мяне я палічыў прадвеснікам нечага кепскага. — Мікола, — паўтарыла Дар'я Уладзіміраўна, а я надзьмуўся, як верабей, — да цябе, — працягвала яна, — ёсць сур'ёзная прапанова.

Настаўніца замаўчала, вытрымліваючы паўзу. Яна сядзела насупраць мяне, за партай перадзе, паўбокам, матляючы нагой, закінутай на другую нагу ў доўгіх скураных лакіраваных ботах на маланцы. Ні жывы ні мёртвы я чакаў, што будзе далей.



Напэўна Дар'я Уладзіміраўна вагалася, баялася памыліцца, прапаноўваючы мне тое, што нарэшце агучыла. Бо адказнасць, і немалая, ляжала на адных яе плячах, калі б нешта пайшло не так.

— Нашай школе, — пільна ўзіраючыся ў мае вочы, нібыта ў іх шукала пацвярджэння свайго рашэння, прамовіла Дар'я Уладзіміраўна, — даверана вельмі адказная і пачэсная місія. Зрабіць экспазіцыю па дзіцячых гадах Уладзіміра Ільіча Леніна, і з гэтай экспазіцыяй знаёміць дзетак малодшых класаў і ўсіх жадаючых, хто зацікавіцца самастойна. Дзеля гісторыі і дзеля разумення спраў нашай вялікай камуністычнай партыі, дзеля падзякі за нашу светлую будучыню і дзеля ведаў пра жыццё выбітнейшага чалавека, якому мы абавязаны ўсім. Я падрыхтую, уласна, экспазіцыю, а ты... ты станеш голасам экспазіцыі і будзеш распавядаць біяграфію Уладзіміра Ільіча, як ты ўмееш, каб цябе пачулі і запомнілі кожнае слова, прамоўленае табой. Ты гатовы?

Настаўніца ледзь не свідравала мяне сваімі вачыма. Але страх, што ўзнік, калі мяне папрасілі застацца за нейкую, як я лічыў, міфічную правіннасць, збег адразу, рыхтык прусак ад святла, як яна загаварыла. Я глытаў кожнае яе слова, нібы какаву, і рос у асабістых вачах, бо гэта мне, а не камусьці іншаму, было запрапанована. Зразумела, я быў гатовы.

Дар'я Уладзіміраўна працягнула мне некалькі дзясяткаў аркушаў, замацаваных адзін з адным скрэпкамі, на якіх быў набраны машынапісны тэкст. Тэкст гэты я павінен быў вывучыць на памяць і расказаць яго настаўніцы праз тры дні.

І я вучыў. Старанна, засяроджана. Правальваўся ў дзяцінства Леніна, як у іншае вымярэнне, нават рабіўся ім, малым Валодзем Ульянавым, які ратаваў ад гусей кніжкі, узятыя ў бібліятэцы... Мама, пачуўшы пра гусей, распавяла, што калі яна была малая, бацькі трымалі гусей, і яна іх баялася, ды пасвіць усё адно даводзілася. Асабліва запомніўся адзін выпадак. Неяк гусь гуляла з гусянятамі і адзін з іх перакуліўся, а падняцца самастойна не мог. Мамін старэйшы брат Мішка, той, што Дзядзька, кінуўся дапамагаць бедалажцы, узяў гусяня ў руку і пасля паставіў на лапкі, а гусь наляцела на яго каршуком, учапілася ў спіну і давай дзяўбсці ў патыліцу. Мама застыла на месцы ад страху, не ў сілах паварушыцца. Дзядзька матляўся, таксама на месцы, намагаючыся скінуць з сябе раз'ятраную мамашу. Добра, што нехта з дарослых ішоў, дык нават ён ледзь аддзёр гусь з Дзядзькавай спіны. Пасля гэтага выпадку, а ён быў не першым, калі гусі нападалі на дзяцей, усіх гусей парэзалі на мяса і больш не трымалі.

...Хатнія мяне не чапалі і не адпраўлялі ў краму па хлеб і малако, што з'яўлялася маім штодзённым абавязкам, хадзілі самі. Разумелі важнасць справы, даручанай мне школай.

На памяць я ніколі не жаліўся, дый і яна не падводзіла ні разу, так што тэкст засвоіў. Не без цяжкасцяў, але ён мне падпарадкаваўся. Дар'я Уладзіміраўна засталася задаволенай. Сказала, што нібыта ведала пра маю адказнасць і

ўнутраны стрыжань, дзякуючы якому я не магу дазволіць сабе падвесці тых ці таго, каму нешта паабяцаў. Да таго ж, як прызналася пазней настаўніца, яна рашуча настойвала перад камісіяй па будучай экспазіцыі менавіта на маёй кандыдатуры як экскурсавода. Так што мая перамога — гэта і яе перамога таксама.

Дар'я Уладзіміраўна абняла мяне, шчаслівая, што зноў не памылілася, прытуліла блізка да сябе. Мой твар апынуўся якраз паміж яе грудзей пад белай блузкай. У шырокія прарэхі, дарэчы, ад гузіка да гузіка, відаць былі тры радзімкі справа ў выглядзе трохкутніка і станік з нейкай шчыльнай тканіны. І тут я спалохаўся раптоўна ўзніклага жадання дакрануцца пальцам, хаця б адным, да тога кавалачка скуры з радзімкамі, таму рэзка адхіснуўся ад жанчыны, бо палічыў сваё жаданне нечым няправільным і ненармальным. Дар'я Уладзіміраўна таксама, відаць, адчула, што са мной нешта не так. Павярнулася да мяне спінай, апранула жакет і зашпіліла яго на ўсе гузікі. Пасля падышла да мяне, зацята пазіраўшага на падлогу і не разумеўшага, што адбылося, падняла ўказальным пальчыкам за падбародак маю галаву ўгору і прамовіла:

— Глядзі на мяне. І не бойся сваіх жаданняў. Ты расцеш, пачынаеш цікавіцца фізіялогіяй супрацьлеглага полу. Нічога крамольнага ў тым няма. Мне нават прыемна твая рэакцыя на мае вабноты...

— Што вы такое кажаце! — перабіў яе я. Мне здавалася, што настаўніца смяялася з мяне.

— Давай зробім так, — прапанавала Дар'я Уладзіміраўна, — як усё выйдзе з экспазіцыяй, я пакажу табе ўсё, што ты захочаш убачыць. Згодзен? Прапаноўваю адзін раз, запомні!

Натуральна, я заківаў, згаджаючыся, але толькі дзеля таго, каб прыпыніць далікатную тэму і больш да яе не вяртацца. Я ненавідзеў сябе, сваё жаданне, узніклае ніадкуль і недарэчы, і Дар'ю Уладзіміраўну я таксама ненавідзеў за тое, што яна адчула маё жаданне, убачыла яго і агучыла. Я адчуваў сябе прыніжаным ёю і не ведаў, як далей з гэтым жыць. Суцяшала толькі тое, што цяпер мы абодва валодалі тайнай, агульнай на дваіх.

Затым мы падняліся на трэці паверх, прайшлі ў левы калідор да ўжо гатовай экспазіцыі з малюнкаў, фотаздымкаў, ілюстрацый і рэпрадукцый, што тычыліся маленства Леніна, развешаных па сценах па ўзыходзячай і ўзятых пад ахову шкла і рамак.

Амаль да дзявятай гадзіны вечара, з вымушанымі перарывамі з-за перапынкаў паміж урокамі, Дар'я Уладзіміраўна тлумачыла мне, як я павінен і што павінен казаць, дэманстравала на асабістым прыкладзе, паказвала, як працаваць з указкай. Потым сачыла за тым, як я з усім спраўляўся, папраўляла, рабіла заўвагі, дзе згаджалася, дзе — не, шукала кампраміс, сварылася за тое, што я глытаў канчаткі некаторых словаў, намагалася ад мяне выразнай артыстычнай дыкцыі, вымушала па некалькі хвілін запар паўтараць за ёй хуткагаворкі... Нарэшце адпусціла з тым, што заўтра генеральная рэпетыцыя.

...Тры разы запар Дар'я Уладзіміраўна ганяла мяне па тэксце і ілюстрацыях да яго, пасля ўласнаручна выпроствала мне плечы, каб не сутуліўся, а выглядаў годна і выклікаў аўтарытэт да сябе. Потым запытала, ці гатовы я да «здачы іспыту» ў прысутнасці дырэктара школы і завуча. Не задумваючыся, я згодна кіўнуў.

Тыя засталіся задаволеныя, паціснулі руку Дар'і Уладзіміраўны і выклікалі партыйнае кіраўніцтва горада, якое неўзабаве прыехала на дзвюх чорных «Волгах». Каб паглядзець на машыны, школьная дзятва расплюшчылася аб вокны, навісаючы адно над адным вінаградам.

Паважаныя раскосыя прадстаўнікі камуністычнай партыі і камсамольскай арганізацыі падняліся на трэці паверх па спехам засланых чырвоных дывановых дарожках і паселі на загадзя падрыхтаваныя крэслы за вынесеныя з кабінетаў дырэктара і завуча прыгожыя сталы насупраць экспазіцыі патылліцамі да вокнаў. Дырэктар школы і завуч пасталі збоку ад сваіх сталоў, Дар'я Уладзіміраўна засталася са мной, каб, калі спатрэбіцца, падстрахаваць.

Вядома, я хваляваўся, хоць і не ведаў, нават ніколі не бачыў раней тых людзей, якія, калі падумаць, пакінулі на потым усе найважнейшыя свае справы дзеля таго, каб паглядзець на мяне і паслухаць тое, што я мусіў ім сказаць. Прычым людзі суперзанятыя, мяркуючы па ўсім. Значыць, тое, што мы з Дар'яй Уладзіміраўнай падрыхтавалі, — значна важней за ўсё, чым яны займаліся. І разуменне гэтага рабіла мяне ў асабістых вачах не шараговым чалавекам (нават не чалавекам яшчэ, так, падранкам), — асобай нумар адзін, хаця б на той час, які зойме расповед пра маленства Леніна, пра яго бацькоў, сясцёр і забітага царом брата.

Дар'я Уладзіміраўна з-за спіны націснула мне на плечы абедзьвюма рукамі, прашаптала, каб я пачынаў, нічога не баяўся, не сутуліўся і па магчымасці ўсміхаўся.

І я пачаў. Адразу забыўшыся на ўсіх вакол.

Хутчэй за ўсё партыйным босам экскурсія спадабалася, бо кожны з іх паціснуў мне руку і ветла ўсміхнуўся. Адзін, праўда, найстарэйшы з выгляду, скрывіўся, гледзячы на мае валасы, і зрабіў заўвагу наконт іх даўжыні. Маўляў, «пацан», а валасы бабскія. Дар'я Уладзіміраўна заступілася за мяне, той паківаў галавой, і кіраўніцтва горада пакінула школу. Дырэктар, я заўважыў, шумна выдыхнуў, калі абедзьве «Волгі» за вокнамі з'язджалі са школьнага двара.

Дар'я Уладзіміраўна папрасіла мяне пачакаць яе, сама паспяшалася за дырэктарам. Хутка яны зніклі за дзвярыма яго кабінета.

А потым настаўніца запрасіла да сябе ў госці адзначыць поспех і па дарозе распавяла, што наша экспазіцыя зацверджана і ўнесена ў план па экскурсіях як самая неабходная рэч для ўсіх малодшых класаў кожнай школы горада Шахцінска, і адкрыецца яна напярэдадні святкаванная дня нараджэння Уладзіміра Ільіча, то бок на наступным тыдні. А гэта значыць, што я стану найгалоўнейшым чалавекам у школе, ва ўсялякім разе, пакуль будзе існаваць экспазіцыя.

У Дар'і Уладзміраўны ніколі не было мужа і дзяцей, але жыла яна ў двухпакаёвай кватэры ў тым самым доме, дзе месцавалася мая ўлюбленая бібліятэка, толькі не на першым паверсе, а пад самым дахам, на пятым. Невялікая вітальня з дзвюма сценнымі шафамі па баках, на адной люстэрка авальнай формы ад столі да падлогі, дзе-нідзе ўпрыгожанае налепкамі ў выглядзе матылькоў, ненавязліва пераходзіла ў гасцёўню з нішай, што вяла ў другі пакой, мяркуючы па ўсім, спальню. Справа ад вітальні — кухня і ванны пакой з прыбіральняй. Лінолеум на падлозе ў вітальні прыкрыты круглымі вязанымі палавікамі, у гасцёўні быццам зашыты жоўтага колеру паласам.

Дар'я Уладзіміраўна сказала мне разувацца і праходзіць у гасцёўню, сядаць, дзе заманецца, што я і зрабіў, сарамліва апусціўшыся на краёк скуранога фатэля, засланага аксамітава-барвовым покрывам з махрамі па баках. Фатэль быў мяккі і, мусіць, глыбокі, я з'язджаў да спінкі, нерваваўся і зноў вяртаўся на краёк. Трымаючы рукі на падлакотніках фатэля, адчуваў, як пацелі далоні. Міжволі пачаў аглядацца. Уразіла мноства кніг, прычым вельмі шмат было па-ангельску. Кнігі займалі ўсю сценку насупраць, схаваныя пад шкло венгерскай мэблі. Недзе пасярэдзіне іх, у адмысловай кішэні, змайстраванай, відаць, па замове, пукаціўся кнопачны тэлевізар, пад ім, у асобным сектары, прытаіўся відэамагнітафон. Над тэлевізарам, быццам які нарцыс, красаваўся чырвоны двухкасетнік «Шарп». Ля акна ў кветкавых сонечных фіранках стаяў, падобны на слана па маіх тагачасных эмоцыях, важкі стол. На ім — настольная лямпа, кнігі, стосы нейкіх часопісаў, паперы, сшыткі, канцылярскія прылады, партатыўная пішучая машынка, побач з ім — крэсла на гнутых ножках з гнутымі падлакотнікамі, гэтак сама як і фатэль , засланае покрывам. З таго боку, дзе сядзеў я, бліжэй да стала, хавалася ніша, задрапіраваная цяжкой на выгляд цёмнага колеру парцьерай, у якую якраз зайшла Дар'я Уладзіміраўна, падміргнуўшы мне. Побач з маім фатэлем суседнічала такая ж скураная канапа з некалькімі маленькімі падушкамі на яе спінцы. Канапа была засланая карычневай слізкай і на выгляд, і на дотык тканінай, амаль такой самай, як халат Дар'і Уладзіміраўны, блакітны, з драконам на спіне, у якім яна выйшла з-за парцьеры, завязваючы на банцік пасак. Яна спынілася перад часопісным столікам каля канапы, склала на грудзях рукі і, пазіраючы на мяне, запытала:

— Гарбаты? Кавы? Какавы?

Зглытнуўшы сліну, але не ад таго, што захацеў піць, я не зводзіў вачэй з Дар'і Уладзіміраўны, чые рысы твару падаліся мне раптам усходнімі, а сама яна ўсходняй царыцай, ледзьве выціснуў з сябе:

— Гарбаты.

— Ну, гарбаты, дык гарбаты, — паціснула яна плячыма і зноў запытала: — Варэнне? Печыва? Цукеркі? Можа, джэм? О ледзь не забыла, у мяне ж крыху ад торта «Птушынае малако» засталося. Любіш «Птушынае малако»? — амаль прасвідравала позіркам мяне наскрозь.

— Люблю, — кіўнуў я.

— Ну то я зараз, — сказала Дар'я Уладзіміраўна і прашамацела паўз мяне, зачапіўшы крысом слізкага халата маю шчаку, нібы парэзала яе. Я нават адчуў, дакрануўшыся да месца «парэзу», як выступіла кроў.

Навошта я тут?

Навошта Дар'я Уладзіміраўна забрала мяне з урокаў і прывяла ў сваю кватэру? Ды яшчэ ва ўсіх на вачах?

«Птушынае малако» не было з кім даесці?.. Дарэчы, вельмі смачны торт і вельмі дарагі!..

Бралася на вечар, але сонца яшчэ свяціла ярка і, здавалася, цікаўна зазірала ў вокны кватэры Дар'і Уладзіміраўны, якая неўзабаве вярнулася да мяне, трымаючы ў адной руцэ талерку з некалькімі кавалачкамі «Птушынага малака» і дэсертнай лыжачкай на ёй, у другой бутэльку партвейна з двума кубкамі, а пад пахай тэрмас.

Усё, што прынесла з кухні, Дар'я Уладзіміраўна паставіла на часопісны столік, села на канапу, у адзін кубак наліла партвейну, у другі гарачай гарбаты з тэрмасу.

— Ну і чаго прыткнуўся ў кутку, як бедны сваяк? — звярнулася да мяне. — Давай, сядай на канапу і частуйся торцікам.

Нерашуча, але ўсё ж я ўстаў з фатэля і перасеў на канапу, на шмат цвярдзейшую за фатэль, амаль усутыч да настаўніцы. Халат яе нібыта біўся токам, калі я выпадкова датыкаўся да яго. Дар'я Уладзіміраўна, між тым, гэтага не заўважала. Яна падсунула бліжэй да мяне талерку з тортам і кубак з гарбатай, вачыма дала зразумець, каб не саромеўся і частаваўся.

— А я партвейну вып'ю, — неяк нават асуджана прамовіла і дадала, больш бадзёра: — Люблю партвейн, ведаеш. Табе нельга, а мне ў самы раз.

Дар'я Уладзіміраўна чокнулася сваім кубкам з маім і зрабіла некалькі глыткоў, пасля аблізнула вусны. Я ўзяў лыжачку і пачаставаўся «Птушыным малаком». Рэдкае смакоцце!

— Чакай! — раптам усклікнула настаўніца, паставіўшы кубак на столік. — Я ж табе абяцала нешта, ці не так?

Не пазіраючы на мяне, паднялася з канапы, а я замёр з неданесенай да рота лыжкай у прадчуванні нечага дзівоснага. Зрабілася страшна і неверагодна цікава. Вось-вось прыгожая жанчына, а Дар'я Уладзіміраўна была несумненна прыгожай жанчынай, развяжа паясок на халаце, каб яе прыроднымі вартасцямі насалодзіўся не зразумела хто, дваровы ўшавэлак, недамерак па ўзросце, ды ўсё ж годны большага, чым «Птушынае малако»...

Дар'я Уладзіміраўна падскочыла, як дзяўчынка, да кніжнай сценкі, пасунула ўбок шкло і дастала нейкую тоўстую і, відаць, важкую кнігу ў супер-вокладцы. Прыцісну́ўшы кнігу да грудзей, яна вярнула шкло на месца і зноў села на канапу, забраўшыся на тую з нагамі, у позе лотасу.

— Трымай, — працягнула кнігу мне.

— Што гэта? — расчараванню майму не было межаў. Раскатаў губу, дубіна. Хто ты і хто яна, каб спакушаць цябе, дзіцёнка неразумнага.

— Трымай-трымай, — падбадзёрвала Дар'я Уладзіміраўна. — Пагартай, убачыш.

Гэта быў фотаальбом з рэпрадукцыямі карцін найвялікшых мастакоў свету. Дзе-нідзе на яго старонках траплялася тое, што, як я спадзяваўся, пакажа мне настаўніца. Што ж, яна не зманіла, паказала па-свойму.

— А ты на што разлічваў? — ускудлаціла мае валасы Дар'я Уладзіміраўна, заўважыўшы, відаць, мой незадаволены позірк. — Га, малыш?

Я паціснуў плячыма.

— Усе вы такія, — уздыхнула яна. — Не ведаеце, чаго хочаце, а пасля дзьмецеся немаведама чаго. Ты прыгожы хлопчык, Мікола, будуць у цябе яшчэ прыгожыя дзяўчынкі, нават стомішся ад іх. Ды не ў тым шчасце, — Дар'я Уладзіміраўна задумалася, пацягнулася за кубкам з партвейнам, выпіла да донца, але на столік кубак не паставіла, трымала ў руцэ. Я механічна гартаў старонкі альбома, у якім кожная старонка была пакрыта ахоўнай плёнкай. — Мянушка ў цябе, Мікола, заліковая, — раптам сказала настаўніца.

— Гэта маё імя па-беларуску, — удакладніў я.

— Тым больш, — кіўнула Дар'я Уладзіміраўна, — а ты такімі непрыгожымі справамі займаешся, — працягнула.

— Якімі такімі? — не зразумеў я.

— Сам ведаеш, — адказала настаўніца. — Ты ж кніжкі любіш чытаць?

— Люблю, — не пярэчыў я.

— Няўжо тыя кніжкі вучаць красці, падманваць, подлічаць?..

— Вы мая мама? — незалюбіў я.

— Я не прэтэндую на месца тваёй мамы, — Дар'я Уладзіміраўна паставіла кубак на столік. — Падсунься бліжэй да мяне, — папрасіла.

Я адклаў альбом убок і падсунуўся да настаўніцы. Яна абхапіла мяне аберуч і прыціснула да сябе. Адным вухам, тым, што ўціскалася ў грудзі жанчыны пад тканінай халата, я чуў, як тахкае яе сэрца: спакойна, бы метраном.

— Які ты яшчэ малы, Мікола, — казала Дар'я Уладзіміраўна і гладзіла мае валасы, — калі не разумееш, нічога не разумееш. Я цягну цябе, цягну літаральна за вушы з той багны, у якую ты з задавальненнем плюхаешся... Ты ж не такі. Табе б вершы пісаць. Вось на якую рамантыку трэба арыентавацца, а не на тое, чым вы ўсе захоплены. Пацаны вы, пацаны, шкада мне вас. Асабліва цябе, Мікола, шкада. — Яна памаўчала, потым неяк раптоўна адпіхнула мяне. — Ну ты пабачыў, што хацеў? — запытала і, не чакаючы адказу, прамовіла: — Тады ідзі дамоў, заўтра пабачымся на ўроках і на экспазіцыі.

І я сышоў.

Дар'я Уладзіміраўна ніколі больш не выказвала асаблівай прыхільнасці да мяне. Ці мне так здавалася? Яна прысутнічала на кожнай экскурсіі па маленству Леніна, абдымала і цалавала ў патыліцу, але ранейшага току, які сыходзіў ад яе, я больш не адчуваў.

Тады я не ведаў, што неўзабаве Дар'я Уладзіміраўна з'едзе ў Амерыку, краіна, у якой мы жылі, ляснецца ў тартарары, адкуль не вяртаюцца, а Ленін апынецца крыважэрным маньякам, якія дзеля ўласных амбіцый знішчыць сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей.




# Вячаслаў Лапцік

**празаік, драматург, публіцыст. Аўтар кніг: «Паядынак у ціхай затоцы», «Мой сум, Нарочча...», «Хвалі гамоняць пра легенды», «Ранішняя дарога», «Нарач горка плача». П'есы ставіліся на сцэнах драматычных тэатраў краіны. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.**

# Ля невада

Паскакаўшы на адным месцы і паляпаўшы сябе рукамі па зімовай апратцы, і так трошкі сагрэўшыся, Вінцук зноў узяўся за сваю справу. Цяжкой вострай пешняй прасякаў у тоўстым лёдзе «казу», такую пролубку, праз якую давядзецца падымаць наверх невад разам з рыбай. Гэтую дзірку варта ладзіць паўкруглай і вялікай, недзе метры тры ў даўжыню і два ўшыркі, інакш карму не вывалачэш наверх ці парвеш садкі. Не сказаць, што яму далі самы нядобры ўчастак работы — кожны з рыбакоў займаўся сваёй справай і ніхто не біў лынды. Адныя высякалі тыя самыя пролубкі і запускалі на дно доўгі невад, другія гналі пад лёдам драўлянае сашыла з нацягнутай тоўстай вяроўкай, частка люду завіхалася каля лябёдкі, бо тая закапрызнічала на марозе, чмыхала і не хацела заводзіцца. Адзін брыгадзір, пяцідзесяцігадовы Флёрка, мужык ганарлівы і рэзкі, які ніколі нікога не слухаў і лічыў сябе пупам зямлі, таму і вырас амбал курносы, як тая злая дзеўка, што пераседзілася і не выйшла замуж, бо дурная нікому не патрэбная, і вочы меў благія і недаверлівыя, дык вось ён нёс меншую фізічную нагрузку, толькі ўважліва сачыў за неваднікамі і кіраваў працэсам лоўлі, але ж на тое ён і начальнік, каб нічога не рабіць.

Цягучы Вінцук укалываў і зусім не цураўся любой невадной нагрузкі, бо, шчыра кажучы, надта хацеў зарабіць. Ён завіхаўся каля «казы» са сваёй жалезнай пешняй, а ў яго з роту валіла клубком густая белая пара. Ну акурат дым з маленькага коміна, не інакш. Якраз была сярэдзіна зімы і дзень выдаўся надзвычай халодны, на двары 30 градусаў марозу, калі, як кажуць, і птушкі не вылятаюць, бо мерзнуць на ляту, але ж неваднікі яшчэ ў рыбарні хмура парадзіліся і пагадзіліся з фанабэрыстым Флёркам: трэба ехаць на лоў, неяк выцярпім, шкада траціць дзень упустую, перацерпім сцюжу, куды дзецца.

Зараз мерзлі ўсе, нікому не лягчэй, кожны абціскаў шапку-аблавушку на самыя вочы і хутаўся ў каўнер свайго тоўстага кажуха. У апошні час на ногі абувалі вялізныя валёнкі з падшытымі знізу тоўстымі гумовымі пракладкамі замест галёшаў. Яны хоць і грамоздкія, але ж затое накруціш на ногі анучы і ніякі мароз не страшны.

Вінцук прыпыніў свой занятак, пачуўшы разазлаваны крык Флёркі, які даваў наганяй Анцюку, бо той нібыта не разлічыў вугал і гнаў недакладна сваё сашыла пад ільдом, трохі збіўшыся з зададзенага курсу. Ціхі і спакойны Анцюк нядаўна прыйшоў да іх і не паспеў засвоіць навыкі. «Мог бы і цішэй сказаць, чаго ты турыш так няшчаснага навічка!» — падумаў Вінцук, зірнуў з-пад ілба на брыгадзіра і пачаў шуфлям выграбаць пабітыя лядзяшкі з вады. На холадзе тая стала нейкай мёртвай і тугой, як кісель. Густы касяк ляшчоў прыпадняўся са дна і ляніва праплыў, ледзь перабіраючы хвастамі, так спакойна і без усялякага страху, плоткі з ярка-чырвонымі плаўнікамі рвануліся ўверх, убачыўшы неба і святло, затым ліхаманкава нырнулі на дно, спудзіўшыся ча-

лавека. «Будзе добры ўлоў, слава Богу, — прыкінуў ён. — Халера з ім, што памерзнем, але нарэшце сыну набуду хоць танны камп'ютар. Бядак у чацвёртым класе, а камп'ютара не мае, куды ж зараз без такой тэхнікі? Цэлы год адкладаю грошы... Якую капейку не зберыш — усё йдзе на дзвюх сястрычак, сікух, яны большыя і ўжо пад дзевак, трэба ж апрануць прыгажэй, а хлопчык туляецца на заднім плане».

Таму часамі адчуваў сваю вялікую асабістую віну за тое, што ягоны сын сапраўды недагледжаны і нейкі закінуты.

Пасля жвава падбег сам брыгадзір з нейкім недаверлівым выглядам: — Ты бачыш, хмара рыбы? — зазірнуў у прабітую лунку і адразу ледзь не затанцаваў на месцы. — Сёння добра зловім. Ну як, удала я падабраў таню? — ганарліва зірнуў на яго. — Што б вы, болткі, без мяне рабілі на возеры, га-а?

Пасля загадаў Вінцуку традыцыйна нацягваць на двух высокіх жэрдках і сцяной ставіць у вадзе тую «казу», што перашкаджала рыбе ўцякаць з-пад сеткі, а сам пайшоў кантраляваць лябёдку, якая ніяк не жадала браць на сябе нагрузку і цягнуць тоўстую вяроўку з прывязаным крылом. Ад дубарнага марозу мужыкі быццам часцей дыхалі і войкалі, абдаючы свае шчокі клубамі густой пары. Змучаныя і зверху каля падсядзёлкаў заінелыя выпражаныя коні, на якіх прыехалі людзі разам з невадам, спачатку корчыліся і ўсё без смаку жавалі сухую асаку, быццам у жаданні ўцяпліць нутро, а пасля заціхлі і вялізныя слёзы зрэдку каціліся з іхніх вачэй і застывалі бліскучымі палосамі.

Расцягнуўшы палатно сеткі, Вінцук яшчэ мацней вырашыў уткнуць прыглыбны кол у зямлю, таму наблізіўся на самы край высечанай пролубкі, ухапіўся за тоўсты шост, той імгненна падаўся набок, рука саслізнула і рыбак, страціўшы раўнавагу, грымнуўся ў ваду. Гэта адбылося ў імгненне вока, ён нават не паспеў зразумець, што і як тут адбылося, пякучая халадэча агнём апаліла цела і працяла наскрозь. Хапаючыся за самы край слізкага і мокрага лёду, ён, яшчэ нічога не ўсведамляючы, паспеў нешта пракрычаць, але коратка і несуразна, бо ад холаду ці ад страху адразу знямелі вусны. Але ж нешта выціснуў з сябе, цяжка сказаць, ці яго пачулі брыгаднікі альбо самі ўбачылі трагедыю, бо ўжо спяшалі на дапамогу. Першым нёсся Віктар, самы малады і добры чалавек, які ніколі ні пра кога не сказаў дрэннага слова і ўсіх шкадаваў, за што і атрымаў мянушку «Беларусік», за ім бег Мішка з вёскі Танізбэрак, праўда, паслізнуўся, распластаўшыся на лёдзе, але зграбна падняўся і рынуўся далей да «казы». Ухапіўшы рыбака за вялікі каўнер кажуха і за руку, Віктар з Мішкам дапамаглі яму выкарабкацца на лёд, адцягнулі на метры тры далей ад праклятай лядовай пролубкі і паставілі на ногі. Абяссілены і перапалоханы, перамокшы, а з яго сцякала на снег жывая густая вада, на дзікім марозе ён нагадваў паралізаваную істоту амаль без руху, нейкую закамплексаваную і нежывую.

З яго перамокшага кажушка белым лёгкім дымком курылася на марозе пара, а тоненькія струменьчыкі халоднай паскуднай вады застывалі зверху. Яўна прабываючы ў стане трансу Вінцук зрабіў пару крокаў і вада зацяўкала і палілася з галянішчаў высокіх валёнак. Ён увесь дрыжаў, як асінавы ліст, і не мог сказаць ніводнага слова, толькі нешта шыпеў у патугах і зіркаў на страшную «казу», быццам у думках праклінаючы гэту чортаву дзіру з апушчанай сеткай.

— Ну, браток, ты ўцяпаўся! — кружыў, прыбегшы, і яўна разгублены брыгадзір, вышукваючы сухое месца на ягоным кажушку, але знайсці такое не мог. — Ты ўвесь прамок, га-а? — хмурыўся і станавіўся нейкім добрым і свойскім. — Ну скажы хоць слова, чаго маўчыш? Што мне з табой рабіць?

Няшчасны азёрны купальшчык няўцямна глядзеў на яго бяздумнымі вачыма, быццам імкнуўся сказаць, але ад дрыготак і страху не атрымоўвалася, ён адкрываў рот, нешта вымаўляў і тут жа сціскаў сківіцы, застыўшы на месцы і паралізаваны дзікім холадам. Напарнікі стоўпіліся каля яго і кожны хацеў прапанаваць свой варыянт выхаду з няпростай сітуацыі. Маўклівы Анатоль адразу злятаў да саней і прыпёр схаваны пад саломай тоўсты буталь гарбаты на зверабоі, які ўпхнула яму жонка на дарогу, але той аказаўся халодным і замерзшым, а гарбата ператварылася ў казачны карычневы лёд. Нехта прапанаваў небараку пераапрануць, але ж як, бо вакол дзікі мароз, ды не было ў што — лішні кажушок ніхто з сабой не цягаў. Душэўны «Беларусік» тут жа скінуў верхняе адзенне, садраў з кажуха тоўсты шынэль і апраткай з аўчыны ухутаў небараку, пакінуўшы на сабе адну суконную адзежыну: «Неяк вытрываю!» Няшчасны ссінелы Вінцук калаціўся і барада ягоная трэслася, быццам з сярэдзіны яе нехта торгаў, зубы ляскалі, вочы мяняліся і пагрозліва бляклі. «Хлопцы, вашу маць, сёння 30 марозу, вы чулі? Дык ён жа скачанее? — першым выказаў меркаванне востры на язык Васіль, што жыў недалёка ад рыбарні ў маленькай хатцы і гадоў дзесяць не пакідаў невад. — Што мы хернёй займаемся, давайце нешта думаць! — ягоны заклік быў настойлівы і грозна папераджальны. — А то, не дай Бог, самі сашлём на той свет жывога чалавека...»

Нехта прапанаваў укутаць выратаванага тапельца саломай і сенам, памясціўшы на сані, каб хоць трошкі сагрэць. У роспачы падхапілі нечаканую рэкамендацыю па выратаванні і ківалі, гледзячы то на няшчаснага, то на зімовыя падводы з адзінокімі застылымі конямі. Скачанелы рыбак са скамянелым позіркам працягваў дрыжаць і ляскаць зубамі, а гэта нечым напаміналa глухія ўдары летняга граду па шыбах, і быў не ў стане нешта сказаць, тым больш разважліва паступіць. Ён няўцямна глядзеў на неваднікаў, а затым, зразумеўшы, чаго ад яго намагаюцца, загіпнатызавана, не сказаўшы ніводнага слова, няўклюдна, як той кібарг, крутнуўся і пакіраваў да саней. Праз метры тры прыпыніўся, павярнуўся да напарнікаў і з вялікім намаганнем выдавіў з сябе: «Коль-кольку, трэ-трэ-ба-ба...» Імкнуўся яшчэ нешта выдавіць з сябе, але ж аніяк не атрымалася, счарнелыя вусны не хацелі варушыцца, таму павярнуўся і паклыпаў. Пры хадзьбе небарака паводзіўся, як п'яны, а павісшыя на крысах кажушка тонкія свежыя ледзяшы пры кожным кроку глуха звінелі, быццам тыя дзіцячыя цацкі, падвешаныя на навагодняй колькінай ёлачцы.

Коні прыпаднялі галовы і неўразумела ўставіліся на яго, дружна замахаўшы хвастамі. Увесь заледзянелы і ахутаны рванай парай, як зімовая здань, рыбак ледзь падымаў свае ногі, тады Анцюк разам з Васілём падхапілі яго пад рукі. Бязмоўнага і ссінелага Вінцука валаклі да саней, а той на вачах марнеў і траціў сілы, ногі цягнуліся па свежым снезе і пакідалі за сабой дзве шырокія паласы-рагозы. Двое напарнікаў па дарозе супакойвалі, маўляў, адыдзеш, неяк сагрэешся, не бойся, але ён маўчаў, зусім не рэагуючы на іх запэўніванні, толькі, як у ліхарадцы, трос плячыма і кусаў свае ссінелыя вусны. Зняможанага рыбака ўсцягнулі на сані і з усіх бакоў абклалі сухой жоўтай саломай, багатым стугаром насунуўшы яе на спіну, каб неяк сагрэць, вызначыўшы толькі маленькую адтуліну для дыхання, а копачкай доўгай сухой асакі закрылі ногі.

— Хлопцы, што мы хернёй маемся?! — зноў не стрымаўся той самы Васіль, які ўжо амаль нікога не баяўся, бо яму надакучыла цягацца да невада і таму за чаркай прызнаваўся, што вырашыў перабегчы на работу на мясцовую турбазу, дзе намеснікам дырэктара працаваў ягоны стрыечны брат. — Мы ж загубім чалавека, няўжо вам гэта не зразумела? Варыянт застаецца толькі адзін — яго трэба весці на бераг і ў цяпло ці да доктара. Салома — гэта дзіцячая забава, і не болей. Дзе той брыгадзір?

— Я ж не супраць, — напорысты пагляд Флёркі праплыў па знаёмых устрывожаных тварах людзей, застыўшых каля кінутага невада з маўклівымі і разгубленымі позіркамі. — Але ж калі мы папромся на бераг... то страцім цэлую прэмію...Нам жа хочацца зарабіць, так? Анцюку, ведаю, трэба сабраць на новы тэлік, Вася хоча памяняць стары халадзільнік. Гэтак? Да таго ж, што скажа дырэктарка, га? Я тутака думаю не пра сябе, кіплю пра вас. — Ён упіўся вачыма ў свайго сябрука Зафірана, з якім дружыў з дзяцінства і каму аднаму давяраў свае сакрэты: — Давай адыдзем на пару мінут.

Абдаючы свае твары клубамі белага дыму, яны пайшлі бліжэй да «казы» і там спыніліся, нешта імпэтна абмяркоўваючы і пакідаючы ў паветры загрыўкі белай пары. Рыбакі збіліся ў кучу і чакалі рашэння непасрэднага начальніка.

Некалі прысланая дырэктарка Ніна Фамінічна, старая і незамужняя жанчына, высокая і як шчэпка худая, мела круты нораў і надта благі характар. На работу ў рыбарню мужыкі з вёсак несліся з вялікай радасцю, туды прымалі рэдка, бо гэта з'яўлялася прэстыжнай і выгаднай справай: калі ў калгасе зараблялі па сто восемдзясят ці максімум дзвесце рублёў у месяц, душачыся дзень і ноч, то тут мелі па трыста-чатырыста, а гэта ўжо лічылася не жыццём, а малінай. Адным словам, лафа! Але ж усё залежыла ад Ніны Фамінічны, яна цар і бог. А работы больш нідзе няма, ёсць яшчэ адна турбаза, але там ад людзей няма адбою.

— Значыць, наш Вінцук жывы і на тані не памрэ, — найграна бадзёра заявіў брыгадзір, вярнуўшыся з нарады са сваім сябруком. — Пастараемся доўга не мусоліцца, думаю, Вінцук выцерпіць...Сёння ўсім нам патрэбны грошы і без іх чалавек нішто. Мы раздушаныя казяўкі ў гэтай краіне і пустыя шмакадзяўкі, якія толькі могуць сябе цешыць адзінай радасцю — верай у шчаслівы замагільны свет. Падыміце руку, хто можа пражыць без рубля? Няма такіх, вось бачыце. Давайце ў тэмпе да невада!

Цягнучы таню і завіхаючыся каля невада, рыбакі як па чарзе спяшаліся да саней, туды да Вінцука і, затаіўшы дыханне, усё слухалі, ці падае прыкметы жыцця. А тое ў ім яшчэ цеплілася, на марозе ледзь прыкметнае белае воблачка парывіста прабівалася з пакінутай адтулінкі ў саломе — значыць, дыхае, а калі дыхае, то жыве! Праўда, толькі той самы Васіль, занадта нізка нагнуўшыся над санямі, зноў пачуў невыразнае шаптанне: «Коль-лю, ка-ка...» І ўсё на гэтым. Быццам няшчасны жадаў нешта перадаць ці папрасіць, але не хапіла сілы, і падобнае, трошкі падумаўшы, напарнікі спісалі на элементарнае трызненне ад холаду ці высокай тэмпературы, што, не выключана, магла з'явіцца ў моцна прастужаным арганізме і якую зараз нічым не вымерыш. І не больш таго. Абкладзены капой жоўтай саломы няшчасны ціха дыхаў, з пакінутай невялікай дзірачкі ціха віўся ледзь прыкметны беленькі дымок, і рыбакі ведалі, што напарнік жывы, і падобная думка здымала прадчуванні блізкай трагедыі. Праўда, перастаў зусім гаварыць, калі не лічыць таго дзіўнага шэпту, заплюшчыў вочы і не рэагаваў на людзей. Але ж, трошкі падбадзёрылі больш аптымістычна настроеныя мужыкі, важна, што Вінцук так не трасецца, як раней, паводзіць сябе спакойна, а гэта ўжо, значыць, пад саломай і пры дапамозе кажушка Віктара сагрэўся і справа йдзе на лад. А той сапраўды ляжаў, абкладзены з чатырох бакоў стугаром сухой саломы, быццам падрыхтаваны да сярэднявечнага рытуальнага спальвання. Небарака маўчаў, толькі нейкі час, нібы трошкі сагрэўшыся, раскрыў вочы, асалавелым позіркам уставіўся ў адно месца і быццам часцей задыхаў, затым перастаў расплюшчваць вочы, увесь суцішыўся і скруціўся, пасля твар ягоны перакасіўся і ніжняя вусна ўціснулася і патанела.

Калі праз высечаную «казу» падымалі наверх карму, якая хадуном хадзіла ад жывой рыбы, раптам вельмі моцна заіржаў Орлік і пачаў рваць аброць, як з перапуду, той чорны разумны конь, прывязаны да саней з няшчаным рыбаком, хоць дасюль ні разу не падаваў свой голас і маўклівa стаяў з заінелай белай спіной. Сказаўшы, што на пяць хвілін адлучыцца, на чарговыя аглядкі паспяшаўся брыгадзір. Назад вярнуўся з пачарнелы тварам і з маскай непрыкрытай тугі на твары.

— Пайшоў ад нас Вінцук, — ён сказаў зусім ціха, быццам баючыся некага патрывожыць, і голас ягоны сарваўся. — Скалеў, бядак, як камень.

— Ты што? — аж падскочыў ад нечаканасці Анцюк і шпурнуў на снег пустую скрыню для рыбы.

— Вочы трошкі раскрыты і кажушок пакрыўся наледдзю, — брыгадзір яго быццам не чуў, смаркануўся носам, зняў тоўстую брызентавую рукавіцу, голай рукой пацёр вочы і тут голас зусім сарваўся: — Няма рыбака, шкада, добры быў мужык, нічога не скажаш, яшчэ трое дзетак...

Паслізнуўшыся, Васіль скочыў да лябёдкі і сцішыў гул рухавіка, глыбокая сетка застыла над лёдам: — Тваю маць, а што я вам казаў? Трэба было яго адразу перці на бераг у цяпло! Хер з ім, тым тэлікам ці маім халадзільнікам! Не паслухалі, далба...бы!

Яшчэ не паверыўшы пачутаму, крайне ўзрушаны Васіль у напружанай мёртвай цішыні бягом кінуўся да саней, разгроб густую копку саломы, ухапіў Вінцука і прыпаднаяў. Патрос нябожчыка за каўнер у жаданні вярнуць назад дух, паляпаў па шчоках, а пасля нейкі час трымаў руку на скронях, быццам правяраючы тэмпературу цела.

— Вам так трэба гэтыя праклятыя грошы? — выйшаў ён з сябе, прыбегшы назад. — Вы заўтра перадохніце ад іх! Лопніце, як тая мыльная бурбалка! Праклятыя рублі чорным блёкатам засланілі нам вочы і мы аслеплі, анічога не бачачы і не разумеючы таго, што з намі адбываецца!

— Заціхні, занадта шмат пляцеш пустога! — брыгадзір паспрабаваў яго супакоіць.

— Не затыкай мне рот, гаўнюк! — зараз Васіль не помніў сябе ад шалёнага гневу і не надта падбіраў словы для выражэнняў. — Вы брыгада дубалобаў! Заўтра пішу заяву і ўцякаю на турбазу, каб мае вочы вас не бачылі! Калі ў чалавека на першым месцы грошы — ён становіцца падобным на тую самую здзічэлую скаціну, якой трэба толькі смярдзючая здыхляціна і не болей. Мы неўпрыкмет трацім сябе і становімся жывёлінай, во так...Загналі на той свет такога добрага чалавека, злыдні няшчасныя! Зараз кучкай шкадуем яго, аж слёзы па срацы цякуць. Ой і вылезуць бокам вашы грошы, вось убачыце!

Рыбакі слухалі з вінавата апушчанымі галовамі. Віктар зняў сваю вушанку з авечай скуры, выцер ёй лоб і стаў на калені. Прыплюшчыўшы вочы, узняў галаву ў неба і моўчкі перажагнаўся, зноў абцёрся, яўна баючыся заледзянелых слёз на твары. Тады астатнія маўкліва перахрысціліся, праўда, у працэсе жалобнага крыжавання не стаўшы на калені і гледзячы не ў неба, а на сані з нябожчыкам. Прызнанне хрысціянскай веры начальствам прыезджым часцей за ўсё не заахвочвалася і не шанавалася, дырэктарка не раз хвалілася, што яна камуністка і заўзятая прыхільніца сацыялізму. Вось чаму цырыманіял праходзіў неяк засушана і спешна, нібы баючыся начальніцы, якой нехта можа расказаць пра ўсё, а тая, глядзі, рэзка падрэжа прэміяльныя. Брыгадзір пасля ўсіх неяк нязграбна, можа ад холаду ці ад таго, што даўно падобным не займаўся і развучыўся, склаў трохкутнікам пальцы на правай руцэ і абвёў свой сілуэт святым дзействам: «Не ведаю, ці ёсць мая віна, яго б і так маглі не давезці. Ён, прамокшы наскрозь, даў бы дуба па дарозе...»

З лову вярталіся зусім не так, як звычайна — хоць рыбы злавілі шмат, а людзі без усялякай радасці. Наперадзе маркотныя коні з бліскучымі спінамі цягнулі двое саней, а за імі ззаду з панурымі змрочнымі тварамі маўкліва ішлі мужыкі. Гэта нагадвала тужлівую жалобную працэсію — усе патупіўшыся і з нізка апушчанымі галовамі, стараючыся не сустракацца вачыма адзін з другім, быццам кожны разглядаў свае падмокшыя валёнкі з моцна наліпшым снегам. Хоць, здавалася, дзядзькі сёння павінны скакаць ад радасці — такога багатага ўлову не выпадала даўно і для рыбы ледзь хапіла месца ў санях, пару скрынь яшчэ памкнуліся перакінуць да Вінцука, трошкі пасунуўшы яго і павярнуўшы набок. Але пасля разважылі і вырашылі любым чынам скрыні ўціснуць на адну падводу, надта нягожа рыбу везці побач з нябожчыкам, бо ягоная душа моцна пакрыўдзіцца, а пасля такі ўчынак можа ўсім вылезці бокам. Да таго ж і Васіль надта жорстка папярэдзіў пра калектыўную адказнасць за смерць напарніка. На пярэднім возе везлі нябожчыка, акуратна прыхаванага ад марозу жоўтай саломай, якому Васіль з Віктарам спачатку паправілі шапку на галаве, нацягнуўшы ніжэй у жаданні больш прыкрыць вушы, каб на холадзе не настывалі, быццам сябрук жывы і мароз адчувае, пасля прыплюшчылі халодныя мёрзлыя вейкі, каб не разыходзіліся, і тыя адразу ж зліпліся, як прыклееныя; рыбакі ўсё стараліся рабіць акуратна, быццам чалавека рыхтавалі пакласці ў труну. Трошкі пастаялі і падумалі, а затым падабраўшы лепшы і роўненькі ахапак сухой асакі пакамечылі і падклалі пад галаву, каб было больш зручна, і тая ляжала як на маленькай падушачцы. А вось сюды, побач з тапельцам, ніхто не сеў, аддаючы Вінцуку хоць на гэты раз даніну глыбокай павагі. З напышлівым выглядам дырэктарка якраз круцілася па тэрыторыі рыбарні і спаткала невадны хаўрус. Хоць мясцовы люд у вочы начальніцы падлізна ўсміхаўся, пастаянна паўтараючы ейнае імя па бацьку і такім чынам паказваючы сваю сімпатыю, але ў душы не любіў і нават пагарджаў, бо, усе ведалі, што тая штомесяц атрымоўвае кучу грошай, недзе дзве тысячы пяцьсот рублёў, прычым на законных падставах — уладнікі зверху дазволілі выпісваць мясцовым начальнічкам па 300-400 працэнтаў прэміі. Незадаволеныя яе вялізнымі грашыма двое рыбакоў пасылалі скаргу ў Мінск, параўнаўшы свае заробкі з ейнымі, але адтуль паведамілі, што закон не парушаны, а смелых пісараў праз паўгода дырэктарка выгнала з працы. Коратка пачуўшы ад брыгадзіра пра трагедыю на возеры, Фамінічна на пару хвілін прызадумалася, але ж вялікага спачування не выказала: — Ну он же на глазах умер, никто его не убил? — спакойна разважыла, праводзячы позіркам сані з акалеўшым Вінцуком і тулячы свой кашчавы падбародак у каўнер барсуковага футра. — Не порнул ножом и не покалечил? Тогда проблем нет, все оформим по закону. Так и быть, пойду на нарушение, уже после смерти выпишу ему побольше премию, передай жене... Але брыгадзір, пануры і маўклівы, нечакана і адкрыта акінуў яе пагардлівым позіркам і паспяшаўся за санямі з нябожчыкам, якога на гэты раз спулкай вырашылі адвезці жонцы ў недалёкую вёсачку.



# Вінцэсь Мудроў

**празаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.**



# Начная дарога

Студэнцкае жыццё «на бульбе» вядомае. Удзень, пад панылым восеньскім дажджом, збіраеш караняплоды, потым вячэраеш у імправізаванай, збітай з аполкаў і зацягнутай поліэтыленам сталоўцы, нарэшце, куляеш бутэльку «чарніла» і выпраўляешся з сябрамі ў суседнюю вёску на скокі. І выпраўляешся не пехатою, а на калгасным транспарце — пачэпленым да «беларуса» вазку. Таго самага, з рэшткамі гною на бляшаным дне і з пагрозлівым надпісам «Перавозка людзей забаронена!» на борце. Трактарыст таксама падпіты і, падбадзёраны бязладнымі песнямі, свістам, дзявочым віскатам і звернутымі да яго воклічамі: «Лёха, гані не менш ста!», цісне на ўсю жалезку. Назад, праўда, трактар едзе не так хутка, бо ў Лёхі-трактарыста хмель выпетрываецца з галавы, а студэнты ўжо не гарлаюць і не спяваюць, бо галоўных пеюноў у вазку няма: пашыліся ў стагі ды капешкі з мясцовымі дзеўкамі.

Вось і студэнт 3-га курса Мішка Ананчанка (сябры звалі яго проста Анана) у першы ж вечар падхапіў на скоках вясковую бібліятэкарку, штоночы завіхаўся з ёю, і дахаты вяртаўся пад раніцу. Жылі яны ў Мазалях, а на танцы ездзілі за чатыры кіламетры, у вёску Бажкі. Любошчы даліся Мішку ў знакі: небарака змарнеў з твару, схуднеў і стукаўся плечуком у вушак, пераступаючы раніцай парог хаты.

Тае ночы Мішка, як заўсёды, пашыўся з каханкай у салому, але быў не ў гуморы. Пабольвала галава, салома калола бакі — сядзець давялося на высокай тарпе, — паволі церусіў дождж, а бібліятэкарка, упершыню за ўвесь час іх спатканняў, пачала з дакорам у голасе казаць, што ён хутка з'едзе і адразу ж на яе забудзецца. Урэшце Анану абрыдлі дзявочыя дакоры і ён, пачуўшы гітарнае брынканне і лямант каля клуба, з'ехаў на азадку з тарпы. Хацеў паехаць дахаты разам з усімі, і тут жа з апалым сэрцам пачуў перарывістае ляскатанне трактара, якое паволі аддалялася. І ўсё ж такі гэтым разам ён падаўся ў Мазалі раней звычайнага. Нават не пацалаваў дзяўчыну на развітанне. Проста паціснуў гарачую руку і потым, тупаючы вясковай вуліцай, сцепануўся ад роспачных усхліпаў за спінай.

Ісці трэба было кіламетр па асфальце і яшчэ два кіламетры па гразкай, здратаванай глыбокімі каляінамі, праселіцы. Ратуючыся ад тых усхліпаў, Анана пусціўся па шашы як ветрам гнаны, і толькі дайшоўшы да павароткі, азірнуўся, дастаў з кішэні пачак «беламору» — цыгарэт у тутэйшай краме не было, — і ад нечаканасці выпусціў з зубоў папяросіну... Аднекуль з гары на зямлю абрынулася штосьці цёмнае і важкае. Анана прысеў ад сполаху і незадаволена плюнуў пад ногі. Гэта ягоны аднагрупнік Васька Кончыц скочыў з разгалістага дрэва, якое расло ля дарогі.

— Тху, бляха... напужаў, — выдыхнуў Мішка, падбіраючы з пад ног беламорыну. — Папяроса патрапіла ў лужыну, размокла і Анана, расціснуўшы яе ў кулаку, абабіў далоні.

— Ты чаго на дрэва ўзлез? — запытаўся Мішка, зірнуўшы на цёмную крону.

Васька нічога не адказаў, адно зацкавана, з убітай у плечы галавой, аглядзеўся.

«Зубамі звоніць, — з усмешкай на вуснах падумаў Анана, прыпальваючы новую папяросу, — баіцца адзін ісці, вось і чакае спадарожніка. Відаць, таксама спазніўся на трактар. Але чаму на дрэва ўзбіўся?»

— Дай і мне, — папрасіў Васька, тыцнуўшы пальцам у пачак.

Уздыхнуўшы, Анана ўпіхнуў у Васьчын рот беламорыну.

— І запалкі, — працадзіў Васька скрозь сцятыя зубы.

— З курыльных прыладаў адна пыса, — пажартаваў Анана, чыркнуўшы запалкай. — Дык хто цябе так напужаў?

Замест адказу аднагрупнік з шумам выпусціў дым.

Яны пайшлі краем праселіцы. Васька — асцярожна, на паўсагнутых нагах, — дыбаў першым, а Мішка, усё з той жа іранічнай усмешкай на вуснах, следам за ім.

Абапал дарогі шчыльнай сцяной рос алешнік, цёмныя нетры якога былі разлінаваны шэрымі палосамі бярэзін. Ад алешніку патыхала сырасцю, грыбамі-апенькамі і прэлым лісцем. Колькі часу яны ішлі моўчкі, і на Мішку стала навальвацца цяжкая дрымота. Ён нават прысніў бібліятэкарку, ды тут наперадзе пачуўся неспакойны Васьчын голас.

— Анана!

— Ну, — Мішка адчайдушна пазяхнуў.

— А ты на ваўка калі-небудзь узбіваўся?

— Не даводзілася, — буркнуў Анана і, зганяючы з вачэй дрымоту, пацёр пальцамі павекі. — А ты?

Васька хвіліну маўчаў, разважаючы, відаць, ці казаць тое суразмоўніку.

— Ды воўк наогул за мной гнаўся.

— Калі?

— Ды во, каля паваротокі. Пёр па кустах, як той лось па кукурузе.

— І ты з перапуду на дрэва сігануў? — хмыкнуў Анана.

Такія словы Ваську відавочна не спадабаліся і ён, мацюкнуўшыся, прыспешыў крок. Мішка хацеў паведаміць сябру, што ваўкі такой парой на людзей не нападаюць. Гэта ўжо калі зімой, як у зграю саб'юцца. Але потым махнуў рукой. Не было ахвоты мянціць языком.

Яны зноў пайшлі моўчкі, і Мішку зноў пачало забіраць на сон, і яму зноў прыснілася бібліятэкарка, і Васька чарговым разам вярнуў да жыцця.

— Анана!

— Ну, — прамовіў Мішка, змагаючыся з позехам. — Васьчына балбатня пачынала ўжоназаляць.

— Старая бабця, у якой жыву, распавяла адну гісторыю, — Васька знянацку замаўчаў, і Мішка зноўку выдыхнуў:

— Ну.



— Карацей, дзесьці перад самай вайной ішоў ноччу чалавек гэтай самай дарогай — з Бажкоў у Мазалі. І вось ідзе, значыцца, і раптам бачыць — на дарозе жанчына стаіць... уся ў белым. Ну падышоў той чалавек бліжэй і бачыць: кабета нетутэйшая. Валасы чорныя з-пад белай касынкі выбіваюцца і ў іх белы гарлачык уплецены. Прыгожая была, але ўадначас і штосьці страшнае таілася ў позірку. «Ці можаш мяне да Мазалёў давесці?» — спытала. «Давяду, — кажа, — а ты хто?»

Дрымота збегла з вачэй і душу кранула халодная пройма спалоху.

— А далей? — з насцярогай спытаў Мішка, скасіўшы вока на тоўстую бярэзіну, якая белай зданню тырчала наўзбоч дарогі.

— Тс-сс, — сыкнуў Васька, узняўшы ўгору палец.

Наструнена лыпаючы вейкамі, Мішка прыслухаўся. Порсткі ветрык шамацеў у алешніку, ціха рыпала старая бярэзіна, і дзесьці далёка, ці не ў саміх Бажках, бязладна брахалі сабакі.

Ні слова не сказаўшы, Мішка пашыбаваў шырокім крокам, дэманструючы тым самым, што яму абрыдлі гэтыя недарэчныя жахі, і сябрук — задыхана, з панікай у голасе, — прагугніў:

— Хтосьці бяжыць за намі.

— Ды хто тут можа бегаць... сярод ночы, — ужо без ранейшай упэўненасці прамармытаў Мішка, зрабіў рашучы крок і на палову галёнкі праваліўся ў залітую вадой калюжыну. — Тфу, йоп... — вылаяўся Анана, нагнуўся, збіраючыся зняць чаравік, ды так і застыў з сагнутай хрыбецінай.

Там, за спінай, сапраўды нехта быў, нехта бег, нячутна перабіраючы нагамі, нехта дыхаў і вякаў, пазіраючы ім услед хіжымі вачыма.

«А можа гэта тая ведзьма, пра якую казаў Васька?» — мільганула ў галаве, і ў той жа міг да вушэй даляцела пляксканне вады ў лужынах. Сябрук сігануў па калюгах, гучна ляпаючы кірзачамі і махаючы дзеля балансіроўкі рукамі.

Мішка кінуўся следам. Спачатку чыкіляў з чаравікам у руцэ, затым, скачучы на адной назе, паспрабаваў насунуць абутак, паваліўся, сяк-так абуўся і даў такога цубака, што вомігам дагнаў Ваську, хоць той і быў чэмпіёнам інстытута па спрынце. Здавалася, ведзьма вось-вось учэпіцца ў каршэнь сваімі кашчавымі пальцамі. Прымроілася нават, што гэта бібліятэкарка, перакінуўшыся ў ведзьму, бяжыць за ім, каб перагрызці глотку.

Змораныя, яны спыніліся перавесці дых. Навокал ужо былі не кусты, а голае поле, і ў разрэджанай цемрані, на дарозе, і сапраўды штосьці краталася. Але цяпер гэтае самае «штосьці» ужо не здавалася такім жахлівым і неўзабаве азвалася жаласлівым бляяннем.

— Авечка, — выдыхнуў Анана, адчуўшы, што схаладнелае сэрца, якое імгненне таму гатовае было выскачыць вонкі і гучна бомкала ў вушах, сунялося і стала цёплым.

Па дарозе бег вялізны, з белай мецінай на пакатым лобе, баран. Ён быў увесь у дзядоўніку, а ў завіткі рагоў убілася лісце. Рагаты свавольнік блізка не

падышоў. Спыніўся непадалёку і, з недаверам крутнуўшы галавой, прывітаў падарожных:

— Бе-э-эээ.

— Дык гэта ж Яшка, у маёй гаспадыні жыве, — жвавым голасам прамовіў Анана. — Тры дні як знік. Дзе толькі не шукалі.

Пачуўшы сваё імя, баран подбегам кінуўся да Мішкі. Пазнаў сваіх, бо Анана пару разоў частаваў яго скібкай хлеба.

— Ну і напужаў ты нас, браток, — Мішка зняў з баранавых рагоў пажухлае лісце. — Гаспадыня з ног збілася, цябе шукаючы, а ты немаведама дзе цягаешся.

Пасля такіх слоў баран вінавата апусціў галаву.

— Ну добра, пайшлі ўжо. Дома будзеш вінавацыцца, — Анана падхапіў з Яшкавага вуха шышку дзядоўніку і задаволена пацёр далоні: раней гаспадыня заўсёды наракала, калі ён прыходзіў пад раніцу, а цяпер, пабачыўшы свайго гадунца, магчыма, і пляшку паставіць.

На даляглядзе пазначылася палоска няўтульнага святла. Дарога ішла ўгору і з кожным крокам відарысы мазалёўскіх хат, якія стаялі на гары, усё яскравей адбіваліся на тле той палоскі.

Мішка зноў згадаў бібліятэкарку, ды думкі ўвесь час перабівала Яшкава бляянне. Баран убачыў родную вёску і брыкліва шыбаваў дахаты, праз кожныя дзесяць метраў спыняючыся, і павярнуўшы галаву, зычным бляяннем падганяючы спадарожнікаў. Але начныя прыгоды спадарожнікаў дарэшты змарылі і яны з цяжкасцю перастаўлялі ногі. Каля крайняй хаты сябры парукаліся і Васька, панурыўшы вочы, прамармытаў:

— Ты... гэта... не кажы нікому, як мы тут бегалі. А то засмяюць, паскуды.

— Ладна, — буркнуў Мішка і, расшпіліўшы ватоўку, памацаў мокрыя падпахі.

# Шчасце

У кожным студэнцкім інтэрнаце ёсць пакой, які жартам называюць «каюткампаніяй», і куды вечарамі любяць завітваць суседзі па паверху. У інтэрнаце, пра які тут размова, гэта сорак першы пакой. У ім жывуць студэнты будфака — ленінскі стыпендыят Сцёпка Аўчыннікаў — стрыжаны пад «бобрык» мацак, які, дзякуючы сваёй фрызуры, займеў мянушку Вожык; нізенькі і вечна смаркаты Мішка Таляронак, а таксама цельпукаваты і падслепаваты малец з дзіўным прозвішчам Дрыль. Менавіта так, па прозвішчы, яго ўсе і клічуць. Сама па сабе гэтая тройца нічым асабліва не вылучаецца, і сорак першы пакой, у якім яны месцяцца, наўрад ці займеў бы статус «каюткампаніі», калі б туды не наведваўся Лёшка Пілімон. Лёшка быў іхнім аднакурснікам, жыў з бацькамі ў цэнтры горада, і амаль штовечар завітваў у інтэрнат, каб перапісаць лабараторную работу альбо заданне па тэарэтычнай механіцы. Апроч таго, згаданая тройца рабіла яму курсавыя працы. Не за так, вядома. Лёшка звычайна прыносіў пляшку гарэлкі і торбу прысмакаў. Аднойчы нават прынёс пляшку шатландскага віскі. Яно і не дзіва. Бацька Лёшкавы працаваў у гандлёвым прадстаўніцтве за мяжой, таму ў сына і джынсы былі на азадку, і грошы адразу ва ўсіх кішэнях.



Зазірнем і мы ў тую «каюткампанію». Зараз там чужых людзей няма. Ідзе экзаменацыйная сесія, таму ўсе пашыліся ў свае пакоі ды рыхтуюцца да іспытаў. Вось і Вожык з Мішкам Таляронкам сядзяць за сталом і, заціснуўшы далонямі вушы, чытаюць канспекты. Пры гэтым ленінскі стыпендыят чытае моўчкі, а Таляронак услых. Праз два дні ў хлопцаў іспыты па супрамаце. Прымае іх Барыс Пятровіч Пыр'еў — звяруга, а не выкладчык. Пазаўчора здавала раўналежная група, дык ён аж пятнаццаць чалавек выправіў на пераздачу. Нездарма Барыса Пятровіча ў студэнцкім асяродку завуць Вупыр'евым.

Іхні сябрук Дрыль таксама ўзяўся было штудыяваць задачы па супрамаце, але неўзабаве паклаў на крэсла акуляры, накрыў твар разгорнутым задачнікам і захроп. Ды так гучна, што сябры заціснулі вушы. Надоечы Дрыль здаў на «выдатна» іспыты па электратэхніцы і ўсю ноч піячыў з дзеўкамі-аднагрупніцамі, якія жылі на другім паверсе.

Спаў Дрыль на голай сетцы, падклаўшы пад галаў гадавую падшыўку часопіса «Комсомольская жизнь» за мінулы, 1973 год, якую сцягнуў з Чырвонага кутка. Небарака ўжо два месяцы не плаціў за інтэрнат, і камендантша забрала сяннік разам з усімі пасцельнымі рэчамі.

Дрыль хаця і хроп, але спаў чуйна, і да ягоных вушэй далятала шморганне Таляронкавага носа і панылае мармытанне: «Цвёрдасць стрыжня пры выгінанні ўяўляе сабой каэфіцыент прапарцыйнасці паміж момантам выгінання і крывізной восі стрыжня». І Дрыль уяўляў у сне той стрыжань, які ртутна свяціўся і злёгку трашчаў ад нагрузкі, пагрозліва выгінаўся, нарэшце, пад гучны Пілімонаўскі вокліч: — Прывітанне, зубрылы! — са шкляным храбусценнем пераламаўся, і Дрыль спалохана размежыў павекі. Ну вядома, гэта Пілімон плюхнуўся азадкам на крэсла і раздушыў акуляры.

— Куды ты, йоп, успёрся! — выдыхнуў Дрыль, падхопліваючыся на ногі.

Абодва шкельцы трэснулі на павучыную сетку. Дрыжачыя пальцы падхапілі зламаную дужку.

Пілімон вінавата пачухаў патыліцу, палез у нутраны кішэнь пінжака па грошы.

— Ды не перажывай ужо так. Куплю я табе новыя «фары». А яшчэ і пляшку прастаўлю.

Дрыль, уздыхнуўшы, зноўку лёг, паклаў задачнік на твар.

Тым часам Таляронак — ён заўсёды бегаў за паддачай, — падхапіў вялізны тубус, які стаяў у куце. Вахцёрка часцяком правярала студэнцкія сакваяжы, а вось у тубусы ніколі не зазірала.

— Што браць... пару бутэлек «чарніла»?

— Не, з такога выпадку вазьмі пляшку гарэлкі. І што-небудзь на зуб, — сын гандлёвага прадстаўніка перадаў Таляронку грошы.

— І яшчэ пляшку шампану! — здушана прасіпеў Дрыль, і цяжка было зразумець — усур'ёз ён кажа, ці жартуе.

Пілімон дакорліва хітнуў галавой, кінуў на стол пакамечаны трульнік.

Таляронак выбег з пакою, а Пілімон, запабежліва крэкнуўшы, прамармытаў:

— Гульчатай, пакажы тварык...

— Ды пайшоў ты, — зласліва гыркнуў Дрыль з-пад задачніка, крутнуўшыся тварам да сценкі.

— У яго ў тумбачцы старыя акуляры ляжаць, таксама пабітыя, — паведаміў ленінскі стыпендыят, не адрываючы вачэй ад канспекта.

Пілімон палез у тумбачку, доўга там поркаўся, нарэшце ўзрадавана выгукнуў:

— О, дык мы зараз зламаную дужку заменім — і будуць як новыя.

— Як но-овыя, — расцягваючы зыкі, перадражніў Дрыль, не павярнуўшы галавы. — У іх правае шкельца трэснула.

— Ты з гэтым шкельцам, здаецца, паўгода хадзіў. І цяпер пару дзён паходзіш, — сын гандлёвага прадстаўніка прыцішыў голас: — У вас шыла няма?

Неўзабаве Пілімон выйшаў на калідор і хвілін праз пяць вярнуўся з шылам і малатком у руках, пасля чаго, выкарыстоўваючы ў якасці кавадла білу ложка, стаў малаціць малатком па канцы шыла, спрабуючы зрабіць з яго мініяцюрную адкрутку.

Мружачы адно вока і сапучы, Пілімон доўга важдаўся з акулярамі, адкручваючы ды закручваючы малюпасенькія шрубы, нарэшце задаволена аддзьмухнуўся:

— Зрабіў з двух адны. Насі свае глядзелкі і мяне нахвальвай.

Дрыль спачатку адмахнуўся локцем, але потым усё ж насунуў «глядзелкі» на нос. Адна дужка была даўжэй за другую, правае вока муляла расколіна і самі акуляры не трымаліся на пераноссі і спаўзалі на канец носа.

— Ты дужкі гумкай за патыліцай звяжы. Спадаць не будуць. У маёй бабулі такія, — жартаўліва параіў Вожык, у гэты момант ад парогу грымнулі: — Прывітанне сакурснікам! — і ў дзвярной пройме паўстала няўклюдная постаць Ваські Хмыза з суседняга пакоя.

Васька меў дзіўную звычку: заяўляцца да суседзяў якраз у той момант, калі Таляронак выпраўляўся за «чарнілам». Пабачыўшы, што ў куце няма тубуса, сусед стрымана кернануў.

— Ну распавядай, — Пілімон натхнёна паціраў далоні. Зглямэзданыя ім акуляры хоць і атрымаліся няўклюдныя, але ж неяк трымаліся на Дрылёвым носе.

— Аб чым?



— Як супрамат здавалі.

Васька Хмыз на імгненне пасур'ёзнеў.

— Ды што распавядаць. Лютуе Вупыр'еў. Пятнаццаць чалавек завярнуў, — Васька закінуў у рот «прыміну», нервова чыркнуў запалкай і, звяртаючыся да Вожыка, паведаміў: — Асабліва ў тэорыю не ўлягай. Галоўнае задачу рашыць. Адзінае, што спытвае з тэорыі, гэта закон Гука.

— А вось і мы! — гэтым разам у дзвярной пройме паўстаў Мішка Таляронак. Падышоўшы да стала парадным крокам, ён выцягнуў з тубуса бутэльку шампану і бутэльку гарэлкі.

— Яшчэ пачак пельменяў узяў, — крыкнуў Мішка, шыбуючы на кухню. — Смажаныя пельмені былі фірмовым студэнцкім закусонам.

— Сір, кліко на сталe, — з іранічнай інтанацыяй выгукнуў Пілімон, ляпнуўшы Дрыля па спіне.

— Колькі можна піць! Трэба да іспытаў рыхтавацца, — незадаволена адрэагаваў на Пілімонаўскую іронію Сцёпка Аўчыннікаў.

— Ідзі ў наш пакой. Там цішыня. Усе насы ў канспекты ўбілі, — кіўнуў ленінскаму стыпендыяту Васька Хмыз.

Праз колькі хвілін Таляронак прынёс з кухні патэльню, на якой сквірчэлі смажаныя пельмені.

— Слухай, Пілімон, — у Дрылёвым голасе па-ранейшаму гучалі ноткі незадаволення, — спрачаемся на бутэльку гарэлкі.

— Ну...

— Давай я зараз, не адкаркоўваючы пляшкі, вып'ю з яе пяцьдзясят грамаў вадзяры.

— Як гэта? — разам запыталіся Хмыз з Пілімонам.

— Вып'еш? З закаркаванай? — уразіўся Таляронак, і на момант нават перастаў шморгаць носам.

— А калі не вып'еш? — запытаў Пілімон, разважаючы — як можна выпіць гарэлкі з закаркаванай бутэлькі.

— Тады я прастаўляю.

— А грошы дзе возьмеш?

— У дзевак пазычу, — сказаў як адрэзаў Дрыль, падымаючыся з ложка.

Усе тры бяседнікі застылі як ў фінальнай сцэне «Рэвізора», а Дрыль тым часам па-гаспадарску рупліва працёр насоўкай выемку на дне бутэлькі шампану, адкаркаваў пляшку гарэлкі, наліў у выемку пад завязку — туды дакладна лезла пяцьдзясят грамаў — і выпіў нагбом.

— Э-ээ... ты казаў — гарэлкі вып'еш. З закаркаванай бутэлькі, — азваўся Пілімон.

— А я ваду выпіў?

— Ну дык з іншай жа пляшкі піў, — уставіў слова Таляронак.

Дрыль незадаволена зірнуў на смаркача, які заўсёды стараўся падлабуніцца да Пілімона.

— Ах, так... тады б'емся аб заклад, што я лязо праглыну!
— Якое лязо? — ускінуў брыво Пілімон.
— «Няву», ясны перац.
— А чаму менавіта «Няву»?
— Яна больш смакуе.
Бяседнікі разумелі, што ніякіх лёзаў Дрыль глытаць не будзе, але ў чым быў падвох не дабіралі розуму. Памаўчаўшы і задуменна памыліўшы вуснамі, Пілімон урэшце падхапіўся, пачаў лічыць грошы, а налічыўшы тры з паловай рублі драбязой, кіўнуў Таляронку:
— Дванаццаць капеек у дзевак пазычыш.
Усе навокал галіліся электрычнымі брытвамі, і «Няву» не так проста было знайсці. Васька Хмыз прымружыў веі, згадваючы — хто на іхнім паверсе голіцца дзедаўскім метадам — і неўзабаве яны з Пілімонам падаліся да дзвярэй.
Запанавала трывожная ціша. Дрыль задуменна пашкрабаў макаўку. Гэтай хвіляй ён ўжо шкадаваў, што ўблытаўся ў гісторыю з глытаннем ляза, і стаў абдумваць — як адмовіцца ад небяспечнай забавы, але тут на калідоры капытліва затупалі і ў пакой уваліўся добры тузін інтэрнатаўцаў. Пілімон з Хмызам, відавочна, раззванілі па паверсе, што іхні сябрук будзе глытаць лязо, народ і рынуў паглядзець на такое дзіва.
— А вось і «Нява», якая табе смакуе, — Пілімон з падступнай усмешкай на вуснах памахаў пакецікам з лязом.
— Кіньце вы лухтой займацца, — з дрыготкай у голасе прамовіў ленінскі стыпендыят Сцёпка Аўчыннікаў. Вожык пайшоў быў да суседзяў, але пачуўшы па небяспечны атракцыён, вярнуўся назад.
Дрыль паволі выцягнуў лязо з пакету, паказаў грамадзе, з урачыстай павольнасцю паклаў на высалаплены язык.
— Э-ээ... харэ барзець, — выдаў Пілімон з інтанацыяй лёгкай панікі. — Кішкі парэжаш, а мне адказвай.
Глытальнік лёзаў сядзеў моўчкі, з нерухома-адчужаным тварам. Дый як будзеш штосьці казаць з вострым лязом на языку.
— Ты што, бляха, перавучыўся? — не сунімаўся Пілімон, але Хмыз схапіў яго за рукаво.
— Ды не хвалюйся ты. Ён жа лязо не праглынуў, а толькі паклаў на язык. Вырашыў з нас паздзекавацца.
Дрыль між тым зварухнуў сківіцамі.
— Ці не грызе ён лязіну? — спалохана крыкнулі ад парогу.
— Ды як ты яе згрызеш? — крыкнулі ў адказ.
Дрыль ізноў зварухнуў сківіцамі і Пілімон наблізіў вуха да вуснаў лёзаглытальніка. Пачуўшы кволы трэск, ён спалохана сцепануўся, выцер вільготны лабешнік. Ля дзвярэй усчалася мітусня і з людскога збою вылузаўся Мішка Таляронак. Цiснучы да грудзей тубус, ён зычна шморгнуў носам і запытаў:
— Ну як, праглынуў?



— Ты можаш хоць хвіліну не цягаць смаркаццё? — са злосцю вылаяўся Пілімон, і Мішка пакрыўджана панурыў вочы.
Дрыль сцярожка перакусіў лязо — раз, потым другі, — склаў языком надламаныя кавалкі і перакусіў яшчэ раз. Метал, на шчасце, быў крохкім. Штуку з праглынанне ляза ён бачыў у далёкім маленстве. Яе дэманстраваў п'яны айчым. Вясёлы быў дзядзька. Шкада, памёр, абпіўшыся мэтылавым спіртам. Праўда, айчым, перад тым як пакласці лязо ў рот, папярэдне тупіў яго наждаком. Не на людскіх вачах, вядома, а цішком. Тут жа даводзілася храбусцець не ўжываным лязом і Дрыль прыкметна хваляваўся.
Струшчыць метал трэба на мязгу, а таму ён мерна варушыў сківіцамі, не чуючы людскіх размоў і толькі аднойчы, калі нехта прапанаваў выклікаць «хуткую», насупіў бровы і рашуча страсянуў чупрынай. Цяжка сказаць — колькі часу ён жаваў лязіну. Відаць, доўга, бо сёй-той з гледачоў сышоў з пакою. Аднак сябрукі — Пілімон, Таляронак, Вожык і Хмыз — стаялі поруч, сагнуўшыся склюдам, і ў такт яму варушылі вуснамі — як гэта робяць бацькі, калі кормяць манкай немаўля.
— Ну як ты? — запытаўся пасля доўгага маўчання Пілімон, і Дрыль высалапіў язык.
На языку цямнела чорная каша.
Дрыль паказаў пальцам на бутэльку шампану, маўляў, запіць трэба, Пілімон спешна, непаслухмянымі пальцамі, адкруціў дроцік на рыльцы бутэлькі, пластмасавы корак шпокнуў у столь, і ўвішны струмень заліў ягоныя фірмовыя «Левісы».
Праз два дні, спякотным чэрвеньскім ранкам, Дрыль нерашучай хадою падышоў да аўдыторыі, дзе Вупыр'еў прымаў іспыты.
— З'еў з галадухі лязо і заганарыўся? Палкай носа не дастаць, — жартам сустрэлі яго дзеўкі-аднагрупніцы, і давялося тлумачыць, што акуляры падаюць з носа, таму і даводзіцца хадзіць, задзёршы галаў. Пакуль ён гэта тлумачыў, з дзвярэй аўдыторыі выкуліўся Лёшка Пілімон. Ляснуўшы па сцягне залікоўкай, ён каротка выдыхнуў: «Пераздача», а ўбачыўшы Дрыля, прасвятлеў тварам.
— Ну як ты? — задаў Пілімон усё тое ж пытанне, але Дрыль адмахнуўся і зайшоў у аўдыторыю.
Тэарэтычны білет выпаў адносна лёгкі: дэфармацыя металу пры павышаных тэмпературах, а вось зірнуўшы на аркушык з задачкай, Дрыль схаладнеў душою. Трэба было зрабіць разлік шарнірнай бэлькі, наладаванай размеркаванай сілай. Паспрабуй, разлічы, калі ад адных формул робіцца млосна.
Дрыль здаваў апошнім.
— Чаму вы такі пакамечаны? — спытаў Вупыр'еў, і пытанне гэтае нічога добрага не абяцала.
— Сплю апрануты. Камендантша сяннік з падушкай забрала.
Выкладчык зморана перавёў дых і зірнуў у вакно, — згадаў, відаць, сваё безграшоўнае студэнцтва.

— Ну давайце, адказвайце на пытанні білета.

Дрыль натхнёным голасам пачаў адказваць, але выкладчык яго перарваў і папрасіў намаляваць дыяграмы паўзучасці для розных напругаў. Намаляваная дыяграма Вупыр'ева, здаецца, задаволіла, і ён папрасіў паказаць задачу. Пазіраючы на няўцямныя крамзолі, выкладчык пацёр лабешнік, узняў на студэнта дакорлівыя вочы:

— Ну а пра закон Гука вы што-небудзь чулі?

Дрыль напісаў дзве формулы, прычым з такім натхненнем, што прадзёр асадкай паперу.

— Добра, хоць гэта ведаеце, — выкладчык адкінуўся на прыслон рассохлага крэсла.

— Кажуць, вы надоечы лязо з'елі.

Дрыль баднуў галавой.

— А на якую халеру?

Давялося пацепнуць плячыма.

— Якіх толькі дзівакоў няма на свеце, — прамармытаў Барыс Пятровіч, узяў залікоўку і, пачухаўшы асадкай глюгасты нос, размашыста напісаў: «здавальняюча».

Дрыль ужо падыходзіў да інтэрната, як пачуў за спінай дзявочы шэпат: «Лязо з'еў, і не папярхнуўся».

Следам за ім ішлі дзве дзяўчыны, з выгляду, першакурсніцы.

«Знайшлі чаму дзівіцца, — падумаў Дрыль, узяўшыся за ручку дзвярэй, — я дзесяць хвілін таму супрамат здаў з першага заходу. Хай і на кволы «трайбан», але ж здаў! Вось гэта дзіва».

Развалістай хадою Дрыль зайшоў у інтэрнат, зазірнуў, па старой завядзёнцы, у паштовую ячэйку пад нумарам «41», і выцягнуў адтуль грашовы перавод на сваё імя. Гэта маці адарвала ад сваіх нішчымных заробкаў сорак рублёў, каб падтрымаць сына.

— Мілая мама! — уголас прамовіў сын, і дзяўчынёхі, якія ішлі следам, уважліва на яго паглядзелі.

Дрылю, аднак, было не да іх. Зараз ён пойдзе на пошту, атрымае саракоўнік, з'есць у гарадской кавярні адразу два абеды, замовіць новыя акуляры, заплаціць за два месяцы інтэрнацкага жыцця і выспіцца дасхочу на свежых прасцінах. І ў прадчуванні ўсяго гэтага Дрыль сцепануўся ад шчасця.





# Цань Сюэ

**літаратурны псеўданім кітайскай пісьменніцы.
Яе сапраўднае імя Дэн Сяохуа. Нарадзілася ў 1953 годзе.
У 1969 годзе закончыла пачатковую школу і вымушана была пайсці працаваць на завод.
З сярэдзіны 80-ых гадоў пачала друкаваць свае творы ў такіх салідных выданнях, як «Жэньмінь вэньсюэ», «Чжунго», «Чжуншань». «Хаціна на гары» — адно з першых яе апавяданняў, выклікаўшых, як і астатнія, вострую дыскусію сярод крытыкаў.
Наватарская проза Цань Сюэ не зусім звычная для КНР, дзе цягам доўгіх гадоў праяўляць увагу да патаемных глыбінь душы чалавека не лічылася вартым «рэвалюцыйнай літаратуры».
Як заўважыў пісьменнік Ван Мэн «яе акупунктура імгненна намацвае патрэбную болевую кропку».
Сама аўтарка называе сябе паслядоўніцай Кафкі, вывучэнню творчасці і асаблівасцяў мастацкага стылю якога прысвяціла не адну працу. І сапраўды ўплыў Кафкі даволі відавочны ў яе творах.
Пісьменніца апублікавала больш дзесяці апавяданняў, тры аповесці і раман.
Кнігі яе прозы выдадзены на роднай мове ў Тайване, у перакладзе на ангельскую мову ў ЗША, а цяпер і па-беларуску ў «Верасні».**

# Хаціна на гары

За нашым домам на лысай гары стаіць драўляная хаціна.

Штодзень я прыбіраю ў шуфлядзе. У астатні час сяджу ў крэсле, абхапіўшы рукамі калені, і прыслухваюся да выцця. Гэта сівер хвошча па яловай страсе, а ваўчыны крык адгукваецца ў цясніне.

Скрозь выццё даносіцца голас маці: «Гм, ты ў шуфлядзе і за ўсё жыццё не прыбярэш», — на яе твары мільгае хітрая ўсмешка.

«Хіба вы не чуеце?» — крычу я злосна. — «Як месяц засвеціць, вакол нашай хаты блукаюць ваўкі. Я запалю святло — і пазіраюць на мяне жоўтымі вачыма. У суседнім пакоі вы з бацькам так моцна храпіце, што збаны дрыжаць у шафе. А я чую, быццам на гары ў хаціне зачынены чалавек. Ён да самага світанку разгневана грукае ў дзверы».

— Кожны раз, як ты заходзіш у наш пакой і нешта там шукаеш, я проста калачуся ад страху, — выпаліла маці, утаропіўшы на мяне вочы, і адступіла да дзвярэй. Твар яе перасмыкнулі дрыжыкі.

Аднойчы я вырашыла ўзабрацца на тую гару і ўсё разведаць. Як вецер сціх, я пачала пад'ём. Карабкалася вельмі доўга, ад пякучага сонца кругі плылі перад вачыма, і кожны каменьчык на шляху мігцеў, нібы язычок полымя. Задыхаючыся ад кашлю, я ішла па гары вакольнымі шляхамі. Пот сцякаў па твары, засціляючы вочы і закладваючы вушы. Вярнуўшыся дамоў, я спынілася каля люстэрка: на мяне адтуль пазіраў нехта ў брудных ботах і з вялікімі фіялетавымі мяшкамі пад вачыма.

Я чую, як хатнія перашэптваюцца: «З ёй нешта не тое...».

Яны счакалі, пакуль я звыкну да цемры, і схаваліся — я чую іх смех. Скарыстаўшы тое, што я нічога не бачу, яны перавярнулі ў шуфлядзе ўсё ўверх дном і выкінулі маіх засушаных матылёў і стракоз. Яны добра ведаюць, што я люблю гэтыя рэчы!

«Яны дапамагаюць табе нарэшце прыбрацца», — кажа мне малая сястрычка. Позірк яе нерухомы, левае вока стала зялёным.

— А ты ведаеш, за нашым домам ваўкі выюць, — наўмысна палохаю я сястру. — Яны бегаюць узад і ўперад вакол хаты і праціскваюць свае галовы ў дзверы. Як сцямнее — заўжды так. Ты ў сне так палохаешся гэтага. Я ведаю. У цябе ногі пацеюць. Ва ўсіх тут у сне ногі пацеюць. Не верыш? Паглядзі, якія мокрыя вашыя коўдры.

На сэрцы ў мяне трывожна, бо з шуфлядкі прапалі некаторыя рэчы. Маці робіць выгляд, нібы нічога не ведае, і адводзіць вочы. Аднак я адчуваю, як яна люта глядзіць на мяне за спінай. Штораз, калі маці так пазірае, у мяне дзервянее патыліца. Я ведаю, што яны закопваюць маю скрыню з гульнёй Го ў калодзежы на заднім двары. Яны ўжо шмат разоў так рабілі. А я кожную поўнач выкопваю яе. А бацькі пільнуюць і нібы ніяк не рэагуюць.

За вячэрай я рашылася і сказала ім:

— Там на гары — маленькая хаціна.

Аднак усе, апусціўшы галовы, далей сёрбаюць свой суп. Нібы ніхто мяне і не чуў.

— Ад парываў ветру ажно пацукоў хістае! — я больш не вытрымліваю і кідаю палачкі. — Каменне з гары ляціць і з грукатам б'ецца аб нашу заднюю сцяну. А вы ўсе так палохаецеся, ажно ногі ў вас пацеюць. Хіба вы не помніце? Зранку заўжды коўдры мокрыя. Увесь двор завешаны вашымі мокрымі коўдрамі.

Бацька раптам зірнуў на мяне адным вокам, і я адчула, што гэта тое самае знаёмае воўчае вока. І тут я зразумела: мой бацька кожную ноч ператвараецца ў аднаго з тых ваўкоў, блукае вакол нашай хаты і пранізліва вые.

— А яшчэ паўсюль мігцяць белыя плямы, — я адной рукой хапаюся за плячо маці, якое трасецца. — Так рэжа вочы. Табе нічога. А я, як вярнуся ў пакой, сяду ў крэсла, абхаплю рукамі калені — і выразна бачу: на яловай страсе нехта ёсць. Не можа быць, каб вы яго не бачылі! Ён сядзіць там і пад вачыма ў яго таксама вялізныя фіялетавыя кругі. Гэта ад бяссонніцы.

Раззлаваўшыся, бацька вымавіў: «Кожны раз, калі ты рыешся каля калодзежа, нас з мамай нібы падвешвае ў паветры: мы кідаемся, дрыжым, хочам ступіць на зямлю, але не можам».

Бацька адвярнуўся да вакна, каб не бачыць майго позірку.

— Аднойчы на дно таго калодзежа я згубіў свае нажніцы. У сне я заўжды імкнуся дастаць іх. Аднак на раніцу я разумею, што глупства нейкае, і я ніколі ніякіх нажніц не губляў. І маці кажа тое ж самае. Аднак з галавы гэта не выходзіць. І усё паўтараецца. Лежачы, я раптам магу адчуць трызненне ад таго, што нажніцы іржавеюць там, у глыбіні калодзежа, а я чамусьці іх не магу дастаць...

Тата пазірае на акно, заседжанае мухамі. У размытым адлюстраванні я бачу яго змучаны твар, увесь пакрыты зморшчынамі, нібы хто распаласаваў нажом.

— Неяк я стаў апускаць вядро на дно, але вяроўка была цяжкая і слізкая, і я ўпусціў яго. Вядро з неверагодным грукатам разбілася. Я хутчэй пабег у дом, глянуў у люстэрка: з левага бока усе валасы пасівелі».

«Паўночны вецер — сапраўдны злачынца», — кажу я. Дрыжу ад жаху, твар мой ледзянее, у жываце — маленькія ільдзінкі. Я сяжу ў крэсле і слухаю, як яны няспынна звіняць.

Я ўвесь час хачу прыбрацца ў шуфлядзе, аднак мне ў цемры мроіцца маці. Яна ў суседнім пакоі ходзіць узад і ўперад: там-там-там-там. Гэта мяне нервуе. Я хачу забыцца на яе крокі, таму пачынаю прагаворваць пра сябе: «Раз, два, тры, чатыры, пяць...» Крокі раптам спыніліся. А маці, уся пазелянеўшая, паказалася ў дзвярах і прашаптала: «Мне прысніўся брыдкі сон, ажно дасюль на спіне халодны пот».



«А яшчэ на ступнях, — дадала я. — У вас ва ўсіх пацеюць ступні. Учора вы зноў намачылі коўдры».

Сястрычка падбегла да мяне і цішком сказала, што маці хоча зламаць мне руку, бо стук дзверцаў шуфляды зводзіць яе з глузду. Як пачуе — хапаецца за галаву і акунае яе ў ледзяную ваду, ажно да прастуды.

«Гэта так дзіўна, — позірк сястрычкі заўжды такі нерухомы, што коле мне ў шыю. — А я чула, як тата казаў, што нажніцы у калодзежы ўжо гадоў дваццаць ляжаць... Не ведаю ў чым справа, але так сталася даўно...»

Я змазала завесы шуфляды алеем і бязгучна яе адчыніла. Зрабіла так некалькі разоў — у суседнім пакоі крокаў не чуваць. Я абдурыла маці! Так падмануць каго заўгодна можна, галоўнае — пільнасць. Я ўзрадавалася. Усю ноч я старанна наводзіла парадак у шуфлядзе. З кожнай хвілінай яна станавілася ўсё чысцей і чысцей. Раптам перагарэла лямпа — у суседнім пакоі маці халодна ўсміхнулася.

«Выключы святло. У маіх жылах ад гэтага кроў пульсуе, нібы ў барабаны б'юць! Паглядзі!» — маці паказала на скронь, там нібы поўзаў тоўсты чарвяк. «Лепш бы якое малакроўе, чым адчуваць гэты вечны барабан, які рэагуе на любы гук». Яе тлустая рука апусцілася мне на плячо. Рука была ледзяная, і з яе ўвесь час капала вада.

Нехта варушыцца ля калодзежа. Я чую, як раз-пораз ён апускае туды вядро, а яно з грукатам налятае на сценкі. Калі пачынае світаць, ён кідае гэтае вядро і ўцякае. А калі я адчыняю дзверы, то ў суседнім пакоі бачу тату ў нейкім трансе. Ён скрабе ложак рукамі, на якіх выступілі сінія вены, і роспачна стогне. Маці, уся ўскудлачаная, махае венікам. Кажа, што як надышла раніца, праз акно заляцела цэлая зграя жукоў. Яны б'юцца аб сцены і падаюць на падлогу. Маці ўстала, каб прыбраць, апранула хатнія шлёпанцы: яе ногі ад укусаў вельмі распухлі і сталі падобныя на свінец.

«Ён.., — маці паказала на непрытомнага бацьку. — Ён сам сябе пакусаў».

А я зноў кажу: «У хаціне на гары сапраўды стогне чалавек. А ў чорны віхор закручваецца лісце горнага вінаграду».

«Ты чуеш? — маці ў паўцемры з нейкай прагнасцю прытуліла вуха да падлогі. — Гэта тыя пачвары падаюць вобзем. Як стала светла, дык уварваліся сюды!»

У той дзень я вырашыла зноў падняцца на гару. Я вельмі добра гэта памятаю. Спачатку я сядзела ў крэсле, абхапіўшы рукамі калені, а потым расчыніла дзверы і ўвайшла ў асляпляльную бель. Я ўздымалася ўверх, вочы зноў рэзалі язычкі полымя. А на гары не аказалася ні вінаграду, ні малой хаціны.

**Пераклад з кітайскай мовы Алены Сцяпашкінай.**



# ВЕРАСЕНЬ
# КРЫТЫКА
# ПУБЛІЦЫСТЫКА
# Э С Э

васіль дранько-майсюк кацярына шчасная
уладзімір сіўчыкаў васіль зуёнак
таццяна казановіч раіса крывальцэвіч
лявон валасюк леанід дранько-майсюк
сяргей чыгрын яна будовіч
эдуард дубянецкі анатоль трафімчык



# Васіль Дранько-Майсюк

драматург, рэжысёр, акцёр, эсэіст. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працаваў у беларускіх тэатрах (РТБД, ТЮГ). Жыў у Маскве, дзе выкладаў акцёрскае майстэрства ды іграў у тэатры «Снарк». Зараз працуе літаратурным рэдактарам у часопісе «Вясёлка». На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага ідзе яго п'еса «Пясняр», прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.



# Той, хто можа нас вырataваць ад жукоў-буслаедаў...

Янка Маўр — пісьменнік, якога памылкова залічваюць у кагорту дзіцячых творцаў. Так, на першы погляд яго кнігі былі для школьнікаў, але пры больш уважлівым прачытанні разумееш, што гэта не так. У таталітарныя часы дзіцячая літаратура стала той выратоўчай нішай, дзе быў шанец застацца сапраўдным мастаком, яркім арыгінальным, смелым і парадаксальным.

Яго прыхільнікамі былі фанаты дадаізму і авангардызму. Гэта не выпадкова, бо натхніўшыся фільмам Фернана Лежэ «Механічны балет» (1924 г.), Янка Маўр піша «Недарэчныя гісторыі» (якія публікуе ў «Беларускім піонэры», 1927, № 12, чэрвень), у серыі вясёла-алагічных навелак дзеянне адбываецца па кінематаграфічнаму прынцыпу адваротнай здымкі, калі плёнка, як бы пракручваецца ў супрацьлеглым парадку. Аўтар, праўда, просіць у канцы публікацыі, каб дзеці перапісалі яго твор «правільна», так як трэба, але і без гэтага непатрэбнага перапісвання «Недарэчныя гісторыі» ўспрымаюцца дзівосна, не горш за эксперыменты таго ж Лежэ, Марселя Дзюшана ці братоў Бурлюкоў: «На рынку стаіць воз, і вясковы дзядзька нібы прадае бараніну /.../ затым, падпрагае каня, загортвае на возе барана, садзіцца і рухае каня назад. /.../ Сям'я ўжо стаяла напанадворку і чакала /.../ Распраглі каня, узялі барана /.../ палажылі на зямлю, прынеслі вантробы і пачалі пхаць у сярэдзіну. Правялі нажом па жываце — і ён зросся. Потым узялі скуру, прыладзілі яе да галавы і разам з ёй прыстасавалі да барана... Баран слаба задрыгаў нагамі і ажыў...»

Янкам Маўрам захапляліся прыхільнікі нервова-экзальтаванага мастацтва, у стылі прозы Дастаеўскага, жывапісу Георга Гроса, паэзіі Готфрыда Бэна: «По-Інго /.../ пачаў трэсціся. Вочы заблішчалі, ажывіліся, але ў іх была адна толькі дзікая злосць. На губах з'явілася пена. Нарэшце, ён ускочыў і пачаў азіраццa. Потым схапіў са сцяны кінжал і выскачыў з хаты. Размахваючы нажом, ён кінуўся на першага сустрэчнага. Той зваліўся... /.../ зваліў адну жанчыну, якая ішла з вадою. Яна была забіта насмерць... (раман «Амок», Янка Маўр. Збор твораў, т. 2. 1975 г.). Многім героям Янкі Маўра, як і некаторым з нас, уласцівы падобныя прыступы гневу, калі хочацца выскачыць на вуліцу і пакрышыць усіх на капусту, разадраць на шматкі.

Яшчэ адзін яскравы прыклад, дзе гэты момант атрымаў сваё адно з найбольш выразных выяўленняў — «дзіцячае» апавяданне «Помста кошкі» (Беларускі піонэр, 1928 , № 2, студзень). Тут расказваецца гісторыя фермера-садыста, які замкнуў пад свірнам кацянят і не пускаў да іх маму, чакаючы, пакуль яны здохнуць. Калі ж бедныя жывёлкі загінулі, то няшчасная кошка, пахаваўшы іх, стала падазрона ласкавай з гаспадаром. І вось, як толькі наступіла ноч: «Дорынг адчуў, што яму страшэнна сціснула горла. Калі ж прачнуўся, дык сапраўды пачуў несцярпімы боль: гэта кошка ўчапілася за горла, а кіпцю-

рамі драпала твар і рукі. Кроў з горла лілася струменямі, ужо Дорынг адчуў, што дыхаць не можа. Спрабаваў крыкнуць, але замест гуку вырваўся толькі хрып і бульканне...»

Свет Янкі Маўра — гэта інфернальная прастора, дзе фізічна моцныя садысты здзекуюцца са слабейшых, катуюць іх усімі даступнымі спосабамі, каб затым спакутаваныя ахвяры адказалі не менш страшнай помстай. Дзеянне можа адбывацца ў пекле, на Марсе, у Новай Гвінеі, Палессі, у першабытнасці — усюды пануе моташае пачуццё хуткага скanання. Яркі вобраз тут — прывязаны за нагу да пальмы хлопчык, які не можа ўцячы ад кракадзіла («Незвычайная прынада», Беларускі піонэр, 1927, №19, кастрычнік): «Настаў самы жудасны момант. Няшчасны хлопчык ірваўся, дрыгаў нагой і крычаў /.../ А кракадзіл падпаўзаў. /.../ Вось ужо дзве стрэльбы добра нацэліліся... Але раптам побач раздаўся нейкі рык. Паляўнічыя мімаволі азірнуліся, а тым часам кракадзіл ухапіў хлопчыка за нагу і пацягнуў у ваду... Тады толькі раздаліся два стрэлы, зноў два. Кракадзіл задрыгаў целам і зрабіўся нерухомы... з нагою хлопчыка ў роце...»

Адзін з яскравых твораў пра помсту ахвярамі сваім катам — гэта «Звяры на караблі» (Беларускі піонэр, 1927, № 17). Карабель перавозіць праз акіян заапарк. Сытая публіка забаўляецца, назіраючы за «мілымі» звярамі, але пачынаецца шторм, аб'екты забавы вызваляюцца і палююць на сваіх прыгнятальнікаў: «...у расчыненыя дзверы ўскочыў ягуар /.../ загінула адна жанчына... /.../ на матроса аднекуль з шчыліны напала /.../ змяя і абкруцілася вакол усяго цела

— Ратуйце! — закрычаў ён і пакаціўся на зямлю...»

У іншых апавяданнях (як ужо ў згаданай «Незвычайнай прынадзе») жывёлы выступаюць своеасаблівай «машынай для забойства», абсалютнай, безэмацыйнай метафарай пакутлівай смерці, ад якой нікуды не ўцячэш: «Кінуўся Тубі ў адзін бок, кінуўся ў другі, паказаўся ўжо над вадой, але... Жудасны крык, хруснулі косці... Тубі загінуў. /.../ Не прайшло ёй дарма гэта злачынства, загінула і яна. Пацягнулі яе да берагу, разрэзалі ёй горла і бруха і там знайшлі беднага Тубі /.../. Стаіць галосіць матка, над кавалкамі свайго сына» («Слёзы Тубі», Беларускі піонэр, 1927, № 11). Дарэчы, калі гэтае апавяданне выйшла асобнай кнігай у 1930-м годзе (час, калі пачалася першая хваля рэпрэсій), а затым было перавыдадзена ў 1935-м і ў 1938-м, то многія тагачасныя чытачы яскрава ўяўлялі ў вобразе крыважэрнай акулы работнікаў АДПУ, а няшчаснага Тубі, які загінуў ад яе зубоў — атаясамлівалі з сабой.

Пасля вайны ў Янкі Маўра выходзіць твор, дзе ён адназначна выступае супраць савецкай таталітарнай сістэмы. Гэта апавяданне мае чыста Кінгаўскую назву «Яно» (Беларусь, 1946, №2).

Калі ў Стывена Кінга ў аднайменным рамане гэтае містычнае ЯНО было ўвасабленне абсалютнага зла, якое сілкавалася страхамі дзяцей, то беларускі пісьменнік надае свайму персанажу цалкам іншае, пакутніцкае значэнне. Але напачатку твор выглядае, як тыповы страшык: «...»яно» мела такі выгляд, што і болей вопытныя маглі спалохацца: тоўстае і тлустае, зялёнае і валасатае, і з страшэннай галавой, на якой вызначыліся два вялізных чорных вокі. /.../

— Яно кусаецца, — сказаў кволы хлопчык. Ён глядзеў на «яго» не міргаючы, і ў вачах хлопчыка адбівалася найвялікшае здзіўленне перад «ім» і наогул перад светам, дзе водзяцца «яны»...»

Янка Маўр па-майстэрску апісвае страх дзяцей перад невядомай істотай. На хвіліну, нават пачынае здавацца — яшчэ момант і пачвара кінецца на маленькіх герояў, альбо ператворыцца ў таго ж пякельнага блазна з твора Стывена Кінга.

Але ж не. Раптам з'яўляецца мясцовы «лідар» Лёнька, які загадвае дзецям, «закапаць і забіць» вусеня. Тыя пакорліва выконваюць загад без аніякіх пярэчанняў: «Я адзін застаўся каля свежай магілы, намагаючыся знайсці адказы на пытанні, якія адразу хлынулі на мяне: чаму ўсе пяць самых рознастайных дзяцей у гэтай справе вялі сябе так аднолькава? Які быў бы фінал, каб не з'явіўся гэты рыжы Лёнька? /.../ колькі такіх сцэнак адбываецца вакол нас, і мы іх не бачым!» А «падобныя сцэнкі» неўзабаве сталі ізноў масавай з'явай, з пачаткам новай хвалі рэпрэсій, калі ізноў трапілі ў зняволенне Уладзімір Дубоўка, Барыс Мікуліч і многія іншыя.

Янка Маўр быў адзін з тых незвычайных пісьменнікаў, які ўмеў і ў 30-ыя і ў 40-ыя, хітра схаваўшыся пад маскай казачніка, цудоўна апісаць той страшны час, выдатна выяўляў надламаную нервова-хваравітую псіхіку сваіх суайчыннікаў. Ніводнаму з яго беларускіх савецкіх калегаў не ўдавалася зрабіць падобнае ў сваёй творчасці. Так Якуб Колас складаў свае смутнаглядныя вершы, часам нешта вострае прамільгвала ў Пімена Панчанкі, але менавіта Янка Маўр здолеў у самы творча-неспрыяльны перыяд для нашай літаратуры выказаць той жах, у якім жыў ён і ўся наша краіна.

Як яму гэта ўдавалася?

Такое адчуванне, быццам Янка Маўр і сапраўды гіпнатызаваў цэнзуру, якая прапускала яго смелыя творы, не знаходзіла ў іх нічога крамольнага. Узнікае ўражанне, што пісьменнік гэтаксама магічна ўздзейнічаў і на саміх работнікаў АДПУ. Вядомы факт, калі яго выклікалі ў 1937-м годзе на допыт, з якога, праз некалькі хвілін... адпусцілі. Следчы аказаўся вялікім прыхільнікам яго творчасці, шчыра абяцаў, што Янку Маўра не крануць, і, што самае цікавае, стрымаў сваё абяцанне.

Энергетыка асобы Маўра адчуваецца і сёння.

Ён чаруе і сваімі творамі, і ўласнай асобай. Для многіх сучасных дзяцей (і дарослых) Янка Маўр уяўляецца сапраўдным чараўнікам. Калі пераказваеш школьнікам сюжэты згаданых тут апавяданняў, іх вочы загараюцца непадманным агнём цікавасці. Яны ідуць у бібліятэку і замаўляюць яго кнігі. Калі расказваеш жыццяпіс Янкі Маўра, апісваеш любоў пісьменніка да спірытызму, ёгі, гіпнозу, то захопленыя дзеці пачынаюць выдумляць цэлыя прыгодніцка-фантастычныя гісторыі пра самога літаратара. У іх апавяданнях пісьменнік змагаецца супраць брутальных марсіян, звар'яцеўшага Джэкі Чана, ратуе сакральных буслоў і ўсю нашу краіну ад гіганцкіх жукоў-буслаедаў.

Гэтыя гісторыі яшчэ чакаюць свайго выдання, і думаю, сам Янка Маўр, быў бы ўсцешаны, калі б падобная кніга выйшла ў свет.



# Уладзімір Сіўчыкаў

**пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» ( 1992 г.), кніг прозы: «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Жыве ў Мінску.**



# Уладзева гісторыя

***У траўні адзначыў свой юбілей Уладзімір Сіўчыкаў — пісьменнік, мастак і выдавец. Часопіс «Верасень» шчыра віншуе спадара Уладзіміра са слаўнай датай жыцця і жадае, як ён сам часам кажа, творча-вытворчых поспехаў! А чытачам часопіса прапануем гутарку пра шматгранную дзейнасць юбіляра і ягоны жыццёвы і творчы лёс.***

**Кацярына Шчасная:** —*Уладзімір Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, як вы адначылі свой Юбілей?*

**Уладзімір Сіўчыкаў:** — Сам дзень нараджэння правёў у родным Жодзіне, дзе ў краязнаўчым музеі прайшла святочная імпрэза. Павіншаваць мяне прыйшлі сваякі, сябры, прадстаўнікі мясцовай улады, журналісты, работнікі культуры і адукацыі, педагогі і вучні сярэдняй школы № 5 з музычным ухілам. Быў мой колішні настаўнік і блізкі сябар — мастак і літаратар Алесь Марачкін. У падарунак ад яго атрымаў графічны эскіз каменнага памятнага знака да 100-годдзя БНР. Канечне ж, чытаў свае творы, правёў прэзентацыю выданняў, сярод якіх асаблівую ўвагу землякоў засяродзіў на «Аўтабіяграфіі» фактычнага заснавальніка горада па-над Плісою князя Багуслава Радзівіла (1620—1669). Уручылі мне альбомы па мастацтве, насценны каляндар з рэпрадукцыямі палотнаў мастакоў-жодзінцаў і нават падарункі ад БелАЗа.

**К.Ш.** — *А, увогуле, родны горад часта наведваеце?*

**У.С.** — У Жодзіне бываю і з радасных, і з самотных нагодаў. Сустракаюся з сем'ямі стрыечных сястры і брата. Штогод бываю на Радаўніцу, каб згадаць і ўшанаваць тых, хто пайшоў ад нас у лепшы свет.

**К.Ш.** — *Дзень нараджэння чалавека — гэта свята і яго бацькоў. Раскажыце, калі ласка, пра вашых родзічаў, продкаў...*

**У.С.** — Па лініі бацькі мне ўдалося адсачыць свой шляхецкі радавод, род Булаўскіх са Смалявіччыны ад канца XVIII ст. Па лініі маці (а я нашу якраз матчына прозвішча) мае веды больш сціплыя. Можа з-за таго, што радавод той ідзе з Невельшчыны (цяпер раён у Пскоўскай вобл.). Жонка мая з Барысаўшчыны, з вёскі Траянаўка, дзе настаўнічаў я пасля заканчэння Мінскай мастацкай вучэльні. А яшчэ ў нас ёсць вельмі паважаны сямейнік — 23-гадовая (!) котка Тайга. Аднойчы дачка-школьніца паехала на вакацыях да бабулі сваёй сяброўкі ў Лепельскі раён, а адтуль вярнулася з коткай і кацянём, якому было ўсяго два тыдні. Але калі паставілі спадачак з малаком, яно завурчэла, нібы тыгр. Адтуль і пайшло Тайга (ад англійскага Tiger).

**К.Ш.** — *А як дапамагаюць у вашай творчай і вытворчай дзейнасці жонка з дочкамі?*

**У.С.** — Мне можна зайздросціць — маю ажно тры музы! Жонка Раіса па адукацыі — тэхнар, оптык-механік, але ўжо не адзін дзясятак гадоў непасрэдна спрыяе ў выдавецкай справе. Старэйшая дачка Алеся скончыла аддзяленне



*А.Аркуш, А.Сыс, У.Сіўчыкаў пасля літаратурнай імпрэзы ў Інстытуце народнай гаспадаркі. 1986 г.*

псіхалогіі ў БДУ, а праз год атрымае і дыплом міжнароднага бізнэс-адміністратара Школы Стэрна — аднаго з прэстыжных у свеце ўніверсітэтаў. Малодшая дачка Хрысціна — мастачка і культуролаг, выпускніца Варшаўскага ўніверсітэта, апантаная вандроўніца. Мабыць, генетычна засвоіла тое ад маёй мамы, бабулі Ліды, якая працавала на чыгунцы і аб'ездзіла ці не ўвесь Савецкі Саюз. Хрысціна пабывала ўжо са сваім клубам падарожнікаў у 34 краінах — ад Злучаных Штатаў Амерыкі да Сінгапура, Філіпінаў і В'етнама. Днямі вярнулася з Японіі і паспела расказаць пра свае прыгоды ў праграме «Прыват» Валярыны Куставай (тэлеканал «Белсат»).

**К.Ш.** — *У такім разе ўзгадайце і вы свае падарожжы.*

**У.С.** — З савецкім пашпартам пабываў шмат дзе — ад Карэліі да Таджыкістана. А вось першай замежнай была тыднёвая камандзіроўка ў 1987 годзе ў тагачасную Чэхаславакію. Разам з Уладзімірам Някляевым мы паехалі ў складзе дэлегацыі беларускай моладзевай прэсы. Ён прадстаўляў часопіс «Крыніца», а я — «Бярозку». Мы атрымалі трохі крон на кішэнныя выдаткі, а таксама замежныя пашпарты (іх, праўда, потым схавалі назад у свой сейф камсамольскія кіраўнікі). Неўзабаве пасля таго, як мы вярнуліся дадому, у Чэхаславакіі распаўся іх камсамол, а з мяне з Някляевым потым падсмейваліся, што мы «сакрэтныя агенты»: з'ездзілі, каб разваліць моладзевую арганізацыю.

Пяць гадоў таму мне пашчасціла месяц правесці ў Швецыі, на выспе Готланд, у Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў. Там было так — вось табе стыпендыя, асобны пакой, а гэта — бібліятэка, канферэнц-зала, кухня і іншыя выгоды. І поўная свабода: хочаш — пішы, хочаш — спі, хочаш — шпацыруй уздоўж сярэднявечнай крэпаснай сцяны, у Батанічным садзе ці каля мора.

Яшчэ сярод незабыўных вандровак назаву — італьянскую 2015 года. Усёй сям'ёй былі ўзрушаныя Калізеем, Пантэонам, плошчай і базілікай Святога Пятра, скульптурай «П'ета» Мікеланджэла Буанароці. Там здарыўся пацешны выпадак. Перад вылетам у Рым размаўлялі ў творчай кампаніі і высветлілася,



што Артур Клінаў таксама ляціць у Італію. Канечне ж, ён абсалютна не спадзяваўся сустрэцца — вылеты былі з розных гарадоў, у розныя даты. І што вы думаеце, выходжу я са сваімі дзяўчатамі пад уражаннем ад музеяў Ватыкана, роспісамі Сіксцінскай капэлы, каб адпачыць на лаве ў цяньку, і тут — Артур уласнай персонаю!

**К.Ш.** — *А яшчэ вы знаўца Грузіі...*

**У.С.** — Так, падчас майго навучання ва ўніверсітэце распачалася праграма па абмене студэнтамі, і я з дапамогай сваіх выкладчыкаў Вячаслава Пятровіча Рагойшы і Ніла Сымонавіча Гілевіча некалькі разоў трапіў на стажыроўку, каб вывучаць грузінскую мову і літаратуру. Меў там нават летнюю практыку, пабываў у Горнай Рачы, адным з гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў краіны, дзе запісваў фальклор і пачуваўся часам як той Шурык з «Каўказскай палонніцы». Асноўнымі вынікамі стажыроўкі стаў мой пераклад даволі мадэрновага рамана «Закон вечнасці» Надара Думбадзэ, а таксама ўдзел у падрыхтоўцы і выданні двухтомавай «Анталогіі грузінскай паэзіі».

**К.Ш.** — *У вас ёсць кніга жартоўных апавяданняў «Уладзевы гісторыі». Адны з іх — гэта адавочна ваш вопыт і назіранні, а ёсць і з «іншага хранала-гічнага перыяду», напрыклад, сюжэт пра тое, як Змітрок Бядуля правучыў аднаго лавеласа. Як вы збіралі свае гісторыі?*

**У.С.** — Ведаў я і ведаю пісьменнікаў розных пакаленняў, чуў ад іх і занатоўваў розныя жыццёвыя гісторыі. Яшчэ мне вельмі пашанцавала — маю невялічкую сядзібу на легендарнай Лысай гары пад слаўным Заслаўем, таму маімі суседзямі былі і ёсць вядомыя беларускія пісьменнікі і культурныя дзеячы. Да

*Ля помніка Л.Геніюш у Зэльве. 2007 г.*



прыкладу, шаноўны Анатоль Клышка, аўтар буквара, ніколі не вітаецца словамі «Добрай раніцы!», бо лічыць, што руплівы беларус ледзь прачнецца, а ўжо шчыруе па гаспадарцы, то і вітацца мае няйнакш як «Добры дзень!».

**К.Ш.** — *Чытаючы кнігу, я заўважыла падабенства з мініяцюрамі вашага аднагодка і цёзкі, толькі ў яго творы больш рэзкія і жорсткія...*

**У.С.** — А без падабенства тут і не магло быць! Мы з ім і яшчэ адным Уладзімірам чатыры гады вучыліся ў адной групе мастацкай вучэльні імя А.К. Глебава і нават сябравалі. Потым разам працавалі ў часопісе «Бярозка» ў 1990-я. Там друкаваліся як вядомыя, так і зусім маладыя пісьменнікі, змяшчаліся пераклады. Мы пісалі пра беларускі рок, падавалі постары айчынных і замежных гуртоў, коміксы ад Лявона Вольскага і Алеся Круглякова, праводзілі конкурс «Міс фота «Бярозкі», на які прыходзілі мяхі лістоў ад юных прыгажунь. Мабыць, і сумесная праца сфармавала падобнае бачанне свету.

**К.Ш.** — *У сваіх гісторыях вы часам сатырычна апісваеце даволі пазнавальных асоб. А ці крыўдуеце, калі пішуць на ваш адрас нешта накшталт мініяцюры «Сіўчыкаў і гальштукі», дзе крытыкуюцца людзі, што купляюць «на тры жыцці наперад».*

**У.С.** — Калі цябе згадваюць, значыць, ты чалавек адметны, цікавы, прыцягваеш увагу. Для творчай асобы гэта важна. Існуюць літаратурныя показкі пра тое, як малады Пабла Пікаса жыў досыць няшчымна, але як забагацеў, дык накупіў цэлыя скрыні фарбаў, каб не перажываць, ці хопіць іх наперад. Казалі,

*На радзіме Алеся Адамовіча. В.Іпатава, У.Сіўчыкаў, С.Законнікаў, Г.Бураўкін, Валянцін Тарас. 2007 г.*





што і Рыгор Барадулін панакупляў сабе дзясяткі кашуляў пасля таго, як узбіўся на добрыя ганарары. Таму дзякую таму, хто ставіць мяне з гальштукамі ў гэткі пачэсны шэраг, да таго ж гальштук — гэта яшчэ і сімвал мужчынскага вобразу.

Быў у мяне і прыкры выпадак з паважанай газетай, аўтарам і чытачом якой я з'яўляюся ўжо некалькі гадоў. Адзін ананім вельмі абразліва выказаўся пра мяне ў каментарыях. Я давёў рэдактару, што гэта немалое правапарушэнне, той выбачыўся, паабяцаў паўшчуваць мадэратараў, якія дапускаюць падобныя запісы.



*Арлен Кашкурэвіч. Партрэт пісьменніка Уладзіміра Сіўчыкава. 2005 г.*

**К.Ш.** — *З вашымі фірмамі «Радыёла-плюс» і «Выдавецтва Уладзіміра Сіўчыкава» супрацоўнічалі і цяпер працуюць знаныя лінгвісты. Успомнім хаця б «Слоўнік іншамоўных слоў. Акту льная лексіка» А.М. Булыкі (2005) або «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» Г.У. Арашонкавай і В.П. Лемцюговай (2005). Мовазнаўцы — асобы вельмі прыдзірлівыя і не кожнаму даверацъ свой рукапіс....*

**У.С.** — Я атрымаў вышэйшую філалагічную адукацыю (беларуская і руская мова і літаратура), а таму ведаю, чым адрозніваецца, скажам, арфаграфічны слоўнік ад тлумачальнага. Стаўлюся да сваёй працы з адказнасцю дый маю знаёмых філолагаў, якія могуць пацвердзіць — «Так, гэта надзейны чалавек». Ганаруся выданнем шэрагу слоўнікаў, а таксама ўнікальнымі серыямі «Беларускія ЕўраГраматыкі» і «Беларускія ЕўраРазмоўнікі». Іх ідэю распрацаваў вядомы паліглот і педагог-практык Лявон Баршчэўскі. У першай серыі выйшлі кароткія граматыкі англійскай, літоўскай, латышскай, польскай, нідэрландскай і іншых еўрапейскіх моў. У другой серыі мы прадставілі славацкую і польскую мовы, а цяпер працуем над беларуска-фінскім размоўнікам-даведнікам. Кнігі ствараюцца беларусамі і для беларусаў з улікам нашых інтарэсаў.

**К.Ш.** — *Заўважыла ў вашых творах архаічныя формы: спацьмем, быў за экскурсавода; дыялектызмы: убіўся (улез), петнастоўка (дзяўчына 15-ці год). Адкуль такі лінгвістычны выбар?*

**У.С.** — Жонка часам кажа: ну ты і завярнуў, цябе ж ніхто не зразумее. А я люблю ўчытвацца ў шэдэўры нашых класікаў, люблю пагартаць «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», люблю зазірнуць і ў «Слоўнік беларускіх гаво-




З Адамам Мальдзісам. 2010 г.

рак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Нешта ўзгадваю з таго, як казалі мае родзічы ў Жодзіне, на Барысаўшчыне, пад Неўлем.

**К.Ш.** — *Ці складаным быў пераход ад тарашкевіцы, якой вы карысталіся доўгі час, да афіцыйна зацверджанага правапісу?*

**У.С.** — Агульнавядома, што беларусу ўласцівае лёгкае моўнае «пераключэнне». Таму і перайсці на акадэмічны правапіс не было складным. Я памятаю часы, калі «Бярозка» выходзіла тарашкевіцай, і нас закідвалі прэтэнзіямі настаўніцы, бо вучні не разумелі, чаму яны пішуць «пісьменнік» з адным мяккім знакам, а ў часопісе — іх два. На маю думку, тарашкевіца больш блізкая да практыкі вымаўлення. Рэжысёр Валер Мазынскі казаў мне, што малавопытныя акцёры, калі начытваюць тэкст са звычайным правапісам, не заўсёды разумеюць, што трэба вымаўляць *сьнег, сьмяецца*, а *не снег, смяешся*. Тарашкевіца для мяне — гэта час літаратурна-грамадскага аб'яднання «Тутэйшыя», час працы ў «Бярозцы», мая кніга прозы «Лісты да брата» (1998). Але і цяпер прыватныя тэксты, дзённікі, чарнавікі мастацкіх твораў пішу ёю.

**К.Ш.** — *Калі праводзіцца ўсеагульная дыктоўка пры вашым удзеле, і людзі могуць карыстацца двума правапісамі, двума графічнымі сістэмамі, дык якім чынам тады правяраецца пісьменнасць?*

**У.С.** — Сутнасць дыктоўкі ТБМ не ў самой пісьменнасці, а ў тым, каб людзі рознага ўзросту, полу, веравызнання, палітычных поглядаў селі поруч і напісалі разам беларускі тэкст. Я, дарэчы, перамог у конкурсе на тэкст для першай дыктоўкі, абраўшы прадмову Францішка Багушэвіча да зборніка «Дудка беларуская». Пісалі тады дыктоўку нават замежныя амбасадары. Але здараліся і кур'ёзныя выпадкі. Пасля дыктоўкі ў сталічным Палацы мастацтва адна дзяўчына здала свой бланк на праверку з допісам-удакладненнем «Дыктатар — Уладзімір Сіўчыкаў» (!). Вось так, замест дыктоўшчыка пабыў крыху і за дыктатара.

**К.Ш.** — *А ў трыядзе «выдавец — карэктар — аўтар» хто мае апошняе слова, хто дыктуе?*

**У.С.** — Сапраўды, гэтыя тры асобы могуць доўга спрачацца над пэўным словам або выразам. Для мяне ж больш важна не блытаць факты і рэаліі. Так, у друкапісе аднаго са слоўнікаў, што прынеслі у выдавецтва, прачытаў «Хачапуры — гарачая мясная страва, якая гатуецца ў гліняным гаршчку». Прабачце, я збольшага ведаю грузінскую матэрыяльную культуру, і насамрэч *хачапуры* — гэта мучны выраб з тварагом (яйкам, зелянінаю), бо *хачо* — гэта па-грузінску «тварог», а *пуры* — «хлеб».

**К.Ш.** — *А ці даводзілася адмаўляць аўтарам у выданні кнігі?*

**У.С.** — Канечне, і не раз. Здаралася, што аўтар не вытрымліваў нават жанру замоўленай кнігі. Ёсць лаўсторы, дэтэктыў — у іх свае каноны і сюжэту, і кампазіцыі. Зразумела, можна адправіць рукапіс на дапрацоўку, але калі ўсё безнадзейна — лепш адмовіць.

**К.Ш.** — *Дзіцячая кніга цяпер вельмі запатрабаваная, тут нават утвараецца пэўная канкурэнцыя, у тым ліку ў беларускамоўных аўтараў. Вы склалі зборнік «Залатая яблынька». На вашу думку, якім павінна быць выданне для дзяцей?*

**У.С.** — Акрамя афармлення (ілюстрацыі, колер, фармат, тып вокладкі) у літаратурна-мастацкім выданні я б акцэнтаваў бы ўвагу на змесце. Сучасным дзецям могуць быць не зразумелыя многія рэаліі ці, напрыклад, пэўныя абрэвіятуры. Камроты (камандзір роты) для маленькага чытача — гэта хутчэй прыметнік, накшталт крывароты, клышаногі. Гарадское пакаленне кепска разумее каштоўнасць зямлі, бо моладзь цяпер шмат падарожнічае і мяняе месцы пра-

З У. Арловым, Р. Барадуліным і І. Жарнасек. 2006 г.






*З У. Някляевым на вечарыне памяці Генадзя Бураўкіна. 2014 г.*
*Здымак Георгія Ліхтаровіча*

цы, а таму менш прывязана да пэўнай тэрыторыі. Мастакі дагэтуль малююць тэлеантэны з «рожкамі», а дзеці хутчэй успрымуць сёння антэну-«талерку». Ведаеце, нават паважанаму Рыгору Барадуліну давялося «асучасніць» рукапіс зборніка вершаў дзецям, які нямала праляжаў у дзяржвыдавецтве. Паэт доўга распытваў малодшых знаёмых пра скутары і ролікавыя канькі, інтэрнэт. Так у выдавецтве «Радыёла-плюс» выйшла кніжка «Выпаў грук у грома з рук» (2009).

*З Алесем Бяляцкім у галерэі "Ў". 2015 г. Здымак Валярыны Куставай*





Лічу ўдалай і хрэстаматыю для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, дзе творы пададзены ў тэматычных раздзелах: пра радзіму, пра прыроду, пра сяброўства, пра маму... Вельмі запатрабаванай аказалася «Крынічка», укладальнікам якой была мая жонка Раіса Шастак (1-е выд. — 2006 г., 5-е — 2017 г.). Бацькі школьнікаў і настаўнікі вельмі ўдзячныя за гэтую кнігу, бо нярэдка ў школе задаюць падрыхтаваць верш на пэўную тэму, а тут бярэш том з паліцы і лёгка знаходзіш патрэбнае.

**К.Ш.** — *А якія яшчэ вашы выданні можна дадаць у спіс самых запатрабаваных?*

**У.С.** — Напэўна, гэта томікі серыі «Мая беларуская кніга», у якой выйшла больш за паўсотні кніг беларускай класікі. Гэта невялікія, кішэннага фармата кнігі ў «мяккай» вокладцы і па даступных як студэнту, так і пенсіянеру коштах. Вельмі грэюць душу зборнікі казак, легенд, паданняў і песен «Сіняя Світа» і «Зачараваны замак», да якіх я спрычыніўся як сябра рэдакцыйнай рады і як укладальнік. Вельмі цешыць і тое, што ўдалося перавыдаць амаль усе гістарычныя творы Кастуся Тарасава.




*Серыя "Мая беларуская кніга". 2015 г.*
*Здымак Раісы Шастак*

**К.Ш.** — *Вы цяпер малюеце?*

**У.С.** —Так, але займаюся пераважна графікай. Часам малюнкі спрыяюць прозе, калі робяцца накіды, у нечым падобныя да Быкаўскіх ці Караткевічавых. Вось выйду на пенсію, а тады займуся жывапісам, буду ездзіць на мастакоўскія пленэры ці хадзіць з эцюднікам у Батанічны сад, поруч з якім стаіць мой дом.

**К.Ш.** — *А ці ёсць планы аздобіць сваю будучую паэтычную ці празаічную кнігу ўласнымі ілюстрацыямі?*

**У.С.** — Пакуль запрашаў ілюстраваць свае кнігі блізкіх па духу і светаўспрыманні мастакоў. Кнігу вершаў дзецям «Кошык Велікодны» аздобіла Алена Карповіч, а да «Уладзевых гісторый» падбіраў я рэпрадукцыі Ігара Рымашэўскага, добрыя і іранічныя, напісаныя ў стылі «наіў».

**К.Ш.** — *Дзякуй, спадар Уладзімір, за цікавую размову!*

**Кацярына Шчасная.**



# Васіль Зуёнак

паэт, перакладчык, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі: «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.



# З нізкі «Эцюды і крэскі»

## І корань: Біблія

Яшчэ і яшчэ раз спытаемся: хіба могуць яны зраўняцца — Кніга і «публікацыя» ў Інтэрнэце?

Перш за ўсё — у свеце адчуванняў духоўных.

Кніга (адна, канкрэтная) — рэальнасць, намоленая тысячамі, а то і мільёнамі чалавечых душ і дум, у ёй застаецца часцінка кожнага, хто яе чытаў, трымаў у руках, гартаў старонкі, сагрэў, як сонейкам, сваімі вачыма, размаўляў з ёю... У яе ёсць на гэта памяць. Яна — жывая.

Тэкст у Інтэрнэце пазбаўлены ўсяго гэтага. Ён не можа даць радасці датклівага сумоўя. Інтэрнэт рэальнасць віртуальная. Ён яднае інфармацыйна (за тое і дзякуй яму). А духоўна — ён інструмент адчуджэння...

Яшчэ раз параўнаем велічыні. Кніга — аблашчаная чалавечымі рукамі, сагрэтая чалавечымі позіркамі, адухоўленая чалавекам, узведзеная ім на вышыні духоўнага спадарожніка. Кніга — як сяброўская эстафета, зарука на сяброўства: «Прачытай — і перадай другому»... І — тэкст у шматлюдна-бязлюдным, халодным, тэхнічна-бяздушным Інтэрнэце: пустата, ні перамовіцца, ні, адзначыўшы старонку, пакласці нанач пад падушку — на добрыя сны, каб назаўтра раніцай сустрэцца зноў, як з найлепшым сябрам... Яму, Інтэрнэту, не вядомая цеплыня чалавечых пачуццяў. Гэты монстр жыве ў безасабовай прасторы — чалавека трымае ў статусе «завочніка». І якое ўжо тут «Прачытай і перадай другому»... Як перадаць? Ды і каму?.. Кнопку (ці клавішу) націснуў — і ўсё знікла, як і не было...

А таму не забывайма: Біблія — гэта і значыць: Кніга. У дакладным перакладзе з грэцкай мовы: «biblia — кнігі». Так яно і ёсць на самай справе: «Першая кніга Майсеева», «Другая...», «Кніга суддзяў», «Кніга прарока Іёва» і г.д. А разам яны і ёсць Біблія — Кніга.

Кніга прайшла праз тысячагоддзі. Кніга святая. Кніга вечная.

## «Живе...»

Ля чыгуначнага прыпынку «Зялёнае» на шапіку, які даўно не гандлюе, на ўсіх чатырох сценах — з якога боку ні зайдзі — прачытаеш выведзены крэйдай покліч «Жыве Беларусь!»

Не гандлюе — але працуе закінуты шапік!..

Тут жа, метраў праз пяцьдзясят, на плоце са старых дошак-дылёвак, праўда, нанава скоблаадгабляваных, накрэслена тое ж самае, але не зусім пісьменна: «Живе Беларусь!» Хтосьці, больш «адукаваны па-беларуску», памылку выправіў: закрэсліўшы «и», алоўкам сцвердзіў поверх — «ы». Значыць, — Беларусь не толькі ЖИВЕ, але і ЖЫВЕ!..

А можа, гэта па-ўкраінску хто адкарбаваў: *ЖИВЕ* ! — як спадзяванне Майдана?..

## А ты не сказаў...

*Шкадаванне — Леаніду Дранько-Майсюку*

Кніжачка гэтая (пайменне зусім не прыніжальна-падсмешлівае, а хутчэй прасветліва-пачуццёвае — як выява «Трыстан і Ізольда» на яе вокладцы) з'явілася ў свет аж у 2004 годзе. Кажу «аж», бо трапіла яна на вочы мае і ў рукі мае толькі 28.5.2013 года — на Радзе Саюза беларускіх пісьменнікаў, — падчас прыёму ў Саюз новых сяброў. Ну што ж тут паробіш і што, як кажуць, папішаш: такая сёння доля паэта, і пазнака яе ў выдавецкіх словах: «Наклад 300 асоб.»... З гэтых «300 асоб.», (даю шчырае паказанне) было, ну не «ўкрадзена», а, мякчэй скажам, «прачытана»: «Два бяссонні» — у колькасці «аднаго» з «двух», што па статутнаму пратаколу прад'яўляюцца аўтарам для абмеркавання; і выстаўлены два апраўданні: адно — з удзячнасцю аўтару Наталлі Русецкай і другое — з сяброўскім шкадаваннем Леаніду Дранько-Майсюку, рэдактару «Двух бяссонняў», — прыкладна, такога зместу: «А што ж гэта ты, Леанід Васільевіч, не падказаў мне тады, «аж» у 2004 годзе, прачытаць гэтыя, табою бласлаўлёныя вершы?..»

А прачытаць жа іх сапраўды варта, — такія не «крыклівыя», шчырыя, светлыя, зямныя...

Так-так, тут не «б'юць» па ўяўленні маланкавыя «ўспышкі» і не цьмяніць сэнс абцяжаранае бяссэнсіцаю словапляценне. Тут гаворыць, а можа нават шэпча, душа. На танальнасць гэтую настройвае ўжо самы першы верш, які і даў назву зборніку — «Два бяссонні». «Тваё бяссонне» — «маё бяссонне», — паралелі-дыялог, дзе ў кожнай з чатырох строф «тваймў» (яго) бяссонню даецца тры радкі, а «маё» (яе) — умяшчаецца ў радок чацвёрты, які «важкасцю» сваёю — адзін — перацягвае, не адмаўляючы, прымушае жыць нанова, панoваму дыхаць усе тыя тры. Неадпаведнасці і разам з тым два крылы аднае птушкі, аднаго палёту.

Вось як гэта выглядае:

*Тваймў бяссонню прасторы мала,*
*яно аднойчы сусвет прарвала,*
*цяпер начамі яно блукае...*
*Маё бяссонне цябе чакае.*

Але найперш «зачапілася» мая чытацкая ўвага за малюнак іншы, малюнак дажджу, — ну так атрымалася, туды вока кінула позірк:

*Пальцы зялёных дрэў*
*у валасы дажджу*
*ўблыталіся. Змакрэў*
*плот і дзедаў кажух...*



*Гляк гліняны пусты*
*вісіць дагары дном.*
*Кроплі бубняць па ім.*
*Што гэта: плач ці звон?*

*Вецер суняўся, сціх,*
*недзе зашыўся ў стог.*
*А каля ног маіх*
*мокры сабака лёг.*

Шчыра прызнаюся: не першыя, крыху «пакручастыя», радкі палонілі мяне, — кранулі вось гэтыя: «Змакрэў плот і дзедаў кажух...» Здавалася б (і зусім — наіўна — можа ўзнікнуць гэтае пытанне): ну што ж тут такога незвычайнага? А от жа якраз у гэтай «звычайнасці» і тоіцца паэзія: «заўважыць» тое, што «бачаць» усе, але сказаць пра гэта не «здагадваюцца», праходзяць міма, пераступаюць безуважна... Ёсць дождж, ёсць лісцё, ёсць ветрык... — і ёсць мы... Але гэтае простае «ёсць» столькі тоіць у сабе! Варта толькі прыпыніцца нам і на імгненне прыслухацца... І якая паэзія загучыць!..

Вось і той жа мокры дзедаў кажух... Ды ён жа па малюнку гэтак нагадвае радкі з дзіцячага вершыка аднаго з вучняў Яснапалянскай школы, што зрабіліся ці не класічнымі: «У окна сидит старик в прорванном тулупе...» — з назіраннем Льва Мікалаевіча Талстога: «Ніяк не аддае без барацьбы чалавек і дзіця сваё жывое слова на механічнае раскладанне і нявечанне. Ёсць нейкае пачуццё самазахавання ў гэтым жывым слове...»

Такія вось «незвычайныя звычайнасці» і нараджаюць паэтычнае дыханне Наталлі Русецкай. Можна пагадзіцца, што гэта прыклад з самых элементарных. Але ж затое — паказальны: у чыстым выглядзе, без «дамескаў»...

А цяпер — ці не самае галоўнае, што «падштурхнула» мяне прамаўляць гэтыя словы. Паводле біяграфічных звестак (часопіс «Дзеяслоў») нарадзілася Наталля Русецкая ў Расіі (горад Новы Урэнь), жыве ў Любліне (Польшча), а верш — такі *беларускі*!..

## Чыя хатка?

От зрабіліся ў адной з казак Якуба Коласа лісічка і зайка будаўнікамі. Пабудавалі сабе хаткі. Добра. Але як цяпер сказаць: чыя хатка? У лісічкі — лісічкіна. А ў зайкі? Пытанне не таксабе. Бо, як прыходзілі ратаваць зайку, то: «Воўк стаў на парозе *зайкавай* хаткі», а «Мядзведзь стаў на парозе *зайкінай* (падкрэслена мною.— **В.З.** ) хаткі»... Дык чыя ж то хатка: «зайкава» ці «зайкіна»?.. (Праўда, пеўнік пры гэтым больш абачлівы: проста стаў на парозе...)

Сам казачнік як бы схільны сцвярджаць, што «зайкіна», бо ў назву казкі, у загаловак, тое вынесена. Ды і «зайкаву» хатку толькі воўк і наведаў. Для ўсіх астатніх яна — «зайкіна».

І ўсё ж... З лісічкай — быццам проста: «лісічкіна». А спытайце: чаму не «лісічсына»? — бо сказана ж: «вавёрчына» (а не «вавёркіна») — у Васіля Віткі: «Вавёрчына гора»...

Ну але пагодзімся: у «лісічкі» — «лісічкіна». А было б сказана: «ліса», — тады як? «Лісіцына»... А «заяц»? Зайцава, напэўна ж, а не «зайцына»...

То ў чым жа тут «загадка»?

Каб падступіцца да «развязкі», глянем трошкі шырэй, з іншымі дзейнымі асобамі. І пабачым: «*Жончына* хустка» («*жонкіна*»? — з вялікім пытальнікам) і «*мужыкова* шапка (толькі так! — і не інакш).

От жа «хітрыкі» ў мовы са словам!..

Тады звернем увагу на такую катэгорыю як род: якога роду тая «дзейная асоба» — мужчынскага ці жаночага?.. Здаецца, ці не гэта і дыктуе, якому суфіксу быць у прыналежным прыметніку.

І таму пры ўсім пры тым я і стаю, як той воўк, на парозе *«зайкавай»* хаткі.

## Пастух трубіў...

Як у такіх выпадках кажуць, «не прыядаецца», — колькі разоў ні паўтарай — з кожным разам прыводзіць у захапленне:

*Пастух трубіў —*
*Штаны згубіў.*
*Пастушка йшла —*
*Штаны знайшла:*
*—Пастух, вярніся —*
*Штаны знайшліся!..—*

Гэта ж трэба так натхнёна, так захоплена — да самазабыцця! — трубіць, што ажно штаны згубіў!.. Сцэнка, мініяцюра — ці як яшчэ яе там назваць, — па экспрэсіўнасці малюнка, па выразнасці — і візуальнай, зрокава-выяўленчай, і псіхалагічнай, у непасрэднасці і змястоўнай прастаце сваёй, — проста геніяльныя!..

І тут жа, між іншым, карціць здагадка: а ці не з той самаю пастушкай пастух і штаны згубіў?.. Ага ж... — знайшла не шукаючы. То бо й загукала: «Пастух, вярніся!..»

## Забарона

От жа прыдумала разумная галава: забараніць выкарыстанне, выкрасліць з усіх афіцыйных і не зусім афіцыйных назваў слова «Беларусь»...

Стварылася ў свой час арганізацыя (і рух адпаведны) «Ахова птушак Беларусі»: «АПБ», — загучала ва ўсіх куточках краіны. І раптам: нельга — «Беларусі»... А гэта ж ужо трывала ўжылося, зрабілася такім надзённым і заклічным: АПБ! Як быць? І вынаходлівыя хлопцы, каб ўратаваць, кажучы па-сучаснаму, «брэнд», «знайшлі» замену «забароненаму» слову: «Ахова птушак Бацькаўшчыны», — трохі нехлямяжа, але ж: «АПБ»!..

Быў Саюз пісьменнікаў Беларусі. А цяпер рэгістрацыйнае таўро дыктуе: «Грамадскае аб'яднанне «Саюз беларускіх пісьменнікаў»», — і паспрабуй «адхіліцца» ад гэтых двайных двухкоссяў — адразу санкцыі. Тры заўвагі — і пагроза ліквідацыі... Праўда, бываюць і выключэнні, — для «правільных», набліжаных: «Саюз пісьменнікаў Беларуі» з'явіўся ў піку аб'яднанню «няправільных», — дазвол знайшоўся...

Але ўсё ж... Але — наогул... Чаму гэта нельга: «Беларусі»? Каб лішні раз замаўчаць? Каб занадта часта не гучала? Каб радзей на вуснах і на слыху было?

Іншае тлумачэнне цяжка адшукаць...

## Колькі нулёў?

Чалавечы розум імкнецца «здзівіць» маці-прыроду, узняцца над ёю, паставіць яе ў «тупік» плёнам сваіх тэхнічных вынаходстваў.

А што прырода? А яна моўчкі застаецца вечнай катэгорыяй «у сабе»: адкрые ўсяго толькі маленькую шчылінку, каб чалавек зазірнуў і пабачыў, што далей — новыя і новыя загадкі, — бездань...

Кажуць, ствараецца ў Англіі суперкамп'ютар, які будзе працаваць у 13 разоў хутчэй, чым зараз існуючыя сістэмы, — 16 квадрыльёнаў аперацый у секунду. Божа мой! Колькі ж гэта нулёў? Адразу і не ўцяміш... Мільён — шэсць нулёў, мільярд — дзевяць, трыльён — дванаццаць, квадрыльён — пятнаццаць!..

Вось так будзе гэта выглядаць: 1000000000000000.

Ну і яшчэ, у дадзеным выпадку, трэба шасцёрку «ўставіць»: 16 — з усімі гэтымі нулямі. І ўсяго — адна секунда!..

А прырода парадаксальна кідае свой адказ. Як бы выклік — і зусім з нечаканага боку. У васьмінога — «мозг» у кожнай назе!.. Затое — поўная супрацьлегласць — у кальмара ён «маленькі», да мізэрнасці, а потым зусім адмірае. З-за непатрэбнасці, падказваюць вучоныя...

Вось тут і зразумей прыроду... То: нашых «чалавечых» — хай сабе і камп'ютарных — 15 «пагрозлівых», але мёртвых нулёў, то — раптам: гэты «нуль» кальмараў... Абсалютны нуль!.. Але ж ён — жывы. Бо істота ж, як-ніяк, жывая...

## Запомнім: Хандогі..

Фінал музычнага конкурсу «Шчаўкунок» (расійскі тэлеканал «Культура»). Трансляцыя з канцэртнай залы імя Чайкоўскага. Сярод юных піяністаў перамог беларус Уладзіслаў Хандогі (13 год). Іграў Сен-Санса, — з аркестрам. Тэхніка фантастычная! І ніякай натугі — лёгкасць, палёт. Не, гэта не механічныя, даведзеныя да аўтаматызму, удары па клавішах.

Гукі як бы нараджаюцца самі сабою. Душа ахінаецца крыламі музыкі... Можа гэта і крыху пафасна прагучыць, але адчуванне такое, што перад хлопчы-

кам не інструмент, не механізм для «здабывання» гукаў, а жывы суразмоўца. Аб чым яны? Хлопчык слухае і перадае пачутае людзям...

Нездарма ж атрымаў Уладзіслаў і прыз слухацкіх сімпатый, — галасаванне здзяйснялася праз інтэрнэт.

Пад музычныя акорды, бывае ж такое, раптам узнік «матыў» зусім не музычны, скажам, пэўным чынам, лексічны: а што ж такое «хандогі»?.. Слова з «сакрэцікам». Давялося папытацца сэнсу ў даведніках. «Беларуская антрапанімія» (слоўнік акадэміка М.В.Бірылы) тлумачыць: «Хандога, старабеларускае і рэгіянальнае, той, хто любіць чыстату, ахайны чалавек»...

Цяпер можна этымалогію — у прыватнасці антрапанімію, дапоўніць: «той, хто любіць музыку» — Хандогі Уладзіслаў, — сціплы, немітуслівы, са звычайным хлапчукоўскім тварам, без якой-небудзь «артыстычнай аблямоўкі», юны музычны геній, — беларус!..

Запомнім гэтае імя, — яно таго вартае. Вось толькі ў рускамоўным напісанні, як водзіцца, з'явілася непатрэбнае «й» : «Хандогий», — адкінем яго ...

Дарэчы, педагог Уладзіслава — Ірына Юр'еўна Семяняка, — вось які працягваецца «музычны ланцужок», калі прыгадаць імя выдатнага беларускага кампазітара Юрыя Семянякі...

## З эпіграфам...

Спачатку з'явіліся радкі без эпіграфа:

*Шукаў Зюганаў*
*У нас заганы,*
*Шукаў Праханаў*
*У нас прафанаў, —*

*Ды не знайшлі.*
*З тым і пайшлі*
*Ў сваю Расею*
*«Вечнае» сеяць.*

*А нам прасцей:*
*Хай там расце!*

А потым сведчанне — «свае» пра «сваіх» — само папрасілася ў эпіграф: камуністы, якія знаходзяцца ў апазіцыі да Генадзя Зюганава, ... на сваіх сайтах пішуць, што прыняць Зюганава за камуніста — тое ж самае, што распяць патрыярха Кірыла за веру ў Хрыста...

## «Без языка...»

Калісьці Дзмітрый Меражкоўскі, адзін з апосталаў рускага дэкадэнцтва, заначыў: «... без русского языка и русской революции не сделаешь...»



Дык што ж тады хочуць зрабіць, якую рэвалюцыю, нашы «бязмоўныя рэвалюцыянеры»? З якім народам яны хочуць «гутарку весці»?..

Вось тут якраз ці не варта было б мецъ за фундаментальны ўзор і практычны прыклад «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага...

## Хлопцы!..

Самотным вечарам разгарнуў 3-і том Анталогіі беларускай паэзіі, — 1993-і год. Быў і такі час, былі і такія выданні з яго паэтычным люстэркам. Заключны ў томе (паводле вызначанага рэдкалегіяй узроставага «цэнзу», — магчыма, не зусім вычарпальнага) — Алесь Бадак з чатырма вершамі. Чатыры — але з грунтоўнай творчай заяўкай. Адзін «Куфар», — да самага вечка населены сведкамі жыцця старой Настулі — наўпрост і ў падтэксце — варты ўхвальнай увагі.

Падняўшы яго, тое вечка, адкрываеш з бабуляй цэлы свет, стоены, між іншым, і выказаны не столькі словам, колькі запаветнымі рэчамі з куфэрка , што перабірае старая і, гамонячы з імі, маўчыць. Маўчыць, як яе адзінота...

А папярэдне нас набліжае «да куфра» зусім кінематаграфічнае дзейства — пераход ад панарамнага да глыбінна-сканцэнтраванага. Спачатку адчыняюцца дзверы хаты. Камера абводзіць паглядам усё, што навідавоку, — спрадвечны «дызайн», так бы мовіць, — ад парога да покуця (трэба цытаваць! — не перакажаш):

*У хаце прыцемак.*
*Сонца*
*зламала свой промень*
*аб пажаўцелую занавеску,*
*і яго кавалак упаў на падлогу.*
*Зажмурыўся павук*
*і папоўз у цёмны кут.*

*Ляжыць белае шкарлупінне*
*на чорным прыпечку,*
*поўзае вялікая чорная муха*
*на белай сцяне,*
*стаіць ложак*
*у цёмнай спальні,*
*цьмяна падсвечваючы белай плямай*
*адзінокай падушкі.*
*Да ложка прытуліўся куфар...*

Якая багатая чорна-белая гама! Дыялог святла і ценю: кавалак сонца — цёмны кут (у які — аж зажмурыўся! — хаваецца павук); белае яечнае шкарлупінне — чорны прыпечак; чорная муха — белая сцяна; і: цёмная спальня — з падсветкай белай плямы адзінокай (!) падушкі...

Вось-вось яно, галоўнае: адчыняецца куфар, што «прытуліўся да ложка»:

*...і старая Настуля*
*дастае ношаную-пераношаную адзежу.*

*Глядзіць на яе старая Настуля,*
*перабірае дрыготкімі рукамі*
*і акуратна складае назад.*
*Спачатку —*
*вялікія кашулі мужа,*
*пасля —*
*маленькія кашулі сына*
*і нарэшце —*
*свае небагатыя ўборы...*

Усё выбрана-перабрана да донца:

*Здалося Настулі надоечы,*
*што паклікала смерць*
*і яе...*

Ні прычын, ні вытлумачэнняў... Проста жыццё, пакліканае смерцю...

Як на сённяшняе прачытанне, дык можна і спытацца: як гэта я тады не паімкнуўся «выпраўляць» моўныя «вольнасці» верша (на правах і па абавязку рэдактара таго тома) — «пажаўцелую занавеску», «адзежу»?.. А вось жа ўтрымаўся, — пэўна, «падсвядома» паслухаўся Настулі: так яна гаварыла, гэта яе гаворка... Інакш было б, не раўнуючы, як адмовіць Мележаўскім «людзям на балоце» карыстацца сваім каларытным, спрадвечным маўленнем, — пісьменнік геніяльна «адмовіўся» ад «літаратурнага прычэсвання» мовы сваіх герояў...

Аднак — пра «Куфар». Чаму так варта засяродзіць на ім увагу? А каб падкрэсліць характэрнейшую рысу паэзіі маладых па тым часе творцаў: яе жыццёвую напоўненасць, змястоўнасць пісьма і мовы. На рэальным грунце з гэтай узроставай генерацыі ўзрасла моцная паэтычная кагорта. Чаго — гэта са шкадаваннем заўважаецца — бракуе іншым першым заяўкам сённяшніх дэбютантаў. Часта вершаваная прадукцыя сплятаецца ў іх па схемах штучна прыдуманых, — ідзе гэтакая словазатрата з нулявой інфармацыяй і эмацыйнай інертнасцю... Тут выйсце простае і адзінае: трэба паверыць жыццю.

А прыклад даюць бліжэйшыя па часе творчыя папярэднікі. Імёны? Калі ласка: яны навідавоку ў паэтычнай рубрыцы з першых публікацый. Побач, але кожны са сваёй адметнасцю ці выразным памкненнем да яе. Алесь Пісьмянкоў, Анатоль Сыс, Леанід Галубовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Шніп, Эдуард Акулін, Міхась Скобла, зноў жа — Алесь Бадак... — ну ясна, цяпер гэта ўжо мэтры. А тады, у свой час: маладосць, маладосць з адзнакай выдатнай творчай сталасці...



Дык вось што, хлопцы (хто тут, на грэшнай зямлі, хто жывой творчасцю з нябёс), — няўжо гэта ўсё сплыве ў забыццё (не сказаць «у небыццё» — язык не паварочваецца, вялікі грэх) разам з мовай, разам з народам?..

Пытанне рытарычна-агульнае. А вось адказаць на яго мусіць кожны з нас, беларусаў, асабіста. Тыя, хто творча служыць роднаму слову, — у першую чаргу. Ні кроплі згодніцтва з абыякавай падказкай: жыць, як набяжыць. Усё ставіцца на карту сёння, зараз. Палахлівая прыспешлівасць? — Не! Сёння час не саюзнік, а зацяты, нават ужо не прытоены, праціўнік наш...

Хлопцы! Адстаім, зберажом тое, што ахвяравала нам неба: нашу мову. Нам — як невычэрпную крыніцу творчасці, народу — як гарантыю будучыні.

Хлопцы!..

## Па законах арфаэпіі...

Трывалая сядзельніца вечарынак, у пашанотным веку ўсё Ганначка (хоць і дачку ўжо вывела ў дзеўкі, сама прыдбаўшы яе ў дзеўках) пільным і прыдзірлівым вокам не прапускала ніводнае каленца ў дзявочых скоках, ніводнага слоўца ў прыпеўках.

Так было і гэтым разам, калі прагучала прынесенае аднекуль расейска-сардэчнае, з «нашай афарбоўкай», зразумела:

*Мы з мілёначкам сядзелі*
*У саду на лавачкі,*
*Перад намі расцвіталі*
*Сінія фіялачкі...*

Надта ж упадабалася прыпеўка Ганначцы. А найбольш апошнімі словамі. З асаблівай асалодай паўтарала яна «сінія фіялачкі». Толькі па законах нашага маўлення (арфаэпіі, калі па-вучонаму) неўласцівы беларускай артыкуляцыі (зноў жа, па-вучонаму) гук, які абазначаецца зараз літарай «ф», Ганначка мяняла на звычнае «х» ( ну, скажам як «Хведар» замест «Фёдар» ці «херма» замест «ферма») і, пераспеўваючы «сінія х...» ( пры гэтым «і», само сабой, саступала месца «у»), задаволена пахіхіквала: «Трэба ж такое прыдумалі дзеўкі!..»

## Абнова

Жылі Пеця з Настай самотна: дзяцей не мелі. З-за таго, пэўна, і Пеця да сталага веку так і заставаўся «Пецем» — не было каму «татам» назваць і прыдаць вагі на людзях. З-за таго і Наста неяк па-мацярынску глядзела за Пецем: усё лепшае для яго...

Збыўшы аднойчы на базары пару гусак, купіла Пецю абнову. Прывезла і пахвалілася: «Вось табе касцюмчык,— файны, і на той свет, можа, прыдасца...»

А Пеця паміраць не збіраўся і не хацеў. Схапіў «касцюмчык» — і на двор, да калодкі з сякераю,— пасек на кавалкі!..

## «Тут» — значыць: «Больш нідзе...»

Як гэта ні спрэчна, але тая, высмеяная, «тутэйшасць» была ахоўніцай народнай самасвядомасці, грунтам нацыянальнага самаўсведамлення.

То была глеба, на якой зараджалася і ўзрасла наша беларуская літаратура, — сучасная і адпаведная народнаму духу — характарам і мовай.

А што сёння? Класічная вёска — носьбіт усяго гэтага — зруйнаваная, скіраваная іншым шляхам...

Горад?.. Як быць беларусамоўнаму пісьменніку, празаіку найперш, як падступіцца да рэальнага грунту, не ўпадаючы ў штучнасць, калі мяркуемыя героі яго — спрэс — размаўляюць на іншай мове і выяўляюць на ёй свае пачуцці, свой духоўны стан?..

Мова — жывы космас. Ён творыцца ўсімі і кожным. Творыцца штодзённа, штохвілінна — вякамі. Носьбіт мовы — ён жа і тварэц яе. Сказаў слова, ёмка ўплёў яго ў вянок іншых слоў, — і ты ўжо творца. Творца мовы, — няважна: пастух ці акадэмік.

А што калі творца-носьбіт перастае карыстацца сваёю ж мовай? Як выжыць ёй, калі падступае і наступае згасанне моўнай свядомасці?..

Космас ператвараецца ў скарбоўніцу з лёсам пагаслых зорак, сабраных пад покрывам вокладак маўклівых слоўнікаў, — хай сабе і шматтомных...

## Вецер, вецер...

Яшчэ ўчора пад маім вакном пышна раскашаваліся залацістыя бярозы. А праз ветраную ноч выйшлі на раніцу сіратліва агаленыя...

«Ветер, ветер — на всем божьем свете...» — скажам словамі Аляксандра Блока і падзівімся, прыгадаўшы: якіх толькі «літаратурных» вятроў не было!.. Ад чорнага ў Іосіпа Мандэльштама («Черный ветер шелестит...» — верш «...Смутно-дышащими листьями...») да белага ў Джорджа Марціна («Калі снег ідзе і белы вецер спявае, адзінокі воўк памірае...» — раман «Ветры зімы»). А паміж гэтымі — полюснымі — колерамі колькі яшчэ колераў і адценняў набывае вецер!.. У Міхася Стральцова, прыкладам, ён блакітны (апавяданне і зборнік апавяданняў «Блакітны вецер»); у Васіля Зуёнка — чырвоны («Чырвоныя ветры гуляюць па лесе...» — верш «Бывай, маё лета...»)...

Шмат, шмат вятроў... «Вецер у соснах», — Іван Навуменка і «Знесеныя ветрам» , — Маргарыт Мітчэл... Ёсць нават «Бабскі вецер», — Дзіна Рубіна... А то і зусім — аўтар, пісьменнік: Вецер Безнадзейны (інш. — Безналежны)...

Як слушна называюць «Новую зямлю» Якуба Коласа энцыклапедыяй сялянскага жыцця, так можна залучыць (ці вылучыць у тых абсягах) яшчэ адну «энцыклапедычную сцяжынку» — «энцыклапедыю ветру»...

«Вецер» — у самых розных выявах і іпастасях паўстае ён са старонак паэмы.

Вось ён над полем, — і не адзін, а ў дружнай талацэ:



*Любоўна ветры па загонах*
*Жытцо, ярыну чуць гайдалі,*
*Як нянька добрая ці матка*
*Ў калысцы гойдае дзіцятка...*

То ён дыхне перадзім'ем:

*Па небе хмары, як палотны,*
*Паўночны вецер рассцілае...*

То саспарышуецца з сапраўднай зімой:

*А як усходзіцца завея,*
*І вецер снегам задурэе*
*Ды затрасецца віхрам белым!..*
*Эх, колькі волі ў руху смелым!.. —*

во як ён завейна абярнуўся «віхрам белым»!..

Ды яшчэ, бывае, і — вятругам абернецца:

*... негадана*
*Вятруга ўсходзіцца пагany...*

Але і на яго, на вецер, бывае ўправа, — калі падступіцца «мароз паважны»:

*І на той час, як ён пануе,*
*Па небе хмарка не вандруе,*
*І ўсе стварэнні занямеюць,*
*І патыхаць вятры не смеюць...*

А вось ён ужо не «вецер», а «ветрык». Лагодны, пяшчотны, напоўнены водарам сенажаці, калі ўзвышаюцца копны мурагу і вазы з сенам, — нібы гмахі:

*Павее ветрык — што за пахі!*
*Мёд разліваюць тыя гмахі.*
*Віно найлепшае і ром,*
*Як плата шчырая касцом...*

То ён раптам і пасвавольнічаць уздумае, з агнём пагуляць, — хітрун-непаседа:

*А ветрык, злодзей, не стрывае,*
*З-за хаткі хітра налятае,*
*Ў агоньчык раптам уварвецца;*
*Агонь туды-сюды матнецца...*
*...Як бы тых жартаў не прымае...*

То ён сцішыцца, размораны жніўнай спякотай:

*Гарачы дзень. На полі душна,*
*Прыціх той ветрык непаслушны,*
*Як бы сваім аддаўся марам...*

А мары ў яго, калі ўдумацца, дык па-сапраўднаму чалавечыя: ён не так сабе вецер, а вецер-летапісец, — гэта пра простых людзей:

*Пра іх нідзе не ходзіць слава,*
*Аб іх гісторый не складаюць,*

*Пра іх і песень не спяваюць,*
*Апроч вятроў, што нудна ў плоце*
*Зімой у горкай адзіноце*
*Халодны снег нясуць-здзіраюць*
*І бедным людзям байкі баюць*
*Аб жыцці долі іх пахілай*
*І плачуць-стогнуць над магілай,*
*Дзе косці іх у праху тлеюць —*
*Адны вятры іх пажалеюць.*
*Але не кожны сцяміць мовы*
*І жальбы ветру між будовы:*
*Чаго ён жаласна спявае,*
*Каму ён песенькі складае?..*

Вецер, вецер... Здавалася б, просты рух паветра — а колькі асацыяцый! Які рэзананс!..

Прыгадаем народнае: «Куды вецер вее, туды голле гнецца...» Не, — хіба тое ўсяго толькі пра будзённую, шараговую атмасферную з'яву? О не, — і яшчэ раз — не!.. Пра таемныя зрухі душы — вецер. Пра тое ж і колеры яго-ныя...

## Такая «Геаграфія»...

Хрэстаматыйна ўсталяваўся воблік Фёдара Цютчава: натхнёны сузіральнік прыроды, мудры філосаф пры гэтым: «Люблю грозу в начале мая...», «Не то, что мните вы, природа...» і г.д. ...

Уяўлялася, прамаўляе перапоўнены жыццёвым вопытам чалавек, — такім ён прынамсі і паўставаў з найбольш вядомых фота-мастацкіх выяў, — велічны, разважліва-стрыманы, элітарны... Дык жа варта заўважыць тут, падка-рэцкіраваць «уяўленне»: пішучы «Весеннюю грозу», Цютчаў меў усяго недзе каля дваццаці пяці год...

На фоне гэтых першых дзвюх паэтычных велічыняў неяк «другім планам» выступала інтымная лірыка Цютчава. А ён жа быў пастаянна (і няўстойліва) захоплены жаночай прыгажосцю, што спарадзіла выдатныя ўзоры паэзіі...

Але ці не далей хавалася яшчэ адна «велічыня», набліжаючыся да гэтых першых і нават спаборнічаючы з імі:

### Русская география

*Москва и град Петров, и Константинов град —*
*Вот царства русского заветные столицы.*
*Но где предел ему? и где его границы —*
*На север, на восток, на юг и на закат?*
*Грядущим временам судьбы их обличат...*



*Семь внутренних морей и семь великих рек...*
*От Нила до Невы, от Эльбы до Китая,*
*От Волги по Евфрат, от Ганга до Дуная...*
*Вот царство русское... и не прейдет вовек,*
*Как то предвидел Дух и Даниил предрек.*

Які географ! Які вялікарускі, які вялікадзяржаўны (пад маскай славянства) размах! Рэха і да нашых дзён даходзіць... «Народ един»...

## Швагер прыйшоў...

На ўзвалку, ля крамы, гуртуюцца мужчыны. Хто ў надзеі на «спонсара», хто «дзеля інтарэсу», хто проста ішоў ды прыпыніўся «на хвілінку»...

Да аднаго з «сядзельцаў» хлапчук падбягае:

—Тата, хадзі дадому!..

—З чаго ж бы гэта?

—Мама кліча.

—Ну і што?

—Дзядзька прыйшоў.

—То і хай паталкуюць з сястрою...

—Дык жа паўлітра прынёс.

—О-о-о, не быў бы той чорт свой: паўлітра прынёс! Іду! — мігам перадай!..

## Пытаеце адрас?..

Во цуд натхнення! — Здаецца, проза — а паэзія дый годзе!.. Нырнеш углыбкі — і з першага разу дна не дамкнешся. Ды і з другога... Быццам тая глыбіня глыбее...

І марная гэта справа шукаць тут розніцу між паэзіяй і прозай. Паэзія без грунту жыцця як і проза без паэтычнай душы — народжаныя на гібенне. Пустацвет. Без завязі працягу ў будучым зярнятку...

А над усім узвышаецца валадарства Слова. Варта толькі мець да яго ключы. Іх дае талент.

Жыццё творцы — гэта і ёсць жыццё ў вобразе. У Сусвеце, народжаным Словам. Словам не на ўзвей-вецер... Скандэнсаванасць маўлення: бярэш сказ — і разгортвай у аповед. Уласна ён сам разгортваецца...

«Ноччу пакінутая хата асядала, падбіраючы пад сябе сходкі, бы босыя ногі пад спадніцу...»

Альбо яшчэ адна «пакінутая» сіла — конь: не яго вядзе гаспадар, а ён «вядзе гаспадара, трымае, цягне гужам назад, да зямлі і па зямлі. Той і не ўпіраецца, моўчкі, пакутліва, бы ранены гарадской спакусай, адна нага яшчэ ў стрэмені...» (Гэта, каб было зразумела, пра каня, пакінутага на догляд у суседняй вёсцы, а сам гаспадар ужо з'ехаў у горад і карыстаецца «конскай рабсілай» пры наездах — для апрацоўкі пляца каля хаты, — зноў жа: пакінутай, але пайменаванай як «дача»...).

Так, паўторым, разгортваецца цэлы сюжэт, як той «габелен»: праз увесь двор, — ад ганка да хлявоў, — пасцілка, што вытрасаюць жанкі... Палюбуемся: «Тамара адкінулася назад, цяжэйшая, не перацягвае дачку, раз-пораз, важ-ка, усім целам правісае, усміхаючыся, бы на мужчынскай руцэ, у танцы, галаву набок, гледзячы ўніз, ці не завысока паднялася спадніца...» — ах, адзін гэты «схілёны» позірк! — і позірк другі, што ўгледзеў яго і залюбаваўся і нам перадаў тую любасць — позірк аўтара, позірк мастака, позірк паэта...

Каму ахвяраваць, каму аддаць, каму ўступіць гэты вобраз, створаны адным-адзіным рухам, жэстам? Пад чыё валадарства? Пад жыва акрэсленую, вытанчаную, лінію графіка? Ці пад музычна вытанцаваную выразнасць майстра балета?.. Не, не будзем раскідвацца такім багаццем — хай застаецца мастакам слова,— слова, паэтычна сказанага гэтым разам у прозе. Жывое, маляўніча-заваблівае і непаўторнае , якім і падабае быць слову, адэкватнаму паэтычнаму бачанню мастака...

Паэзія — як адчуванне свету, — яна ва ўсім існым: ва ўсім Боская душа. Каму дадзена Усявышнім адкрыць ці хоць бы прыадкрыць яе, зазірнуць туды, — той і паэт.

Хтосьці з вялікіх мэтраў зазначыў, што кепская тая проза, якая «збіваецца» на паэзію. Не паспяшаемся пагадзіцца. Так, «кепская», калі «збіваецца» на кепскую «паэзію» — на танныя «паэтызмы». Яны і для паэзіі сапраўднай не да твару. Сапраўдная паэзія іх адмаўляе сваёй сутнасцю...

Вось гэтак і пытайцеся пра адрас паэзіі. Дзе яна? Як шукаць яе?.. Адзін адрас падкажу дакладна: ён — у творчасці ўдумнай і самотна-лірычнай ахвярніцы, — як у згаданай прозе, так, безумоўна ж, і ў паэзіі «чыстай», што носіць гэта высокае імя па жанравым вызначэнні... Чаму — «ахвярніцы»? — што тое значыць? А я й сам вось так проста патлумачыць, адказаць «фармальна» не магу. Так сказалася-адчулася... (Пачулася? — прыкладна тое ж, як і «феномен Міхася Стральцова»...).

А можа і тлумачэнняў ніякіх не трэба? Можа, усё гэтак проста: паэзія — ці не прынашэнне ахвяры? Ці не малітва, — за кожную травінку — раслінку — слязінку, за людзей, за свет божы... І за сябе — разам з імі ўсімі, — толькі з першаўмовай: зрабіўшыся імі, зліўшыся з імі душою...Такі адказ падказвае мне і паэзія з гэтай кнігі. З яе падступаецца да мяне цэлы свет — святла, цеплыні, дабрыні, адзінотнай і ўсечалавечнай... Усечалавечнае гаворыць — і толькі і заўсёды! — адзінотна-чалавечым.

Гэтага нельга пераказаць, гэта мажліва толькі адчуваць — разумець сэрцам, душою. Аб чым яно — адказаць на тое мае валоду толькі сама паэзія, — сустрэчнай хваляй, калі хочацца паўтараць і паўтараць прамоўленае паэтам. І кожны раз будуць узнікаць, успыхваць новыя адценні, гучаць па-новаму струны, — так, гэта як музыка. Як вось гэта жывая рака з душой паэта:

*плыву*
*ракой*
*напаю коней*
*вадой*
*намілуюся ў трасніку*
*у явары*
*кожнаму любасцяў*
*нагавару*
*перакатамі на каменнях*
*саб'ю калені*
*укленчыўшы каля грэблі*
*спынюся*
*дзівам дзіўлюся*
*што скора —*
*мора...*

Рака...— Паэт...— Чалавек...

Якая магутная падводная плынь: неадступны напамін, што рэкі — рэкі жыцця — канчаюцца морам...

Адрас гэтага верша даю дакладны: «Гняздо агню». Адрасат — і паэзіі, і прозы: Марыя Вайцяшонак.



## «Як ён іграе!..»

...16-гадовы Уладзіслаў Хандогі, навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры БДАМ , стаў лаўрэатам Другога Міжнароднага конкурсу маладых піяністаў «Grand Piano Competition». Ён праходзіў у Маскве з 29 красавіка па 5 мая на пляцоўках Маскоўскай кансерваторы і філармоніі.

У кароткім інтэрв'ю-прадстаўленні Уладзіслаў сярод любімых школьных прадметаў адзначыў беларускую літаратуру: «Матэматыка, руская літаратура, асабліва беларуская літаратура. Я ж з Беларусі, у нас ёсць і беларуская літаратура, і беларуская мова».



# «Тутэйшыя»

**гурт утварыўся ў 2014 годзе. Канчаткова склаўся летам 2017 года. Калектыў выконвае толькі сваю музыку на беларускай мове ў стылі інды-поп-рок. Рэліз першага самотніка «Навучы мяне жыць» выйшаў у верасні 2017 года. Гурт удзельнічаў у шматлікіх песенных фестывалях, у тым ліку: «Бардаўская восень — 2014», «Заспявай 3.0 і 4 х 4», «Дзень вулічнай музыкі ў Вільні», «У госці да Лепельскага цмока» і інш.**

# «Тутэйшыя» не баяцца нічога...

**Што мы ведаем аб Тутэйшых? Так называлі сябе калісьці насельнікі Паўночна-Заходняга краю. Так Янка Купала назваў сваю славутую тэатральную п'есу. А з нядаўняга часу «Тутэйшыя» — гэта яшчэ й адзін з папулярных моладзевых музычных гуртоў... Аб тым, як узнік гурт, чаму займеў такую адметную назву, якую музыку выконвае і на якой мове спявае — наша гутарка з кіраўніком і салісткай гурта Таццянай Казановіч.**

**Эдуард Акулін:** — *Калі і як узнікла ідэя заснавання гурта? Які склад ягоных удзельнікаў? Хто з'яўляецца кіраўніком калектыву?*

**Таццяна Казановіч:** — У нашым выпадку, мяркую, што першапачатковай ідэі стварэння гурта ў мяне не было. Справа ў тым, што спачатку я выступала сольна як Таццяна Тутэйшая, а з цягам часу, да мяне далучаліся і адлучаліся музыкі. Гэта быў такі перманентны працэс пошуку, так бы мовіць, «сваіх людзей». У нейкі момант гурт узнік сам сабой і вельмі натуральна. Пачатак стварэння гурта — гэта восень 2014 года. Менавіта тады мая аднагрупніца Ксенія Юрэня, цяпер ужо Харашкевіч, далучылася да праекта, у якім са мной ігралі два хлопцы — і мы ўзялі назву «Тутэйшыя». Цяперашні склад гурта істотна адрозніваецца ад першаснага. Засталіся толькі я і Ксенія, астатнія «новыя» музыкі далучаліся цягам апошніх гадоў, ажно да лета 2017 года. Але, тым не менш, зараз я маю даволі гарманічны і трывалы калектыў. Нас пяць чалавек: гітарыст — Андрэй Папкоў, бас-гітарыст — Сяргей Харашкевіч, бэк-вакал — Ксенія Харашкевіч, ударныя — Зміцер Аніськоў і я, Таццяна Казановіч: вакал, флейта і акустычная гітара. Я таксама з'яўляюся і кіраўніком нашага гурта.

**Э.А.** — *Каму належыць ідэя назвы гурта? Чаму менавіта «Тутэйшыя»?*

**Т. К.** — Назва «Тутэйшыя» ўтварылася ад назвы сольнага праекта «Таццяна Тутэйшая», гэта звязана са стварэннем калектыву, а таксама са зменай спецыфікі выканання песень, далучэннем яшчэ аднаго голаса. Таму лепш ставіць пытанне чаму — «Таццяна Тутэйшая»? Ды таму, што я хацела выказаць думку, што спяванне па-беларуску — гэта не музычная анамалія, а самая натуральная з'ява. Беларускамоўная, але такая ж, як і ўсе, — тутэйшая.

Тым не менш, за апошні год мы змянілі гучанне калектыву, адышлі ад акустычнага выканання, загучалі па-новаму. У музыцы з'явіліся каардынальныя змены, менавіта таму, мы не запісалі альбом летась, а перарабляваем яго дасюль, на новы лад. Я вяду да таго, што не выключана, што з часам назва гурта можа змяніцца. Але пакуль што мы знаходзімся ў пошуках...

**Э.А.** — *У якім музычным стылі працуе гурт? Ці змянілася творчая арыентацыя гурта цягам апошніх двух гадоў? Калі так, то ў які бок — кантры, фолк, рок?*



**Т. К. —** Мы не прытрымліваемся строга аднаго стылю. Магу сказаць толькі, што наша творчасць больш набліжана да поп-рока, але гэта не выключае і прысутнасці іншых фарбаў: фанка, кантры і блюза. За апошні год наша музыка істотна змянілася, канешне, гэта звязана са зменай гука. Музыка стала цяжэйшай, але і больш аб'ёмнай, больш разнастайнай.

**Э.А. —** *Хто з'яўляецца аўтарам «тутэйшых» тэкстаў? Напісанне песень для гурта — аўтарская ці калектыўная творчасць?*

**Т. К. —** Аўтарам тэкстаў з'яўляюся я, так у нас павялося. Ды ніхто і не прэтэндуе на гэтую ролю...

**Э.А. —** *Спяванне па-беларуску для вас — гэта даніна модзе ці прынцыповая пазіцыя?*

**Т. К. —** Хутчэй прынцыповая пазіцыя. Я люблю беларускую мову, размаўляю на ёй, не ўяўляю, каб раптам мне захацелася спяваць па-руску.

**Э.А. —** *Ведаю, што прэрагатывай для ўдзельнікаў гурта з'яўляецца выкананне ўласных песень? А ці былі выключэнні з гэтага правіла?*

**Т. К. —** Так, былі выключэнні. Яшчэ падчас навучання ў Акадэміі мастацтваў я зрабіла пераклад песні «Blowing in the wind» Боба Дзілана на беларускую мову. Мы і дасюль часам выконваем яе на канцэртах.Таксама трэба адзначыць, будучы фіналістамі фестывалю «Засьпявай 3.0» у намінацыі «Беларускі кавер», у нас атрымаўся неблагі кавер на песню гурта «Без билета» — «Чырвоны дыск Сонца». Песню на канцэртах вельмі палюбіла наша публіка.

**Э.А. —** *Апошнім часам «Тутэйшыя» — частыя госці на шматлікіх песенных фестывалях... Назавіце, калі ласка, фэст, які, так бы мовіць, стаў знакавым у вашым творчым лёсе?*

**Т. К. —** Вельмі складанае пытанне. Кожны фэст і канцэрт — гэта досвед, яшчэ адна прыступка ў развіцці. Але адзначу напэўна ўдзел у апошнім конкурсе «Заспявай 4x4», дзякуючы яму, мы запісалі свой першы самотнік, песню «Навучы мяне жыць».



**Э.А. —** *Вы неаднойчы прымалі ўдзел у рознага кшталту вулічных імпрэзах, у тым ліку, фестывалі «Вулічнай ежы»... Ці не сведчыць гэта аб вашай творчай «усеяднасці»? Выступленне на якіх канцэртных пляцоўках вам запомнілася больш за ўсё?*

**Т. К. —** Выступаць на фестывалях — прыемней, чым на конкурсах. Няма гэтага адчування спаборніцтва. Мы стараемся па магчымасці выступаць часцей, бо хочам, каб нас пачула як мага большая колькасць слухачоў.

Запомніўся выступ на фестывалі «У госці да Лепельскага Цмока», у якім мы ўдзельнічалі летась. Фестываль «Тутэйшыя» ў Барысаве. Выступ у Вільні на Дні вулічнай музыкі. Можна яшчэ пералічваць і пералічваць. Але заўсёды прыемна, калі шмат слухачоў на імпрэзах.

**Э.А. —** *Распавядзіце, калі ласка, аб досведзе супрацы з Сяргеем Доўгушам, які цягам лета 2017 года быў вашым творчым ментарам? Што дало гурту такое музычнае сумоўе?*

**Т. К. —** Сапраўды, калі мы ўдзельнічалі ў конкурсе «Заспявай 4x4», нашым ментарам быў Сяржук Доўгушаў. Ен займаўся з намі вакалам, працаваў над падачай тэксту песні «Навучы мяне жыць». За гэта яму — вялікі дзякуй. Таксама мы крыху змянілі саму структуру песні, і яна стала цікавей. Трэба адзначыць, што ў запісу песні прыняла ўдзел Анастасія Папова, скрыпачка гурта «Vuraj», што дадало новую фарбу ў гучанне кавера.

**Э.А. —** *Чым абумоўлены ваш удзел у працы моўных курсаў «Мова нанова»? У якіх гарадах у межах курсаў вам выпала прэзентаваць сваю творчасць?*

*Ксенія Харашкевіч і Таццяна Казановіч*



**Т. К.** — Усё проста. Мы імкнемся падтрымліваць «беларускасць» у Беларусі, а таксама, распасюдзіць сваю творчасць па-за межамі Мінска. Часам выступаем поўным складам гурта, а бывае, што і сольна. Калі згадаць усе выступы на занятках «Мова нанова», то памятаецца — гэта гарады: Маладзечна, Бабруйск, Баранавічы, Астравец, Мінск.

**Э.А.** — *Дзе, акрамя кацэртаў, можна пачуць песні гурта? Ці зацікавіліся вамі айчынныя радыёстанцыі і тэлебачанне?..*

**Т. К.** — У нас ёсць суполкі ў сацыяльных сетках: https://vk.com/tutband і https://www.facebook.com/tutejshyja/. Старонка: https://www.instagram.com/tutejsyja/. Таксама нас можна знайсці на канале ў «youtube.com» і «soundcloud.com».

Песня «Навучы мяне жыць» гучыць на некаторых радыёстанцыях. Даволі хутка ў нас адбудзецца запіс і інтэрв'ю на радыё «Сталіца». На тэлебачанне мы пакуль не спяшаемся, але спадзяемся — усё наперадзе.

**Э.А.** — *Гурт «Тутэйшыя» існуе амаль чатыры гады... А «Адкрыццём года «музычныя крытыкі назвалі вас толькі ў 2017 годзе? Ці згодныя вы з гэтай думкай?*

**Т. К.** — Тое што мы «Адкрыццё года» — гэта меркаванне асобнага крытыка. А ён выказаўся, калі пазнаёміўся з нашай творчасцю. Магчыма, гэта звязана з тым, што мы сталі актыўна пашыраць слухацкую аўдыторыю толькі апошнім часам.



**Э.А.** — *Які перыяд можна лічыць самым плённым у гісторыі калектыву? Якія кампазіцыі гурта вы лічыце сваёй творчай удачай?*

**Т. К.** — Нельга сказаць, што ў нас быў нейкі адзін плённы перыяд. У нашай творчасці заўсёды чаргуюцца зацішша і бура. Але апошнім часам мы сталі развівацца вельмі хуткімі тэмпамі.

**Э.А.:** — *Чаму толькі ў 2017 годзе быў выпушчаны ваш першы якасны песенны сінгл? Што перашкаджала ажыццявіць гэта раней?*

**Т. К.** — З 2014 года ўдзельнікі часта змяняліся. Мы знаходзіліся хутчэй у творчым пошуку сябе і свайго стылю...Наогул, я лічу, што запісваць песню трэба тады, калі яна будзе сапраўды гатовая, каб не ўзнікла жадання потым, у будучыні, яе перазапісаць.




**Э.А.** — *Вашы тэксты заўважна выйграюць на фоне даволі распаўсюджанага ў рок-мастацтве паэтычнага прымітывізму і стылёвай неахайнасці... Што або хто гэтаму спрыяе? Каго вы лічыце сваімі літаратурнымі і музычнымі настаўнікамі?*

**Т. К.** — На працягу свайго жыцця я праслухала шмат рознай музыкі. Густы змяняюцца, ледзь паспяваю абнаўляць плэй-ліст. У падлеткавым узросце і, нават у дзяцінстве, я слухала пераважна рускі рок: Кино, Земфира, Сплин, ДДТ і г.д.. Сапраўды, добрыя гурты маюць не толькі якасную музыку, а і якасныя паэтычныя тэксты. Зараз я выбіраю выканаўцаў з якаснымі тэкстамі, але для мяне яшчэ важны і спосаб падачы гэтых тэкстаў. Люблю слухаць: U 2, Muse, RHCP, Adele, Би-2 і інш..

**Э.А.** — *Па сваім рокерскім досведзе ведаю, як цяжка знайсці месца для рэпетыцый, не кажучы ўжо пра магчымасць іграць на якаснай музычнай апаратуры... Як вам удаецца вырашыць пытанне з творчай прапіскай гурта?*

**Т. К.** — Калі ў нас быў акустычны склад, то мы рэпетавалі на кватэры. Цяпер жа — гэта звычайныя рэп-кропкі ў горадзе, якіх у нас вельмі багата. Пры-

ходзіцца грошы плаціць, канешне, але тое, што мы граем у электрычным гуку — найвялікшая асалода і для нас саміх.

**Э.А.** — *Як ідзе праца над запісам першага альбома? Што перашкаджае творчаму працэсу? Калі плануцца доўгачаканы выхад першай кружэлкі?*

**Т. К.** — Альбом амаль гатовы, а запіс ужо пачаўся. Што перашкаджае? Магчыма недахоп часу. Усе ўдзельнікі працуюць, зарабляюць грошы. Трэба ж аплочваць рэпетыцыі! Таму пакуль наша творчасць нічога нам не прыносіць, то і праца над альбомам рухаецца няспешна. Думаю, што ў канцы гэтага года альбом будзе гатовы. Але гэта не значыць, што мы не будзем выпускаць самотнікі.

**Э.А.** — *У адрозненне ад папулярнага выразу: «Не вучыце мяне жыць — лепш дапамажыце матэрыяльна...» адна з вашых песень называецца «Навучы мяне жыць»... Ці азначае гэта, што маральны бок творчасці для вас пераважае над матэрыяльным? Ці можна ў Беларусі пражыць толькі «спяваючы»?*

**Т. К.** — Усё, што мы робім, мы робім ад душы. Хочацца, каб нас заўважылі і ацанілі? Так. Хочацца атрымліваць за гэта грошы? Само сабой. Але, спяшаюся адказаць на другое пытанне, у Беларусі з гэтым вельмі складана. І гэта тычыцца не толькі музыкі, а культуры ў цэлым.

**Э.А.** — *Дыпломнай працай салісткі гурта Таццяны Казановіч стаў сольны канцэрт «Тутэйшых» пад назовам «Подых часу»... А які ён, на вашу думку, подых часу ў сённяшнім айчынным мастацтве?*

**Т. К.** — Скажу, што подых нашага беларускага часу — падцэнзурны... Усе ўсё разумеюць, але амаль ніхто не выказваецца.

**Э.А.** — *Напачатку года вы выступілі на акадэмічнай сцэне тэатра імя М. Горкага... Якой вы бачыце для сябе будучыню гурта? Ці хацелі б стаць філарманічным калектывам, накшталт «Песняроў» або «Сяброў» з дзяржаўным фінансаваннем, працаўладакаваннем, гастрольным графікам і г.д.? Ці ўсё ж такі вам бліжэй купалаўскае творчае крэда: «Гуслям, княжа, не пішуць законаў!...»*





На фестывалі «У госці да Лепельскага цмока»

**Т. К.** — Выпусцім альбом, а там ужо будзе бачна. Шмат чаго можа змяніцца за гэты час, але, папраўдзе, я ўсё ж бачу гурт «вольнай птушкай» з купалаўскім вызначэннем творчага крэда...

**Э.А.** — *Адзін з вашых песенных хітоў назаваецца «Не бойся»... А чаго баіцца гурт «Тутэйшыя»? Ці ёсць нешта такое, што дазваляе вам верыць у тое, што мы дачакаемся «залацістага, яснага дня»?*

**Т. К.** — «Тутэйшыя» не баяцца нічога. Бо мы верым, што ўсё ў нас атрымаецца. Мы каманда, калектыў, які паляпшае з кожным годам сваё гучанне. Відавочна, што, калі не зараз, то заўтра наш зорны час абавязкова надыдзе...

**Э.А.** — *Дзякуй вялікі, за цікавую гутарку! Будзем спадзявацца, што ніхто і ніколі не забароніць «Тутэйшым» жыць і спяваць па-беларуску...*



# Раіса Крывальцэвіч

**празаік. Аўтар кніг: «Дарога» (2014 г.) і «Блізкі свет. Хатні слоўнік — успамін» (2016 г.). Адна з пераможцаў конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў «Жанчына ў сучасным грамадстве» (2010 г.). Нарадзілася ў 1960 годзе на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.**

# Віленскі дзённік

## Сакавік

У Вільні дождж і вецер. Дзяўчынка выйшла з машыны і пакрочыла пад парасонікам у суправаджэнні таты ў дзіцячы садок. Хлопчык у гумавых боціках паспеў атрымаць задавальненне ад лужынаў, ідучы «ў групу».

Як усё мяняецца ў гэтым жыцці! Учора было іначай. Прыгравала сонейка, галубок на Слуцко гатвэ буркатаў падобна задаволенаму немаўляці. На Валакупю ля ляску танцавалі матылькі — яркія лімоннікі — адзін, тры, пяць, сем! Як жа яны весяліліся, нарэшце расправіўшы крылцы! Выскачылі, бы непаслухмяныя дзеці на школьным перапынку, — хутчэй нацешыцца воляй! Дарэмна шукалі якую мілую кветачку ці зялёную травінку — яшчэ не нараслі! Над светла-шэрай леташняй сухою травою, што яшчэ не забылася пра халодныя абдымкі снегу, здаваліся нечаканым цудам лета. І птушкі спявалі, і дрэвы стаялі, абняўшыся, разамлеўшы ад цеплыні, і ветрык цалаваў — не трэба прасіць... Не хацелася ў сцены...

Горад адчувае вясну. Стаў рамантычны. Прыгажосць слова, фарбы, душы, пагляду...

Мілаш, Чурлёніс, Майроніс... Яны тут, у горадзе. На афішных тумбах . Нагадваюць, што не толькі «патогу»(выгадна) ды «немокамас» (бясплатна), напісаныя на ўсіх вуглах, могуць быць нашай ежай...

*29.03.2012*

## Пісьмо з Вільні

Паглядзела выставу — штучную — копіі — і жывую. Кожная па-свойму добрая... Праўда, я б яе іначай назвала. Ні хадавым «Невядомая БНР» (там шмат іншага), а так, як дзіцячаю рукою напісана на малюначку, падораным дырэктару гімназіі Астроўскаму «Беларускаю рукою Сьветлай праўды сіла /Славу лепшую напіша Бацькаўшчыне мілай». Ці «Светлай праўды сіла»— каб нешматслоўна. Найбольш закранала, вядома ж, наваградскае — Драздовіч, Барыс Кіта, вучні гімназіі... Усё беднасць і просьбы...Распіска «Ад Беларускага музею ў Вільні атрымана 71 кніжка для лётэрэі бедным вучням Наваградскай беларускай гімназіі. 9. IX.1933.Вільня». Добра было б копіі ў Наваградскай першай школе мець...Вядома ж, сумна: «Кастусь Езавітаў і Вацлаў Ластоўскі разглядаюць карту падзелу Беларусі пасля Рыжскага міру». Фота. Ці як літоўцы пішуць — нуотраўка (nuotrauka). Партрэты падпісаныя — Іванас Луцкевічус... Што зробіш, мы на падсуседах. Трэба быць удзячнымі...

Працытую табе яшчэ потым самыя вясёлыя кавалачкі дакументаў.

Часта-часта і паўсюль цябе ўспамінаю...

*28 сакавіка 2012 г.*

## Вясна

У Вільні то сонца, то дождж. Шмат жоўтых і сініх кветак-першацветаў. Жоўтыя — ад цёплага сонейка, сінія — ад прахалоднага неба. На Валакупю зялёная трава імкнецца праз шэры дыван леташняй проста ў неба. Зараснік, што з правага боку, прарэдзілі, але птушкі ўсё роўна нябачныя, ды як чутныя! Бывае, каторая сядзе, гляне зверху, як заклапочаныя людзі нясуцца па сцежцы. Альбо не заклапочаныя...

Ішла «дадому» ўвечары, пабачыла парачку — прыгожы з пералівістай цёмна-зялёнай галавой качар шпарыў з шэрай непрыкметнай качкай на начлег. Дзіўна, што спадабацца знешнасцю хоча «ён», такі прыгожы. Мог бы і прыгажэйшую знайсці...

Учора сцямнела, пахаладала, даў дождж, а потым — столькі сонца, трава — ярка-зялёная, неба — ярка-сіняе... З 112-й аўдыторыі бачныя два дрэвы, што спляліся ў адно, на іх — шпакоўня — і вясёлы хвосцік шпачка, які ўскоквае ў хатку... Півоні выпстрыкнулі чырвонымі шыпамі, але яшчэ не закрылі сабою таго чорнага кружка зямлі ў зялёнай траве, дзе пасяліліся. Наперадзе столькі радасці росквіту! Толькі нішто не кажа мне, што сустрэну тут цябе. Адно ўспаміны, успаміны...

Гэта я ўсё ўбачыла, седзячы пасля заняткаў у 112-й аўдыторы (мы тут былі з табою) і збіраючыся табе напісаць, як «на змену» заскочыў немец Фелікс, з якім праз цябе пазнаёмілася.

Трохі пабыла ў яго на занятку, нават «пяць капеек» устаўляла па яго просьбе. Вядома, баялася «апарфуміцца»... Феліксава манера выкладаць вельмі нагадала Маціаса, майго швагра — знешняя раскаванасць і вясялосць, якая можа падацца нам і надзвычайнай, і ў той жа час цвярозае прасоўванне справы. Няма нашай пыхі, якою хварэюць нават маладыя, і гэта найбольш уражвае...

*26.04.2012*

## Выйшла з цягніка

Выйшла з цягніка ў лагодны травеньскі вечар. Такі лагодны, што добра і на вакзале. Праўда, гэта вакзал у Вільні... У начным горадзе так цёпла ад цяпла, што пакінула пасля сябе сонейка. А мне на душы цёпла ад успамінаў пра цябе...

На Слуцко дурманіць тапалёвы пах, перамяшаны з водарам бэзу. Хацела б пагуляць з табою ўвечары па такой ціхай вулачцы з гэтым хвалюючым пахам надыходзячага лета. Доўга жыла б гэтым шчасцем...

Іду з «Ікі». На сходах сядзяць маладыя кліенты гатэлю — цяжка ў такую ноч проста пайсці спаць...

*20.05.2012*

## Восеньскі габелен

Восень тчэ кросны з плюшча на высокай сцяне дома. Нацягнула на аснову — тоўстыя рудыя ніці-сцябліны — яркае лісце ўсіх колераў спеласці. Адчыніш дзверы на пляцоўку для гатэльных аўто, а там — восеньскі габелен на сцяне! Усе адценні чырвонага, усе пякучыя, жарсныя фарбы кахання...

*12.10.2012*

## Зімовая паездка

Снег, мароз, вецер... Старыя наракаюць на надвор'е, пазіраючы з вокнаў хаты, маладыя — выбіраючыся са сценаў дамоў. Зіма разгулялася. Толькі прасіць Міколу — святога апекуна падарожных, каб бярог сённяшнім днём і заўсёды тых, што вандруюць у адведзеным Небам адрэзку жыцця па цвердзі зямной і падземнай, плывуць у пяшчоце аблокаў, калышуцца на марскіх хвалях ... Мілы Святы Мікола, дай усім добрай, шчаслівай дарогі!

На вакзале, на двары, у снежаньскую завею, ранняй раніцай нехта купляе білет да «Беларусі» — станцыя такая чыгуначная. «Выйсці на станцыі «Беларусь»... Праехаць станцыю «Беларусь»... Цікава, ці ездзяць немцы да «Германіі», а французы — да «Францыі»? Гэта Мікола задаўся пытаннем.

Вецер шугае. Быццам падганяе цягнік. Люся пра сябе нагадвае тэлефонным званком: раненька ўстала — ледзь дзверы адчыніла — завея. Мікола ачуняў, у вакно глянуў, тэлефануе: узгадаў слова нашае, слухавіцкае — кудаса... А мне так хочацца навучыць цябе слухавіцкім словам — сваім зрабіць. Гэта не значыць — прысвоіць...

Уперадзе маладыя сядзяць, адно да аднаго хіляцца. О, гэтае вечнае прыцягненне! Ты пісаў мне аднойчы пра гэта ў адказ на маё прызнанне... Хачу памятаць усе твае словы...

Дзяўчына, што цягнулася да хлопца, трымае ягоную галаву ў вялікім капюшоне на сваім плячы. Адзін плэер на дваіх... Цяпер сонны хлопец зваліўся ёй на калені...

Сяброўка-пенсіянерка тэлефануе — хоць позна легла, прачнулася — у двары машына гула, са снегу не магла выбрацца. Дзеўка маладая ў кажуху выскачыла, нагою ў модным боце снег адкінула і паехала!

У вагоне цёпла, музыка грае — старыя песні па-англійску, што падабаліся нам у юнацтве. «Смокі», а мо «Смоўкі»... На мяжы музыку выключаюць — праверка дакументаў — справа важная...

Дзяўчаты ў Вільню выбраліся. Нядзелька... «Не, в Белосток я больше не поеду. Всё на нервах. Спрашиваю — где автовокзал? Она говорит — что это — автовокзал? Я говорю — автобусы. Она показала. Там уже дед сказал: «У гэтым будынку», — так уже поняла ...

Хорошо, кто живёт в Гродно. Или от Белостока недалеко. И почему я живу в Минске?

Кошелёчки там по пятьдесят долларов. Сумки порядка ста долларов, из натуральной кожи. У нас кошелёчек такой покупала за сто долларов. А в Киеве такие — за пятьдесят. Не, мне кажется, они уже не из Турции, а из Киева.... Алё? Ты хочешь коньяк? Не знаю. Не уверена, что у меня хватит денег. Зачем он тебе? Маски делать? Купишь белорусский. Выпить хочешь? Сделаешь визу — приедешь, купишь себе коньяк и привезёшь на своём горбу!»

Заснула, пакуль сусед хадзіў у цягніковую прыбіральню.Стварыла чалавеку нязручнасць — прыйшлося яму дакранацца, каб пабудзіць. Затое ўсміхнуўся... Дзіва, да паловы на трэцюю збіралася!

«...Она мне на чисто русском языке рассказала. На карте нарисовала, как на Минск ехать. Есть девочки молодые, едут туда работать...» Сяброўка слухае, сваё дадае. Цікава гучыць — «скрипя сердцем»... «Скрепя сердце», значыць...

За вакном — белы дым завірухі. Стаімо. «В связи со сложными погодными условиями...» Хлопцы жартуюць: «Счас пойдём с лопатами. Наша смена...» «Мама, стоим среди леса!..» — у тэлефон.

Добра спіцца...

...Кена. Вецер рве сцягі — літоўскі — чырвона-зялёна-жоўты, сіня-зоркавы еўрапейскі і прафесійны — у літару «G» — гележінкяле-чыгунку па двайной залатой лініі рэек нясецца, урываецца вострым носам-вуглом цягнік. Правяраюць пашпарты. Зноў трэба глядзець у твары і вочы. Літоўскіх памежнікаў разы ў чатыры болей, чым нашых — правяраюць хутка. І чаму хочацца зрабіць твар папрыгажэй і паветлівей?..

Можа, ужо хутка вакзал? Буду апранацца... Пастаю ў праходзе — колькі можна сядзець!

Хлопец з дзяўчынаю — за рукі, вочы ў вочы — стаяць. Яшчэ адна пара... Хлопец дзяўчыну супакойвае — мужчына! — «Может, и не холодно...» Дзяўчына размову працягвае: «Может, Алеся встретим, узнаем»... А я не сустрэну свайго Алеся...

Усё едзем і едзем. Вільня, як дзівіш ты стромасцю сваіх узгоркаў, глыбінёю спускаў! Перавіты твой далягляд вострaверхімі і акруглымі стрэхамі храмаў.

Вось і вакзал... Ты зноў сустракаеш мяне — як тады, у самым канцы траўня... Няхай сабе не наяве...

## Паўтарэнне

Зноў нявыспаная, зноў праз месяц не магу ўспомніць, як жа тэлефонная картка называецца: «Экатэль? Наватэль?» «Амнітэль!»— дзякуй кіяскёрцы...

## Далей

З Людкай сустрэліся — у розных вагонах ехалі. Перакусілі — нездарма ж учора апоўначы піражкі пякла! Пагаманілі — забыліся, калі бачыліся ў Мінску! — і Людка панеслася па храмах. А я падрыхтуюся да заняткаў, а калі не падрыхтуюся, то запішу што-небудзь, а калі не запішу, то лягу пасплю. Пра цябе ўзгадаю ў цішыні пакоя. Думкі мае пра цябе — як сняжок за віленскім вакенцам — кружацца...

Увечары сустракаемся ў Катэдры — сёння трэці Адвэнт, і Рута спявае падчас імшы ў хоры.

Легла на гадзінку — быў дзень. Устала ў цемры. Цішыня. Зусім не ўключаю музыку — слухаю снег за вакном. Танец сняжынак пад ліхтаром заварожвае не меней, чым танец агню ў печы...

## Па горадзе

Белым прадзівам тчэ старанна зіма занавеску халодную. Вільня засыпаная снегам. Імклівы сняжынкавы рой адчайна-весела разбіваецца аб чыгунныя парэнчы Зялёнага моста. Зноў няспешна-павольна плывуць па Вяллі-Нярыс калядныя пляцкі крыгаў-кружкоў, белым цукрам-сняжком па баках прысыпаныя. Зноў святочны ўспамін — мама на Раство пляцкі пячэ... А мо, гэта крыгі-вяночкі — Зіма так вяселле спраўляе?

Ці то Вялля — як тая Рака Часу? Пад нагамі — кароткі, упоперак, масток, даўжынёю ў жыццё...

Гэтае месца натхняе... Маладыя мінулі мост і цалуюцца, перш чым вуліцу перайсці. Віленскія светлафоры адпускаюць на гэта нямала часу — спрыяюць каханню. Месяц таму ішла тут шчаслівая — ад сустрэчы з табою. Быў такі ж цёмны вечар, толькі лістападаўскі, з дробным дожджыкам напачатку...

## Адна

Людка з'ехала. Прыслала падзяку пісьмовую. З Людкай «вальтом» спалі — Мікола «вальтанутымі» назваў. Адпішу, што спала «без задніх ног», ела «за сем дурных» (так бацько пра ненаеднага ката Казіка кажа), устала «з фарамі» — вочы нанач «не сцерла»... Праз сон здавалася, што ў Навагрудку — за дзвярыма, у старой кухні, спіць бацька. Потым устаў, па гарышчы скрыпіць— тупае. Мусіць, сумуе адзін — Люся якраз паехала...

## У сталоўцы

Усё па-ранейшаму: сядаю там, дзе сядзеў ты насупраць мяне... Добра памятаю тыя дні і размовы нашыя тут, за гэтым сталом. Важныя для мяне. Паранейшаму чую разумныя размовы з прывычным наборам слоў: «по поводу», «страшно рад»... Тлустыя валасы якія! Ці гэта гелем змазаныя? Нават калі і гелем — немагчыма глядзець. Бо доўгія...

Сыру тварожнага, літоўскага смачнага не даюць нешта. Быццам ведаюць, што ты тут болей не снедаеш. Сцяпан С. — худасочны, у сябе заглыблены, у адзіноце сілкуецца. Некалі нехта палюбіць яго за розум. Мужчынаў жа за розум найболей любяць.

Іра Д. любіць печаныя яблыкі — далікатна за хвосцік на талерачку цягне. Апошнюю тройку беларусістаў давучвае — яны ёй шасцікласнікамі здаюцца. Па-беларуску не размаўляюць, але здзіўляцца не перастаюць — «круче, чем в Дискавери»!

І можаш яшчэ сто разоў сказаць, што яна разумная, але ж — і занудная!

На вузкай лесвічцы, што са сталоўкі — здзіўляюся, сама сабе не веру — няўжо тут табе праходу не давала! Няўжо гэта было! І як насмельвалася! Так сябе паводзіць! Цярпеў, маё сонейка...

## Па сцяжынцы на Валакупю

Яна добра расчышчаная. Глыбокая — снегу шмат. Трэба толькі спрытна размінуцца. Сустрэнешся — будзь ветлівы, схіліся, не дай сустрэчнаму на край зваліцца. І не спадзявайся, што надта нехта табе саступаць будзе...

Зімовае хаджэнне па Наваградку яшчэ большай ветлівасці патрабуе: найболей «гжэчны» пры сустрэчы паважліва руку за спіну закідае — тады разысціся магчыма. Сцяпан С. ідзе — вочы ў снег, міла сам сабе ўсміхаецца — мусіць, дзяўчына-студэнтка якая падабаецца. Вось выкладаць ідзе і там яе сустрэне...

## Падчас заняткаў

Не, не трэба завешваць вокны палоскамі жалюзі. Там, за вокнамі — быццам нехта прыдумаў знарок — свята! Там на яркае святло пражэктара — ліхтары ў двары не спраўляюцца са снежаньскай цемрай — пускае Неба шчодрай рукою беласнежнае канфеці. Цьмяна свеціць жоўты ліхтар — жасцяны капялюш засыпаны снегам. Снег зачароўвае...

Некалі, праз шмат-шмат гадоў буду гэтак жа глядзець праз вакно на снег і ўзгадваць пра цябе...

## «Нямецкасць» падвяла

Адшкадавала адзін літ. Вясёлы дзед-жабрак цырымонна нахіліўся і сказаў: «Ачю гряжюоле!»Пераклала для сябе на нямецкі лад як Danke schon і выкарыстала, дзякуючы за ключ вахцёру Здзіславу Збігневу. Той быў здзіўлены: «Дзякую, прыгажуня?»

Гэта ўсё дзядок — сказаў манатонна, як заведзены. Трэба — з пачуццём, праз коску: «Ачю, гряжюоле!»

Сама вінаватая — мала падала...

## У тралейбусе

Шумная моладзь і ціхія бабулькі. Шматмоўе, ці трасянка чуваць. Не, трасянка — гэта ў нас. Лепей назваць шматмоўем. «Короче, дабар суситикиме!» Карацей, сёння ўбачымся! «Говорю: пани, не орите! Мяс ненориме, йис нори!» Мы не хотим, вы хотите!

Дзяўчына ў цыгейкавым футры... Даўно не сустракала...

Худзенькая вясковая бабуля ў класічнай хустцы-канаплянцы — у рудыя светлыя прамакутнікі, на шыю закручанай. Як некалі мая баба Марыля. Радасная для мяне сустрэча... Стаяла, нарэшце вырашыла сесці — чужое тут усё, у горадзе...

Бабулькі гарадскія «пірагас су грібас» — пірагі з грыбамі абмяркоўваюць. Каляды скора. Скардзяцца адна адной: «В коридоре — 17 градусов, в комнате — 19. Никого же нет! Никто же не живёт!» «Не помонтам — ядла чы не ядла, не поментам...»

А гэтая дзяўчына ўсю дарогу кнігу чытае... Можа, «Зялёныя долы»? Цікава, хто аўтар «Долаў»? Трэба пашукаць... Першая тоўстая кніга ў нашай хаце — трошкі патрапаная, цвёрдая зялёная вокладка, на ёй — маладая паненка пад капялюшом — ці не настаўніца? Люся тады ў гасцях з бацькамі была. Дарослыя пілі, елі, размаўлялі, а дзіцяці што рабіць? «Пазычыла» кніжку, дадому прынесла... А дзе была я? Чаму не было ў тых гасцях? Павінна была ўжо быць на свеце...

## Канец свету

Канец свету перанеслі з 12 на 21 снежня. Маня ў цягніку ехала, вясёлыя дзяўчаты ў пагранічніка пыталіся, калі ўжо добрыя сканеры выдадуць? Памежнік ім адказаў, што да канца свету наўрад ці атрымаюць...

Манінай настаўніцы па аэробіцы мама па-свойму да гэтай даты рыхтавалася — купляла свечкі, запалкі — «свету» ж будзе канец...

Дубянецкай студэнты тэст абяцалі да канца свету зрабіць...

## Не тое

Не тое — знік магазін з шыльдаю «Флагман», якая нагадвала пра цябе — так ты быў прадстаўлены на егушнай старонцы — гістарычнай навукі. Стаў — «Дугласам»...

На ратушнай плошчы няма святочных анёлкаў у чырвоных шаліках і замку з лёду — Рута кажа — у горада няма грошай.

## Цішыня

Затаілася, як тое дрэва зімою... Цішыня навокал. Ціха ў гатэлі — ніхто не смяецца на ганку, не галёкае, у сэнсе «Hallo!» — не крычыць. Мала людзей за сняданкам, няшмат — у холе-пачакальні. Ціха ў бары — хлопец-бармэн стаміўся чытаць газету. Праз сцяну — прыкметы адзінокага жыцця — высмаркаўся, на ложку варочаецца...

Ціха на калідорах універсітэта. Не сустракаю натоўпаў студэнтаў.

Ціха чакае ўтульны пакойчык. Радая трапіць у яго цёплыя абдымкі.

З Неменчінес іду па дарозе, якою ты навучыў хадзіць. Па версе...

*І лягла цішыня*
*у бары за гарой, —*
*каб дрывінка адна*
*хоць кіўнула сабой.*

Заснежанае ўсё... І любчыку цяпер не назбіраеш — каб хлопца прываражыць. З лета мець трэба. У Рузі з аповесці Вінцука Адважнага ён меўся ў запасе...

У лесе цішыня найвесялейшая. Ідзеш па сцежцы на Валакупю — сінічкі цінькаюць. І весела робіцца на душы. Хочацца ўсміхацца. Табе... Ты ёсць... Недзе там... Далёка і блізка...

Стамілася... Ноччу здавалася, быццам у Навагрудку сплю. Можа, ад цішыні такой жа — поўнай. Думала, я ў спальні, а за дзвярыма — бацька ў сябе, у старой кухні... Мусіць, думаў пра нас, сумаваў — учора з Люсяй развітаўся — ёй пара ў Гамбург. Нават цяжка сказаць — дадому...

Нехта рыпеў за сцяною ложкам, здавалася, зверху, па гарышчы — гары, бацька тупае...

*18.12.2012*

## Зноў вясна

Пачатак сакавіка — доўгачаканага месяца вясны. Еду ў Вільню. Каторы раз... Але няма тае ранейшай вялікае радасці — ад чакання сустрэчы, няма таго свята ў душы... Звыкласць, будзённасць хіба. І ўсё ж радасць ёсць — сустрэнуся з Маці Боскай у Вострай Браме. Там сустрэнуся ў думках з табою...

У вагоне песенька, простая, на складаную тэму любові: «Когда девчонке 45, она как ягодка опять...» Адразу адчула сябе пераспелай ягадкай...

Напярэдадні 8 Сакавіка едуць «дорогие женщины» — разумныя твары, мілыя галоўкі. Па радыё ўжо віншуюць «мілых дам», нешта там рэкламнае ў рыфму гучыць — «всегда рады вам». А яшчэ па вагоннай радыёсувязі раяць не пакідаць рэчы без нагляду. Жанчыны выбеленыя, з грыўкамі — тут мы падобныя. А яшчэ прыбраныя, дагледжаныя. Відаць, што не са Слухавічаў. Вядуць зацікаўленыя, але нячутныя чужому вуху размовы. Учора з Сярожкам пра жыццё размаўлялі. Сказаў, што на прыгажосць не глядзіць, болей — на ўнутраны сьвет. Гэта цешыць. Сярожка яшчэ будзе шчаслівы.

... Вільня... Прыехаўшы з Беларусі, тут можна болей паспець — на гадзіннікy меней часу — на цэлую гадзіну!

## У горадзе

За вакном ліхтар разганяе начную цемру. Здаецца — раніца, сонейка ўстала. Ты мне — гэты ліхтар, гэтае сонейка. Устаю з думкай пра цябе... Паеду на вакзал па білет, потым прайдуся па горадзе. Спачатку падыду да дому насупраць гатэлю — даўно карціць ... Каробачкі і скрыначкі — каціныя хаткі —схові шчы пры сцяне дома — Анэліз, фраў Арндт жыве! Дзякуй Богу!

На Слуцко весела барабаніць вясна, талы снег па страсе не ўмяшчаецца ў шырокія бляшаныя прамакутнікі вадасцёкаў, грыміць ледзяшамі ў доўгай трубе ўздоўж будынка — люблю яго за шкляныя дзверы, у якія можна глядзецца замест люстэрка — і скатваецца вадаспадам на зямлю. Капяжы звіняць пераможна — зіма захліпваецца слязьмі — хутка сыходзіць. Віленчукі паздымалі шапкі — ці то ад таго, што зіма сканае вось-вось, ці вітаюць вясну... «Талая вода, шалая вода — от меня вчерашнего больше нет следа!»

А я ўсё тая ж... Прайсці б зараз хоць тры крокі з табою побач па гэтым непрывычна сухім — без снегу — ходніку — на гэтай паваротцы ад Слуцко!

Касцёл Святога Рафала, як ад'едзешся і паглядзіш збоку, зусім іншы выглядае — вялікі ў памерах. Як усё правяраецца адлегласцю...

У аўтобусе старыя хвалююцца — як гэта своечасова ў дзверы выйсці... Цяжка старым людзям. Прапаную жанчыне пасядзець — няхай сабе хутка выходзіць. Ёй 75 год. Мама і тата дажылі да 79-ці, гэта яе супакойвае — ёсць яшчэ час у запасе! Вось хварэць раптам пачала — раней не хварэла. Засмучае гэта жанчыну...

На вакзале чую мяшанку — з беларускімі гукамі — відаць, з вёскі прывіленскай: «У дванасце часоў у аўтобусе ўстрэнемся!» Пайду да Маці Боскай Вострабрамскай.

Да Вострай брамы дадалося яшчэ адно «месца ўспаміну» — City Gate, гатэль, назву якога ніяк не магла зразумець, калі ты казаў па тэлефоне — вуху непрывычна. 15 лістапада мінулага года праважала цябе да гатэля. Далей ты мяне не пусціў — ты строгі.

Успаміны... Ты займаешся імі прафесійна. У мяне ж — асабістае — хачу памятаць пра цябе...

З Маці Боскай размаўляла. Яна сказала: «Твае шчасце — у любові да яго. Любі!» Так, амаль так казала яна напачатку... У Вострай Браме малюся за тых, хто побач і хто ў душы, у сэрцы. Стараюся нікога не прапусціць, але, бывае, на каго і забудуся. Тады хоць пазней, ды ўзгадаю.

Цяпер назад.

Каля Мікалаеўскай царквы малады жабрак на кукішках сядзіць. Надта жабрацтва памаладзела — гэта сумна. Яшчэ не сядзяць ля кавярняў на Замкавай вуліцы турысты, але ўжо тупаюць вясёлыя, задаволеныя, па віленскім бруку. Трактарчыкі разганяюць зіму — чысцяць снег недалёка ад Катэдры. Дзідзясіс кунігас Гедзімінас — вялікі князь закладае горад... Мы былі тут з табою ўдваёх!

Жанчыны на галоўнай віленскай вуліцы вабныя, быццам сышлі з выкшталцоных вітрынаў места. Нават калі прыгажосці някідкай, то вельмі густоўна апранутыя.

Змены вясновыя ў крамах прыгожых рэчаў: Дзядоў Марозаў перамясцілі на ніжнюю палічку за вітрынным шклом — непатрэбныя сталі.

Зараз ужо і да гатэлю прытупаю.

Вінца Кудзірка — без свае шляхетнай зімовай шапкі і каўняра са снегу, у якіх прастояў зіму, усё такі ж тоненькі, далікатны, у расхрыстаным паліто. Толькі пазеляне́ў за халодным часам — бронзавае адзенне ўвабралася пацінай. Каля Кудзіркі рэжа на баяне ўсё той жа дзядзька-музыкант, што і ў мінулую восень. І мелодыя тая ж.

Учора, 5 сакавіка, настала вясна ў Вільні, я была сведкам, і гэта прыемна: зніклі — расталі пад мостам набраклыя зялёнай вадою Вяльлі крыгі-кругі. Качкі няспешна перавальваюцца з боку на бок па заснежаным беразе ля моста — ледзяны пас яшчэ не адступіўся ад вады.

На афішнай тумбе на Зялёным мосце аб'ява: спектакаль «Фрэкен Юлія» Стрынберга. Нічога не чытала шведскага. Трэба паразмаўляць з Тусяй пра Стрынберга, яна ведае. Схадзіць бы ў віленскі тэатр...

Пара на заняткі. Тралейбус нясецца, весела распырскваючы чорную ваду глыбокіх лужынаў на снег ходнікаў. На Валакупю, як ідзеш каля ляска ва ўніверсітэт — слізка. З горкі ногі самі едуць — міжволі бягуць — робіцца смешна і весела, думаю пра цябе і смяюся — табе!

## 8 сакавіка, апошні дзень

У гатэльнай сталоўцы з выпадку свята даюць прысмачкі ў прыгожым кружочку паперкі. Мне — двайная порцыя — я ж сябрую з дзяўчатамі на раздачы, «мясарубка» былая...

Жаночы дзень усё ж адчуваецца. Нават Света А. выведзеная з раўнавагі. Мы ўсе сёння неўраўнаважаныя — стомленыя, мала спім, працуем. Анатоль К. за сталом смяецца — кажа, што не да свята — абедзьве палавіны чалавецтва пад 8 сакавіка накрыў веснавы авітаміноз, хіба што ў катоў марац у разгары. Але пры Свеціным з'яўленні ажывіўся яшчэ болей, загаманіў яшчэ хутчэй, стаў раіць нам са Светай заявіцца на канферэнцыю ў Коўне — там цікава. І каму мы, клушы турыстычныя, патрэбныя? Няхай ужо разумныя дзеўкі едуць!

А мяне Саша К. учора пацалаваў! Сам, па сваёй ініцыятыве. Нечакана: убачыў, падскочыў са словам: «Коратка!»— і пабег далей. Здзівіў! Праўда, момант быў удалы — ніхто не бачыў. М. з М. якраз уперадзе праплылі, а К. іх даганяў. Анатоль сказаў — «да прэміі», Мікола патлумачыў: «Вясна!..» А я думаю, што гэта — настальгія.

Света кажа, што ўчора яны з М. яе не цалавалі. І што наогул, К. толькі нядаўна пачаў усміхацца...

На працу ідзём. Света змучаная, нявыспаная. У Светы стрэс. Яна шмат гатуецца і выкладае па шэсць гадзін у дзень. Свеце хочацца разняволіцца, ёй хочацца выпіць! Не, я сёння з'язджаю. Учора ўжо выпілі — з Надзяй. А ў Светы яшчэ і заўтра заняткі... Цягнем яе сумку з кнігамі. Слізка на ранішнім шкле лёду. Свету забірае смех. «Што ты ржэш?»— я згубіла кантроль над сабою, і з мяне паперла слухавіцкае — дзіва, устала ў тры гадзіны ночы!



У групе «адхваціла» кветкі. Іван падарыў — яго і пацалавала. Дзяўчатаў неяк не хацелася... Добра, што хоць аднаго хлопца маем, — «на развод»,— мама б сказала. Мілы букецік пярэсценькіх цюльпанаў услед за Надзінымі ружамі нясу Раймондзе — забірай дадому! Раймонда смяецца — болей не прынось!

Не, 8 сакавіка — свята для маладых. Вунь як радасна крочыць побач з хлопцам дзяўчына з букецікам у руках. Пастарэла я, ці што. Раней марыла пра кветкі...У мінулым годзе доўга — цэлы тыдзень пакідала «на потым» падораную табою ў апошні дзень лютага бельгійскую шакаладку — такую цудоўную! Хоць цяпер падзякую...У мяне шмат успамінаў пра цябе, звязаных з гэтым днём. Гэта мае найлепшыя, найдаражэйшыя кветкі — не вянуць, цвітуць!

Перад ад'ездам яшчэ раз пабыла ў Вострай Браме. Стаю на прыпынку — 05 — на аўтобусе шыльдачка. «Ерузале». Ці не на гэтым мы ехалі тады — у Ерусалім? Амаль чатыры гады таму. Як далёка мне было да разумення цябе, сябе... Стаю, шчаслівая — да чаго ж вялікі падарунак дало жанчыне Неба!

Цяпер — на пероне, хлушу Надзі па тэлефоне — не крыўдзіць жа добрага чалавека! — што кветкі ўзяла з сабою. А ружачкі цудоўныя — бы сонейка веснавое — Надзін падарунак — на Валакупю засталіся. Гертрудзе вельмі падабаюцца! Не тое, што раўнадушная да кветак — няма як цягнуць дадому — рукі занятыя, цяжар у руках. Ды яшчэ ў віленскім тралейбусе ехаць няпроста — кідае з боку ў бок, дый пятніца, вечар... А можа — я зачарсцвела душою. Хіба што стамілася.

## Дадому

Сяджу ў вагоне, «до отправленья поезда осталось пять минут», як у той песні.

Пераедзем мяжу — напішу табе эсэмэску. Хачу ведаць, як ты. Ці здаровы, ці паехаў на канферэнцыю. Сёння 8 сакавіка, і месца ў мяне восьмае. Праўда ж, нездарма?

Вось і крануліся. Цяпер у вакне можна назіраць заснежаныя віленскія ўзгоркі-горы, маленькія хаткі, што хаваюцца ў нізінах-міжгор'і. Сёння нарэшце «женский день», і па радыё, што гучыць у вагоне, віншуюць «наших дорогих женщин», эксплуатуючы словы «шчасце».

Адразу чатыры пары сямейныя назіраю. Дзве — з дзецьмі, у адной — дзеці дома — бацькі катэгарычна-груба размаўляюць з імі па тэлефоне — відаць, добрым тонам лічыцца. Яшчэ адна пара зусім маладая. Маладая жанчына ўсё сочыць, як гуляюць чужыя прыгожанькія, як лялечкі, дзеткі...

Дзеці малыя, што ў цягніках сустракаюцца, спраўныя такія — усё пра мовы замежныя размаўляюць, бацькоўскіх амбіцыяў поўныя. Гэтыя малыя кажуць пра «португальский, английский, китайский»...

Пераехалі мяжу. Усе радасныя, па тэлефонах дакладаюць, што набылі, якія прыемнасці здзейснілі. «Почти не трясли, да? Одни мужики были, так они тебя

пожалели, или что?» «Я сегодня утром встала и такая смотрю...» Тэлефанують — наганяюць упушчанае — віншуюць са святам, якое заканчваецца...

Мужчына збоку нечым падобны да цябе. Ягоная сяброўка жыцця ціснецца да яго, як некалі да цябе я — усе мы, бабы, аднолькавыя! Праўда, ёй можна, а мне — нельга.

Яшчэ адна пара — з велізарнай валізай. Сядзім насупраць — твар у твар, адныя — у правільным накірунку — на Мінскас, другія — «задам наперад» — таксама туды ж.

Малады мужчына моцна заглыбіўся ў мабільны — мусіць, у гульні гуляе. Маладзенькая жонка перастала для яго існаваць, як толькі яны прыстроілі свой звышчамадан. Ротам і шчокамі ён нагадвае майго зяця Сяргея, з якім Маня пасля трох гадоў сумеснага жыцця нечакана для ўсіх нас — і асабліва для Сярогі — вырашыла развесціся. Сяргея шкада... Маня — мая дачка, і я адчуваю сябе вінаватай... Гэты незнаёмы малады мужчына — жывы мне дакор. Але ж шкада і Маню...

Цягнік гайдаецца, калыша з боку ў бок нашыя целы, заспакойвае думкі. Будзем наладжваць перарваныя на пяць дзён сувязі... Насця кажа, Мартусь учора хацеў тэлефанаваць і пайсці да мяне, але трапіў да бабы Нэлі. Баба Рая ўжо раўнуе свайго маленькага хлопчыка!

Ну што, можа, і гэтаму савецкаму святу падзякаваць — Маня паведаміла — брат Эдзік з Урала патэлефанаваў з гэтай нагоды — жывыя, дзякуй Богу, метэарыт у Чалябінску, у 53 км ад іх, упаў...

Кожны едзе, несучы ў сабе свой свет. Перада мною — сямейка. Малы хлопчык бесперапынна сакоча да таты, старэйшая дзяўчынка з мамай — болей маўклівая. Выклала на адкідным століку сваё маленькае захапленне: на кардоннай канапцы з малюнкам пакойчыка пасяліліся жыхары — рыбка і курачка, якая ніяк не хоча прыжывацца — чапляцца нітачкай-вісюлькай за гузік-шуруп пасярод спінкі крэсла, на якім папярэдзе сядзіць бацька.

Цямнее. Жанчыны штораз пяшчотней прыціскаюцца да сваіх мужоў. Адна накрыла свайго мужа куртачкай, як коўдрай, пацалавала: «Спі, мілы!» і занялася двума дзеткамі...

А Надзя дык нікога не хоча. Шэсць год ужо, як разбегліся. Хіба што маладога якога, мускулістага, як на карцінцы. І гэта ў 60 гадоў! Ну, Надзюха! Не хоча мыць, мякка кажучы, бялізны чужога мужчыны. Яе словы. І гэта пры тым, што сёння ўсе ўзброеныя пральнымі машынамі. Надзя падаравала букет цудоўных жоўтых ружаў, а я — потым сто разоў раскайвалася — не купіла ёй кветак. Не таму, што пасквапнічала — баба бабе кветкі дорыць, няхай нават даўно не бачыліся — ну, што гэта такое!

Надзя любіць кветкі — я ж не ведала! «Надзя, — кажу,— прабач, але мяне наведала практычная думка — заўтра ў школе цябе заваляць кветкамі! «Не ведаеш ты літоўцаў — добра, як дзве штукі набярэцца!»— і Надзя чарговы раз іх ахарактарызавала...



Так яно і выйшла. Надзя прыкупіла сабе кветак сама...

Мне хочацца глядзець на суседа «праз дарогу». Цяпер зразумела, чым ён найбольш падобны да цябе — вачыма. Трошкі навыкаце, яны сур'ёзныя, не ўсміхаюцца, нават калі ён смяецца. «Привет! С 8-м мартом! С 8-м мартом, говорю, с праздником! Весны и всё такое... здоровья... Кто-нибудь звонил, поздравлял?»

Ну чаму так магутна расчароўваюць мужчыны, хоць трохі падобныя звонку да цябе! Яго завуць Арцёмам.

«А мы с Артёмиком в Вильнюс съездили!» — радасна абвяшчае жанчына сябрам па тэлефоне. Слова даецца «Арцёміку». Ён доўга тлумачыць, як па Жалясіс цілтас трэба ісці да ЦУПу — «там буквы такие большие Ц,У и П!» «Мы брали пирог картофельный со свиной ногой... Пиво, пиво офигенное у Валдиса! Отдали мы 50 лит за двоих, побыли жирненько! Отдельно тебе расскажу... Машину можно загнать во двор... Скидок было мало в Акрополисе... Ходили, смотрели — для души!»

Па радыё граюць старую песню «Бугі-вугі».

Вельмі шчаслівая ўсю дарогу — мае эсэмэскі не дайшлі да цябе! Такая ахапіла радасць: ты лепей сябе адчуваеш, ты з'ехаў! Люблю ўвесь свет! Няхай беражэ цябе Святы Мікола і Маці Боская!

...Дома ўзважылася. За чатыры дні звалілася два кілаграмы. Вільня — цудоўны сродак для пахудання!

*Сакавік 2013*

## Да Вострай брамы ў снежні

Дзень шэры, імглісты, а абяцаў празрыстую сонечную радасць — ноччу выпаў снег і з раніцы было весела засвяцілa сонейка, без якога ўжо засумавалася за мінулыя беспагодныя дні. Сярод мокрага, непрытульнага дня сонцам яркім — Матка Боская Вострабрамская. Яна — над усімі, хто праходзіць пад аркаю Брамы. Праходзіць і аглядаецца на яе — каб сагрэцца душою...Сёння паеду з Вільні, іду развітацца...

Крочу па Піліма. З высокага і быццам прыплясканага па баках коміна на дальняй страсе валіць дым. Паліцца печ, і сярод вільготнага вулічнага бруду і змучаных жыццём твараў мінакоў робіцца ўтульна ад настальгічнага паху — здаецца, згарае нечае даўняе мінулае, пераплёўшыся з цяперашнім, шэрым дымком адпраўляецца ў Неба.

Яшчэ нестары вусаты мужчына ў брудна-белым фартуху выйшаў з базарнага будынка віленскіх «Галяў» (гэта ты мне аднойчы пра іх сказаў), каб пакурыць. Прысеў на кукішкі, прытуліўшыся да сцяны, смачна зацягнуўся і разглядае белы свет, быццам упершыню бачыць...

Я таксама хацела б доўга разглядаць твары віленскіх дамоў на Піліма. Але гэта немагчыма — запомніць адразу — надта ж вялікая іх разнастайнасць. Віленскія архітэктары і муляры любілі горад, падараваўшы дамам цудоўныя

вокны-вочы з размаітай формы «брывамі» — ляпнінаю-аблямоўкай. На двух-трох паверхах светла-жоўценькіх мураваных хатак вокнаў — дзясяткі, і размешчаныя яны блізка адно ад аднаго, паміж «пераноссем» сцяны.

Добра ісці, разглядацца, уяўляць, як некалі ў адным з гэтых дамоў цякло і беларускае жыццё — для Беларусі...

Мінаю базарную агароджу, там, дзе на вуліцы пасярод гарадскога бруду, у які ператварыўся расталы снег, прадаюцца на дашчаной скрынцы два ладныя круглякі — дзякуй Богу за дар! — свойскага масла і трохі адрэслая ад зямлі маладзенькая ссечаная елачка — стаяла-стаяла дый павалілася — бабка-прадавачка, загаварыўшыся, не заўважыла...

...Вострая Брама — самае цёплае месца ў Вільні. Не толькі таму, што тут аднойчы сустрэла цябе. У сутонні дня, над шэрасцю будзённага, кароткага снежаньскага дня залатым святлом — Матка Боская. Цёплаю ласкай любові грэе і надзяляе...

На бруку перад каплічкаю — малыя школьнікі, мо клас трэці, і дзве апякункі-настаўніцы. Субота — экскурсійны дзень. «Чудеса любите?» — першая заводзіць размову пра святыню. Другая прапануе-камандуе: «Становитесь поближе!» Дзеці стоўпіліся, слухаюць. Адразу, мусіць, пра мульцікі ўзгадваюць — дзе яшчэ цуды бачылі? «Если сильно попросить — *вроде бы*, — акцэнтуе выхавацелька, — сбывается!..» Потым гэтае «вроде бы» гучыць зноў...

Пра што папросяць у Святой дзеці?..

Што можна сказаць вучням другога ці трэцяга класа ні з таго ні з сяго пра Найглыбейшае? Гучыць — «намоленае месца», «энергия», а таксама, што ікона — «католическая» и «для католиков...»

Потым малыя, шумна датупаўшы па сходах да абраза, шэпчуцца ззаду: «Ты католик? Ты католик?» Гэта дзяўчынкі ў дзяўчынак дапытваюцца. А два найсмялейшыя хлопчыкі прыступілі да драўлянай агародкі святога месца, укленчылі па прыкладу дарослых. Трошкі пастаялі, падняліся, пераможна азіраючы аднакласнікаў...

Я пайшла ад Маткі Боскай, сюд-туд паварочваючы галаву назад. Цяжка пайсці ад Яе, не аглядаючыся — хочацца запомніць гэтае святло, што ззяе ўслед...

Колькі разоў казала яна мне: «Любі яго!»

Я і жывая — да цябе любоўю ...

## Вяртанне

У цягніку цяжка. Сярод людзей цяжка. Маладыя, прыгожыя, здаровыя, хораша апранутыя, што манекены на вітрынах на Гедыміна. Сапраўды — манекены. Бо не праглядае душа. Мала яе, палохае плыткасцю. Вязуць што з Вільні на святы — усе паліцы застаўленыя. Па тэлефоне дакладваюць: «Пиво взяла, до сыров не дошла...»

Маладая суседка з велізарнаю валізаю чытае электронную кніжку. Неяк вяла адрэагавала на маю стрыманую скаргу — капае з колаў на галаву. На трэці раз яна вырашыла болей не выціраць сяк-так колы пальчаткай — усё ж зняла сваю сумку...

Сямейная пара насупраць вячэрае. П'юць піва — болей мужчына. Ён жа і есць бесперастанна, цягаючы нешта з пачка, раскручваючы з паперы ўсё новыя кавалкі. Жанчына з модна заплеценай на бок коскай і так вельмі тоўстая, стрымліваецца. Мужчына ж малоціць усе тры гадзіны...

Дзяўчына ўперадзе праз пераход глядзіць кіно ў кампутары — змрочныя сцены, напружаныя людзі, нешта вяшчае бязносы карузлік, лятаюць гідкія пачвары з крыламі кажаноў. За некалькі гадзінаў яна ні разу не адарвалася ад экрана. Зняла слухаўкі, выключыла тэхніку, устала, пайшла да выхаду. Не развіталася — быццам і не было побач суседа — маладога хлопца...

Маму ўзгадала. Як яна расказвала пра 39-ы год, як кіно бальшавікі ў Лешчанку прывезлі. Тады бабуля адна лешчанская другой крычала: «Уцякайма, Антоса, цэрць, цэрць!» Чэрці, значыць...

Няма выпраменьвання. Ахвярнасці няма — жадання дарыць любоў. О, Пані мая, Святая Марыя...Дапамажы, Матачка. Не пакінь без Святла Тваё Боскай Душы! Дазволь несці ў сабе хоць кроплю... Не згубіць...

*21 — 31.12.2013*
*Вільня. Менск. Наваградак*



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999 г.), «Краски души» (2000 г.), «Под знаком Стрельца» (2001 г.), «Леаніды» (2003 г.), «Чырвоная вежа» (2004 г.), «Познія сны» (2006 г.), «Знакі на валуне» (2010 г.); кніжак прозы «Сцежкі да сядзібы» (2008 г.), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012 г.). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008 г.). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.



# Чортава балота

## 1

З маленства душою прывязаны да Чортавага балота, што пралегла паміж дзвюма вёскамі, раздзяліла Жабінкаўскі і Кобрынскі раёны.

Кожны ранак, прачынаючыся, глядзеў у бок гэтага балота, кожны вечар, ідучы спаць, глядзеў у бок балота. Яно было часткай майго жыцця, часткай жыцця маіх аднавяскоўцаў, нашых далёкіх і блізкіх продкаў...

Не адзін раз чуў ад бабулі Ефрасінні пра тое, як калісьці яна хацела прайсці напрасткі праз Чортава балота ў суседнюю вёску, сабраўшыся да роднай сястры, але не змагла, бо нячысцік вадзіў яе кругамі. Урэшце яна вярнулася дахаты і болей не спрабавала перасекчы балота ў брод. «Чортава тое балота!..» — казала яна, усміхаючыся ў хустку.

Я неяк не надаваў асаблівай увагі назве балота, пакуль нядаўна не натрапіў выпадкова на старую карту часоў апошняй вайны. Наша балота, аказваецца, і тады мела назву «Чортава»! Відаць, не дарма бабуля гаварыла пра чорта, які вадзіў яе па балоце.

Не дарма назва такая замацавалася...

А яшчэ бабуля з дзедам прыпаміналі сабаку Жука, які пэўны час быў у іх за добрага вартаўніка і паляўнічага. (Я і сам яго яшчэ крыху памятаю...) Дык і Жук прапаў на тым балоце!.. А як гэта здарылася, то ніхто не ведае. Пасля гэтага дзед ужо больш ніколі не трымаў сабак.

## 2

Быў позні восеньскі вечар, калі ў новым, толькі што пабудаваным доме, мы леглі ўжо спаць і маці пагасіла лямпу. Раптам пачуліся нечыя цяжкія крокі з боку вуліцы праз наш двор у напрамку хлеўчыка, за якім амаль адразу пачыналася Чортава балота. Бацька на той час працаваў у горадзе, прыязджаючы толькі ў выхадныя і святочныя дні.

Загагаталі спуджаныя гусі нечаканым візітам чужынца-злодзея...

О-о-о, тыя чужынцы! Колькі іх праходзіла і праязджала праз навакольныя вёскі, не мінаючы і нашу, якую з двух бакоў агіналі ўезджаныя дарогі.

Успомніць хоць бы цыганскі табар. Шумны і квяцісты, ён рухаўся ў бок Глінянак. Нічога падобнага пазней я не бачыў ніколі. У вёсцы, якая амаль што ўпіралася ў старыя могілкі, наша хата была прадапошняй. Яна стаяла адразу за ровам, які выходзіў на поплаў і ўпадаў у Чортава балота...

Такім чынам дзве апошнія хаты былі нібыта адлучаны тым ровам ад усёй вёскі. За імі ляжалі палі і балоты, ішла дарога ў суседні Пружанскі раён.

Раней за вёскай стаялі хутары, але па розных прычынах пасля вайны гаспадары з сем'ямі перабраліся хто куды, пакінуўшы сярод палёў астраўкі дрэў і

кустоўя, калодзежныя ямы ды камякі падмуркаў, якія падаваліся нам, дзецям, загадкавымі і таямнічымі. На той час маці выгадавала за лета больш за дзясятак гусей, якіх трымалі ў прыбудове ля хлеўчыка.

— То нехта пайшоў нашых гусак красці! — усхапіўшыся з ложку, з пералякам, сцішана вымавіла маці і, не запальваючы лямпу, накінуўшы на плечы фуфайку, пайшла ў восеньскую цемру з прывезеным бацькам ліхтарыкам. Мы таксама паўставалі з ложка, спужаныя, неадзетыя, чакалі маці...

На наступны дзень прыйшоў дзед Іван, якому зранку маці ўсё расказала. Ён уважліва аглядзеў гаспадарчыя пабудовы, але нічога падазронага так і не заўважыў. Пытанне засталося адкрытым.

## 3

З таго далёкага часу памятаецца і іншая гісторыя пра нашых гусей-гадаванцаў...

Быў летні сонечны дзень. Шапацела лісце на дрэвах, сваволіў цёплы ветрык, гучалі звонкія галасы птушак...

Аднак пасля абеду стала душна, нязвыкла цяжка дыхалася. Падалося, што ўсё навокал прыціхла ў чаканні нечага незвычайнага.

І раптам — палягчэла, быццам аднекуль скразняком прынесла прахалоду. Узняўся вецер, сыпануў у вочы пяском. Пачало цямнець, як увечары, але раптоўна, пагрозліва...

Я з суседзямі-сябрамі гуляў побач з домам. Мы зразумелі, што набліжаецца навальніца, і хутка разбегліся па сваіх хатах. У навальніцу лепш сядзець дома з бацькамі. Не так страшна, асабліва, калі табе толькі пяць ці шэсць гадоў.

Дома я застаў старэйшага брата і маці. Цямнела вельмі хутка, дзьмуў парывісты вецер, гонячы перад сабою ўсё, што трапляла на яго шляху. Заблісkалі маланкі, ударыў гром. Голле лупцавала па сценах нашага драўлянага дома, нібы дрэвы прасілі паратунку ад навальніцы. За вокнамі шумела, гуло...

Маці пабегла ў поле па чародку нашых маладых белых гусей, пазначаных на хвастах фіялетавым чарнілам. Мы з братам засталіся адны, забіліся ў куток на ложку, баючыся нават падысці да акна. Здавалася, што наш драўляны дом вось-вось раструшчыцца ад грому, як арэх пад малатком. Ад ветру электрычныя правады, якія звісалі ад франтона да слупа на вуліцы, чапляліся адзін за другі, і доўгія ланцужкі агеньчыкаў-іскарак ляцелі ўніз. Мы баяліся, што ад гэтага можа загарэцца драўляная сцяна. Сядзелі ў цёмным кутку, шчыльна туліліся адзін да аднаго, баючыся паварушыцца. Так было спакайней... А за акном на ўсю моц разгулялася стыхія летняй навальніцы. Цемра стаяла непраглядная.

Мы з братам перажывалі за маці. А яна ўсё не вярталася... Бясконца доўга цягнуўся час. Нарэшце пачулі крыкі птушак на падворку, перапалоханых яшчэ больш за нас, пачулі і матчын усхваляваны голас.



Яна ўвайшла ў пакой, мокрая і спалоханая. Цяпер усё было як трэба: гусі — у хлеўчыку, а мы — у доме, разам з родным чалавекам. Мама расказала, што перапалоханыя птушкі паразбягаліся па ўсім полі. Давялося ёй збіраць адну да другіх, супакойваць, наколькі гэта атрымлівалася.

Нарэшце прыгналі кароў пастухі. Наша пярэстая карміліца, спалоханая і здзічэлая, не адразу пайшла ў свой хлеў.

...Грымоты чуліся ўсё слабей і слабей. Навальніца адыходзіла ад вёскі, святлела ў небе.

А перад вачыма доўга яшчэ стаяла чорная навалач, бачыліся дзіды маланак і снапы агню з электрычных правадоў, маці, якая збірае спалоханых гусей у цёмным полі за вёскай ля Чортавага балота, гукае іх, нібыта малых дзяцей.

## 4

Шматлікія гульні ў вясковых хлопцаў былі звязаныя з балотам, без якога ніхто не мог абыходзіцца, бо яно было побач, бо яно было часткай вясковага жыцця, вабіла да сябе шырынёю прастору і сваёй вечнай загадкавасцю.

Чортава балота цягнулася ад пясчанай выспы, дзе здаўна лісы рабілі сабе норы, да лініі далягляду. Яго абрысы на карце напаміналі неахайна кінутую вяроўчыну. Чортава балота і зацягвала, як вяроўчынай, тых, хто трапляў туды выпадкова...

А яно прыцягвала да сябе ў любую пару года: крыкам балотных птушак летам, ці то, узімку, рыбай, што збіралася ў равы і яміны... Летам на ўскрайку балота пасвілі кароў, касілі асаку, а ўвосень дралі сухі мох для прызбаў.

За Чортавым балотам у пагодлівы дзень віднелася суседняя вёска Мацясы, што адносілася ўжо да іншага раёна, Жабінкаўскага. Там, з правага краю, бялеў невялікі будынак былой польскай школы, куды мае бацькі хадзілі з першага па чацвёрты класы. Той будынак з часам некуды знік. Пэўна, стаў непатрэбны вёсцы, альбо аджыў сваё...

Мая маці, як засведчыла ведамасць аб заканчэнні чарговага навучальнага года, была выдатніцай. Бацька ў гэтым сэнсе крыху адставаў ад маці...

З позняй восені да вясны дзеці хадзілі ў школу напрасткі, па лёдзе, так было зручней, бліжэй і цікавей. У іншую пору, калі стаяла вада, хадзілі ў Мацясы праз грэблю. Калі яна пабудавалася, ужо ніхто з вяскоўцай і не ведаў. Яшчэ мая бабуля Фядора расказвала, як вярталіся па грэблі жанчыны з песнямі з панскага двара, калі даведаліся, што адмянілі прыгоннае права. Для вяскоўцаў то было вялікае свята.

## 5

У тыя гады маленства здарылася адна непрыемная падзея, гісторыя запомнілася надоўга.

Са старэйшым братам Анатолем восеньскім шэрым днём мы збіраліся ісці на балота драць мох для прызбы. Да нас далучыўся стрыечны брат Мікола, усяго на год старэйшы за мяне. Захапілі з сабой мяхі і выправіліся на працу.

Далёка ісці было не трэба. Адразу пачалі драць мох, які быў сухі, што порах. У далонях заставалася ад яго шмат пылу. Калі адзін мех ужо напхалі, Мікола папрасіў Анатоля падпаліць купіну, каб крыху пагрэцца. Брат пагадзіўся, бо і сам быў не супраць пасядзець ля вогнішча ў ветраны дзень.

У хуткім часе маленькі агеньчык ператварыў вялікую купіну ў вогнішча. Відовішча было прыгожае, між тым агонь пачаў захопліваць усё большыя тэрыторыі, распаўзаўся ва ўсе бакі, што нас вельмі напалохала. Брат пачаў парожнім мехам збіваць полымя, а мы дапамагалі Анатолю як маглі. Але што тыя дзіцячыя намаганні!.. Анатоль пабег на падворак за вадою, прынес адно вядро, другое, але ўсё марна.

— Бяжыце домоў! — крыкнуў брат і пагнаў нас з сухога балота, якое паціху з правага боку ад броду паглыналася агнём. — Мы ўжо тут не патрэбныя, — дадаў ён і рушыў з намі ў бок хаты. Якраз на той час і маці не было дома: паехала са старэйшай сястрой Даркай у лес па шыпку...

Анатоль, як нічога і не здарылася, сеў на ровар і паехаў у другі канец вёскі да сяброў, а мы з Міколам пайшлі да дзеда Івана.

Агонь на балоце ўзмацняўся. Калі ўжо сцямнела, за вёскаю яшчэ доўга стаяла густая сцяна полымя, не даючы нікому спаць.

Вядома ж, падпальшчыкі былі вылічаны, ніхто ім не падзякаваў. Але згадваць пра гэта не хочацца.

## 6

І яшчэ адна «пажарная» гісторыя засела ў памяць.

Калі мне было гадоў пяць ці шэсць, цёплым вясновым днём мы з сябрам надумалі распаліць вогнішча за гародчыкамі на балоце. Нам вельмі хацелася пасядзець каля агню, падыхаць пахкім дымам, адчуць сябе дарослымі.

Увогнішчы заўсёды ёсць нешта незвычайнае, таемнае не толькі для дзіцячага розуму, бо вогнішча — гэта само жыццё.

Мой сябар, Лёня Надзеін, узяў дома пушку запалак. І мы, задаволеныя, пайшлі да нас.

Дома была толькі бабуля Фядора.

Мы з Лёнем пабавіліся крыху на падворку. Непрыкметна для бабулі я ўзяў кавалак старой газеты і накіраваўся з сябрам за хлеўчык, што стаяў бліжэй да балота. Пад невысокай паветкай ляжала мінулагодняя салома, крыху сена — тое, што наша карова Пяструха не з'ела ўзімку...

Мы стаіліся і пачалі запальваць сярнічкі. Гарэлі яны цудоўна, з добрым пахам. Задаволеныя, мы накіраваліся на балота, прыхапіўшы з сабою сухога вецця і некалькі паленаў дроў... Вогнішча атрымалася — проста цуд! Колькі мы прасядзелі ля яго — не памятаю...



У вёску вярталіся той жа сцяжынкаю. Гародчыкамі падышлі да нашага падворку. Ля хлеўчыка я загарнуў запалкі ў лапуховы ліст і закапаў у зямлю.

Ля ганку нас ужо чакала бабуля з дубцом. Я шмыгнуў у хату, а сябар пабег да сябе ў другі канец вёскі...

У пакоі мяне чакаў яшчэ і старэйшы на шэсць гадоў брат Анатоль.

— Дзе ты ўзяў запалкі? — сурова запытаў ён. — Хату яшчэ не спаліў!

Я спалохаўся, не разумеючы, што здарылася. Нічога не заставалася рабіць, як весці бабулю з братам за хлеўчык і адкопваць запалкі. Яны адразу ж трапілі ў кішэню бабулінага фартушка. А па маёй спіне і ніжэй некалькі разоў прайшоўся гнуткі дубец.

А здарылася тое, што звычайна здараецца ў такіх выпадках. Калі ў хлеўчыку мы запальвалі сярнічкі, адна з іх, не дагарэўшы, трапіла на сухую салому, якая паціху стала разгарацца. Мы з сябруком пайшлі на балота, агонь жа набіраў сілу. Дым пабачыла суседка цётка Ніна. Яна паклікала бабулю Фядору.

Агонь, на наша шчасце, не паспеў разгарэцца на поўную сілу. А магло б здарацца непапраўнае, калі б ён ахапіў усю гаспадарчую пабудову з саламянаю страхою. Але гэтае здарэнне не давала спакою бабулі: ад выпадковых пажараў, бывала, выгаралі цэлыя вёскі. Асабліва ёй памяталася, як у першыя пасляваенныя гады агонь знішчыў суседнюю.

## 7

Узімку, калі балота замярзала і не было снегу, вяскоўцы хадзілі касіць рыжую асаку, што ўзвышалася над лёдам. Ставілі копачкі, насілі ці вазілі скошанае на саначках пад хлявы: атрымліваўся добры подсціл для свойскай жывёлы.

Мой дзед Іван змайстраваў мне таксама невялікую касу, каб я таксама мог удзельнічаць у той «асаковай ліхаманцы», падагнаў пад мой рост, кассё. Усё атрымалася вельмі ўдала: я спраўна касіў побач з дзедам асаку.

Праз гэтае Чортава балота праходзіў роў, даволі глыбокі. Не так проста было «фарсіраваць» яго, каб трапіць у суседнія Мацясы.

Мы, вясковыя жэўжыкі, учулі ад дарослых, што ў рове шмат рыбы: прыгожыя чырвона-залацістыя карасі, зялёныя шчупакі і жоўта-чорныя ўюны. Часцей траплялiся ўюны — доўгія, слізкія. Іх нават агідна было браць у рукі. Куды прыемней лавіць ладных шчупакоў: і зеленаватых, і бела-серабрыстых...

Зімою вада ў рове нагадвала вялікае люстэрка, з якога тырчалі тарфяныя купіны. І мы, пяці-сямігадовыя хлапчукі, знайшлі сабе і ўзімку цікавы занятак — тую ж рыбалку, толькі больш хітрую, чым летам.

Збіраючыся гуртом, бралі з сабою невялікія сякеркі, кручкі са стальнога дроту, адзін канец якіх сплюшчвалі, а потым вастрылі. Яшчэ рабілі прыстасаванне з двух драўляных брусочкаў, якое працавала па прынцыпе нажніц. З краю аднаго бруска набівалі цвікоў, што нагадвалі зубы шчупака. Гэтым прыстасаваннем можна было хапаць рыбіну за спіну.

На рыбалку рыхтаваліся загадзя і сур'ёзна. Важна было нічога не забыць дома. Ішлі да рова весела і бадзёра па прамерзлым балоце. Лёд адсвечваў спадыспаду сіне-зялёнымі колерамі, у ім бялелі бурбалкі паветра, нібы дзесяцікапеечныя манеткі. Скрозь лёд часам высочвалі рыбін. Мы ўжо ведалі, што ў такіх выпадках трэба біць абухом па лёдзе. Аглушаная рыбіна прыпадала бокам да лёду. Тады яе можна было высякаць — так рабілі дарослыя. Парою мы высякалі лункі і сядзелі ў чаканні, як той воўк з вядомай казкі. Зразумела, усім хацелася, каб падплыў шчупак, але ён, мабыць, не ведаў пра наша жаданне.

Найчасцей мы лавілі ўюноў. Іншы раз яны дзясяткамі лезлі ў лунку, і мы тады рукамі выкідвалі іх на лёд. Калі адыходзілі, то прыцярушвалі лункі сухой асакой, каб вада не прамярзала і рыба магла дыхаць...

Дома звычайна ўжо чакаў старэйшы брат. У рыбу ён хадзіў са сваёй кампаніяй, у якую мяне яшчэ не бралі. Ягоным уловам, часцей за ўсё, былі шчупакі. Я забываўся на сваіх уюноў і браў у рукі вялікую і цвёрдую, нібы лядзяш, рыбіну. Шчупак паволі адтаваў і пабліскваў шэра-зялёнаю спінаю і зубастаю пашчаю.

— Добра, наступным разам пойдзеш з намі, — памяркоўна казаў брат.

Але ягоны «наступны раз» усё адцягваўся і адцягваўся...

## 8

Адыходзілі маразы, даўжэйшымі станавіліся дні, вёску ўрывалася вясна. Тоўсты снег ля плота чарнеў і паціху прасядаў кожны дзень усё ніжэй і ніжэй рабіліся некалі высокія гурбы... А калі пачынала грэць першае вясенняе сонца, са стрэх з шумам капала вада, прабіваючы ў снезе дзіркі. Як толькі стрэхі вызваляліся ад снегу і наледзі, мы пачыналі верыць у хуткі надыход вясны.

Першы па-сапраўднаму цёплы вясновы дзень... Здавалася, што ўжо заўтра пачнуць цвісці яблыні і вішні. Гаспадыня-вясна пакрые зямлю і дрэвы сваім аксамітным покрывам, сагрэтым шчодрым сонцам і напоеным цёплымі дажджамі. Але пакуль што цурчыць вада з дахаў... Сонца вышэй і вышэй узбіраецца ўгору, адорваючы нас сваім цяплом.

Без ахвоты адступае снежная ды марозная зіма, працяглая і пякучая. А дзед Ціхан «абяцае» яшчэ «апаадкі ў выглядзе снегу», але нас гэта мала хвалюе. У паветры пахне вясною. І снег ужо не зімовы, а вясенні, прапахлы прэлым сенам, саломаю. Ужо зусім інакш пахне кара на дрэвах, вада ў лужынах. І ніштo не ў сілах прыпыніць гэты непаўторны працэс абуджэння прыроды...

Сыходзіў снег, маленькія ручайкі прабіваліся са снежнага палону, збіраўся ў большыя ручаі, а тыя ўліваліся ў шырокі роў. Калі лёд у тым рове калоўся на асобныя невялікія крыгі, у нас пачыналіся даволі рызыкоўныя гульні. Быў шанец апынуцца ў вадзе, «пакупацца». Мы выбіралі найвялікшую крыгуі скакалі на яе, адштурхнуўшыся якой-небудзь жардзінай. І калі ў некага гэта атрымлівалася, то астатнім таксама хацелася стаць героямі, пакатацца на крызе, якая гойдалася пад намі сярод шырокага рова пад старымі нахіленымі вербамі.



Але часцей за ўсё крыга крышылася па краях, калолася пад нагамі. І мы траплялі нагамі ў ледзяную ваду. Праз гэта тут жа трэба было падавацца дадому, каб прасушыць абутак, пераабуцца ды пераапрануцца, калі было ў што. А так не хацелася.

Падсыхалі двары і дарогі. Сонца шчодра грэла зямлю, з якой скрозь прабівалася маладая зеляніна. На падворку, вітаючы надыход цяпла, мітусіліся куры, разграбаючы лапамі ўсё запар.

Калі вады на поплаве меншала, мы збіраліся вясёлым гуртам і беглі да балота, дзе стаяў птушыны гоман, дзе першыя жоўтыя кветкі — лотаць — вабілі нас сваім хараством і халоднай пахкасцю. Жоўты сонечны колер, зялёнае лісце аддавалі прахалодай вады, зачароўвалі дзіцячыя душы... Вада зверху праграваласяза дзень, прыемна лашчыла рукі. Мы набіралі агромністыя букеты першых кветак з такім прывабным для нас водарам вясны. І з вялікай радасцю трымалі іх у руках, падносілі да твару, дыхалі імі.

Наш лёгкі абутак прамакаў, ногі мерзлі. Ды толькі на гэта мы мала звярталі ўвагі. Дзіцячай радасці не было межаў: мы неслі дадому букеты кветак. Для сваіх маці!

## 9

З вясны да восені за гародамі вяскоўцаў зелянеў і вабіў да сябе пчолаў квяцісты поплаў.

— Унучок, бяры сваю касу, то пойдзем на поплаў, — казала мне звычайна бабуля Ефрасіння, калі трэба было падкасіць травы для цяляці. Тая трава перападала часам і карове, калі маленькае не з'ядала. Я браў змайстраваную дзедам касу і ішоў следам за бабуляю, якая даволі шпарка тупала наперадзе. Яна знаходзіла лугавінкі з добраю травою, а я скошваў яе і пакаваў у бабулін мех. Над намі ласкава свяціла сонца і звінелі ў небе жаўрукі. Але часам здаралася, што неспрактываны касец , мянтошачы касу, да крыві рэзаў палец. Тады бабуля знаходзіла ліст падарожніка і прыкладала да парэзу, потым даставала з кішэнькі нейкую хусцінку і перавязвала мой палец.

Травы хапала на два дні, а потым я зноў браў касу, а бабуля — мех, і мы ішлі на поплаў перад балотам. Бывала, што заходзілі і на балота, каб набраць і балотнай травы на подсціл. Я цягнуў бабулю да броду, бо вельмі хацелася пахадзіць па цёплай вадзе. Бабуля згаджалася, але заўсёды прыспешвалася, бо дома чакала іншая праца, якой хапала ўлетку і старым і малым. Толькі дождж ці навальніца заганялі людзей у хату. Пасля дажджу на поплаў мы з бабуляй не хадзілі, бо трава мокрая. Лепей усяго было хадзіць зранку, калі яшчэ не так спякотна. Тады і касіць спраўней, і жаўрукі ў небе весялей спяваюць.

Ля самага рова, як тры вежы-ахоўніцы, як помнікі даўніны, стаялі старыя вербы. Паступова яны ўсыхалі, парахнелі. Але па-ранейшаму вытрымлівалі навальніцы, нават у арабінавыя ночы.

Вясною роў запаўняўся вадою. Вады збіралася столькі, што яна выходзіла з берагоў і разлівалася па поплаве. З надыходам лета вада награвалася — і пачыналіся нашы паходы да вербаў... Хто ўмеў трымацца на вадзе, плёскаўся там, дзе глыбей, астатнія дурэлі побач, на поплаве, залітым цёплай вадой.

Гэта мясціна за вёскаю была вельмі прыгожая: на паверхні вады раскошвалі гарлачыкі, цвілі іншыя кветкі. Іх пялёсткі адбівалі сонечныя прамені. А зверху велічна пазіралі на ўсё старыя вербы.

Мы раслі, роў паціху зарастаў, вербы (адну за адной) спілавалі. Мясціна пад вербамі больш не вабіла. І мы пачалі асвойваць больш глыбокія сажалкі, якіх хапала ў ваколіцах. Заадно знаёміліся з хлопцамі і дзяўчатамі з суседніх вёсак.

А мяне зноў і зноў цягнула да старога зарослага рова, да колішніх вербаў над ім...

## 10

Эх, якая цудоўная пара — касавіца! На світанку, калі раса густа ляжыць на траве, прыемна ступаць з касою на плячы па гэтых серабрыстых пералівах, ісці туды, дзе моцна стамляеш рукі і спіну, але заўсёды атрымліваеш ні з чым не параўнальную вялікую ад працы. Сакавітая трава кладзецца ў пакос, а ты ўсё далей і далей рухаешся наперад, крок за крокам... Сарочка, мокрая ад поту, ліпне да цела. Як і назолы-камары, ад якіх час ад часу даводзіцца адмахвацца.

Касіць добра па расе, пакуль сонца не паспела высушыць траву. Але да таго часу ў нас з дзедам ужо выкашаны ладны кавалак дзялянкі. Мы, задаволеныя зробленым, п'ем халодную ваду з зялёнай «польскай» бутэлькі. Дзед сядае на пакос, запальвае свой «Памір», з асалодай курыць, пазіраючы на пасы свежаскошанай травы. А пах яе так казыча, так і ап'яняе. Невыказная радасць напаўняе душу.

Успаміны... Якія яны прыемныя і дарагія! Дзіцячыя, юнацкія гады...

І потым, у кожны свой прыезд да дзеда з бабуляю, я знаходзіў выпадак, каб узяць у рукі касу і пайсці пакасіць ці то на падворку, ці то ля балота. Для мяне гэта была магчымасць падыхаць незабыўным водарам свежаскошанай травы, паслухаць галасы птушак, пчол, зялёных конікаў.

Час несупынны і непрадказальны. Балоты асушылі, быццам горла перарэзалі, жывому, лініі асушальных каналаў пакрэслілі зямлю. Яе перааралі, пазасявалі травою. Але як у народзе некалі назвалі тую мясціну, такую і цяпер яна мае назву — Чортава балота. Дзякаваць Богу, засталіся і назвы былых хутароў, балотцаў, сажалак, пагоркаў... І мяне цягне ў былое Чортава балота — туды, дзе калісьці звінелі косы і чуліся галасы аднавяскоўцаў, дзе рыпелі колы вазоў з сенам, дзе я спазнаў смак сапраўднай сялянскай працы — касавіцу.



## 11

Неяк летам прыехаў у вёску, зайшоў на падворак да дзеда і спыніўся перад нечаканым відовішчам: на плоце ля сцяны хаты пад промнямі сонца, пад павевамі свавольнага летняга ветрыку сушыліся льняныя палотны. Яны нагадвалі мне далёкае дзяцінства, калі ў доме стаяў варштат, на якім ткалі як тонкае палатно на бялізну, так і грубае сукно, а яшчэ ходнікі, дываны...

У маім дзяцінстве бабуля Ефрасіння слала доўгімі радамі белыя саматканыя палотны на лузе за сядзібаю бліз Чортавага балота. Слала вечарамі, перад тым, як выпадзе раса. Так палотны адбельваліся.

У ранішнім тумане яны бялелі звілістымі палосамі. Здавалася, што гэта белыя хвалі з балота наплываюць на вёску, быццам мінулыя стагоддзі нагадваюць пра сябе.

Не тчэ ніхто ў дзедавым доме даўно, стаяць кросны ў павуцінні. Няма патрэбы ў саматканым палатне. Шмат чаго ўжо няма ў вёсцы, а галоўнае — няма майстроў, якія ткалі палотны...

А я часам успамінаю, як збіралі варштат, рыхтаваліся да працы, ткалі. Гэта было вельмі цікава. Варштат упіраўся сваім верхам у столь, сонца праз акно высвечвала ніты кроснаў... У кароткія зімовыя дні для мяне гэта ўсё было святам. Рознакаляровыя клубкі нітак, стужачак, парэзаных на вузкія палосачкі з розных анучак, прыгожыя чаўначкі... Часам і мне дазвалялі прасунуць чаўнок скрозь аснову з нітак...

...З далёкага дзяцінства плывуць за сядзібамі белыя палотны — ветразі маёй памяці. Я бачу, як бабуля нахіляецца над імі, перакладвае на другі бок, скручвае ў рольку, а я дапамагаю ёй. І ўся гэта дзея адбываецца ў ружовым тумане на світанку, які плыве з балота казачным караблём з мінулых стагоддзяў...

## 12

Ад Чортавага балота, што некалі лякала сваёй велічынёй, застаўся ўсяго толькі доўгі роў, які цягнецца ад пясчанай выспы да далягляду. І ўвечары альбо зранку, калі наплывае туман, загадкавае аблічча Чортавага балота будзіць успамін пра былое.

Не-не ды і згадваецца з далёкага маленства густы туман над балотам, які наплываў праз поплаў на вёску, затрымліваўся ў гародах з картоплямі і буракамі. І скрозь гэты туман цямнелі прывіды людзей, якія ідуць у бок Чортавага балота, паступова знікаючы з поля зроку, ператвараючыся ў шэры туман...

*2017*



# Леанід Дранько-Майсюк

**паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг: «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.**



# Прымірыць Візантыю з Рымам

***(Над спадчынаю Адама Станкевіча)***

*Ахвярую віленскаму сябру*
*Сігітасу Саладжынскасу*

Пясняр Янка Купала[1] ў вершы «Жняя» параўнаў працавітую дзяўчыну з сонцам, а святар Адам Станкевіч у манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ»[2] з сонцам параўнаў Хрыстову навуку.

І тут святар выступіў як пясняр — пясняр хрысціянства, якое, на яго думку, дапамагло нам стаць беларусамі, стварыла нашу інтэлігенцыю, дало нацыянальнаму пачуццю сілу, родную мову зрабіла мовай рэлігіі і наогул «...запаліла небасяжныя зоры ідэалу разьвіцьця над беларускім народам...»[3]

Прадстаўнік лацінскага каталіцтва ксёндз Адам Станкевіч быў прыхільнікам аб'яднання каталікоў і праваслаўных — то-бок, стаяў за Унію, без якое (так цвёрда лічыў!) наш народ не выжыў бы.

Дарэчы кажучы, у 1930-х гадах польскамоўныя віленскія публіцысты іншы раз падкрэслівалі: хрысціянства само па сабе больш важнейшае, чым падзел на каталікоў і праваслаўных[4].

З'яўляючыся адэптам рэлігійнага адзінства, Адам Станкевіч, вядома, згаджаўся з гэтым, аднак марыў пра самастойную беларускую царкву, якая была б, як ён сам пісаў, незалежнай ад «расейскага Рыма» і «Рыма польскага», і прызнавала б духоўную ўладу аднэй толькі апостальскай сталіцы — то-бок, сапраўднага Рыма.

Тут лёгка ўбачыць ягоную еўрапейскую (заходнюю) накіраванасць, але трэба ведаць: славянскія малітвы ўсё ж расчульвалі яго больш, чым лацінскія.

«Рускую» веру і «польскую» веру трактаваў як падман хрысціянства і сцвярджаў, што расійскі імперыялізм з папамі-русіфікатарамі і польскі нацыяналізм з ксяндзамі-паланізатарамі робяць Беларусі вялікую шкоду.

Ці шукаў з гэтае пасткі выйсце? Шукаў, бачыў ратунак у аб'яднанні рэлігійных і нацыянальных асноў і ў адстойванні свайго ўласнага хрысціянства.

Пра беларускую рэлігійную арганізацыю, дарэчы, дбаў і паэт Казімір Сваяк[5] — ён жа ксёндз Кастусь Стаповіч.

---

[1] Янка Купала (1882 — 1942) — народны пясняр, стварыў нібыта асабіста для мяне ўзорны твор «Алеся» (1935).

[2] Кніга выдадзена Беларускім каталіцкім выдавецтвам у Вільні ў 1940 г.

[3] Вынятка з артыкула А. Станкевіча «Alma mater...» (1944).

[4] Нарыс пад крыптанімам J «Drogowskaz wsrod puszczy» («Дарожны ўказальнік сярод нетраў»): газета «Slowo» («Слова»), № 261 (4467), Вільня, серада, 23 верасня 1936 г.; с. 3.

[5] Казімір Сваяк (1890 — 1926) — беларускі паэт і духоўны дзеяч, аўтар заўсёды надзённага нарыса «Алкаголь» (1913).

У аднаўленні Уніі Казімір Сваяк бачыў аднаўленне нашай нацыянальнай сутнасці, аб'яднанне ж усходняга крыжа з крыжом заходнім называў Беларускім Уніянізмам.

І, безумоўна, зусім невыпадкова тое, што грэчаскае слова сінтэз (аб'яднанне, злучэнне) — любімае паняцце ў творчай практыцы сяброў Адама Станкевіча і Казіміра Сваяка; паплечнікі па адной працы, яны йшлі па адной дарозе, маючы адну мэту і розныя страхі — над Адамам Станкевічам навісаў страх то польскай, то савецкай дзяржавы (апошняя загнала ў магілу), а над Казімірам Сваяком — страх невылечнай хваробы...

У траўні 1926 года паэт памёр (так рана спачыў!), і, праводзячы па ім у Віленскім касцёле святога Мікалая хаўтурнае набажэнства, Адам Станкевіч прысвяціў дарагому сябру прачулую малітву-клятву, галоўная думка якой — трэба й далей працаваць над рэлігійным аб'яднаннем вернікаў.

Ад гэтага святога клопату не адмовіўся і ў апошні свой дзень.

Займаючыся пастырскай дзейнасцю, даючы людзям спакой і аддаляючы іх ад спакусы, усё жыццё імкнуўся ў душах сваіх парафіян прымірыць Візантыю з Рымам.

Думаю, для яго гэтыя вобразы мелі не толькі рэлігійны, але і палітычны сэнс, гэтак жа, як, скажам, для Казіміра Петрусевіча[6].

Абараняючы «Грамаду» на «Працэсе 56-і», адвакат К. Петрусевіч гаварыў пра Візантыю і Рым, як пра сілы Усходу і Захаду, якія змагаюцца за Беларусь[7].

Песцячы надзею на прымірэнне, Адам Станкевіч вельмі хацеў, каб уніяты, праваслаўныя і каталікі адчувалі сябе перш за ўсё хрысціянамі, а не раскіданымі па канфесіях сіратлівымі вернікамі.

Трэба думаць, за такую лагодную філасофію яго шанавалі памяркоўныя парафіяне, а ў непамяркоўных, вядома, была іншая пазіцыя...

Рэлігійныя пытанні хвалявалі не самі па сабе, а ў звязку з нацыянальнымі клопатамі, і Адам Станкевіч прагнуў адасобіць закаснелы касцёл ад дзяржавы, бо такі касцёл, існаваў, як застыглы маналіт, і ў ім, акрамя польскай мовы для прамаўлення павучанняў, іншай мове не было месца...

Касцёл незалежны ад дзяржавы?!

Польскамоўным віленскім публіцыстам гэта не падабалася; яны лічылі, што беларускі нацыяналізм спрыяе камунізму, што каталікі з партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), да якой належаў Адам Станкевіч — людзі даволі дзіўныя, бо імкнуцца аддзяліць святое ад святога, а менавіта: касцёл ад дзяржавы[8].

---

[6] Казімір Петрусевіч (1872 — 1949) — беларускі грамадскі дзеяч, прафесар Віленскага ўніверсітэта.

[7] «Slowo», № 107 (1718), Вільня, пятніца, 11 траўня 1928 г.; с. 3; газета «Kurjer Wilenski» («Кур'ер Віленскі»), № 107 (1154), Вільня, субота, 12 траўня 1928 г.; с. 3.

[8] Нататка «Злоўжыванне хрысціянскімі лозунгамі»: «Slowo», № 279 (1890), Вільня, аўторак, 4 снежня 1928 г.; с. 3.

«...Дух мой рвецца і ляціць...» — прамаўляў Якуб Колас[9], і ўслед за любым творцам гэтак жа прамаўляў і Адам Станкевіч, бо і ягоны дух таксама ляцеў і рваўся...

Святар пісаў малітоўнікі і сустракаўся з камуністамі, мог рызыкаваць і прымаць небяспечныя для сябе прапановы; быў рашучы, не млеў перад вышэйшым клірам, таму царкоўная іерархія сваёй велічнай незгаворлівасцю не адбірала ў яго волю і жадання змагацца. Шануючы іерархію, не баяўся яе — не палохаўся тых, хто стаяў над ім, таму, напрыклад, годна гаварыў пра рэлігійныя патрэбы свайго народа апостальскаму нунцыю.

Дарэчы, і самі людзі, вядома ж, натхнёныя сваім духоўным правадыром і ягонымі паплечнікамі, пісалі ў Варшаву апостальскаму нунцыю, прасілі службы ў касцёлах па-беларуску[10].

Упэўнены, што родная мова ўзбагачае дадатковае набажэнства, і, прагнучы, каб яна гучала з амбону, летам 1918-га Адам Станкевіч прапаведаваў па-беларуску ў Дзісенскім павеце; за гэта касцельная ўлада пакарала — восенню таго ж года паслала з берагоў Заходняй Дзвіны служыць на беразе Заходняга Буга (за межы Беларусі!) у польскае мястэчка Драхічын, і там, на чужыне, разважаў сябе не толькі малітвамі, але і вершамі Якуба Коласа.

Быў з характарам, упарты ў сваіх дамаганнях, таму не зважаў на нездаволенасць царкоўных уладароў і свецкіх цэзараў і ўсё рабіў дзеля таго, каб у касцёле жыла беларушчына. Паводле ўласнага прызнання, гадаваўся ў атачэнні польскага каталіцызму, быў беларусам-каталіком польскае культуры, аднак гэта не закрыла яму родны свет.

У іншым сваім творы[11] сцвярджаў:

«...Праслаўляць Бога і лепш пазнаваць, маліцца за яго, жыць жыццём сапраўды Божым, апавяшчаць Бога другім — можна толькі карыстаючыся роднай зразумелай мовай...»[12]

Думка відавочна адрасавана ўладарам і цэзарам, і яна празрыстая — беларусы маюць сваю мову...

Францішак Аляхновіч[13] даваў такую ацэнку Адаму Станкевічу:

«...неўтаміма працуе над распалячаннем каталіцкага касцёла на Беларусі... Нягледзячы на ўсю злосьць польскіх ксяндзоў, пачаў гаварыць у касьцёле казаньні па-беларуску...»[14]

---

[9] Якуб Колас (1882 — 1956) — народны пясняр, аўтар маёй любімай арфічнай паэмы «Сымон-музыка» (1925).

[10] «Kurjer Wilenski», № 117 (1164), Вільня, пятніца, 25 траўня 1928 г.; с. 3.

[11] Маецца на ўвазе кніга «Родная мова ў святынях» (1929).

[12] Вынятка з выдання: Адам Станкевіч. Выбранае. Укладанне, прадмова і каментар Уладзіміра Конана. Мінск, «Кнігазбор», 2008 г.; с. 122. Далей: А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.

[13] Францішак Аляхновіч (1883 — 1944) — беларускі драматург, нарадзіўся ў Вільні, дзе і ствараў свае знакамітыя п'есы.

[14] Газета «Беларускі звон», № 27 (52), Вільня, серада, 18 кастрычніка 1922 г.; с. 2.

Ф. Аляхновіч, мусіць, першы ўвёў у нашу мову гэтае адметнае паняцце — «распалячанне», а ў той час распалячваць касцёл значыла — адправіўшы імшу па-лацінску, казаць для вернікаў павучанні па-беларуску.

Клопат небяспечны...

25 сакавіка 1921 года ў Віленскім касцёле Баніфратраў Адам Станкевіч правёў святочную беларускую службу, і такім чынам адбылася вельмі важная падзея — святыня Баніфратраў упершыню з вуснаў святара пачула беларускую мову! Як і трэ было чакаць, тут жа выбухнула злосць шавіністаў (як толькі не лопнулі яны?!): касцёл — гэта й ёсць Польшча, у касцёле не павінна гучаць нейкая там тутэйшая гвара[15]!

Што дадаць да гэтага, каб не пакрыўдзіць далікатную варшаўскую душу?

Апроч таго, што хай далікатная варшаўская душа не крыўдзіцца, бо так было, — нічога і не дадасі.

Цяпер нашы заходнія суседзі ў пераважнай большасці сваёй не любяць такіх непрыемных напамінаў, а мы, таксама ў пераважнай большасці сваёй, саромеемся аб тым напамінаць. Дык не трэба нам саромецца...

Лёгка здагадацца, як польскія шавіністы ўспрынялі кнігу «Хрысціянства і беларускі народ» — вельмі верагодна тое, што тут іхні імпэт супаў з імпэтам сталіністаў.

У Вільні, у літоўскім асобым архіве[16], захоўваюцца дзве следчыя, дзве назіральныя і адна маёмасная справы — бальшавіцкая фабрыкацыя на Адама Станкевіча; праца «Хрысціянства і беларускі народ», вядома ж, згадваецца ў той фабрыкацыі.

Калі ў красавіку 1949-га айца А. Станкевіча другі раз арыштавалі, то праз два з паловай месяцы 30 чэрвеня ў ягонай кватэры адбыўся дадатковыператрус, і згаданую кнігу першай упісалі ў пратакол канфіскаваных выданняў[17].

У манаграфіі дастаткова крытыкі чырвонага рэжыму; мяркую, сталіністы адразу ж падкрэслілі месца, дзе гаворыцца, што камунізм асуджаны апостальскай сталіцай, аднак жа для следчай справы пераклалі іншы фрагмент — радкі з першага раздзела «Веліч і значэнне хрысціянства»:

«...дачакаліся беларусы вялікага юбілею — 950-годдзя свайго хрышчэння. Святкуем мы гэты вялікі[18] юбілей, на жаль, толькі тут, па гэтай старане савецка-польскай граніцы, бо там, у БССР, святкаваць гэтага юбілею няможна, так як няможна вызнаваць, верыць і служыць Хрысту, няможна там усяго гэтага, бо там — о, іронія! — «найбольшая на свеце свабода, бо там найідэальнейшая на свеце дэмакратыя...»[19]

[15] Гвара (польск. gwara) — дыялект, гаворка.

[16] Lietuvos Ypatingasis Archyvas — літарнае скарачэнне LYA.

[17] LYA, f. K — 1, ap. 58, b. P — 12505, b.b. L. 9.

[18] У перакладзе гэта слова прапушчана.

[19] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; сс. 28, 29; пераклад гэтага фрагмента на рускую мову: LYA, f. K — 1, ap. 58, b. P — 12505, l. 223 — 21.



Подпіс перакладчыка не ясны, але, здаецца, пераклала жанчына, бо нечытэльныя разгоністыя кручкі пастаўлены пасля ўдрукаванага на машынцы дзеяслова жаночага роду — «перевела».

Згаданая безыменная асоба (старшы лейтэнант)[20] валодала «творчай» фантазіяй, бо здаралася й так (прынамсі, у адным месцы), што яна не проста пераклала тэкст, а значна пашырыла яго, перапрацавала па-свойму, сёе-тое ўзяўшы з рыторыкі Рымскай курыі:

«...самым опасным врагом христианства является атеистический коммунизм, который есть отрицанием всякой свободы и подлинной культуры, а так же отрицанием всякой национальности. Но не меньшим врагом христианства является и всякий зоологический национализм (расизм, фашизм, крайний национализм), какие то же не признают над миром Бога, не признают прав личности и прав слабых наций на их свободное существование, а признают только физическую силу — государство, которой должны служить и подчиняться все...»[21]

Такога ўрыўка, менавіта ў такім выглядзе, у творы Адама Станкевіча няма, ёсць толькі радок пра «...рознага роду расізмы, фашызмы і скрайнія нацыяналізмы...»[22]

Радка аднаго, вядома ж, паказалася мала, таму старшы лейтэнант і «паглыбіла» ў гэтым месцы кнігі думку змучанага допытамі святара.

А чаму б і не «паглыбіць», калі для справы...

*14 траўня 2018 г.,*
*панядзелак, 19 г. 28 хв.; Менск.*

[20] Супрацоўніца 2-га аддзела следчай часткі МДБ ЛССР.

[21] LYA, f. K — 1, ap. 58, b. P — 12505, l. 223 — 21.

[22] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; с. 99.



# Сяргей Чыгрын

**паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.**



# Янка Купала і беларуская эміграцыя XX стагоддзя

У сваёй кнізе «Беларуская эміграцыя» (Мн., 1991.С. 14) Барыс Сачанка згадаў адзін выпадак, які яму расказаў Андрэй Макаёнак. Было гэта ў 1973 годзе. У Араў-парку ў горадзе Манро штат Нью-Йорк Андрэй Макаёнак разам са скульптарам Анатолем Анікейчыкам адкрывалі помнік Янку Купалу. На тое свята сабраліся тысячы людзей. І калі Андрэй Макаёнак пачаў чытаць верш Янкі Купалы «Брату на чужыне» і дайшоў да слоў:

*Ці помніш ты сваю матулю,*
*Што над калыскаю тваей*
*Пяяла песню-байку «люлі»,*
*Снуючы ў думках рой надзей?* — пачуўся плач. Андрэй Макаёнак ажно схамянуўся, бо не думаў, што гэты верш так кагосьці ўразіць, кране. А самыя апошнія словы:

*Край беларускі, мірны, сумны,*
*Свой родны край ці помніш ты?* — патанулі ў воплесках і рыданнях...

А Вітаўт Кіпель згадвае ў сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША» (Менск, 1993. С. 260) развагі аднаго левага беларуса: «У нядзелю 30 траўня я прыйшоў з сябрамі ў Араў-парк... Перш-наперш я наведаў помнікі Т. Шаўчэнку, А. С. Пушкіну, Уолту Уітману і, ведама ж майму земляку Янку Купалу. Гледзячы на Купалу, я думаў: вось мы тут у Амерыцы думаем, што мы расейцы. Але ж у сапраўднасці мы беларусы...». Вось якое значэнне меў і мае помнік Янку Купалу для нашых эмігрантаў у далёкай краіне.

Наогул на чужыне беларусам ніколі не было лёгка, якой бы багатай і шчырай гэтая чужына не была. Беларусы заўсёды хацелі і хочуць жыць дома. Але лёс для многіх складваўся інакш. І там, далёка ад роднай Бацькаўшчыны, многіх нашых суайчыннікаў лячылі творы беларускіх песняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Асабліва тых, хто апынуўся на чужыне ў час Першай і Другой сусветных войнаў. Мікола Ганько, калі ў 1993 годзе наведаў Бацькаўшчыну, то сказаў: «Вырастаючы ў таварыстве пісьменнікаў, паэтаў і гісторыкаў, я моцна палюбіў паэзію з Янкам Купалам на чале. Калі прыходзіла хандра, я звычайна браў творы Купалы. Гэта была мая маральная апора, з якой я чэрпаў сілу да далейшага жыцця...».

Янка Купала даваў сілы ўсёй беларускай эміграцыі XX стагоддзя. Некаторыя, хто апынуліся на чужыне, ведалі на Бацькаўшчыне Купалу асабіста, былі ў яго дома, шмат разоў сустракаліся, гутарылі. Пра песняра далёка ад дому згадалі ў сваіх успамінах Іна Рытар, Яўген Калубовіч, Мікола Шыла, Мікола

Куліковіч-Шчаглоў і іншыя. А ў 1923 годзе сам Янка Купала пісаў у Чыкага ліст-мо Янку Чарапуку-Змагару, у якім хадайнічаў за беларускіх студэнтаў і прасіў дапамогі для тых, хто вучыўся ў Вільні і ў Празе. І просьбу Купалы беларускія эмігранты выканалі.

28 чэрвеня 1942 года Янка Купала трагічна гіне ў Маскве. А праз два дні гэтая сумная вестка праз «Асашэйтэд Прэс» дайшла да ўсіх беларусаў свету. «Белорусский иллюстрированный календарь за 1943 год», які выходзіў на рускай мове ў Буэнас-Айрасе ў Аргенціне, надрукаваў артыкул пад назовам «Умер друг всего белорусского народа Янко Купало», а таксама змясціў партрэт паэта, кароткі нарыс пра яго жыццё і творчасць і вершы — «Песня вольнага чалавека» і «Ворагам Беларушчыны».




*Янка Купала «Спадчына». Мюнхен. 1955 г.*

Беларусы на чужыне вельмі моцна перажывалі смерць Янкі Купалы. Літаратурна-мастацкі часопіс «Шыпшына» быў адзін з першых на эміграцыі часопісаў, які адзначыў 4-я ўгодкі смерці Янкі Купалы перадрукам ягоных вершаў «А хто там ідзе?», «На сход», «Паўстань з народу нашага, Прарок» і твораў, прысвечаных Песняру. Услед за «Шыпшынай» пра Янку Купалу пісалі ўсе беларускія эміграцыйныя выданні. Яны змяшчалі ягоныя творы, успаміны, выступленні, здымкі. Бадай у кожным нумары беларускіх выданняў на чужыне згадваўся Янка Купала — прарок беларускага народа. Пра песняра пісалі «Беларускія навіны» і «Моладзь» (Парыж), «Новае жыцьцё» (Сідней), «Беларускі эмігрант», «Беларускі голас», «Бацькаўшчына» (Таронта), «Аб'еднаньне» (Лондан), «Змаганьне», «Крывіцкі Сьветач» і «Бацькаўшчына» (Мюнхен), «Znic» (Рым), «Віці», «Беларус» (Нью-Йорк), «Раніца» (Берлін), «Беларускае слова» і «Беларуская думка» (Саўт Рывер) і многія іншыя выданні.

13 снежня 1942 года ў Чыкага (ЗША) адбыўся першы вечар памяці Янкі Купалы, на які сабраліся беларусы з многіх штатаў. А паніхіду па Песняру адслужылі яшчэ раней — 11 кастрычніка 1942 года.

Каб увекавечыць памяць генія беларускага народа, класіка нашай літаратуры, педагагічная рада першай беларускай гімназіі ў Баварыі прысвоіла гімназіі імя Янкі Купалы і стварыла пры гімназіі фонд імя Купалы. Пра гэтую падзею Іна Рытар-Каханоўская згадвала так: «У той дзень адбылася акадэмія. На сцэне вісеў вялікі партрэт Янкі Купалы, намаляваны спэцыяльна для ўрачыстасьці мастаком Д.Чайкоўскім. З гэтага партрэту заказалі клішэ, зь якога




*Помнік Янку Купалу ў Нью-Йорку*

скаўцкае выдавецтва зрабіла дзьве сэрыі адбіткаў: адну — для праграмак акадэміі, другую — для паштовак. Выкладчык беларускай мовы й літаратуры А. Каханоўскі прачытаў рэфэрат пра жыцьцёвы й творчы шлях Янкі Купалы. Пасьля рэфэрату быў канцэрт. Кампазытар Мікола Куліковіч для гэтага канцэрту напісаў музыку да вершаў Янкі Купалы «Я ад вас далёка». Песьню дуэтам выконвалі вядомыя салісткі Менскага Опэрнага Тэатру — Натальля Куліковіч (Чэмярысава) і Барбара Вержбаловіч. Акампаньяваў ім на піяніна сам кампазытар. Песьня гэтая мела надзвычайны посьпех. Перажываньні паэты, разлучанага з родным краем, спляліся з пачуцьцямі слухачоў, адгукнуліся болем у іхных сэрцах». (Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945-1950. Нью Ёрк. 1994. С. 81-82).

У 1940-50-х гадах мінулага стагоддзя да Янкі Купалы і яго творчасці беларускія эмігранты сталі вяртацца ўсё часцей і часцей. Актыўна адзначаюцца ўгодкі з Дня яго нараджэння, смерці, юбілеі кніжак і асобных твораў, інсцэніруюцца яго камедыі і іншыя драматычныя творы. Восенню 1945 года ў Буэ-

нас-Айрасе (Аргенціна) было заснавана Беларускае культурна-асветнае таварыства імя Янкі Купалы, а ў мясцовасці Камадора Рывадавія была адкрыта і бібліятэка імя Янкі Купалы. 1 ліпеня 1948 года ў Парыжы таксама з'явілася беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. У ліпені 1952 года каля вадаспаду Ніягара адбылася Першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. На ёй былі ўшанаваныя 10-я ўгодкі смерці Янкі Купалы. А Вінцэнт Жук-Грышкевіч выступіў з дакладам пра песняра. Дарэчы, пазней спадар Жук-Грышкевіч абараніць доктарскую дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы» на філасофскім факультэце Атаўскага ўніверсітэта ў Канадзе.

Беларуская моладзь на эміграцыі ў 40-60-я ХХ стагоддзя была вельмі актыўнай. Юнакі і дзяўчаты захапляліся не толькі паэзіяй нашага класіка, але і яго драматычнымі творамі. Не было такой вечарыны, дзе б беларуская моладзь не ладзіла спектаклі і інсцэніроўкі па п'есах Янкі Купалы. У лагеры Ватэнштэт (Германія) 24 сакавіка 1946 года быў пастаўлены абразок «На папасе», а на наступны год — быў інсцэніраваны верш Купалы «Цару неба і зямлі», некалькі разоў тут ставілася «Паўлінка». У 1951 годзе ў Нью-Йорку драматычным гуртком беларускай моладзі быў арганізаваны і пастаўлены мантаж па творах Купалы «Пясьнярскім Шляхам» пад кіраўніцтвам Наталлі Орса. А праз тры гады была інсцэніравана паэма «Курган» (рэжысёр Наталля Орса). У 1960 годзе ў Саўт Рыверы беларускім драматычным гуртком была пастаўлена «Паўлінка» (рэжысёр Ірэна Цупрык-Жылінская), якая шмат разоў паказвалася для беларусаў і людзей іншых нацыянальнасцей.

У многіх краінах свету з дакладамі і рэфератамі, прысвечанымі жыццю і творчасці Янкі Купалы, выступалі беларусы-эмігранты Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Малецкі, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Алехнік, Станіслаў Станкевіч, Аляксандр Калодка, Уладзімір Сядура і іншыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Творчасць Янкі Купалы свядома абуджала беларусаў на чужыне, натхняла іх, дапамагала ім адчуваць сябе як на Бацькаўшчыне. Янка Купала быў і застаўся сімвалам духоўнае моцы беларусаў. Праўда, у канцы 1940-х гадоў і ў пачатку 1950-х гадоў, як і раней, далёка ад Радзімы незаўсёды хапала паэтычнай Купалавай спадчыны, адпаведных вершаваных тэкстаў, ды і наогул, многіх твораў нашага Песняра. Таму ў Ватэнштэце, Міхельсдорфе і Мюнхене ў 1946-1953 гадах асобнымі кнігамі былі выдадзеныя «Курган», «Магіла Льва», «На Куцьцю», «Раськіданае Гняздо» і «Тутэйшыя» Янкі Купалы. А ў 1955 годзе ў выдавецтве «Бацькаўшчына» (Нью-Йорк — Мюнхен) свет пабачыў вялікі том паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» з уступным словам Станіслава Станкевіча, падрыхтаваны Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Гэта была вялікая літаратурная падзея для ўсёй беларускай эміграцыі ў свеце. Пра выход «Спадчыны» напісалі многія беларускія эміграцыйныя выданні. Адгукнуліся на выхад паэзіі Янкі Купалы і небеларуская прэса, у прыватнасці, амерыканскія, англійскія, нямецкія, польскія, украінскія і французскія выданні. Газета «Бацькаўшчына» 11 лютага 1956 года пісала, што «Спадчына» годна рэпрэзентуе Беларусь». Некалькі перадач пра выхад паэзіі Янкі Купалы падрыхтавала радыё «Вызваленьне».

Праз 30 гадоў пасля выхаду «Спадчыны» Янкі Купалы ў Мюнхене, дзякуючы ўсё ж таму Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, з'явілася выдатная бібліяграфічная праца, складзеная Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, якая называецца «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе». Ва ўступе да яе напісана: «Укладальнікі прапанаванае бібліяграфіі імкнуліся зарэгістраваць усё, што пісалася пра Купалу й Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе, па-за краінамі савецкага блёку. У меру даступнасьці матэрыялаў рэгістравалася й тое, што пісалася аб паэтах у беларускім друку былой Заходняй Беларусі, Літвы, Латвіі, Чэхаславаччыны ды Савецкай Беларусі, ня ўлічанае папярэднімі бібліяграфіямі».

Перафразіраваўшы радкі Станіслава Станкевіча з уступнага слова да мюнхенскай «Спадчыны» Янкі Купалы, хочацца сказаць, што роля і значэнне нашага Песняра ў беларускай літаратуры вымяраюцца двума аспектамі ягонае творчасці: ідэйным і літаратурна-мастацкім. Гэтыя два моманты і надаюць Янку Купалу цэнтральнае і вядучае месца ў беларускай літаратуры, а таксама ў нашым сённяшнім жыцці і ў жыцці ўсёй беларускай эміграцыі мінулага ХХ стагоддзя.



**Яна Будовіч**

паэтка, крытык, парадыст. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Ураб@н. М і яго насельнікі

*...кожны горад носіць у сабе нейкае калецтва... Горад знявечаны. Горад знявечаных. Колькі разоў яго знішчалі, руйнавалі! Але як тая птушка, што трапіла ў сіло, ён найлепей ахвяруе сваёй лапкай, чымся згіне ў няволі...*

Л. Шчэрба. Урб@н. М: адзін дзень не майго жыцця

Пасля выхаду рамана Людмілы Шчэрбы «Урбан. М: Адзін дзень не майго жыцця» (Мінск, Выдавец А.М. Янушкевіч, 2017) пра яго сталі аргументавана сцвярджаць як пра з'яву ў жаночай прозе. Згаджаючыся альбо аспрэчваючы ў думках тое, што выкладалася крытыкамі, я задумалася: а вось калі б Людміла падпісалася мужчынскім псеўданімам, ці можна было б здагадацца аб сапраўднай гендэрнай прыналежнасці аўтара? І зрабіла выснову: так, можна. Але не па тых прыкметах так званай «жаноцкай прозы», якія ёй нібыта ўласцівыя (напрыклад, любоў да хэпі-эндаў, поліфанічнасць мыслення і светаўспрымання, што характарызуюць жаночую псіхалогію), а з-за тыповай рысы, якая не мае гендэрнай прыналежнасці, але ў нашай беларускай рэальнасці атаясамляецца менавіта з жанчынамі: смеласці. А зараз варта разгледзець, у чым менавіта яна выявілася найярчэй.

## Структура

«...чытаць можна з любой часткі!» — досыць смела заяўляецца ўжо ў анатацыі да рамана. Чытач загадзя папярэджаны: яго чакае нешта незвычайнае. Так і ёсць: раман структураваны спрэс. Час падзелены на адрэзкі (2 хвіліны таму, 8 гадзінаў таму, 4 гады таму, 4 стагоддзі таму; 12 гадзінаў пасля, 12 дзён пасля, 12 месяцаў пасля, 2 гады пасля і інш.), унутры якіх — шматлікія ўзроўні (цокальны, першы, паміж цокальным і першым, другі, чацвёрты, восьмы; карыстальніка, культуры, адрэналіну, алкаголю, небяспекі, даверу, дзіцячы, фізічны, разбурэння і інш.). На адрэзках ёсць таксама і часавыя «пункты» — пазначаны некаторыя важныя ў жыцці герояў рамана даты (4 лютага (дзень народзінаў героя), 4 чэрвеня 1642 года, 24 снежня 1654 года, 24 чэрвеня 1644 года, 4 лютага 1648 года і інш.). Расповед можна прадставіць як вось каардынат, на якой падзеі, што адбываюцца з пазнакай «...таму» — «пункты» са знакам «—», а падзеі, што апісваюцца пасля «...пасля» — са знакам «+». Адметна, што пункт адліку, альбо «ноль» у рамане, напісаным ад імя аўтара — першая пасцельная сцэна (з яго удзелам ), а ў рамане, які ўяўляе сабой мэшап (на беларускай глебе) — момант грэхападзення, калі Ева есць яблык з Дрэва пазнання і частуе ім Адама. Паўстае пытанне: няўжо нельга было распавесці пра тое ж самае, не структуруючы матэрыял? Можна. Але ход, зроблены аў-

тарам, неяк упрыгожвае твор, робіць тэкст больш простым для ўспрыняцця, чытанне — лёгкім. Пасля невялічкага кавалку расповеду заўжды можна вярнуцца ў патрэбны момант, перачытаць яшчэ. У гэтым — арыгінальнасць. Да таго ж мы назіраем пэўную прыхільнасць да нумаралогіі: відаць, што лічбы 2, 4, 8 і 12 маюць асаблівае значэнне.

## Крытык (ён жа аўтар):

«...новая з'ява ў беларускай літаратуры — мэшап. Як і ўсё беларускае, мэшап на беларускай глебе ідзе сваім шляхам. У адрозненне ад класічнага накірунку, у рамане Ганны N — мэшап поліфанічны і ён распылены па ўсёй кнізе...» Класічны мэшап — гэта калі аўтар пераносіць герояў класічных твораў альбо рэальных гістарычных персанажаў ва ўмовы фантастычнага рамана, аўтарскі расповед стылізуецца пад тэкст арыгіналу. Вядомы твор пры гэтым набывае новыя сэнсы. Якім жа чынам мэшап паўстаў на беларускую глебу?

У класічным мэшапе дзейнічаюць зомбі, вурдалакі, ёсць фантастычныя элементы. У рамане Л. Шчэрбы гэтай нечысці няма, фантастычнага антуражу — самы мінімум. Затое значэнне тэрміна «мэшап» (mash-up — змешваць) — адбілася ў поўнай меры.

Як пазіцыянуецца аўтарам, пад вокладкай кнігі — «раман у рамане». Адзін, напісаны аўтарам, другі — героем. У рамане, напісаным «аўтарам», задзейнічаны некалькі гістарычных крыніц, ад якіх абстрагаваўся аўтар. Баркалабаўская хроніка, біблейскае паданне пра Адама, Еву і выгнанне іх з раю; пра Ліліт; паданне пра Цмока, якому прыводзілі найпрыгажэйшую дзяўчыну як ахвяру. Гістарычныя і легендарныя асобы надзелены ўласнымі характарамі. Адметная аўтарская трактоўка вядомых сюжэтных ліній Ліліт — Змій — Адам (Бог стварыў Ліліт з агню, кветак і матылёў, а Адама — з зямлі і гліны, таму яны не могуць быць разам) і Цмок — дзяўчына-ахвяра (якая насамрэч аказваецца не ахвярай, а Музай і абуджае яго крылы для палёту). Сюжэты існуюць паралельна і, як у аркестры, узмацняюць гучанне адно аднога, паглыбляюць адчуванне драматызму.

## Постмадэрн

Пытанне: ці можа не быць постмадэрновым твор, напісаны ў жанры мэшап? У выпадку Л. Шчэрбы ён постмадэрновы наскрозь, пранізаны цытатамі і эпіграфамі, узятымі з літаратур ад старажытнай да сучаснай; адметна, што адзін з эпіграфаў належыць самому аўтару. Паўсюль у творы спасылкі на герояў іншых твораў і рэальных гістарычных асоб (Джулія Ламберт, Познер, Севела, Элвіс, Майкл Джэксан і інш.). Можна ўпэўнена зазначыць, што Марыс Метэрлінк — адзін з любімых пісьменнікаў аўтара і яго светапогляд (у п'есах яго сцвярджаецца ўлада над чалавекам загадкавага невядомага, героі — як ахвяры, згубленыя ў варожым свеце, сляпыя марыянеткі) аўтару блізкія.



Шматузроўневы арганізм, альбо Насельнікі і аб'екты Урб@на.М

Прафесійныя чытачы, звычайныя тыпы, вытанчаныя эстэты, бамжыха, дзяўчына-лесбіянка, дзяўчына ў інвалідным крэсле, дзяўчына, якую згвалтавалі, варона (спадарожніца галоўнай гераіні як алегорыя здаровага сэнсу з добрым дамешкам цынізму), першы муж і другі муж галоўнай гераіні, яе сяброўкі і калегі, дзеці з анкалагічнымі захворваннямі.

Разнастайныя ART-аб'екты (капіравальны салон, вялізны гандлёвы цэнтр, упакоўшчык №17 (дасціпная пародыя на правадыра рэвалюцыі), неапазнаны пачак пельменяў з маразілкі, шматлікія тыпы, якіх можна сустрэць на лесвічных пляцоўках шматпавярховікаў і насценны жывапіс, які «ўпрыгожвае» будынкі звонку і знутры, таксоўка з дзяўчынай-бландзінкай у ружовай куртачцы за рулём і шмат, шмат іншых).

Акрамя таго, правілы жыцця і аркушы нібыта дзённікавых запісаў галоўных герояў, старонкі летапісу.

Што тут новага? Аўтар нібы робіць «зрэз» і апісвае тое, што адкрываецца зроку. Гэта, у тым ліку, і «няёмкія», негалосна забароненыя тэмы (дзяўчына-інвалід, дзяўчына нетрадыцыйнай арыентацыі, дзеці ў анкалагічным цэнтры).

## Узровень забаронены

З неразуменнем сутыкаецца кожны. Нягледзячы на тое, што ва ўсіх нібыта аднолькавыя базавыя і другасныя патрэбы (даху над галавой, быць апранутым, накормленым, кагосьці любіць, кахаць і быць каханым, самарэалізацыі), непаразуменне паміж людзьмі не менее. Бо адзін чалавек не можа «ўлезці» ў скуру іншага і адчуваць жыццё яго нервовымі рэцэптарамі. Згадваючы тэорыю існавання наасферы, так званага энергаінфармацыйнага поля зямлі, дзе сканцэнтравана ўся інфармацыя пра тое, што было, ёсць і будзе, можна меркаваць, што людзі з тонкай псіхічнай арганізацыяй псіхікі (найчасцей людзі мастацтва) могуць нейкім чынам яго адчуць. Аўтар робіць спробу зразумець светаадчуванне дзяўчыны, прыкаванай да інваліднага вазка. «Да незнаёмкі перайшла Ганніна радасць, Ганна ўвабрала ў сябе яе боль... Гэтая сустрэча нібы выцягнула з Ганны на паверхню яе тайны боль, яе асабістае ўнутранае інваліднае крэсла, да гэтага моманту старанна схаванае, і выплюхнула на ўсеагульны агляд.» Яна ж магла проста прайсці міма і не заўважыць. Але не толькі заўважае — разумее, што паміж імі няма сутнаснай розніцы, розніца толькі ў ступені адказнасці: «Табе... здаецца, што, каб не НОГІ, усё было б інакш. А калі ўявіць, што і ногі пры табе, і ўсё астатняе з выгляду, а ты так і не зрабіла тое галоўнае... З прычыны ўнутранай паломкі. ...Я скажу балючую і злосную рэч: можа, табе нават лягчэй — у цябе ёсць АПРАЎДАННЕ, усяму, што не зладзілася. Можа, Бог абараніў цябе такім па-чалавечы жорсткім чынам ад жыццёвых расчараванняў, перакрыўшы тваёй знешняй недасканаласцю ўсе дробязныя неладункі. Мне, ТАКОЙ, па-твойму, дасканалай, апраўдання за недасягнутае няма. ...Кожная з нас нясе сваё калецтва. Ты звонку. Я ўнутры».

Светабачанне хворай дзяўчыны пададзена праз Ганніну інтэрпрэтацыю, і гэта толькі невялікі фрагмент рамана — галоўная гераіня выходзіць з лаўкі і сустракаецца з ёю позіркам. Чамусьці лічыцца, што ў высокай літаратуры нельга кранаць тэму інваліднасці. Але... калі так бывае ў жыцці, чаму літаратура мусіць унікаць адпаведных тэм?

Былая каханая галоўнага героя, Ліліяна, — нетрадыцыйнай арыентацыі. Яна кахае... дзяўчыну. Што «давяло» яе да такога жыцця? «Відаць, нішто так не ламае псіхіку дзяўчыны, як тыдзень у выраі, з багатым, яркім мужчынам, што адкрывае перад ёю ўвесь свет, ва ўсіх фарбах. Яна раптам разумее, што магчыма ўсё! Тэмпература жыцця зашкальвае. Шэсць дзён. А на сёмы «...» прамавугольная шэрая рэальнасць, што звузілася да памеру мабільніка, з якога Ён больш недаступны. ...А смакавыя рэцэптары жыцця ўжо не ўспрымаюць дыстыляванага горада, нармалёвых хлапцоў, зразумелых адносінаў... І ратавальная палёгка ў абдымках каханай жанчыны». Аўтар не ставіла мэтай раскрыць тэму «нетрадыцыйнага» кахання, а толькі дакранулася да яе, хаця магла і не заўважыць, прайсці міма. Але... горад насяляюць усялякія тыпы, а калі літаратура — гэта спроба даследаваць, зразумець і адлюстраваць сапраўднае жыццё, чаму яна мусіць цурацца таго, што быццам «няёмка»? Тым больш, што ў нас тэма гэта недаследаваная, «сараматная»...

## Узровень адчувальнасці

Пасля выхаду «Урб@ана. М» у сеціве вялася дыскусія, у ходзе якой раман параўноўвалі з жаночым чытвом з-за прысутнасці ў ім сцэн сэксу (дарэчы, іх усяго некалькі). Варта адзначыць, што кожны знаходзіць тое, што шукае, свет адлюстроўвае тое, што кожны з нас свядома ці падсвядома выпраменьвае ў яго... Універсальным лічыцца той твор, які могуць чытаць людзі з розных «эвалюцыйных прыступак» духоўнай, інтэлектуальнай, душэўнай сталасці. Адносна пасцельных сцэн — яны не галоўныя, а ўсяго толькі як пара кадраў ў трылеры, ілюструюць расповед там, дзе напал жарсцяў выклікае іх наяўнасць. Апісанне іх нельга назваць пошлым, бо гаворка ідзе найперш пра пачуцці. Несумненна ў аўтара ўсё ў парадку з густам і адчуваннем меры: адпаведныя сцэны не дакучаюць і выкананы па-мастацку.

## Узровень філасофскі

Надзвычай трапнай і ўдалай выглядае ўтарская алегорыя беларускай ментальнасці. Выяўленая ў вобразе з сялянскай паўсядзённасці, яна здольная выдатна ілюстраваць шматстаронкавыя навуковыя апісанні праблемы. Бабуля распавядае ўнучцы пра тое, як падчас выпасу карова са статку спусцілася да рачулкі папіць вады і ўбачыла, што на супрацьлеглым беразе — трава і зелянейшая, і спялейшая. Памкнулася перайсці на той бок, як раптам правалілася ў прадонне. Мільганула агромністая пашча і праглынула яе. Гэта адбылося вельмі даўно, але перадсмяротнае каровіна рыканне ўелася ў мозг астатніх кароў, ацалелых. І хай іх даўным-даўно з'елі, памяць на генным узроўні засталася. «І мы, такія навучана-памятлівыя, не можам рызыкаваць сабою. У глыбінях душы мы зайздросцім здольным на ўчынак...»

## Экзістэнцыя пісьменніка (цы)

Як і ўсё астатняе, гэтая самая экзістэнцыя пададзена з сур'ёзным гумарам. У грамадстве сацыяльныя ролі размеркаваны так, што кім бы ні была жанчына па прафесіі, галоўным для яе мусіць быць сям'я. «Пішы, пішы — з усіх бакоў. І ніхто не хоча разумець, што гэта — лад жыцця, вар'яцкая шчырасць з сусветам да балючай аголенасці нерваў, калі кожнае судакрананне з рэчаіснасцю настолькі фізічна-абвостранае, што проста разрывае цябе... А даводзіцца існаваць паміж добрапрыстойным ладам жыцця і брутальнай шчырасцю сам-насам, з сабою.

—Зараз, мілы, пачакай, толькі заб'ю свайго героя — і адразу пайду т-варыць табе кашу — тваю любімую...»

У рамане, напісаным героем, галоўная гераіня — пісьменніца. Вось як яна ўспрымае свет: «А ў душы яна разам з каханнем адчула той сусветны боль, які быў ёй знаёмы з самага дзяцінства, які ўжо быў аціх, і, здавалася, ані кроплі яго не засталося, аднак ён наноў узнік зніадкуль, быццам быў уліты ў яе праз яго».

## Узровень высноваў

Мяркую, нельга быць пісьменнікам па-за гэтым сусветным болем. Па-за смеласцю, мужнасцю рабіць крок у нязведанае і некранутае, рашучасцю браць на сябе адказнасць, а таксама па-за нешараговым пачуццём гумару (не пацешыўся б, дык павесіўся б, як казалі нашы продкі, — прымаўка, дарэчы, выдатна ілюструе нашу беларускую рэчаіснасць). Усё ў наяўнасці пад вокладкай «Урб@на.М» — а таксама адметны аўтарскі стыль, дзе нічога — ні адняць, ні дадаць — ператварае чытанне кнігі ў сапраўднае свята. І абсалютна неістотным уяўляецца, што раман разглядаюць як з'яву менавіта жаночай прозы. Істотна, што ён — з'ява.



# Эдуард Дубянецкі

**паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй нясконачаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.**



# Захоўваць спадчыну насуперак сістэме...

***Длатоўская Аліна. Ген зямлі: аповесць. — Мінск: Кнігазбор, 2017. — 132 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).***

У апошнія гады стаў асабліва заўважным той факт, што маладыя айчынныя творцы (найперш дзяўчаты) актыўна спрабуюць знайсці свой адметны мастацкі стыль, асэнсаваць складаныя праблемы мінулага, сучаснасці і нават будучыні, а таксама імкнуцца як мага хутчэй выдаць сваю першую кнігу і па-добраму здзівіць ёю сваіх чытачоў. І варта прызнаць, што некаторым з аўтараў-пачаткоўцаў сапраўды ўдаецца за не надта доўгі час дасягнуць пастаўленых мэтаў і звярнуць на сябе ўвагу чытачоў і літарутурных крытыкаў. Летась адным з яскравых пацвярджэнняў гэтага тэзісу стаў выхад у свет дэбютнай кнігі маладой пісьменніцы Аліны Длатоўскай (нар. 1994) «Ген зямлі». Рэцэнзуемая кніжка складаецца з аднайменнай аповесці, напісанай у досыць рэдкім для айчыннай літаратуры жанры антыўтопіі. У цэлым аповесць адпавядае практычна ўсім патрабаванням да твораў дадзенага жанру, паколькі на яе старонках прадстаўлена і змрочная карціна будучыні, і выведзены на авансцэну некалькі мужных і сумленных герояў, якія рашуча змагаюцца са сваімі антыподамі-ворагамі, і распаведзена гісторыя кахання ў надзвычай складаных і неспрыяльных абставінах, і апісана зацятая барацьба нейкай злавеснай Сістэмы («С.О.Н.» — «Система Охраны Наследия») з любымі праявамі беларускай нацыянальнай культуры, якія, у сваю чаргу, усяляк падтрымліваюцца арганізацыяй-антыподам — нешматлікай моладзевай падпольнай групай «Лабірынт».

Кніга складаецца больш чым з двух дзясяткаў невялікіх раздзелаў, прычым добрая палова з іх называецца імёнамі асобных персанажаў. Адметна, што гэты твор пачынаецца і заканчваецца раздзелам «Эдуард Львовіч», які названы імем галоўнага антыгероя-злодзея аповесці, кіраўніка «С.О.Н.». Больш за тое, у самым пачатку і ў самым канцы кнігі выкарыстоўваюцца дзве аднолькавыя кароткія фразы: «Эдуард Львовіч лічыў сябе таленавітым. Ён умеў рабіць брудную справу і бачыць у гэтым мастацтва». Ужо такі пачатак выяўляе пэўную арыгінальнасць аўтарскага падыходу, паколькі адразу выклікае цікавасць для чытача, якому, мяркую, захочацца як мага хутчэй даведацца, што ж гэта за такі самаўпэўнены персанаж, які займаецца бруднымі справамі ды яшчэ і лічыць сваю спецыфічную дзейнасць сапраўдным мастацтвам.

Добрае ўражанне пакідае тое, што пісьменніца-дэбютантка, нягледзячы на свой яшчэ юны ўзрост, ужо даволі ўпэўнена трымае чытача ў стане напружан-

ня, паколькі падзеі (часам драматычныя) разгортваюцца найчасцей адносна хутка і дынамічна. Да таго ж, аўтарка валодае лёгкім чытэльным стылем і майстэрствам апавядальніка, умее заінтрыгаваць чытача, пабудаваць востры сюжэт, прыдумаць нязмушаныя і дасціпныя дыялогі, а таксама лаканічна і ў той жа час ёміста выявіць сваю аўтарскую пазіцыю, выказаць асабістыя перажыванні і перакананні.

Пра надзвычай вялікую ўвагу аўтаркі да галоўных персанажаў (станоўчага героя Данілы Арлова і ягонага антаганіста-антыгероя Эдуарда Львовіча) сведчыць ужо нават той факт, што калі імем другога з іх названы два раздзелы, то першага — ажно чатыры! Імёнамі ўсіх шасці ўдзельнікаў арганізацыі супраціўлення «Лабірынт» таксама названы асобныя раздзелы дадзенай кнігі. Спытаецё, дык хто ж яны, гэтыя мужныя маладзёны, якія не баяцца злоснай Сістэмы і робяць усё магчымае, а часам, здаецца, і немагчымае, дзеля захавання (а для гэтага ёсць нават сакрэтнае Сховішча) найлепшых гісторыка-культурных артэфактаў беларускага народа — архітэктурных помнікаў, каштоўных рэчаў, гістарычных крыніц, мастацкіх кніг, жывапісных работ, музычных запісаў і г.д. І замест доўгага адказу на гэтае пытанне, відаць, лепш за ўсё прывесці тут поўны пайменны спіс гэтай слаўнай шасцёркі сапраўдных змагароў з указаннем іх адмысловых звышздольнасцей: Алесь Савіцкі («меў дар пераканання»; кіраўнік «Лабірынта»), Даніл Арлоў («бачыў мінулае рэчаў»), Сцяпан Луцкевіч («бачыў наскрозь канструкцыю любога будынка»), Яраслаў Скурко («чытаў думкі»), Ніна Пашкевіч («дзяўчына з супер-памяццю»), Ліка Станкевіч («якая ўмее выклікаць прывідаў»). Цікава, што Данік Арлоў быў хрэснікам Эдуарда Львовіча і спачатку належаў да «С.О.Н.», але пасля таго, як быў накіраваны ў «Лабірынт» для агентурнай падрыўной дзейнасці, неўзабаве настолькі пранікся ідэалогіяй гэтай моладзевай арганізацыі, што стаў яе актыўным удзельнікам і ў рэшце рэшт быў абраны яе новым кіраўніком.

Амаль адразу можна вызначыць, што аўтар кнігі — яшчэ малады і даволі нявопытны пісьменнік. Што канкрэтна на гэта паказвае? З аднаго боку тое, што ў кнізе дзейнічаюць амаль выключна маладыя персанажы (хлопцы і дзяўчаты) — найперш з падпольнай арганізацыі «Лабірынт». Бадай, найбольш адэкватна і, як кажуць, з веданнем справы іх паводзіны і думкі хутчэй за ўсё мог апісаць менавіта малады чалавек, які сам пастаянна знаходзіцца ў асяроддзі пагодкаў (ці прынамсі людзей блізкага да сябе ўзросту) і, адпаведна, ведае знутры іх штодзённае жыццё. Праўда, тут хочацца дадаць, што асабіста мне ўсё-ткі не хапіла ў кнізе больш-менш падрабязных апісанняў знешняга выгляду гэтых персанажаў і іх заняткаў у да-лабірынтаўскі перыяд. А з другога боку тое, што героі аповесці нярэдка выкарыстоўваюць сённяшні моладзевы слэнг, асобныя модныя слоўцы. Да ліку такіх характэрных выказванняў можна аднесці, напрыклад, наступныя: «афігеў», «дах знесла», «ты тормаз», «хацелася яго добра працягбаць», «бесіць», ён нас «троліць», «крутыя ў цябе здольнасці», «часам здольнасці глючаць», «татуха», «прывіт», «мы любім прышпільвацца». Прычым адметна, што апошняе з прыведзеных выказванняў належыць...Кастусю Каліноўскаму (вельмі арыгінальны ход!), прывід якога «прыйшоў» да лабірынтаўцаў і шчыра паведаміў, што яму акрамя слоўца «прышпільвацца» падабаюцца яшчэ словы «сеціва», «заўзятар», «імбрык». Карацей, у дадзеным выпадку адбылося своеасаблівае асучасніванне адной з самых знакамітых і знакавых фігур айчыннай гісторыі. Акрамя таго, у аповесці таксама ў той ці іншай форме «прымаюць удзел» і такія славутыя (і ўлюбёныя аўтаркай) палітычныя і культурныя дзеячы, як Вітаўт, Сапега, Гусоўскі, Скарына, Дунін-Марцінкевіч, Напалеон Орда, Ластоўскі, Купала, Караткевіч, Быкаў і інш.

У кнізе аўтарка часам выяўляе і свой відавочны паэтычны талент, што часткова знаходзіць адлюстраванне ў рытмічна арганізаванай будове некаторых сказаў, але ж найперш — у стварэнні арыгінальных аўтарскіх метафар і параўнанняў. Да ліку такіх найбольш удалых і самабытных метафар (найчасцей гісторыка-культуралагічнага характару) можна аднесці, напрыклад, наступныя. Так, пісьменніца піша тут пра «выспачку праўды ў плыні міфаў, якімі захлыналіся рэшткі беларускай гісторыі», пра туман, які «даядае апошнія агні Мінска», а таксама пра тое, што ў лепшым выпадку Сістэма яго (галоўнага героя. — Э.Д.) выкіне, «як зламаную ляльку» ці, урэшце, пра тое, што, магчыма, Беларусі настаў час, як таму дубоваму лістку, які ўпаў у лужыну і бегае па ёй, «перастаць трымацца, саступіць месца новай культуры, новай нацыі?». А гаворачы пра галоўнага героя твора Данілу Арлова, пісьменніца падкрэслівае, што ў дзяцінстве «беларуская мова апанавала яго, як нейкі вірус», пасля чаго ён пачаў размаўляць на гэтай мове і далей ужо ніяк не мог спыніцца.

Ды і сама назва твора па сутнасці ўяўляе сабой самабытную і прыгожую паэтычную метафару — **«ген зямлі»**. Праўда, дзеля справядлівасці варта прызнаць, што аднаго дакладнага і ёмістага вызначэння гэтай метафары ў творы, на жаль, не даецца, у выніку чаго дзіўны ген у розных месцах кнігі трактуецца то як нейкая мутацыя, то як нагода для праяўлення звышздольнасцей, то як «любоў і гонар», то як «апошняя надзея Беларусі», а то і ўрэшце як тое, «што прачынаецца ў нас, калі мы ўпершыню чуем беларускую мову, беларускія спевы, чытаем пра беларускіх герояў ці пра беларускую архітэктуру». Тым не менш, у кнізе падкрэсліваецца, што гэты загадкава-таямнічы «ген зямлі» здольны выклікаць патрыятызм, падштурхнуць чалавека не толькі да пасіўнага вывучэння беларускай мовы, культуры, але і да актыўнага змагання за гісторыка-культурную спадчыну роднай Беларусі, за лепшую будучыню Бацькаўшчыны.

Безумоўна, побач з дадатнымі рысамі гэтая кніга мае і відавочныя недахопы, хібы — альбо, гаворачы моладзевым слэнгам, «касякі». Прычым апошнія, на маю думку, звязаны як са зразумелай творчай нявопытнасцю маладой аўтаркі, так і з яе недастаковым жыццёвым досведам. Разгледзім зараз толькі пару такіх адмысловых «касякоў». Да іх ліку можна аднесці, па-першае, тое,

што ў рэцэнзуемай аповесці слаба акрэслены прасторава-часавыя каардынаты (дакладнае вызначэнне часу і месца дзеяння), а гэта ж заўсёды вельмі важна для такіх буйных празаічных жанраў, як аповесць і раман. Напрыклад, у кнізе не акрэслена, калі канкрэтна адбываюцца падзеі, і толькі пры ўважлівым чытанні на аснове некаторых маленькіх дэталяў можна прыйсці да высновы, што гэта хутчэй за ўсё зусім недалёкая будучыня. Акрамя таго, часам бывае незразумела, у якім горадзе, пасёлку ці вёсцы адбываюцца падзеі таго ці іншага эпізода аповесці. А па-другое, у аповесці практычна нічога канкрэтнага не гаворыцца таксама і пра новаўтвораную краіну пад назвай «АбРэсп», тэрыторыя якой служыць арэнай усіх падзей. Гэтая краіна расшыфроўваецца аўтаркай як «Еўрапейска-Расійскае Аб'яднанне Рэспублік», але з тэксту твора застаецца незразумелым, якія краіны (акрамя Беларусі і Расіі) уваходзяць у «АбРэсп», калі гэтае дзяржаўнае аб'яднанне было створана і які яго дзяржаўны лад, якія людзі ці кланы ім кіруюць.

Некаторыя меркаванні і высновы самой аўтаркі ці асобных яе персанажаў падаюцца занадта спрэчнымі ці нават увогуле неабгрунтаванымі. Прычым менавіта аўтарскія пасажы ў ідэале павінны быць максімальна дакладнымі, прадуманымі і абгрунтаванымі, бо любых персанажаў твора можна заўжды «апраўдаць» тым, што гэта яны так думаюць, і ў дадзенай сітуацыі я — аўтар — нібыта нічога не магу з гэтым зрабіць. У сувязі з гэтым пакінем зараз у спакоі некаторых дзейных асоб з іх даволі сумніўнымі выказваннямі і з улікам абмежаванасці аб'ёму нашай рэцэнзіі разгледзім толькі адзін такі небясспрэчны момант, на якім завастрае ўвагу маладая пісьменніца. Так, у пачатку аднаго з раздзелаў аўтарка разважае пра тых людзей, якім нібыта лёгка жыць на белым свеце. Сярод іншага яна, напрыклад, піша наступнае: «Лёгка быць дурнем. Можна бясконца памыляцца і апраўдвацца сваёй тупасцю. Лёгка быць геніем. Нават калі ты памыляешся, мала хто гэта зразумее. Цяжка быць пасярэдзіне». Аднак, на маю думку, гэта цалкам няслушнае меркаванне, паколькі, па-першае, «дурань» (чытай чалавек з псіхічнымі адхіленнямі і неадэкватнымі паводзінамі) найчасцей жыве, зусім не задумваючыся над тым, лёгка яму ці цяжка, бо для гэтага яму акурат не стае навыкаў крытычнага мыслення і ўмення зірнуць на сябе збоку. Да таго ж, з клінічнай псіхалогіі вядома, што «дурні» увогуле не лічаць, што яны ў нечым памыляюцца і што за гэта трэба апраўдвацца, а тым больш яны ніколі і нідзе не прызнаюць уласнай «тупасці».

А па-другое, многім сапраўдным геніям найчасцей бывае вельмі нялёгка, бо іх жыццёвы шлях часта суправаджаецца неразуменнем з боку чытачоў, вострымі крытычнымі стрэламі з боку ліккрытыкаў і непрыхаванай зайздрасцю з боку калег. Акрамя таго, камусьці з геніяў бывае цяжка рэалізаваць свой вялізны творчы патэнцыял у неспрыяльнай, задушлівай атмасферы замоўчвання, недаацэнкі, нават праследу, а камусьці, наадварот, бывае вельмі няпроста вытрымаць (і духоўна не зламацца!) выпрабаванне шырокім прызнаннем і славай, празмерным задобрываннем і захвальваннем. Карацей кажучы, гэтым дзвюм чалавечым крайнасцям, полюсам — дурням і геніям — сапраўды не пазайздросціш, бо ў кожнага з іх ёсць свае праблемы і комплексы, і кожны з іх як умее спрабуе справіцца з той, гаворачы словамі знакамітага чэшскага пісьменніка Мілана Кундэры, «невыноснай лёгкасцю быцця». А вось тым, хто знаходзіцца не на гэтых палюсах, а дзесьці пасярэдзіне, на мой погляд, у нечым якраз і прасцей, бо калі дурні і геніі заўжды выдзяляюцца з агульнай масы, нярэдка звяртаючы на себе пільную ўвагу, то нічым не адметныя «шэрыя мышкі» найчасцей жывуць/выжываюць ціха, мірна, незаўважна, з-за чаго амаль ніколі не атрымліваюць у свой адрас ні кпінаў, ні папрокаў, ні насмешак, ні ўхвалы, ні ўдзячнасці, etc.

Але ж нягледзячы на выказаныя мною заўвагі, у цэлым вышэйпрыведзенае спрэчнае аўтарскае меркаванне, натуральна, не зніжае мастацкіх вартасцей аповесці, а, наадварот, у нечым нават дадае ёй своеасаблівы шарм дыскусійнасці, тым самым вымушаючы чытача падключацца да працэсаў суперажывання і су-думання. А на заканчэнне хацелася б пажадаць здольнай пісьменніцы-дэбютантцы далейшага творчага росту, поўнай адсутнасці занепакоенасці і самалюбавання, канчатковай выпрацоўкі адметнага аўтарскага стылю і, канечне, будучага прызнання наступных сваіх твораў з боку чытачоў і літаратурных крытыкаў.



# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**



# Анекдот як індыкатар...

***Шапран С. Беларускі гістарычны анекдот. Мінск: ТАА «Лімарыус», 2018. 384 с.***

Кожная вартая літаратура (мастацкая) павінна мець не проста гісторыю, але і каля- ваколгістарычны дыскурс: ён у некаторым родзе з'яўляецца пабочным эфектам, аднак у той жа час і сведчаннем наяўнасці моцнай прычыны свайго ўзнікнення. Кожная вартая культура (нацыянальная) павінна мець сегмент гумару — без яго няма канцэптуальнай паўнаты духоўнага свету.

На стыку гэтых двух тэзісаў знаходзяцца такія кнігі, як (у нашым выпадку) зборнік цікавых гісторый, сабраных вядомым даследчыкам і журналістам Сяргеем Шапранам — «Беларускі гістарычны анекдот». У ім змешчаны кароткія аповеды пра жыццёвыя (але не абавязкова праўдзівыя, суб'ектыўна інтэрпрэтаваныя) здарэнні з удзелам вядомых беларускіх дзеячаў, найперш культуры і перадусім літаратуры. Прычым змест падаецца менавіта па асобах, у алфавітным парадку (напэўна, каб нікому не было крыўдна): пачынаецца з Алеся Адамовіча і заканчваецца Фёдарам Яфімавым. Некаторыя журналісты не паленаваліся і падлічылі, што ў кнігу ўвайшло больш за 500 анекдатычных гісторый з удзелам ста беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры ды палітыкаў[1].

На самым жа пачатку выдання — маленькія ўводзіны. Свайго роду лікбез адносна жанру. Гэта літаратурная дзялянка сапраўды ўзробленая не надта. Дый не толькі ў Беларусі. Тым не менш яна ёсць і ў нас.

С. Шапран тут не стаў піянерам. Падобныя гісторыйкі заўсёды цыркуліравалі. Нават у кніжным выглядзе. Так, можна ўспомніць не такія ўжо і даўнія «Былое, але не думы: сёе-тое з пражытага і перажытага» Алеся Марціновіча і «Фрашкі да пляшкі» Севярына Квяткоўскага. Яны хоць і трохі большыя па аб'ёме, чым Шапранавы анекдоты, але тоесныя па сутнасці. Дарэчы, «Фрашкі» выклікалі ажыятаж (па нашых мерках). Таму, безумоўна, быў сэнс і гэтае выданне даць накладам прыкметным — з 1000 экзэмпляраў. Разыдзецца. Балазе якаснае.

Анекдоты ад С. Шапрана можна чытаць у двух ракурсах — як забаву і як сур'ёзную інфармацыю. Прычым — паралельна. Як у выпадку «Прызнання»:

«— Працаваць мне ўжо цяжка, але міністрам яшчэ пабыў бы! — шчыра прызнаваўся Павел Кавалёў, якога, па словах Куляшова, пісьменнікам зрабіла сістэма» (с. 234).

---

[1] Лукашук З. Праз смех і слёзы: гісторыя Беларусі ў анекдотах у эфіры Еўрарадыё // Euroradio.fm [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://euroradio.fm/praz-smeh-i-slyozy-gistoryya-belarusi-u-anekdotah-u-zhyvym-efiry-euradayyo-u-1600. Дата доступу: 13.05.2018.

Праз гумар і логіку думкі (здавалася б, анекдатычнай) чытач мае яшчэ адну магчымасць адчуць дух і пульс пэўнага часу. А гістарычныя перыяды ў кнізе прадстаўлены шырока:

— сталінскі даваенны,
— ваенны,
— сталінскі пасляваенны,
— брэжнеўскі «застойны»,
— «перабудова»,
— урэшце суверэнная чвэрць стагоддзя.

Не будзем на кожны з іх прыводзіць прыклад (хоць быў бы сэнс і ў храналагічнай сістэматызацыі матэрыялу). Толькі зазначым, што вельмі часта гумар суправаджаецца гаркавасцю (а часам наадварот: цяжкасць лёсу разбаўлена ноткай іроніі). Такая наша гістарычная доля. Такі наш крыж, што несці на плячах іншым разам даводзіцца ў літаральным сэнсе. Як у выпадку з Уладзімірам Дубоўкам, па якога падчас знаходжання ў высылцы на Каўказе прыйшлі з арыштам. Грузінам так падабаўся беларус, што яны наладзілі праводзіны, а энкавэдыста напаілі — і апошняга давялося цягнуць дужаму арыштанту (с. 163).

Яшчэ адзін прыклад. Уявіце сабе, што ў свой час, не такі каб і далёкі, было нормаю наступнае выказванне партфункцыянера: «Калі нават ад усяго нашага народа (савецкага. — А. Т.) застанецца ў жывых дзесяць чалавек, задача ў тым, каб яны засталіся савецкімі людзьмі. У гэтым я бачу мэту сваёй працы, але і вашай, пісьменніцкай, таксама» (с. 14). Фраза прагучала ў якасці тлумачэння, што такое сацыялістычны, а не абстрактны гуманізм. Здавалася б, такія падыходы чалавецтва (у тым ліку і перадусім постсавецкае) павінна было пераажыць і пакінуць у мінулым як урок-напамін. Аднак жа не, аналагічныя думкі працягваюць бруіцца ў галовах некаторых сучасных дзеячаў.






Дарэчы, апошняя цытата з дыялогаў, аўтары якіх С. Шапранам пазначаны: гэта вядомы пісьменнік-гуманіст Алесь Адамовіч і палітык, доктар філасофскіх навук Іван Антановіч. Тым не менш не ў кожным анекдоце аўтар кнігі падае імя. Праўда бывае вельмі жорсткай. Зразумела, часцей адсутнасць спасылкі на асобу датычыцца нядаўніх часоў. Так, безыменным застаўся намеснік брэсцкага мэра, які згарнуў сустрэчу Уладзіміра Арлова і Васіля Сёмухі з чытачамі (с. 28), беларускі выдавец, які выступіў пільным цэнзарам кнігі ліставання Рыгора Барадуліна і Васіля Быкава (с. 66), музейшчыкі, якія на просьбу Эльжбеты Радзівіл падарыць хоць адзін здымак яе сям'і адказалі афіцыёзна: «Гэта маёмасць Рэспублікі Беларусь!» (с. 328-329) і інш. Крыптонімамі пазначаны і некаторыя літаратары, якія трохі «запэцкаліся» (с. 245).

У многіх выпадках важна адчуваць мяжу, за якую пераступаць нельга. Тут аддамо належнае аўтару. Далікатнасць — адна з характарыстык усяго выдання. Хаця ў дачыненні да некаторых асоб не магло не ўзнікнуць жадання пачуць расказанае больш рэзка.

Радуе, што ў матэрыяле прысутнічае моцны кампанент іроніі, у тым ліку адносна сябе саміх. Гэта ўжо, відаць, беларуская традыцыя. Так, дзядзька Колас сваё здароўе вымярае аб'ёмам прадукта Бахуса (с. 230).

Важна, каб у мове і культуры гумару перманентна цыркуліравала гульня слоў. У любую эпоху — гэта адзін з паказчыкаў развітасці гумару:

«<Сакратар ЦК КПБ Ціхан Гарбуноў> паставіў пісьменнікам задачу напісаць сучасныя прыпеўкі, праўда, заўважыў пры гэтым:

— Броўка частушак, напеўна, не напіша.

«Е» замест «э» надавала слову іншы змест. Зала заўсміхалася: Броўка напеўна не напіша» (с. 138).

Яшчэ смяшнейшы пасаж атрымаўся з прыдумкаю наймення савецкага музычнага калектыву: «Вы прасілі, каб не было амерыканскай назвы. І я прыгадаў, што «Песняры» спачатку называліся «Лявонамі». Мы таксама вырашылі ўзяць у якасці назвы такое ж простае беларускае слова — хочам, каб гурт называўся «Янкі»!» (с. 325)

Само сабою гістарычныя анекдоты здымаюць забранзавеласць. Гэта некаму можа падацца не зусім правільным. Але менавіта зняцце лоску дае ўбачыць жывога чалавека — з яго якасцямі, не заўсёды, што праўда, станоўчымі. Тым не менш нярэдка гэта дапамагае і ўбачыць па-новаму таго ці іншага класіка.

Да прыкладу, аповед пра месца нараджэння Уладзіміра Караткевіча, што было балючай тэмай для яго. Рыгор Барадулін зрабіў выснову: «Яму не хацелася нараджацца ў канкрэтным месцы, ён павінен быў нарадзіцца ў самым цэнтры Беларусі!» (с. 184). Такое памкненне У. Караткевіча натуральнае, як *лінія небасхілу*. Наўрад ці ён чытаў развагі забароненага яшчэ тады Язэпа Лёсіка пра свайго пляменніка Якуба Коласа: «Гэта малюнак таго куточку Беларусі на Меншчыне, дзе рос і гадаваўся паэта, але — ці-ж гэта не агульны малюнак усяе Беларусі, «заўсёды смутнае, як удовы»? Ці-ж ня

гэтак-бы абмаляваў сваю мясцовасьць кожны з нас, у якім бы куточку Беларусі ён не радзіўся?»[2]

Неўзабаве развіў і дапоўніў гэту думку прафесар І. Замоцін: «На гэтай невялікай топографічнай плошчы (дзе адбываецца асноўнае дзеянне ў паэме «Новая зямля». — А. Т.) поэт сьцісла і ў той-жа час конкрэтна ўлажыў свае сапраўдныя назіраньні над беларускім жыцьцём. Тут зьмясьціўся ўвесь характэрны беларускі рэльеф і пэйзаж — ад берагавога ракітніку да лясной глушы, ад травой заросшай крынічкі да «срэбраводнага Нёмана», ад балота, паросшага старымі бярэзінамі, да шырокіх зялёных лугоў, залітых праменьнямі сонца. На гэтым географічным кусочку Беларусі сабраў аўтар амаль ня ўсе характэрныя для яго радзімы пароды дрэваў, ад лазы і крушыны да тых старых дубоў, што стаяць над вадою «даўнейшых спраў вартаўнікамі», ён сабраў усе адценні беларускага неба, усе зьмены пагоды ад «ветрыка» да «вятругі», зьмясьціў тут усе поры году, увесь гаспадарскі абыходак беларуса, яго будзённы клопат і справы і сьвяточныя звычаі, і весялосьці, уключаючы сюды і запраўдныя народныя песьні. Мала таго, аўтар у скромных топографічных асадках свае поэмы, на абшары між Слуцкам і Нясьвіжам, Нясьвіжам і Менскам, зьмясьціў усю вякамі цяжкай гісторыі зложаную душу беларуса з яго жыцьцёваю мудрасьцю працы, працоўнай моральлю і працоўным прадстаўленьнем аб людзкім шчасьці і людзкай праўдзе»[3]. Такім чынам, У. Караткевіч інтуітыўна адчуваў пэўную аказіянальнасць свайго аршанскага прыходу ў свет, — душа пісьменніка ахоплівала ўсю *зямлю пад белымі крыламі*. Гэты пасаж нібы анекдатычны. Разам з тым яшчэ праз адзін фокус мы можам убачыць велічнасць класіка — нават праз яго, здавалася б, дзіўноты, рыхтык дзіцячыя фантазіі.

На Шапранаву мову можна звярнуць увагу асобна. У такіх настаўнікаў, як Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Янка Брыль і многіх іншых не магло быць кепскіх вучняў. Адна справа сабраць інфармацыю. Зусім іншая — падаць яе. Дык вось, мова анекдотаў адэкватная, без інтэлектуальных выкрунтасаў у стылі. Але не спрошчаная да прымітыву. Галоўнае для такіх выпадкаў — мова непрыкметная, яна не выстаўляе сябе паперадзе аповедаў.

Хоць стылістычныя хібы здараюцца. Як, напрыклад, у «Паўжывым класіку»:

«Аднойчы падчас сустрэчы з настаўнікамі хтосьці з захапленнем прывітаў Івана Мележа:

— Як мы рады бачыць жывога класіка!

На гэта Іван Паўлавіч адказаў:

— Амаль жывога». (С. 267)

---

[2] Даклад Я. Лёсіка — «Нацыянальны элемэнт у творчасьці Якуба Коласа і Тараса Гушчы» // Адраджэньне, 1922, Сшытак 1. С. 291.

[3] Замоцін І. Пуціны беларускай літаратуры // Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Да дваццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасьці / Зложыў Ул. Дзяржынскі. Менск: Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, 1926. С. 59-60.



А так напрошвалася «ледзь» замест ненатуральнага, літаратурнамоўнага «амаль».

Канечне, гістарычны анекдот не павінен быць смешным. Пра гэта зазначае сам аўтар кнігі. Тым не менш у ім абавязковы той нечаканы паварот, які дае падставу нейкай гісторыі называцца анекдотам. Аднак пра Пташука маем зусім і не анекдоты — там хутчэй жыццёвыя гісторыі апісальнага плана, цяжкія, складаныя. Яны таксама цікавыя, не менш, чым тыя, што называюцца анекдотамі. Такога матэрыялу не так і мала ў кнізе. І ён уражвае не менш (гл. хаця б «Як Адамовіч, Брыль і Калеснік цэнзуравалі саміх сябе», с. 84-85).

Таму пытанне з дзённіка ўжо згаданага А. Адамовіча, які не дажыў да XXI стагоддзя, пра людзей гэтакай блізкай будучыні даўно стала хутчэй рытарычным:

«Ну, а вы? Вы як?..

Няўжо вы ўсё яшчэ дазваляеце фюрэрам дурыць вас?» (с. 16)

Тут мосцік да сучаснасці перакінуты наўпрост. Але і многія іншыя сітуацыі хоцькі-няхоцькі запаралельваюцца з днём сённяшнім. Таму і водгукі на кнігу ўжо з'явіліся і будуць яшчэ.

У адным з іх слушным падагульненнем — наступны тэзіс: «Калі дэшыфроўваць нашу гісторыю праз гэтыя нібыта «анекдатычныя» метафары, можна выратавацца і ад нашага агульнанацыянальнага комплексу непаўнавартасці, і ад нашага комплексу хранічнай правінцыйнасці, бо нашыя паэты насамрэч плоць ад плоці нашай, і яны жывуць не толькі «смачна», але й годна»[4].

Разам з тым не будзем абсалютызаваць гэту выснову. Хаця б таму, што ў ва ўсе часы бывалі і праяўленні ці то беспрынцыпнасці, ці то чагосьці горшага. Напрыклад, у кнізе апавядаецца, як у часы адлігі спусцілі з тармазоў пытанне пра адносіны да асоб, што пісалі даносы. Ці наадварот прыводзіцца жахлівае «Як сядзелі, так няхай і сядзяць» Кандрата Крапівы (с. 231) адносна магчымасці вызвалення ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Канечне, не трэба забываць, што гэта ўсяго толькі гістарычны анекдот — перапляценне нон-фікшн і фікшн. Але нават калі гэта другая частка, як яна характарызуе эпоху! Анекдоты па форме сваім зместам даюць магчымасць паглыбіць наша разуменне творчасці і дзейнасці асоб айчыннай гісторыі, скарэктаваць іх значнасць. На многія гісторыі з кнігі С. Шапрана можна і варта глядзець кантэкстуальна, праводзіць паралелі, перакідваць самыя нечаканыя мосцікі — і вынік атрымаецца цікавы і карысны.

Алфавітны парадак размяшчэння гісторый у кнізе не перашкодзіў закончыць яе своеасаблівай высновай-сентэнцыяй. Яна выводзіцца з выступлення Ф. Яфімава супраць умяшання СССР ва ўнутраныя справы Чэхаславакіі: «...Падобнай мужнасці патрабуюць любыя часы. Тым больш, што яны ў сапраўднасці не дужа істотна адрозніваюцца. Дый, як казаў іншы паэт, часы не выбіраюць — у іх жывуць і паміраюць» (с. 381).

---

[4] «Пісьменнікі без грыму»: Ганна Севярынец пра «Беларускі гістарычны анекдот» // Наша Ніва [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=203554. Дата доступу: 13.05.2018.

Адносны поспех выдання сведчыць пра добрыя перспектывы падобных матэрыялаў. Яны, як той суслік, ёсць. Чытаючы гісторыі ад С. Шапрана, мне, напрыклад, успаміналіся не ахопленыя ім здарэнні з жыцця многіх прысутных у кнізе асоб. Так, паводле аднаго з іх, Якуб Колас абдзяліў гардэробшчыка капейчынай «на чай» і атрымаў заўвагу: «А сын Ваш перад гэтым цэлым рублём адарыў». На што знешне марудны класік імгненна адказаў: «Але ў мяне ж няма такога багатага бацькі». Або як прыехаў Пётр Машэраў у Люсіна на Палессе, убачыў, што бабы выганяюць кароў і хацеў выйсці да народа. У выніку атрымаў пазадзіраныя спадніцы і выстаўленыя азадкі. Аказалася, так палешукі засцерагаліся ад сурокаў пры першым выгане скаціны на пашу.

Значыць, такога матэрыялу — валам. Таму падыходзіць да яго можна і манаграфічна — выдаваць кнігі пра асобных знакамітасцей (прывет ад Падгола). У іх нават быт абрастае падобнымі гісторыямі. Таму, несумненна, пра Якуба Коласа, Янку Купалу, У. Караткевіча і многіх іншых матэрыялу хапіла б. Да таго ж яго прыкметна большае, калі пільней угледзецца ў тую ці іншую фігуру (што выдатна апошнім часам даказвае З. Дрозд). Гэта — яшчэ адзін шлях да папулярызацыі прыгожага пісьменства. Хоць і крыху экстравагантны.

Кнігу С. Шапрана ў многім варта расцэньваць у якасці пэўнага індыкатара айчыннай літаратуры. Па-першае, сам факт яе з'яўлення — гэта добра ў якасным аспекце. Па-другое, па сённяшніх мерках прыстойны тыраж дае некаторае і колькаснае ўяўленне. Такім чынам, гэта таксама паказчык, што беларуская літаратура была, ёсць, будзе.

